




11

ЛІСТАПАД

МІНСК, 1969

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

●

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:



**Выдавецтва ЦК КП Беларусі**

Вокладка **У. Лашкевіча.**

Шмуцтытулы **В. Шаранговіча** (3 стар.) і **Г. Бяліцкага** — фота **«Сустрэча з Леніным»** (стар. 103).



# ПАЭЗІЯ ПРОЗА

● Мікола КУСЯНКОЎ ● Клаўдзя КАЛІНА ● Віктар РАКАЎ ● Яўген ХВАЛЕЙ ● Віктар КАРАМАЗАЎ ● Максім ЛУЖАНІН ● Васіль ХОМЧАНКА ● Павел МАРЦІНОВІЧ ● Сяргей ГРАХОЎСКІ

# ПАЭЗІЯ

• *Першыя кветкі*

•• *Ранак*

••• ___________________

•••• ___________________

••••• ___________________



Мікола КУСЯНКОЎ



•

Ля шашы, дзе слупы на хадулях бетонных,—
Ручаіна вясновая ў жоўтых бутонах,—
Гэта лотаць над светлай вадою цвіце,
І — як жоўтыя воблачкі — цені ў вадзе;
А на ўгрэве пясчаным ля сцежкі ласінай
Кветка-сон расцвітае агеньчыкам сінім;
Есць пралеска яшчэ, ёсць фіялка лясная,—
Кветкі ранняй вясны — хто ж у нас іх не знае?...
Іх прыносяць у хаты, іх дораць каханкам...
...Да лясное хаціны іду, а на ганку —
Тры дачкі лесніковы, кірпатыя трошкі,
Між сабою падобныя, быццам «матрошкі».
Меншых большая плесці вянок навучае:
Бачу — кветкі бярэ і пляце, спалучае.
Іх яны назбіралі багата-багата...
І нясуць той вянок на магілу салдата
Тры дзяўчынкі... Магіла ж салдацкая блізка:
Дзе ж няма на палескай зямлі абеліска?..

••

Бачу цені ў тумане:
карові
Пераходзяць рачулку ўброд...
І — нібы негатыў каляровы —
Спакваля праявіўся ўсход.

Ад вады
Халадком павявае,
І — падсіненая смугой —
Праявілася даль палявая,
Далягляд адступіў дугой.

Бачу срэбную гладзь канала —
Багна век сама б не сканала;

Ураджай сам сабой не ўзрос —
Да грудзей маіх лён і авёс.

І вышэй, чым сасна баравая,
Вышка вырасла вунь буравая...

А над ёй узыдзе
І шпарка
Сонца ўгору сябе ўзнясе —
І чырвонай заслонаю
Хмарка
Адплывае ўбок пакрысе.

І кладуцца сінія цені
На траву,
На пясок,
На ваду...
Пачынаецца новая дзея,
На зямлі,
па каторай іду.



Не ўспамінаць, а памятаць павінны...
Пасля галоднай лютае зімы
Чырвоныя галоўкі з канюшыны
Збіралі ў лузе хлапчукамі мы.

Пакуль іх не сушылі і не цёрлі,
Былі яны салодкія на смак...
Ды што за дзіва — засядаў у горле
Сухім і горкім камяком праснак.

З праявы гэткай і цяпер дзіўлюся:
Куды знікаў той канюшынны мёд?
Знаёмай сцежкай і па тым жа лузе
Дадому я іду праз дваццаць год.

Зноў бачу пералескі і пагоркі.
І ведаю: не давялося мне б
У людзі выйсці, каб не хлеб той горкі,
Пасляваенны хлеб.



Знішчым лес —
І шум бароў забудзем,—
І душою ачарсцвеем мы,
Бо заместляснога шуму
Будзем
Слухаць
Толькі радыёшумы.

Птушак
Ні пад Мінскам, ні пад Крычавам
Не пабачым...
Ды ці ж будзе так?
Ластаўка
На провад электрычны
Села і не гіне —
Добры знак!

Знаю:
Будуць новыя машыны
Па зямлі і над зямлёй снаваць;
Будзе
Шум лясны
І спеў птушыны
З гулам тых часоў
Суіснаваць.



Вось іду я ўслед за ўласным сэрцам,
За ўспамінамі
На бераг той,
Дзе калісьці срэбнае вядзерца
Дзынкнула над светлаю вадой.
І хадзіў і ездзіў я далёка —
А такой, як ты, не стрэў нідзе.
Незямной была ты,
Хоць аблокі
Пад табой плылі ўсяго ў вадзе.
Не блукаў над рэчкай па дуброве —
І не піў з крыніц жывой вады,
А спаткаўся я тады з табою —
І навек застаўся малады.
І табе старэць не давядзецца:
Бачу я цябе дзяўчынкай той,
Што сваім сярэбраным вядзерцам
Дзынкнула над светлаю вадой.

ПРОЗА



● Клаўдзя КАЛІНА

● Мал. В. ШАРАНГОВІЧА

# ЗАБАРОНЕНАЯ ПЕСНЯ

АПОВЕСЦЬ

## ЧАРОЎНАЕ ШКЕЛЬЦА



Мы купаю сядзім на цёплай печы ды глядзім на замерзлыя вокны.

Хто такія мы? Гэта я, Кася, і мае два браты: старэйшы — Васіль і малодшы — Міхасік. Мы — дзеці Антона Белановіча, які жыве каля гасцінца. І яшчэ мы — унукі бабкі Марысі. У сяле на нас так і кажуць — марысіны ўнукі. А ўсё гэта таму, што больш за ўсіх нас даглядае бабка, бо нашы татка з мамай рэдка бываюць дома: яны ў заробкі пайшлі.

Восенню, калі звезлі ўсё з поля, бабка так і сказала татку з мамай:

— Няма чаго ўсю зімачку вам у хаце сядзець, сцены падпіраць... Хата, дзякуй богу, яшчэ не валіцца. Ідзіце ў людзі, можа які лішні грош дадому прынясеце: будзем збіраць на карову.

Вось і пайшлі нашы татка з мамай у тыя людзі... Мама да багатага аптэкара ў мястэчку служанкай нанялася. А татка з канём ажно ў пушчу падаўся: будзе там з лесу ў тартак бярвенні вазіць, каб на дошкі пілаваць.

А мы засталіся з нашай бабкай Марысяй. Сядзім на печы і прыдумляем сабе гульні.

Печ наша вялікая, займае амаль палову хаты. Яна заўсёды цёплая, бо бабка торфу і дроў не шкадуе. На чарэні сушыцца жыта, стаяць пучкі лучыны, а ў кутку ляжыць аблезлая аўчына, ад якой нясе нечым вельмі кіслым.

На сярэдзіне печы засланы новы, толькі што вытканы, латанік. Які ж ён прыгожы! Я ляжу ніцма і разглядаю каляровыя паскі, у якія ён вытканы.

— Вось гэты чырвоненькі пасачак,— мармычу сама сабе пад нос,— мая суконка ў гарошак. Нябескі — таткава кашуля. Шэры — бабчына хустка-канаплянка. Чорны — порткі нашага Васіля...

Так можна адгадаць усе-ўсе пасачкі. Вось якая наша бабка здатная, са старых ануч і такую прыгожую посцілку выткала!

Я перасоўваюся на латаніку. Ён мяккі і цёплы, але майму брату Васілю гэта не да спадобы. Ён кухтаецца, нібы тая квактуха ў кошыку, і пакрыквае на мяне:

— Ну ты, Касечка, мо пасунешся трохі! Разлеглася тутка на ўсю печ, а мне няма нават куды прытуліцца!

Васіль тыцкае сваіх драўляных жаўнерыкаў то на адну, то на другую палоску латаніка, ледзь не пад самы мой нос. Я адсоўваюся. Але вось бяда! Незнарок пацягнула за сабою латанік, і ўсё войска Васіля валіцца.

— Ну і няўклюда ты, Касечка! — злуецца Васіль.— Такая ўдалая бойка была, ты ўзяла і ўсютко войска разбурыла!

Бялявыя даўно не стрыжаныя валасы брата аж натапырыліся ад злосці, губы надзьмуліся.

— Рыжая-хыжая, вось хто ты! — выкрыквае ён абразлівую для мяне мянушку.

— Ах, так?! Ну, за «рыжую-хыжую» я табе зараз яшчэ не так пакажу! Усё тваё войска з печы скіну! — кідаюся на васілёвых жаўнерыкаў, але Васіль аказваецца спрытнейшы за мяне: ён лажыцца на іх.

Ад злосці і жалю пачынаю раўці.

— І чы я вінаватая, што ўвесь мой твар заляпіла рабацінне? Навокал толькі і чуеш: «Рыжая-хыжая»...

Бабка перастала ткаць, прыціснула да кужалю бёрда.

— Ну, чаго вы там не падзялілі, га? Касечка, Васіль, малога разбудзіце...

Брат злёгку штурхануў мяне локцем:

— Сціхні! Я ўжо больш не буду дражніць.

Але я не перастаю. Няхай знае, як абражаць! Мала таго, што хлопцы на сяле ўсялякае прыдумляюць... Лёнька Зубовіч, напрыклад, кажа, быццам на свае вочы бачыў, як я разбурала ластаўчына гняздо. А Франак Баранскі, дык той нават клянецца, што падгледзеў, як я чапала воранія яйкі... Ад таго, кажа, і рабацінне яе (гэта значыць мяне) абсыпала.

А тут яшчэ і родны брат дражніцца... Я нават пачынаю галасней раўці.

— Слухай, Касечка, хочаш, я табе нешта дам? Толькі перастань румзаць.

Васіль засоўвае руку ў кішэню і пачынае нечым бразгатаць.

— Ну, што дасі? — на момант перастаю плакаць, але не паднімаю галавы ад латаніка, бо, можа, ён маніць, гэты хітры Васіль.

— Хочаш жалезную пляшачку? — выцягвае ён нарэшце маленькую, пузатую бутэлечку, якую знайшоў на панскім дворышчы.

Я разглядаю выціснутыя на той бутэлечцы і даволі моцна з'едзеныя ржой узоры. Але гэтая пляшачка з дзіравым дном. Навошта мне такая?

— Не! Не хачу браць гэтую пляшачку, дай лепей праз чырвонае шкельца паглядзець!

Васіль зноў засоўвае руку ў кішэню, перабірае там нешта і вымае чырвонае шкельца. Я прыкладваю да вока, і ў хаце робіцца цуд! Нібыта сонейка ўзыходзіць і ўсё асвятляе. Усё навокал ружавее, прыгажэе. Ружавеюць сцены, ружавее ручнік на абразах, нават кужаль, які тчэ бабка, і бабчын твар — усё робіцца ружовае.

Я наводжу шкельца на брата.

— Хі-хі! Які ты смешны, Васіль! Увесь чырвоны, чырвоны! А нос — як бурак!

Васіль моўчкі захінае далоняй свой вялікі нос і адварочваецца ад мяне.

— А што, не падабаецца? Гэта табе за «рыжую-хыжую»!

Васіль маўчыць, ведае, што вінаваты. Я аднімаю ад вачэй шкельца, і ў хаце патухае сонейка, усё становіцца звыклае, будзённае... Шарэюць, як заўсёды задымленыя, з плямамі вільгаці па кутках, сцены ў хаце, на абразах вісіць жаўтаваты ад пылу і дыму ручнік, на кроснах шэры кужаль. Бабчын твар таксама бляднее і выдае стомлены...

З жалем аддаю брату шкельца.

— От каб яно было маім! Тады я толькі праз яго і глядзела б на ўвесь свет. Васілька, аддай мне шкельца назаўсёды! — нясмела прашу.

— Ого! Назаўсёды? Такое шкельца! — Васіль хавае яго ў кішэню.— Я яго ў Лёнькі Зубовіча, знаеш, на што выменяў? Кручок яму аддаў! Праўда, ён быў стары і ржавы. Затое ў прыдачу яшчэ чатыры конскія валасы на вуду даў. Во такенныя даўжэзныя! — разводзіць Васіль шырока рукі, паказваючы, якія тыя валасы з конскага хваста.

— Тады давай і са мною мяняцца. Хочаш?

— А што дасі? Я памяняўся б, толькі не ведаю, ці згодзішся ты.

Сэрца маё сціскаецца. Я знаю, на што згодзен мяняцца Васіль. Лезу за комін і вымаю сваё багацце. У папяровым пудэлачку паміж каляровых гузікаў выблісквае маленькі новенькі грошык. Яго падараваў мне татка. Але спакуса мецъ шкельца большая, і я працягваю брату грошык.

— Ну і гандляр ты, Васілька! — азываецца ад кросен бабка.— Ну, чыста той Бэрко з мястэчка, што аўсом таргуе... І сораму ў цябе няма. Адзіны грошык, і той у сястры забірае!

Васіль падціскае ніжнюю губу, нейкі час глядзіць то на бабку, то на мой грошык.

— Ат, вазьмі так, задарма! — махнуўшы рукою, кладзе шкельца і грошык у мой пудэлачак.

— Ну, вось і малайчына! — хваліць бабка брата.

— Ой, няўжо задарма?! — пытаю яшчэ раз, бо не магу паверыць сваёй радасці.

Васіль ківае галавою.

— Ой, як добра! Васілько, ты самы-самы найлепшы! І ведаеш, нос у цябе зусім не такі ўжо і вялікі... Гэта я са злосці сказала, што — як бурак...

Васіль неяк сумна ўсміхаецца. Ён, пэўна, здагадваецца, што я хлушу. Ён ведае, што ўсе хлопчыкі на сяле дражняць яго «качынай дзюбай» за ягоны вялізны нос.

Васіль збірае сваіх раскіданых па латаніку жаўнерыкаў, ставіць зноўку адных на чырвоную, другіх на зялёную палоску.

— Цяпер не будзеш іх скідаць з печы?

— Не-не! Не буду! Ніколі...— запэўняю брата і, заціскаючы ў далоні шкельца, злажу з печы, падыходжу да акна.

На шыбіне мароз намаляваў дзівосны лес і зорачкі... Яны мільга-

цяць, блішчаць... Прыкладаю да вока шкельца і гляджу на той лес. Усё навокал пераліваецца ружовымі іскрынкамі. Вось ён, мой чароўны, мой дзіўны свет! І я доўга-доўга гляджу на яго праз сваё чароўнае шкельца.

# ШТРАФ

Нашаму Васілю ў гэтую зіму трэба было ісці ў школу, але бабка збірае грошы на карову, таму не хоча траціцца і купляць яму боты. Вось і сядзіць Васіль цалюткія дні на печы, ваюе са сваімі жаўнерыкамі.

Выстраеныя на зялёнай і чырвонай палосках латаніка, яны чакаюць васілёвай каманды. А якія яны смешныя, каб хто толькі бачыў! У гэтых жаўнерыкаў няма ні рук, ні ног, адны круглыя галовы з намаляванымі на іх хімічным алоўкам вачыма і закручанымі ўгару вусамі.

— Тр-р-рах! Бух! — крычыць Васіль, шпурнуўшы ў тых, што на зялёнай палосачцы, цыбулінай, адарванай з вянка.

— А, каб ты скіс! — глянула бабка на печ.— Зноўку смыкаеш тую цыбулю? Увесь вянок зараз растрасеш! Ох і агоркла мне ўсё гэта! Некалі дабяруся да тых галавасцікаў і — усіх спалю! Дальбо спалю!

Васіль хуценька падбірае абскубаную цыбулю і кідае яе ў скрынку.

— Я не буду ўжо больш... не паліце...— просіць.

Але тут раптам забрахала Жучка. Так яна лемантуе толькі на чужога, бо аж хрыпіць, аж душыцца на ланцугу. Нас як ветрам нясе да акна...

У незамерзлай лапіне чыстага шкла бачым каля штыкетаў пахілую постаць у стаўбунаватай авечай шапцы. Чалавек адсоўвае ад веснічак нагою снег, каб адчыніць іх.

— Бабця! Солтыс * да нас ідзе!

— Бачу! — незадаволена азываецца бабка. Яна не любіць, калі прыходзіць солтыс. Бо абы-чаго ён не ходзіць. Можа, на шарварак ** трэба выехаць, а можа, падатак час плаціць.

А ў сенцах ужо стукаюць і шоргаюць цяжкія боты, расчыняюцца дзверы, і першаю лезе ў хату сукаватая кульба, потым чорны бот, вышмараваны каламаззю, нарэшце стаўбунаватая шапка солтыса.

— Дзень добры! — гугнявіць Юхім у свой сіні з марозу, падобны на порхаўку, нос.

Солтыс зняў з пакамечаных, сівых валасоў шапку.

— Дзень добры...— больш насцярожана, чым ветліва, адказвае бабка, бо, хто яго ведае, з чым прыйшоў гэты панскі падлізнік.

Солтыс шмаргануў носам, працягнуў па ім зашмальцаваным рукавом кажуха, потым засунуў руку ў кішэню і зашамацеў паперкай.

— Тутка табе, Марыся, паперка прыйшла ад кіраўніка школы. Апошняе папярэджанне, так сказаць... — Солтыс выцягнуў учацвёра складзеную паперку.

— Якое яшчэ там папярэджанне? — вылезла з-за кросен і падышла да солтыса бабка, разглядаючы сінявaты лісток.

— Ды наконт твайго ўнука, што ў школу не ходзіць, так сказаць...

---

* Солтыс — вясковы стараста.
** Шарварак — гужавая павіннасць.

— Ат! — паспакайнела бабка.— Я думала што-небудзь людскае. Няхай сабе пішуць!

Яна змахнула фартухом зэдлік, падсунула яго солтысу.

— Сядай, Юхім: у нагах праўды няма.

— Што значыць, хай пішуць? — запырскаў Зубовіч слінаю.

Ён, калі злаваў, дык заўжды пырскаўся. Калматыя, падобныя на пучкі прылепленых валасоў, бровы заварушыліся, ён скоса глянуў на бабку маленечкімі чорнымі вачыма.

— А тое, што ў іх работа такая — пісаць нам гэтыя пісулькі. А твая работа насіць іх ад хаты да хаты. На тое ты і солтыс! — нібы жартуючы, адказала бабка.

— А... А ты знаеш, што ў той пісульцы, так сказаць?..— запытаў солтыс, і пучкі ягоных броваў сышліся і засланілі вочы.

— Няграматная я, адкуль мне знаць,— паціснула бабка плячыма. — Іх многа тут прысылалі, тых паперак. Усе за бэлькай ляжаць.

— За бэлькай ляжаць...— паўтарыў сярдзіта солтыс і, разгладзіўшы на калене паперку, пачаў чытаць: — «Бе-ла-но-віч Ба-зыль, вучань пер-шай кля-сы па-ві-нен быў з пер-шэ-го вжэсня...»

Солтысаў нос апусціўся ледзь не да самай паперкі, ён доўга і марудна чытаў польскія словы. Яму, пэўна, было вельмі цяжка разабраць напісанае, бо на зморшчаным лобе аж выступіў пот.

— Ну, многа тут гаварыць няма чаго: калі не пашлеш хлопца ў школу, будзе штраф... Так сказаць...— закончыў нарэшце.

— Што ты мяне страшыш? Штрах! Штрах! Я і так ледзь не разарвуся! — адгыркнулася бабка і, падышоўшы да прыпечка, бразнула засланкай. Яна, калі нервавалася, павінна была нешта рабіць. Таму хапіла з прыпечка чыгун вару і патарабаніла яго ў куток да цэбра. Плюхнуўшы вар у замерзлы свінячы цэбар, бабка насыпала туды мякіны і пачала яе размешваць таўкачом. У хаце запахла кісляцінай. солтыс крутануў носам і, устаўшы з зэдліка, падышоў да стала.

— Я сваё зрабіў, папярэдзіў цябе,— буркнуў, кладучы паперку.— І ты сама панскія парадкі ведаеш. Вучань павінен хадзіць у школу, і— баста! А твой ужо амаль чатыры месяцы прапусціў...— солтыс узяўся за свой авечы статубак.

— Але, прапусціў. Бо голым я яго туды не вышлю. Гэта ж пяць вёрст трэба адчасаць да тае школы... А зімою без чобатаў ды кажуха і не вырывайся. А дзе я яму іх вазьму? — усхадзілася бабка.— У Янкеля ў краме ўкраду тыя чобаты? Тут каровы няма, дзіця малое унь гіне без малака, а ты штрах, штрах!

Бабка раптам хліпнула і паднесла ражок хусткі да вачэй.

Солтыс заварушыў брывамі, падняў іх і глянуў на печ, дзе, абмошчаны старою коўдраю, сядзеў Міхасік і глядзеў на ўсіх вялізнымі перепалоханымі вачыма.

Нашаму Міхасіку ішоў ужо чацвёрты гадок, але ён усё яшчэ не мог хадзіць. Аптэкар, у якога служыла мама, сказаў, што ў нагах Міхасіка сядзіць нейкі «рахіт» і, каб яго вытнаць, трэба піць многа малака і яшчэ якісь тлушч — транам завецца. Але калі мама прынесла з аптэкі таго трану, то ён здаўся такім смярдзючым, што хоць нос затыкай.

— Цьфу! Можа якая зараза? — сказала тады бабка.— Смярдзючы. Ды яшчэ і дарагі гэты тран. Хай лепей малако п'е.

Але малака таксама не было, бо не было і каровы. Толькі тое і піў Міхасік, калі хто прыносіў кварту, другую, шкадуючы нас, дзяцей.

Солтыс паглядзеў на беднага, худога Міхася, нарэшце сказаў:

— Яно канешне... Але цябе пра гэта ніхто не будзе пытаць: ёсць у цябе карова ці няма, так сказаць... Як прышлюць штраф, дык...

— А божа ж ты мой мілы! — не выцерпела, перапыніла солтыса бабка.— Усе шлункі гатовы выцягнуць з чалавека! Ну што тут з мяне возьмеш? Тут ужо ніякага лыка не выцягнеш!

— Як прыедзе секвестратар, дык знойдзе,— адрэзаў солтыс і, пакінуўшы паперку на стале, пашоргаў да дзвярэй.

— Паслухай, Юхім, — бабка забегла солтысу наперад. — Праўда гэта, што каморнік прыедзе?

— Праўда. I хутка! — Зубовіч нацягнуў стаўбак аж на вушы, узяўся за клямку.

— Пачакай...— схапіла бабка солтыса за рукаво.— Кажуць, ты з тым панам кіраўнікам школы добра знаёмы...

— Гм-м-м... Ну, дык што з таго? — паскроб Зубовіч у барадзе.

— То можа ты ўладзіў бы з тым штрахам? А я ўжо на другі рок куплю яму чобаты: пойдзе ён у тую школу, каб яна праваліласяі! А табе я за гэтую фатыгу адраблю.

Бровы солтыса заварушыліся, кульба выводзіла на глінянай падлозе ўсялякія выкрутасы.

— Я табе вясною бульбу магу пасадзіць, ці лён выпалаць, ці... А можа зараз што трэба зрабіць? Выткаць ці спрасці?

Солтысава кульба раптам уткнулася ў чобат.

— Ну што ж, прыйдзі, дагаворымся... Толькі не ведаю, можа на месяц-другі і ўдасца ўгаварыць кіраўніка... А на год? Ну, так сказаць, прыходзь увечары. Я воўну з часальні прывёз...

— Добра, добранька, Юхім, прыйду.

Бразнула клямка, і бабка выйшла следам за солтысам. Яны яшчэ ў сенцах аб нечым гаварылі, і то чуўся высокі голас бабкі, то бубніў солтыс. Нарэшце бабка вярнулася ў хату, выцерла заплаканыя вочы і палезла за кросны.

— Скурадзёр! Каб табе тры скулы!.. — закляла яна, злосна стукнуўшы бёрдам.

Не вылазячы з-за кросен, бабка ткала амаль да самусенькага вечара. Толькі калі ўжо сцямнела, яна выйшла і неўзабаве прытарабаніла клунак, увязаны ў вялізную стракатую хустку. Яна гэпнула на лаву гэты вялізны клунак і пачала запальваць лямпу.

Я пазнала стракатую хустку солтысавай жонкі. Праз дзіркі старой хусткі вылазіла бялюткая воўна.

— Гэта ж таkенную кучу трэба спрасці нашай беднай бабці! — паказала я Васілю на клунак.— I ўсё праз цябе!

— А я што, вінаваты? Каб купілі чобаты, дык я ніводнага дня ў хаце не сядзеў бы... — ён заміргаў вачыма.

Мне стала шкада і Васіля, які вельмі хацеў вучыцца, і бабку, якой столькі трэба спрасці воўны... I я злезла з печы, падышла да кроснаў.

Бабка сядзела, схіліўшыся над кужалем, і нешта на ім разглядала. Сівыя валасы выбіваліся з-пад хусткі.

Нарэшце яна, крэкчучы, разагнула спіну, паправіла хустку і валасы, расшпіліла біркі на сваёй кажушнай камізэльцы. Гэтую зашмальцаваную камізэльку з чорнай выцертай аблямоўкай бабка ніколі не знімала, ні зімой, ні летам.

— Ты чаго злезла з печы? Задубееш! — Глянула бабка на мае босыя ногі.

Я прымошчваюся на лаўцы побач з бабкай.

Яна абдымае мяне адной рукою, другою бярэцца за чаўнок. А я разглядаю бабчын твар. Ён увесь пасечаны рысачкамі.

— Бабця... А вось тут,— ваджу пальцам па бабчынай шчацэ,— тут на вашай шчацэ маленькі трохкутнічак, а на другой нібы зорачка... А гэтая рысачка доўгая-доўгая, аж пад бараду хаваецца...

— Але ж, доўгая! — згаджаецца бабка.— Доўгая, як і маё жыццё. Як-ніяк — семдзесят пяць гадкоў адгрукала...

— А гэта многа?

— Ну, як табе сказаць...— задуменна адказвае бабка.— Нямала. У дзесяць разоў больш, чым ты пражыла.

— У дзесяць разоў! — і мне здаецца гэтае «ў дзесяць» вельмі доўгім.

— Бабця! І ў мяне тады таксама будуць на шчаках трохкутнічкі? Калі я пражыву столькі, як і вы?

— А як жа, будуць... Без гэтага нельга,— уздыхае чамусьці бабка.— Ну, пасядзела троху ды лезь на печ! Не замінай: мне трэба ткаць.

— Бабця, аддыхніце троху... Дайце мне паткаць.— Я выцягла як найдаўжэй ногі, каб хоць троху крануцца панажоў...

Бабка, стомлена ўсміхнуўшыся, абняла мяне.

— Маленькая ты яшчэ, падрасці трэба. Але калі хочаш памагчы мне, то злаві тую нітачку, што парвалася ў аснове. Ніяк не знайду яе, каб яна спрахла!

Я хуценька нахіляюся пад аснову і знаходжу парваную нітачку, заводжу яе спярша ў вочка ніта, потым у бёрда!.. Ого! Я ўжо ўсё гэта ўмею рабіць! А бабка кажа, падрасці трэба!

— От, дзякуй табе, мая ты ўнучачка! А то я зусім сляпая стала. Днём яшчэ сяк-так, а пры лямпе ўжо кепска бачу,— скардзіцца бабка.

Я смялею, прыціскаюся да бабчынага пляча. Мне карціць нешта спытаць.

— Бабця,— кажу нясмела,— я хачу пра нешта спытаць...

— Пытай, мая ўнучачка, пытай...— бабка ўстаўляе ў чаўнок поўную цэўку, а пустую кідае ў скрынку ад сукача.

— Што такое, бабця, скурадзёр?

Мне яшчэ з таго часу, як яго сказала бабка, гэтае слова не дае спакою.

— Скурадзёр? — здзіўляецца бабка. Яна, пэўна, ужо і забылася пра гэтае слова.— Скурадзёр, мая ўнучачка, гэта такі чалавек, які здзірае скуру з забітага каня ці каровы...

— А... а наш солтыс таксама скурадзёр?

Бабка нейкі момант збянтэжана глядзіць на мяне, і раптам губы яе падціскаюцца. Я ліхаманкава думаю, чым магла так разгнявіць бабку. Ну, што я такое сказала? Але бабка чырванее і сярдзіта пачынае крычаць:

— Бач ты! Падхапіла ўжо! І што гэта за дзіцятка такое! Нічога ў хаце і сказаць нельга! Не трэба слухаць, што я кажу! Можа, я пра каго другога!

— А тры скулы! Думаеце, мы не ведаем каму? — Васіль саскоквае з печы і, падышоўшы да клунка, мацае воўну, б'е клунак кулаком.— Ого! Яму і пяць скул не лішне! Глядзі, як напакаваў!

А бабка аж перастала ткаць. Яна яшчэ доўга крычыць на нас.

— Марш на печ! Чаго стаіцё! — урэшце гоніць нас ад сябе.

Мы хуценька залазім на печ.

— Ну і сярдзітая вы сёння, бабка Марыся! — бубніць Васіль.

— Ага, будзеш тут сярдзітая, як прыпячэ! — бабка падвешвае бліжэй да кросен лямпу і пачынае хутка ткаць.

Слізгаецца па нацягнутай аснове чаўнок, фырчыць цэўка, прыстуквае жалезнае бёрда... Толькі і чутна ў хаце: «Жых-жы-ы-ых! Фр-р-р-р! Тах! Тах!» Аж у вушах ляскае. А я ляжу на печы і думаю: «Калі ўжо бабка датчэ кужаль? Пэўна, яшчэ не хутка.» А бабка ўсё тчэ і тчэ... Ёй трэба спяшацца, вунь які клунак солтысавай воўны чакае!

## НА ПЕЧЫ

Часам бывае нам маркотна сядзець цалюткі дзень на печы. Але і тут мы знаходзім сёе-тое цікавае. Вось хоць бы ўзяць нашы сцены. Для ўсіх гэта круглякі-бярвенні, некаторыя з іх з'едзеныя шашалем, другія спарахнелыя, і на печ сыплецца мяккая жоўтая парахня. Ёсць яшчэ і даволі моцныя круглякі, на іх выступіла і загусцела на суках жоўтымі слязьмі смала.

Глянеш, сцяна як сцяна: з пазоў вылез мох, пакулле, пазатыканыя анучамі дзіркі...

От каб убачыць, што за сцяною робіцца? Васіль дастае з кішэні крывы ржавы цвік, асцярожна калупае ім паміж бярвеннямі, выцягвае старую анучу. З вузкай шчыліны нясе холадам. Прыціскаемся да сцяны і заглядаем у дзірку. Як добра ўсё відаць, што робіцца на двары!

Вунь у самым кутку падворка, уся ў інеі, як у карунках, стаіць старая, скрыўленая сліўка, пад ёю засыпаная снегам будка. Каля будкі, падцяўшы хвост, сядзіць Жучка. Галодная, з аблезлымі бакамі, яна ўся дрыжыць ад холаду.

— Жучка! Жучка, на ту, на! — клічам праз дзірку.

Пачуўшы знаёмыя галасы, Жучка пачынае пішчаць, шукае нас, круціцца на адным месцы і, не знайшоўшы, скавыча.

Бабка, пачуўшы, што Жучка скуголіць, вынесла ёй некалькі толькі што звараных, яшчэ гарачых бульбін. Куры, залапатаўшы крыллямі, зляцелі з прызбы. Але Жучка не драмала, гаўкнула і скочыла ў чародку курэй. Тыя, закудахтаўшы, разбегліся якая куды.

Жучка падкаціла бліжэй да сябе ўсе бульбіны, лягла каля іх і цікуе... Чакае, пакуль астынуць.

— Гаў! Гаў! Гр-р-р...— кідаецца яна то ў адзін, то ў другі бок, бо сюды ўжо наляцелі галаслівыя вераб'і.— Гр-р-р! — Кляц зубамі на самага храбрага! А той настырны верабей без хваста. Жучка даўно адскубла. Бясхвосты спрытна скача вакол Жучкі і зусім яе не баіцца, дзеўбане то з аднаго боку бульбіну, то з другога...

А мы аж душымся ад смеху каля дзіркі ў сцяне.

Можа б яшчэ што цікавае ўбачылі на двары, але доўга ў дзірку глядзець нельга: адтуль цягне мароз, вочы слязяцца, чырванеюць насы, ды і бабка зайшла ў хату, пачала распранацца.

— Зноўку прыліплі да тае дзіркі? Насы адмарозіце і малога прастудзіце,— сварыцца яна на нас.

Мы хуценька затыкаем у шчыліну пакулле, старыя анучкі. Нейкі час сядзім моўчкі.

А на другой сцяне вісяць шаматлівыя вянкі цыбулі, нізкі духмяных грыбоў, торба з сушанымі яблыкамі ды грушамі-дзічкамі (гэтыя грыбы і яблыкі з ігрушамі бабка трымае на каляды) і мноства розных вялікіх і малых торбачак з насеннем.

У адной з іх, якая пашыта з бабчынага старога андарака ў чырво-

ную і сінюю кратку, ляжаць гарбузікі. Калі торбачку пагойдаеш на цвіку, семкі зараз жа адзавуцца, ціхенька зашапочуць.

Я гляджу на сіне-чырвоныя краткі: цікава палічыць, колькі сініх, а колькі чырвоных, думаю сама сабе.

— І куды гэта ты зыркаеш? — пытае ў мяне Васіль і таксама паглядае на торбачку з гарбузікамі.

— Так сабе, нікуды не гляджу...— адводжу ад спакусы вочы.

— Бачу, бачу, мяне не ашукаеш. На семкі глядзіш... Толькі ведай, бабка загадала не чапаць.

— А я і не збіраюся. Сама знаю, што можна, а чаго нельга. — Я заўсёды злуюся, што Васіль усяго на год за мяне старэйшы, а ўжо камандуе...

Адвярнуўшыся ад брата, ляжу ціхенька, але краем вока бачу, як адна семка высунула з маленькай дзірачкі носік і быццам дражніць, вабіць мяне. Так і кажа: «Глядзі, якая я поўненькая, смачная!»

Аглядаюся на брата, ён выставіў сваіх жаўнерыкаў, забаўляецца.

— Ну, у самы раз,— шапчу ціхенька.— Толькі адну семку...

Устаю на калені, але дзірачка малюсенькая і гарбузік ну ніяк не хоча адтуль вылазіць.

Далей усё выходзіць само сабою: зубы мае ўпіваюцца ў сінюю кратку, і, весела шапочучы, на мой падол сыплюцца бялюткія семкі.

Васіль кідаецца да торбачкі, але позна ўжо. Тут і Міхасік, як на зло, прачнуўся і, убачыўшы гарбузікі, адразу ж захныкаў:

— І мне! І я хачу-у-у...

— Тс-с-с! — сыплю брацiку ў растапыраныя далоні жменьку гарбузікаў.

Торбачка неяк адразу схуднела, сумна павісла на цвічку, чырвона-сінія краткі выцягнуліся.

Мы з Васілём адсоўваемся ў самы цёмны кут печы і, сцішыўшыся, пачынаем лушчыць гарбузікі. А яны такія смачныя...

— І чаго гэта вы так раптам сціхлі? — падазрона паглядзела бабка на печ.— Чы не нарабілі часам бяды?

— А ў нас семкі ёсць! Во, глядзі, бабця! — выцягвае Міхасік ручку, паказваючы бабцы гарбузікі.

Бабка хвіліну неяк дзіўна, не мігаючы, глядзіць на нас, затым, сарваўшыся з услона, пачынае хутка распяразваць фартух.

— А!.. Каб вас бура забурыла! Далезлі ўжо! — становіцца яна на прыступак печы, здымае з цвіка торбачку з рэштай гарбузікаў.— А воечкі, колькі засталося?! Што ж я вясною садзіць буду? — трасе гарбузікамі. Торбачка вяла матляецца.— Не дзеці, а пляга нейкая на маю галаву! Усё вышныраюць, да ўсяго далезуць! Ну і дабяруся я да вас, от ужо адсцёбаю!

— Гэта Кася ўкусіла мяшок,— пішчыць напалоханы Міхасік.

— Ага, Кася, значыцца?

— Кася, Кася. Я ёй гаварыў, каб не чапала, а яна не слухала,— прыцiскаецца Васіль да сцяны.

— Усё Кася. А вы не елі? Не? Глядзелі толькі! А шалупайкі ў каго на губах? Адсюль бачу. І не хавайцеся, усё роўна дастану.

Завязкі фартуха з мноствам вузялкоў сцёбаюць па голых лытках, па спінах. Мы хаваемся пад латанік.

— І не баліць! І ніколечкі! — крычым адтуль, хоць яно і баліць і пячэ і слёзы вось-вось пакоцяцца з вачэй.

— Ах, яшчэ дражніцеся? Дык я зараз дабаўлю. Забаліць! — бабка лезе на печ, каб ямчэй сцебануць каторага з нас. Але ў гэты час у сенцах стукнулі дзверы, нехта затупаў, абіваючы з ботаў снег, за-

шоргаў па халявах венікам. Адчыніліся дзверы, і ў хату бухнула белая пара, заклубілася каля парога.

— Нех бэндзе пахвалёны вам! — яшчэ ад дзвярэй крычыць наша суседка, цётка Яніха.

— На векі векаў,— адказала бабка, злазячы з печы і паспешна завязваючы фартух: яна не любіць нас карацьпры чужых.— Заходзь, Улянка. Што новага чуваць на свеце? — бабка палезла за кросны.

Яніха падышла да печы, засунула руку ў кішэню, дастала адтуль некалькі аладак, загорнутых у паперу.

— Наце вам гасцінца,— усміхнулася, прыжмурыўшы вузенькія вясёлыя вочкі. Каля вачэй у Яніхі сабралася мноства тоненькіх зморшчынак, і яны, як той гармонік, то сціскаюцца, то разыходзяцца...

Цётчыны аладкі гарачыя, пахнуць алеем. Мы са смакам уплятаем іх.

Мы вельмі любім цётку Уляну. Яна ніколі не прыходзіць з пустымі рукамі. Хоць што, а прынясе! Не тое, што наша родная цётка: толькі часам на каляды пачастуе ці на вялікдзень валачобнага па два яйкі дасць. А цётка Яніха нам ніхто, ніякая не сваячка, яна проста суседка, а заўсёды частуе. І бабка наша любіць Яніху, хоць часам і пасмейваецца з яе, называе «кур'ерам».

Цётка Яніха за гэта ніколі не гневаецца. Яе ўсе так называюць на сяле.

— Во, глядзіце, кур'ер ужо бяжыць!—кажуць макранцы на цётку Уляну.— Якія там ужо навіны яна нясе?

Цётка Яніха толькі ўсміхаецца.

— Але, нясу. А што вы тут без мяне рабілі б?!

І праўда, яна ўсё на свеце ведае! Мінулым разам прыбегла і першая апавясціла, што памёр Юзаф Пілсудскі і што ўсе паны ў мястэчку плачуць і начапілі на рукавы чорныя стужкі жалобы.

А потым цётка Уляна бегала па сяле і зноўку насіла навіну, што замест Пілсудскага маршалкам будзе нейкі Рыдз Сміглы, нават газету з ягоным партрэтам паказвала.

А калі казаць пра другія навіны, дык Яніха за дваццаць вёрст па акрузе ведала, што дзе адбылося. Дзе вяселле, у каго дзіця нарадзілася, хто памёр, каго арыштавалі, каго засудзілі...

Мы заўжды прыціхалі, калі прыходзіла Яніха. Сёння таксама чакаем, якія навіны яна будзе расказваць бабцы.

Але цётка Уляна з той жа бяздоннай кішэні, адкуль выцягнула аладкі, вымае яшчэ і бутэльку малака.

— Вось я табе, Міхасік, і малачка прынесла. Зараз налью ў кубачак.— Цётка зубамі выцягвае драўляны корак.

Ад малака ідзе пара, пэўна, яна толькі што падаіла карову. Мы з Васілём прагна глядзім на бутэльку.

— Хоць бы трошкі нам засталося,— шэпча Васіль.

— Ну, чаго вылупіліся? — пачуўся сярдзіты бабчын голас.— Малако хвораму, і — нечага глядзець! Дзякуй богу, здаровыя, гойсаеце на печы, як жарабяты. Шкоду толькі робіце!

Але мы ўсё роўна не можам адарваць вачэй ад кубка, што ашчарэпіў дзвюма ручкамі Міхасік. Ён прагна глытаў малако і, выпіўшы ўсё да дна, адкінуўся на латанік.

Цётка Яніха смешна падміргнула нам чорным бліскучым вокам і паказала, што ў бутэльцы яшчэ трохі засталося. Яна набрала ў кубак з бадзейкі вады, папаласкала яго і выліла ў бутэльку з малаком.

— Наце, выпіце,— шапнула.

Мы з Васілём выпілі тую сіняватую ваду.

— Шкада, што мала... Кароўка запускаецца,— цётка Яніха схавала назад у кішэню пустую бутэльку.— Хутка і гэтага не змагу прынесці.

Яна падышла да кросен і села на лаўку каля бабкі. Павольна развязала канаплянку і ссунула яе з пасівелых на скронях валасоў.

— Чула я...— пачала яна, як заўсёды павольна, марудна цягнучы словы.— Чула я, што ў Руцянцы...

— І што там у той Руцянцы? — спытала бабка, быццам падахвочваючы цётку Уляну, каб тая расказала.

— Дык вось, чула я, што ў тым сяле гэтак, як і твой унучак, хварэў хлопчык.

— Ну і што? — бабка прыціснула да кужалю бёрда і палажыла на біла свае цёмныя, павыкручваныя раматусам пальцы. Яна таксама любіла паслухаць Янішыны байкі.

— Ну вось я і кажу, што тое дзіця хварэла на такую ж хваробу, як і твой унучак. І параіў хтосьці ім завезці хлопца аж у Пачаева, да святога старца.

— Глядзі ты, аж у Пачаева?! От аж куды людзі ездзяць! — дзівіцца бабка.—Кажыся, тое Пачаева аж на Валыні?.. Гэта ж дарога якая?!

— Але, але! На Валынь ездзілі! Старац благаславіў дзіцятка, свянцонай вады даў, каб піў хворы...— цётка Яніха раптам пачала адшпільваць біркі ў кажуху і замаўчала.

— І што? — бабка аж прыкрыла рот рукою.

— Вярнуліся дадому, а на другі дзень дзіцятка ўстала на ножкі і пайшло. От цуд!

— Пайшло? Ды што ты кажаш?! — бабчыны вочы сталі яшчэ большыя і сінейшыя.

— Далібог, пайшло! — стукнула сябе ў грудзі кулаком цётка Уляна.

— А... А што, ты сама бачыла? На свае вочы? — перапытвае бабка.

— Не, сама не бачыла. Чаго не было, таго не было. Кабеты каля царквы гаварылі, бажыліся, што праўда.

Бабка адпусціла біла, зарыпела панажамі, твар яе зноўку стаў абыякавы і стомлены.

— Знаеш што, Уляна, усё гэта — байкі! Не бачыла ты на свае вочы, дык гэта яшчэ віламі па вадзе пісана... Я табе от што скажу: каб была ў нас карова з малаком, то я і без таго святога старца дзіця на ногі паставіла б.

— Але, але! Мо яно і так,— кіўнула Яніха галавою і сціхла. Раптам нешта ўспомніла: — Слухай, я чула, што Сцяпан кульгавы з хутароў прадае сваю старую карову. Цяпер, бачыш, ён распанеў. Брат далараў з Амэрыкі прыслаў. От жа шанцуе людзям! — уздыхнула цётка.— А мой, як паехаў у тую Канаду, дык і галаву, пэўна, злажыў. І па сёння ніякай весці няма,— цётка накінула на галаву канаплянку.— Ага... Дык я ж пра карову хацела... Значыцца, Сцяпан старую карову прадае, хоча сабе маладую купіць.

— Іё, праўда? — перапытала бабка.

— Канешне, праўда. Ты схадзі на хутары, пагавары са Сцяпаніхай. Карова, кажуць, з малаком...

— Дык што ж ты маўчыш? Так бы і сказала, дарма, што старая, нам і такая добрая будзе. Зараз пайду,— бабка хутка вылезла з-за кросен, накінула на плечы рабую хустку.— Ну, вы тут ціха будзьце! Не гойсайце па чарэні, а то і ў печ праваліцеся. І Міхася не ўздумайце на дол пускаць, застудзіцца,— наказвала яна нам.

— Знаеш, то і я з табою,— пачала завязваць цётка хустку.— Пагляджу на тую карову. Я пазалетась аднаму высватала такую кароўку, як лялечка... Дык ён мне...

Стукнулі дзверы. Бабка з Яніхай выйшлі з хаты.

Мы з Васілём паглядзелі адно на аднаго. Няўжо ў нас будзе свая карова? Няўжо будзе сваё малако? Нам стала так весела, што мы шуганулі з печы і давай ад радасці скакаць.

## ЗАПАЛЕННЕ

І так хворы, Міхасік яшчэ больш захварэў. Усю ноч ён кідаўся ў гарачцы, кашляў.

— А божа ты мой мілы, дзе ж гэта хлопец так застудзіўся? — бедавала бабка, развязваючы свае торбачкі з лекамі. У адной з іх быў ліпавы цвет, у другой бадылле малінніку. Бабка запарыла ўсё гэта ў чыгунку, дастала з сундука невялікі скрутачак, разматала яго, там у паперцы ляжалі кавалкі цукру. Мы падсунуліся бліжэй да бабкі, стараючыся зазірнуць у ванзэлачак: ці многа ў ім кавалачкаў?

— Не глядзіце так, адвярніцеся...— ціха папрасіла нас бабка.— Я знаю, што і вам хочацца, але гэта хвораму...

— А нам зусім і не хочацца. Праўда, Кася? — тузануў мяне злёгку Васіль. Яму хацелася, пэўна, каб і я так сказала, але я маўчала, бо мне вельмі хацелася цукру. Хоць бы адзін разочак лізнуць.

— Усё хвораму ды хвораму...— бачачы, як бабка завязвае ванзэлачак, кажу я.— І малако, і цукар, і ўсё лепшанькае, усё яму! Хоць бяры ды захварэй. Можа тады далі б...— бубніла я, хоць Васіль ужо і не на жарт штурхаў мяне, каб змоўкла.

Бабка, на дзіва, нічога не адказала, не раззлавалася, толькі, уздыхнуўшы, палічыла кавалкі цукру і адзін, адкушаны, дала нам.

— Падзяліцеся... — ціха сказала. І рэшткі цукру схавала ў скрыню.

Мы адкусілі па кавалачку, цукар пах нафталінам і здаўся мне не такі ўжо салодкі.

Бабка наліла ў кубачак цёплага ліпавага настою.

— На, папі, мая ягадка, папі цёпленькага,— прыўзняла яна Міхасікаву галаву.

Але Міхасік глядзеў на бабку памутнелымі ад гарачкі вачыма і стагнаў.

— Эх, не даглядзела я цябе, не даглядзела...— застагнала разам з Міхасікам і бабка.

Міхасік зрабіў некалькі глыткоў, але закашляўся і зноў застагнаў...

У гэты дзень бабка не садзілася за кросны, а толькі раз-пораз то станавілася на прыступак печы, мацаючы Міхасікаву галаву, то злазіла ўніз і прыпадала да акна, выглядаючы маму, якой наказала людзьмі, што ехалі ў мястэчка, каб прыйшла.

Але мама не ішла, а Міхасіку было ўсё горш і горш. Ён цяжка і хрыпла дыхаў і мармытаў нешта, не пазнаючы бабку.

Мы з Васілём сядзелі прыцішаныя: гэта мы былі вінаватыя ў тым, што захварэў наш брацік. А здарылася гэта ў той дзень, як бабка пайшла на хутары глядзець карову. Мы з Васілём тады весела смяяліся, скакалі па хаце, а Міхасік назіраў з печы за намі і нарэшце не вытрымаў:

— І я хачу на зямлю! Спусціце і мяне ўніз! — папрасіўся.

— Табе нельга! Ты хворы,— адказала я.— Бабка загадала не спускаць цябе на дол.

— Ды і навошта табе? Ты ўсё роўна хадзіць не можаш...— угаворваў Васіль Міхася.

— А вось і магу! Я стаяць магу,— пахваліўся Міхасік.— Во, глядзіце, як я...

Міхасік успяўся на ногі, чапляючыся за сцяну. Крывыя і тонкія, яны дрыжалі, падкурчваліся, але Міхасік усё ж такі стаяў.

— Глядзі, стаіць! — не паверылі мы сваім вачам.

— Стаіць наш брацік, стаіць! — запляскалі мы ў далоні.

Міхасік шчасліва засмяяўся і стомлена плюхнуўся на латанік.

— А што, бачылі? Бачылі? — ззялі яго вочкі.— Я і хадзіць цяпер умею. Вы толькі патрымайце мяне за рукі.

Мы хуценька знялі браціка з печы, падхапілі пад рукі і пачалі вадзіць. Ён пераступаў хісткімі ножкамі па зямлі і радасна паўтараў:

— Вось і я хаджу! І я хаджу!

А мы вадзілі яго ад печы да кросен і назад. Усяго тры крокі. Але раптам Міхасік зморшчыўся і асеў.

— О-ой, ножкі! Ножкі забалелі! Ба-а-аліць!

Я глянула на брацікавы ногі. Яны былі аж сінія ад холаду. Мы хуценька падсадзілі Міхася на печ, прыкрылі ногі цёплай аўчынай, але ён усё плакаў і плакаў, пакуль не заснуў. І вось праз два дні...

Я гляджу на хворага брацікa, і мне хочацца плакаць.

— Міхасічак, міленькі, дзе табе баліць? — нахіляюся над ім.

Міхасік неяк дзіўна, нібы шклянымі вачыма, глядзіць на мяне нейкі час. Затым пазнае, стогне.

— Спінка і тут...— паказвае пальчыкам на грудзі.

— Чаму ж спінка і грудзі? — пытаю сама ў сябе.— У яго ж тады ножкі балелі...

За акном нехта мільгануў, бабка кінулася да дзвярэй, пэўна, падумала, што мама.

— А... Гэта ты, Уляна. А я думала — можа, Насця. Вочы выгледзела, чакаючы яе. Няўжо не адпусціць той нехрыст?

Яніха паставіла на стол шклянку, разгарнула паперу:

— На, вазьмі. Ледзьве выпрасіла ў тае жмінды...

У шклянцы быў мёд. Бурштынавымі кавалачкамі ён асеў на дно. Усяго паўшклянкі.

— І скажу табе, Марыська, усялякіх я людзей сустракала на сваім вяку, але такой скупярдзяйкі, як солтысіха, не бачыла. Шкрэбла, шкрэбла па той дзежачцы, каб я бачыла, што нібыта ў яе там таго мёду на самым дне. Нарэшце нашкрэбла паўшклянкі і дае... «То ўжо скажы Марысі,— перакрыўляе цётка Уляна пісклявым голасам солтысаву жонку,— скажы ёй, што больш няма. Сёлета пчолы кепска бралі... Дажджы ішлі, лета халоднае і мокрае было...» Усё плача і плача. А каб ты бачыла, што ў каморы робіцца! Кумпяк на кумпяку вісіць, і каўбасы, і паляндвіцы... А ўсё стогне! От жмінда дык жмінда!

— І за гэта дзякуй! — бярэ бабка лыжачку мёду, апускае ў ліпавы настой.— Кепска вось тое, што Насці няма, можа б якіх парашкоў прынесла... А то хлопцу ўсё горш і горш, ужо трызніць пачынае.

— Бо няўмольны той немчура! Хоць ён і пан аптэкар, і хоць, можа, Насці там някепска, але я яго не люблю, нават баюся. Гідкі ён такі, увесь рыжы, аблезлы і слізкі, як той слізняк... Яму што, абы служанка рабіла добра. А дзіця хварэе не яго, а яе!.. І ты знаеш, што я чула? — Яніха паніжае голас.— Ён не ходзіць ні ў царкву, ні ў кас-

цёл, а ездзіць да Брэста ў сваю «кірку». Так іхняя царква завецца.

Бабка толькі ўздыхае, ёй не да навін. Яна становіцца на прыступак, зноўку мацае галаву ў Міхасіка.

— Ой-ёй, гарачая якая! І кашаль б'е, як у пустую бочку.

— Каб часам не запаленне...— занепакоілася цётка Яніха.— Давай мы яму баначкі выставім.

Бабка хуценька дастае са скрыні банькі, выцірае іх ручніком.

— Ой, божа ж мой, і адкуль на маю галаву сухота такая...

Цётка Уляна наліла ўжо ў газнічку газы, затым накруціла на трэсачку пасму льну, зрабіла квачык.

— Зараз мы нашаму Міхасіку баначкі паставім,— схілілася яна над хлопчыкам.— Я іх табе на спіначку раз-раз і прыляплю. Глядзі як...

Цётка макнула квачык у газу, паднесла да запалкі. Затрашчаў абліты газай лён, пыхнуў агонь. Яніха тыцнула ў баначку квачык з агнём і хуценька прыціснула яе да голай Міхасёвай спінкі.

— А-а-а! Баюся-я-я...— заплакаў Міхасік.

— Ну, ну! Не бойся, я хуценька.— Цётка Уляна спрытна ставіла банькі, але яны кепска трымаліся на худаватым целе і часта спадалі. Усё ж цётцы ўдалося паставіць некалькі, і адразу ж пад банькамі пачалі расці чырвоныя пухліны.

Бабка накрыла спінку Міхасіку цёплай хусткай, затым радном, а перад маімі вачыма ўсё раслі і раслі, як тыя булкі, чырвоныя пухіры. Здавалася, вось-вось яны выпнуцца з-пад хусткі і радна.

— Бабця, родненькая, зніміце яму тыя банькі! Мне страшна, там пухіры...— слёзы аж душаць мяне.

— Зараз, зараз зніму, няхай добра нацягнуць.

Але я не магу ўжо чакаць, слёзы коцяцца па маіх шчоках. І навошта мы спускалі тады на зямлю Міхасіка?!.

Нарэшце бабка адкрыла радно, хустку. Цётка Яніха схілілася над Міхасікам і таксама, як і ставіла, хуценька і спрытна пачала знімаць банькі. Падцісне палец пад край банькі: чвак, чвак! Банькі адна за адной коцяцца ўніз, на латанік.

— А вой! Вой! Якія ж чорныя! Што тая зямелька! — бядуе цётка Уляна.

І праўда, там, дзе толькі што стаялі банькі, у Міхасіка на спіне цёмна-чырвоныя, аж фіялетавыя, плямы.

Бабка змазвае Міхасікаву спіну салам, змешаным з тарпатынай. Хутка прыкрывае радном і цёплай курткай.

— І дзе ж гэтко ён так застудзіўся? На печы, здаецца, цёпла...— здзіўляецца цётка Яніха.

— А хто яго ведае. Ужо я так яго глядзела, як тое вока ў ілбе. А от не дагледзела... Можа, гэтыя дзе спускалі яго на зямлю? — глядзіць бабка на нас.

І тут я ўжо не магу болей цярпець, плачу наўзрыд, аж захліпаюся. За мною пачынае раўці Васіль.

— Я так і думала! — усплясквае бабка рукамі.— У труну яны мяне жывую палажаць, гэтыя дзеткі. Ну, сціхніце! Калі гэта было, кажыце?

— У-у-у... у той дзень, як вы на хутары пайшлі карову гля-я-ядзець...

Утыкаюся галавою ў латанік. Няхай сварыцца, няхай наб'е — так нам і трэба!

Але бабка нічога больш не гаворыць, не сварыцца, не б'е, толькі цяжка-цяжка ўздыхае.

# ТАТКА ВЯРНУЎСЯ

Штоночы ў нашай хаце цьмяна свеціць лямпа з прыкручаным кнотам. Бабка ўсё яшчэ спіць не распранаючыся. Яна часта ўстае і поіць хворага Міхасіка чаем і парашкамі, якія прынесла мама.

Гэтымі днямі яна прыходзіла, але доўга не магла астацца, бо ў аптэцы цяпер многа работы. У мястэчку хварэюць дзеці на шкарлятыну, і аптэкар не ўпраўляецца рабіць лякарствы, трэба для гэтага мець многа бутэлечак, якія мама павінна вымыць.

У мамы стомлены твар, вочы абкружаны цёмнымі ценямі, яны глыбока запалі.

— Гэта ад лекаў, ад таго духу...— кажа бабка.— Ды і на вуліцы мала бываеш, усё тыя бутэлечкі мыеш, каб яны прапалі. Унь як пабляднела,— бядуе яна, гледзячы на маму.— Трэба табе, Насцечка, кідаць гэтую работу. Ідзі да каго другога. Я чула, што рабін шукае служанку.

— Што вы, мама? Як можна кідаць такую працу? Ён жа больш за ўсіх местачковых плаціць! Нідзе я не знайду такой службы. Праўда, работы хапае. Усё прыходзіцца самой рабіць: і кватэру прыбраць, і вымыць яшчэ ў аптэцы тыя бутэлькі... Як пачну іх мыць, то ледзь не падаю: лякарства так і б'е ў нос...

— А як з ядою? Не галодная, часам?

— Ды што вы, мама. Яды хапае. Нават пасля таго, як яны паядуць, і то колькі ўсяго астаецца!

— Паны! Па панску і ядуць. Усё грэдзаюць відэльцам...

— Вы тут з нішчымніцай, а я як тая пані ем. Ды яшчэ і ў памыі такую ежу...— уздыхнула мама.

— Ат, што ты гаворыш! Мы як-небудзь тут. А табе трэба есці. Ты, Насцечка, як яно можна, то паболей напіхайся. Чорт іх не возьме, тых паноў! Не збяднеў яшчэ ні адзін з іх... А як купім карову, то адразу зволішся. Хопіць! А то зусім звядзешся.

Мама ціхенька сядзела каля стала, абапёршыся плячыма аб сцяну, відаць, адпачывала пасля дорогі. Твар яе і праўда быў бледнаваты, але ўсё роўна вельмі прыгожы. З таго часу, як мама пачала служыць у мястэчку, яна неяк уся змянілася. Каса яе была прыгожа зашпілена шпількамі па-гарадскому. На ёй ладненькі жакецік з футравым каўнерыкам. Праўда, жакецік паношаны, залатаны, ды і каўнерык трохі аблез, але затое пашыты па-гарадскому. Пэўна, аптэкарша падаравала.

— Мамця... А гэта чый жакецік?

— Панін, Касечка.

— А чаравікі?

— І чаравікі. Свае неданоскі пані аддала. У яе таго дабра поўны сундучок стаіць. Паносіць нейкі час і адкіне. Вось я палатаю і нашу.

Мама ва ўсім панскім, толькі каралікі на шыі свае.

— Мамачка, міленькая, якая ты прыгожая! Як пані!

— Ат...— махнула мама рукою.— Не дае мне аптэкарка надзяваць мой андарачок і світачку, кажа, ёй сорам, што служанка такая мужычка неахайная... Вось і загадала насіць гэтыя транты.

— Пацярпі, Насцечка...— уздыхнула чамусьці бабка.

— А я што? Я нічога...— сумна адказала мама.

— Мамця! А ад чаго гэта ў цябе рукі такія жоўтыя?

— Гэта ад ёду. Я бутлі мыла...

У мамы заўсёды, калі прыходзіць дахаты, каляровыя рукі, то чырвоныя, то зялёныя, да таго ж яшчэ шурпатыя і сухія.

— Ты іх хоць шмальцам ці алеем пашмаравала б, а то яшчэ якія паршы нападуць,— заўважыла бабка, мацаючы маміны рукі.

— Эт... Не памагае нічога.— Мама дастала з-за пазухі скрутачак.— Вазьміце, схавайце. За два месяцы тут. А мне ўжо ісці трэба.— Мама паднялася, зашпіліла гузікі.— Ну, бывайце, мае дзеткі.— Яна пацалавала нас, потым падышла да печы, стала на прыступак. Па шчацэ ў яе хуценька збегла і ўпала на Міхасікаву падушку сляза.

Прыціснуўшыся да шыбы, мы бачылі, як мама выходзіла на гасцінец, часта аглядалася і махала нам рукою.

...Цьмяна свеціць лямпа. На сцяне цені. Стаіць нехта з доўгаю барадою. Гэта ад прасніцы, ад кудзелі... Бабка, пакуль хварэе Міхасік, не тчэ, каб не стукаць бёрдам. А каб не марнаваць часу, яна ўзялася прасці солтысаву воўну. Бабка сядзіць на лаўцы і ціха фырчыць верацяном. А недзе за печчу цвыркае цвыркунчык.

«Цір-р-р! Ці-і-ір-р-р!» — пяе ён. І не надакучыць яму. Усё «Цір-р-р» ды «Цір-р-р!» Цікава, які ён?

— Бабця, а які цвыркунок, вялікі ці малы?

— Маленькі, шэранькі...

— Маленькі і шэранькі, а глядзіце, як голасна спявае!

— Гэта ён на скрыпачцы сваёй так грае. Такая маленечкая, тож шэранькая... Людзі гавораць: там, дзе цвыркунчык пяе, у той хаце шчасцейка жыве,— кажа бабка і ўздыхае.

Цікава паглядзець, які ён і якая тая скрыпачка? Заглядваю за комін у шчылінку, здаецца, адтуль чутна гэтае «цір-р-р, цір-р-р!» Але што такое? Недзе здалёку, знадворку даносіцца другі голас: «Угі-гі-ii! Уі-гі-гі-і-i!» Ну зусім, як наша Рыжуха, калі ідзе дадому. Вось зусім ужо блізка. Здаецца, нават санкі па гасцінцу рыпяць... Я кулём кідаюся з печы. За мною Васіль. Праз замерзлую шыбу, хоць і кепска, але ўсё ж відаць, як нехта ў доўгім кажусе адчыняе вароты.

— Татка вярнуўся! — пазнаем мы доўгі кажух і башлык на галаве.— Бабця, татка прыехаў!

Бабка кідае верацяно на лаўку, углядаецца разам з намі ў акно і, пазнаўшы татку, пачынае завіхацца па хаце.

А за акном ужо відаць, як татка распрагае Рыжуху, як вакол яго скача і пішчыць Жучка. Яна чапляецца лапамі за таткаў доўгі кажух, каб лізнуць ягоную руку, пішчыць ад радасці і весела брэша.

Мы таксама смяёмся каля акна. Нарэшце, рыпнулі дзверы, у сенцах нешта зашамацела: пэўна, татка паставіў пук лазы.

Бабка хуценька зацягнула печ фіранкай, каб да Міхасіка не дайшло марознае паветра. Расчыніліся хатнія дзверы, і спярша ў іх прасунуўся вялізны валёнак і крысо доўгага кажуха, нарэшце, перагнуўшыся пад нізкім вушаком, увайшоў татка з торбаю ў руках.

— Ну, от і я! — загаварыў ён нізкім, хрыплым басам.— Як вы тут жывыя-здаровыя?

А мы ўжо віселі на таткавых руках, памагалі яму здымаць рукавіцы, развязвалі башлык.

Заінелы, зарослы барадою, татка цалаваў то мяне, то Васіля, аглядаючыся на печ, каб падысці да Міхася.

— Пагрэйся тут, каля прыпечка, далей пакуль не ідзі, а то ты з холаду. Міхасік наш хварэе...— сказала бабка.

— А што з ім? І даўно? — занепакоіўся тата.

— Ды з тыдзень будзе. Застудзіўся...— скупа і неахвотна расказвала бабка пра Міхасікаву хваробу.— Пазаўчора Насця прыходзіла, парашкоў прынесла. Дык як напаю імі, то ўсё спіць і спіць...

— Не-е-е... Не сплю ўжо! — пачуўся з печы слабенькі галасок.—

Адвесьце фіранку: я нічога не бачу. Татачка, ты вярнуўся з лесу?

— Вярнуўся! Вярнуўся, сыночак! — адказаў тата.

— Ах ты, мая ягадка! Прачнуўся, мой званочак? — падышла бабка да печы і падагнула канец фіранкі.— Вярнуўся твой татка. Вось ён!

— Ну, здароў, сыночак! Што гэта ты надумаў хварэць? — тата падышоў да печы, заглядаючы да Міхасіка.

— А мне цётка Яніха на спінку агонь ставіла. Я плакаў, але не вельмі...— пахваляўся Міхасік.

— От дурненькі, агонь, кажа! Трэба казаць: баначкі ставіла...— папраўляю я Міхася.

— А што ты прывёз, татачка? — паднімае галаву Міхасік.

— Ого, што я табе прывёз! — татка адшпіліў нагрудную кішэню і выцягнуў некалькі загорнутых у каляровую бліскучую паперку палачак-цукерак. Па адной даў нам з Васілём, астатнія Міхасіку.

— І яшчэ...— татка таямніча прыжмурыў вочы. Ён падышоў да торбы, асцярожна развязаў яе і выцягнуў лазовую пляцёнку. У ёй нешта шамацела.

Бабка падкруціла кнот, каб бачыць, што там у той пляцёнцы. Татка падняў пляцёнку і павесіў на крук да бэлькі. І тут мы ўбачылі за лазовымі пруточкамі маленькага пушыстага звярка. Ён лыпаў чорненькімі вочкамі.

— Вавёрачка! — закрычалі мы.

Вавёрачка порстка заскакала ў пляцёнцы, татка дастаў з кішэні некалькі арэхаў і кінуў ёй.

«Трэсь! Тр-р-рэсь!» — вавёрачка так спрытна раскусіла арэшак, што нават Міхасік засмяяўся.

— Татачка! Няхай яна будзе мая,— папрасіў ён.— Я, калі папраўлюся, буду яе карміць. А цукеркі яна есць?

— Не ведаю. Што шышкі і арэхі — дык ого як лускае! А цукерак я ёй не купляў,— засмяяўся тата.

— Ну, сядай, Антон, за стол. Ты ж, пэўна, здарожыўся і галодны.

Бабка паставіла перад татам міску з гарачай капустай, нарэзала хлеба.

— Тут у мяне яшчэ сёе-тое. Гэта гасцінец для ўсіх,— тата выцягнуў з торбы бохан сітнага хлеба, бутэльку лёку і некалькі селядцоў, загорнутых у шэрую прамоклую паперу.

— Вазьміце, мама.

— Эт... Дарма толькі грошы траціў! — разгарнула бабка паперу, у якой ляжалі селядцы.— Пэўна, крулеўскія! Унь якія тлустыя! Нават праз паперу прайшло... Дарагія... Я іх схаваю на каляды. А то — з'еш вала, адна хвала! Зараз у лёк памачаеце картоплю. Добра і так будзе. А каляды без селядца, гэта не каляды...

Бабка сыпанула на стол ужо даўно адубелую бульбу, наліла ў міску лёку, накрышыла цыбулі. Лёк быў руды і тлусты, па ім плавала рыбная луска.

— Ну, ешце, дзеткі! Вось вам па кавалку сітнага,— адрэзала бабка ад бохана некалькі скібак.

Мы хутка залезлі за стол і пачалі аблізваць з бульбін салёны, што аж выдзіраў вочы, лёк. Сітны хлеб быў мяккі, яшчэ халодны з надворку, пасыпаны духмянымі зярняткамі кмену, якія, калі раскусіш, злёгку шчыкалі за язык. Ох, якое ўсё было смачнае!

Тата сёрбаў гарачую капусту і ласкава глядзеў на нас. І толькі зараз я заўважыла, які ён худы, стомлены і зарослы густой чорнай шчэццю. Вочы яго пачырванелі ад марозу, твар абветрыўся. Таткавы рукі былі запэцканы смалой, з пазбіванымі да крыві пальцамі.

Міленькі мой татачка, колькі ж гэта ён бярвенняў пацягаў! Я пагладзіла шурпатую бацькаву руку, прытулілася да яе шчакою. Рука пахла жывіцай, лесам.

— Што гэта ты так рана вярнуўся? Казаў да вадохрышча будзеш, а тут і да каляд не дацягнуў? — пачала прыбіраць са стала бабка.

— Лесарубы застрайкавалі *. Вельмі мізэрная плата. Навошта задарма рабіць? — адказаў пытаннем тата.— Праўда, там той-сёй застаўся. Але такіх мала...

— Засталіся, бо людзям грошы патрэбны. А вы, як тыя дурні, паехалі. Быццам за вамі пабягуць, прасіць будуць. Другіх на ваша месца знойдуць...— сярдзіта прабурчала бабка.

— Не знойдуць. Такіх, як тыя юды, мала.

— От як яно! — усхадзілася бабка.— Не, каб працаваць сабе ціха. Лепш будуць выдумляць усялякія там страйкі... Фанабэрыі ў вас многа, от што я вам скажу! Голымі лбамі хочаце жалеза прабіць! Не, ілбы паразбіваеце! І голадам будзеце чоўраць!

Бабка бразнула пустым посудам, ссыпала ўсе лыжкі і міскі ў начоўкі, пляснула гарачай вады.

Тата выцягнуў з-за пазухі скураную торбачку, палажыў яе на стале.

— Вось вазьміце. Гэта ўсё, што ўдалося за месяц зарабіць.

— А я ўжо і карову апытала...— сумна адказала бабка.— З малаком кароўка. І не такая ўжо старая. І цана згодная... Хутарскі кульгавы Сцяпан прадае.

— То і добра! Не трэ будзе на кірмаш ехаць. Са Сцяпанам мы піва зварым! — зарадаваўся татка.— Дамо задатак, а там якось выстараюся да восені. А можа Сцяпан на ра́ты згодзіцца? Пашкадуе дзяцей...

Тата сцягнуў валёнкі. Бабка пачала слаць яму ложак.

— У нас усё — як у нелюдзяў... — бурчэла яна.— Вельмі ўжо адукаваны мой сыночак. Усю палітыку знае, а грошай не мае! Дзіркі дзіркай латае. Другія даўно ўжо кароў купілі. І гаспадарка як мае быць... А мы, як прыехалі з бежанства, так і гібеем.

Тата маўчаў. Ён занадта часта чуў гэтыя папрокі. Так моўчкі і лёг, адвярнуўся да сцяны.

Бабка завесіла акно ад вуліцы радном, падышла да стала і высыпала са скураной торбачкі грошы. Мы таксама падышлі, павыцягвалі шыі, каб лепей убачыць, якія тыя грошы.

— Гэта дзесяць злотых,— прашаптаў Васіль, паказваючы на вялізную срэбную манету.— А гэта пяць. А вось залатоўкі. Бачыш, на іх адзінка пастаўлена?

— Адкуль ты ведаеш? — спытала я.

— Я бачыў у Федзевай кніжцы, там акурат такія грошы намаляваны...

— Ну, чаго павыцягвалі шыі, як тыя гусакі? Без вас тут палічу. Было б што...

Бабка дастала з куфра маміны грошы, пералічыла ўсе і ссыпала ў скураную торбачку, потым схавала ў скрыню.

— Бабця... А чобаты? Я ў школу хачу! — захныкаў Васіль.— Купіце чобаты...

— Не! Гэта на карову. Сам бачыш, што з Міхасікам робіцца... Не будзе малака — памрэ.

Васіль толькі ўсхліпнуў і палез на печ.

Бабка паслала на скрыні кажух, палажыла падушку, радно і стала перад абразамі.

---

* Страйкаваць *(польск.)* — баставаць.

Праз дробныя шыбкі акна, што выходзіла на гасцінец, свяціў месяц, кладучы ясныя чатырохкутнікі святла на недатканы кужаль. За печчу зноўку зацвырчэў цвыркунчык. Я глядзела на замерзлае акно, на дзівосныя лісты і зорачкі, якія павыціскаў мароз. Яны зіхацелі ў святле месяца. Я выцягнула з-пад падушкі цукерку, разгарнула шаматлівую паперку і адкусіла... Ах, як добра, што вярнуўся наш татка!

# У НАЙМЫ

У печы трашчыць і страляе агонь. Ён скача паміж сасновых паленняў і жоўта-сінімі языкамі ліжа вялізны чорны чыгун, у якім варыцца бульба.

Агонь казыча бакі чыгуна, і ён ажно весела заліваецца, булькае: «Буль-буль-буль! Тш-ш-ш! Буль-буль-буль! Тш-ш-ш!»

Бабка заглядае ў печ. Водбліскі полымя мігаюць на бабчыных руках, на кофце, дрыжаць на яе твары, і ён чырванее.

— Ну, ну... Годзе ўжо табе...— бярэ яна ў рукі рагач.— Будзе ўжо булькаць! От расхадзіўся...— ласкава прыгаворвае да чыгуна і, падхапіўшы яго рагачом, выцягвае з печы на прыпечак, потым апускае на зямлю.

«Тш-ш-ш! Пых!» — бухае парай чыгун і змаўкае, а мы кідаемся да духмяных падсмалак і адразу ж пачынаем хрумсцець імі, апякаючы гарачай бульбай пальцы і языкі.

Бабка высыпала бульбу на чысты, выскаблены да жоўтага, стол, паставіла міску квашанай капусты, другую з тоўчаным семем. У хаце запахла падагрэтым алеем.

— Цяпер, дзеткі, пост,— кажа яна нам.— Скаромнага есці нельга. Грэх. А хто не паслухае, у таго на губах балячкі выскачаць.— Ну, ешце, ешце бульбачку з семем...

Бабка пасыпае семя зверху соллю, якая выблісквае маленечкімі крышталікамі. Мы навыперадкі мачаем у семя бульбіны, стараючыся захапіць паболей солі.

— Не калупайцеся. Па парадачку ешце. З краю мачайце! Бацька яшчэ не еў, а яны ўжо тут поркаюцца! От зараз як плясну аднаго, другога!..

Але мы не зважаем на бабчыну сварку. Стараемся як найбольш макнуць у семя. Міска перакульваецца, і семя высыпаецца на стол.

— Вось вам! Вось! — стукае нас бабка па галовах драўлянай лыжкай.— Ненаедныя вантробы!

— І зусім не баліць! Пасып, бабця, яшчэ соллю!

— Хопіць,— сыпнуўшы адчэпнага, бабка моцна завязвае матузком торбачку, зважвае яе на руцэ, нешта мяркуе, пэўна, думае, ці хопіць солі да каляд ці трэба будзе дакупляваць. Яна яшчэ мацней зашморгвае матузок і хавае торбачку высока на палок.

— Усё. Болей няма! — яна бярэ вялізны круглы бохан хлеба, які заўжды ляжыць на стале ў кутку пад абразамі, накрыты белым ручніком. Адкалуплівае ад ніжняй скарынкі вугалькі, сухія лісты, на якіх пякуць хлеб, і, адкроіўшы па невялікім скрыліку, дае нам. Васілю і мне ад подавай скарынкі, а Міхасіку ад верхняй, прапечанай.

— О!.. Нам ад ніжняй, дзе закалец на палец! — бурчыць Васіль.

— Бабка, глядзі, хлеб пацвіў! — паказваю я на зеленаватую поцвіль на подавай скарынцы.— Адрэж мне ад верхняй! Я не хачу такі есці...

— От дурненькая! Гэта ж добра. Як з'ясі цвілое, тады грому не будзеш баяцца.

Бабка кладзе бохан на месца і накрывае яго ручнікам.

— Бабця, не хавай, адрэж яшчэ па лустачцы.

— Тс-с-с... — прыкладае бабка да вуснаў палец.— Хлеб ужо спіць, будзіць яго нельга: загневаецца.

Мы сядзім прыцішаныя і не ведаем, верыць у тое, што хлеб заснуў, ці не? Міхасік сумна глядзіць у куток, дзе надоўга, аж да самага абеду, заснуў хлеб, і ціха скардзіцца:

— І чаму гэты хлеб так доўга і так шмат спіць? — ён і сапраўды верыць у тое, што бохан заснуў.

Васіль хіхікае ў кулак, але бабка так пляскае яго па патыліцы, што ён аж тыцкаецца носам у рассыпаную на стале бульбу.

— Цыц! Я табе дам, басурман гэткі! Сказала — спіць, значыцца, спіць!

У гэты час у хату ўвайшоў тата. Ён быў паголены і пастрыжаны. Татавы вочы весела ззялі, і сам ён быў нечым узрадаваны, задаволены.

— Ну, то як? — спытала бабка, гледзячы, як тата распранаецца, вешае кажух.— Наняліся?

— А як жа, наняліся! — паціраe тата рукі.

— Ну і добранька! — з палёгкай уздыхнула бабка.

Яна забегала каля прыпечка, рыхтуючы тату ежу.

— Калі ж выходзіць на работу? — спытала.

— Сёння, пасля снедання,— тата сядае за стол.— Ух, як у вас тут смачна пахне! — пацягнуў носам.

— Ой-ёй, дык трэба хутчэй! Я зараз табе алею ў рыначцы падсмажу з цыбуляй,— заспяшалася бабка.

— Татачка, а куды ты наняўся? — пытаем з Васілём.

— Да пана ў маёнтак. Жыта будзем малаціць.

— Вось і пашанцавала нашаму татку: работа побач знайшлася, нікуды не трэба ехаць.— Бабка паставіла на драўлянае дзнішча рыначку з алеем.

— Канешне пашанцавала, толькі не мне, а пану! — умакнуў татка ў рыначку бульбіну. Але, пабачыўшы, што мы глядзім, падсунуў яе да нас.— Мачайце! Весялей! — сказаў, скоса глянуўшы на бабку.

— А чаму гэта пашанцавала пану? — здзівілася бабка.— Здаецца, табе заплацяць за малацьбу, а не пану.

— Ды таму, што жыта панскае, да таго ж, падскочыла ў цане, вось ён і спяшаецца, каб хутчэй змалаціць і прадаць, зарабіць барыша.

— А табе што да таго? Табе грошы за малацьбу заплацяць!

— Вось тое, мама, і выходзіць, што багацець яму памагаю я. Знацца, каму шанцуе?

— Пану! — хорам адказалі мы.

— Ат! Ідзі ты, Антон, знаеш, куды, з тваёй палітыкай! Лепей еш, а то гэтыя жэўжыкі ўсё вымачаюць,— бабка забірае рыначку ад нас і ставіць каля таткі.— І не сорам вам? Панапіхаліся ўжо, дайце бацьку паесці.

— Эх-эх! Жыві, не памірай, пасніца, значыцца, пачалася? — чэрпае татка лыжку капусты.— Снедаў, абедаў, а жывот не ведаў?

— Не, не так... Я дык наеўся во як! Жывот, як барабан,— адхінаецца Міхасік ад стала.— Яшчэ б малачка папіць, і ўсё...

— Няма малачка, мой званочак. Запусцілася цётчына кароўка, не дае больш. Я табе салодзенькай вадзіцы зраблю. Там недзе сякі-такі цукар застаўся...

— I нам салодзенькай,— просім.

— Нап'ецеся і такой! — Бабка адразае ад бохана дзве лусты, палівае іх алеем, пасыпае соллю і кладзе побач цыбуліну.— На, Антон, вазьмі з сабою, а то, пакуль той абед будзе, дык жывот падцягне...— загарнула бабка ў паперыну хлеб і падала тату.

— Каб з сальцам, то яно сытней было б...

— Пост, Антосік. Не гняві бога. Хоць нядзельку перад калядамі трэба папасціць.

— З салам нельга... Бабка казала, што калі хто не паслухае, то на губах балячкі выскачаць,— сцішыўшы голас, расказвае Міхасік.

— От ужо тая бабка! Нагаворыць яна вам, толькі слухайце,— незадаволена кажа тата.— То-та я думаю, чаго гэта ўсе багацеі ды паны такія губатыя ды прышчаватыя. Пэўна, ад таго, што скаромніну ядуць! Ха, ха!

— Сціхні, Антон! Сам не перахрысцішся ніколі, і дзяцей мне тут марнуеш. Ідзі ўжо на работу, а то апознішся!

Бабка ўстала з-за стала, павярнулася да абразоў.

— Ва імя айца і сына і святога... А ну, хрысціцеся, нехрысці вы!— прыкрыкнула яна на нас, бачачы, што мы спакойненька сядзім сабе. Мы хутка падхапіліся і заматалі рукамі.— I не глядзіце на свайго бацьку! Ён у пекле на самым дне будзе сядзець! Бязбожнік гэткі.

— «Не то, что в уста, а то, что из уст», — з усмешкай і шматзначна адказаў тата. Але бабка толькі адмахнулася ад ягоных слоў і падала яму старую куртку, старыя валёнкі і такую ж старую шапку, бо каля тае малатарні вельмі вялікі пыл. Тата пачаў апранацца.

— Антон...— ужо зусім другім голасам папрасіла: — Глядзі ты, сыночак, каля тае машыны. Яна старая, растрэсеная. Не ганіце там вельмі коней каля прываду, а то разляціцца гэты раганат... I наконт трыбаў уважай, не сунь рукі... Не ў хаце кажучы, пазалетась аднаму парабку адхапіла пальцы...

— Ну што я — маленькі? Ці першы раз наймаюся да пана? Што я — той малатарні не знаю?

— Я таму кажу, што ты будзеш жыта падаваць у барабан, дык асцярожна... Я па-старэчаму: беражонага бог беражэ...— бабка зачыніла за татам дзверы.

Прыцісну́ўшыся да шыбы, мы бачылі, як тата выйшаў на гасцінец і папраставаў да панскага фальварка. На гэты раз панскія вароты былі адчынены, туды ішлі людзі, якія наняліся на малацьбу.

Мы доўга яшчэ глядзелі ў вокны. Праз некаторы час пачулася тоненькае: «Зі-і-і! Зі-і-і-і». Потым: «Хрі-і-і-і! Хра-а-а-а!» Гэта пайшлі запрэжаныя ў прывод коні. Загрукацела малатарня, пачалася ў пана малацьба.

# ЧАРНУХА

Прачнулася я ад таго, што вельмі смачна пахла смажанымі праснакамі. Так і ёсць! Бабка пляскае на патэльню рошчыну, змешаную з цёртай бульбай, і саджае ў печ.

Але чаму так рана? За вокнамі яшчэ зусім цёмна. I татка ўжо ўстаў, сядзіць на зэдліку і кавалкам парыжэлай халявы падшывае валёнак. Перад ім на лаве ляжаць шавецкія прылады: ножык, кры-

вое шыла, дратва і чорны бліскучы кавалачак смалы. Татка з сілай, аж рыпіць рэмень, утыкае шыла ў скураную латку, а следам прасоўвае іголку з дратвай. Відаць, што ён спяшаецца.

— Я дамовіўся прывесці зранку, пакуль ісці на малацьбу,— пра нешта гаворыць ён бабцы.— Задатак аддаў пазаўчора. Рэшту Сцяпан згадзіўся на ра́ты.

— Сцяпан чалавек сумленны, сам бяду тоўк, дык і другім спагадае,— ляпнула бабка на стол духмяны праснак, шарганула па ім жоўтым квачыкам, зверху пасыпала соллю.

— На, з'еш хуценька і збірайся ўжо. А то скора пачне развідняцца.

«Дык вось яно што...—падумала я.—Значыцца, татка пойдзе на хутары па карову. Трэба разбудзіць Васіля».

— Эй, Васілька! — штурханула я пад бок брата, які смачна спаў. — Уставай!

Васіль падняў ускудлачаную галаву і зноўку плюхнуўся на падушку.

— Чаго табе?.. — сонна прамармытаў і, павярнуўшыся на другі бок, засоп зноў.

— Уставай ты! — скубанула я брата за нястрыжаную чупрыну.— Татка на хутары па карову пойдзе.

— Чаго скубешся? — сеў нарэшце Васіль, праціраючы кулакамі заспаныя вочы.— Ну, што там?

— Што, што! Татка па карову пойдзе, вось што!

— Па карову? Няўжо?

— Ага.

Бабка выхапіла з печы патэльню. Ад праснака ішоў дым...

— Ах ты, горачка, увесь бок засмаліўся! — шарганула бабка па праснаку квачыкам.

Васіль пацягнуў носам.

— Чуеш? Здорам запахла. Панюхай, далібог, бабка пляцкі здорам мажа. А казала, што ў пост — грэх. Што прышчы...

Бабка пераламала памазаны салам праснак і дала татку.

— Па дарозе з'ясі. Вяроўку не забудзь. Мацней запляці за рогі, каб не абарвалася.

Другі праснак бабка палажыла перад намі, але здорам не памазала, толькі пасаліла.

— А нам салкам, як і татку,— дамагаўся Васіль.

— А, каб ты скіс! — аж сумелася бабка.— Дагледзеў-такі. Ні з чым не схаваешся! От дзеткі, дык дзеткі!

Яна выцягнула з печы праснака і палажыла на стол, але больш ужо не мазала яго здорам.

— Татка унь да самае поўначы робіць, зусім схуднеў. От я яму трохі і памазала,— апраўдвалася бабка.— О, божа, даруй...— адвярнулася яна, каб выцягнуць з печы другі праснак. І ў гэты час тата хуценька абмяняў праснакі: свой паклаў нам, а наш запіхнуў за пазуху сабе і выйшаў з хаты.

Мы ляжалі з Васілём і нюхалі праснак. Ах, як ён смачна пахнуў!

— А што, калі прышчы абсядуць? — паглядзела я на Васіля, баючыся адкусіць праснак.

— Ну і няхай сабе,— махнуў рукою брат.— Ты як хочаш, а я сваю долю з'ем,— ён адкусіў кавалачак праснака, захрумсцеў падсмалкамі.— Ух, як смачна! — зацмокаў языком, аблізнуўся і зноўку адкусіў.

Я глядзела на Васілёвы губы, але на іх нічога не было відаць. А Васіль, пасміхаючыся, усё еў ды еў.

— Ну, як? Будзеш сваю палавіну есці? Як не, то я з'ем.

— Буду, буду! — я схапіла праснак і адкусіла. Даеўшы, аблізала і абмацала пальцамі губы, шчокі. Ніякіх прышчоў ні балячак не было.

А бабка хадзіла весела па хаце, нават нешта сама сабе пад нос напявала.

— Ну, ешце, ешце! — запрашала, кладучы перад намі па праснаку.— Хочаш, Касечка, квасу з цыбуляй? А ты, Васілька?

— Я хачу,— адазваўся, прачнуўшыся, Міхасік.— І пляцка дайце.

— Ах ты, мой званочак, прачнуўся? Зараз я табе дам прасначка. Спякла маленечкі. Глядзі які!

Я глядзела на вясёлую бабку, і мне хацелася крыкнуць: «Зманіла, зманіла! Нічога не выскачыла. Ніякіх балячак. А гаварыла, грэх есці з салам!»

— А ну, выглянь, Касечка, у акно, ці не відаць таткі? Можа ўжо вядзе кароўку? — папрасіла бабка.

Я злезла з печы. Не, нічога я не буду гаварыць бабцы пра тое, што з'елі праснак з салам, а то ўзлуецца. Яна так рэдка бывае вясёлая. Я глядзела на хутарскую дарогу, і вось нарэшце ў няясным світанні нешта заварушылася на ёй. Так і ёсць, тата вядзе карову! Але ідуць яны неяк марудна, памалу.

— Ідуць, бабця! Вядзе татка кароўку! — закрычала я.

Бабка таксама прыпала да акна, і нават Міхасік крычыць з печы, каб яго знялі.

Нарэшце тата падыходзіць да гасцінца. Але што гэта? Карова ідзе сабе вольненька за таткам, а вяроўка, закручаная на рагах, матляецца.

— Ой, пэўна, абарвалася! Уцячэ!..— занепакоілася бабка.

І тут мы ўбачылі, што тата прынаджвае карову кавалкам праснака, а тая аж подбежкам бяжыць за ім.

— Гляньце, каб на яе бура! — засмяялася бабка.— Не карова, а чысты цырк! Пайду адчыню ім вароты.

І бабка хуценька выбегла на двор.

— Пойдзем і мы, Кася! — схапіў Васіль кавалак праснака.

Апрануўшы і абуўшы, хто што мог, мы выскачылі ўслед за бабкай.

Карова стаяла каля парога і жавала татаў ласунак. І была яна чорная-чарнюткая, як той жук!

— Чарнухай яе завуць,— сказаў тата.— Ну, вось вам, дзеткі мае, кароўка і малачко.

— Чарнуха... Чарнушачка... Міленькая наша кароўка! Ладненькая, чорненькая...— лашчылі мы карову і адломвалі ёй па кавалку праснака.

Чарнуха глядзела на ўсіх вялізнымі вачыма і быццам разумела нашу радасць.

— Ой, людкове! Гляньце на іх! — першаю апамяталася бабка.— Усе праснакі скормяць! А ну, кыш у хату!

— Нічога, на першы раз можна...— заступіўся за нас тата.— Не ганіце іх, мама.

Татка ўзяўся за вяроўку, адматаў яе з каровіных рагоў і кінуў у сенцы.

— Ну, Чарнуха, пойдзем на новую кватэру! — ласкава паляпаў кароўку па шыі і падагнаў да хлява.

Чарнуха абнюхала парог, свежую салому, якою быў высланы хлеў, увайшла і адразу ж падалася да жолаба. Сунуўшы ў яго пысу, чмыхнула і задаволена пачала жаваць сечку з лупінамі.

— Спадабалася, значыць, у новай хаце? — весела спытаў у кар-

вы тата і, павярнуўшыся да бабкі, сказаў: — Падаіце яе, мама. Яна яшчэ не доеная. Сцяпаніха знарок пакінула з малаком, каб дзецям было на снеданне.

— От, дзякуй ёй,— подбежкам збегала ў хату бабка, прынесла дайнічку і ручнік і падсела да каровы. Яна выцерла спярша ручніком дайнічку, потым каровіна вымя.

Чарнуха стаяла спакойненька і ела.

«Цырк! Цырк! Цы-ы-ы-рк!» — павольна, потым усё хутчэй і хутчэй спяваў у дайнічцы сырадой.

Мы прагна глядзелі на дно, дзе паднімаўся шум і прыбаўлялася малака, а бабка ўсё даіла і даіла...

— Ой, як многа малака! — здзівіліся мы.

— Цьфу, цьфу! Не сурочце! Не глядзіце так...— сплюнула бабка цераз плячо. Дадаіўшы, яна накрыла дайнічку ручніком і выйшла з хлява.

— Бабця, дасі нам папіць? Дасі малачка? — беглі мы з абодвух бакоў каля бабкі.

— Канешне, дасць. Сёння ж у нас свяцейка,— адказаў тата, зачыняючы хлеў.

— Якое свята? — здзіўлена спынілася на парозе бабка.— Можа я што прапусціла? — занепакоена спытала ў таты, бо наша бабка святкавала ўсе святы і сачыла, каб хаця не прапусціць.— Часам не святое?..— старалася яна ўспомніць.— Чы не свята Барбары?

— Святое Чарнухі! — зарагатаў тата і на ўсякі выпадак падаўся да веснічак.

— Ну, пачакай жа! — узлавалася бабка. Але татка быў ужо на гасцінцы. Ён ішоў і смяяўся.

Увайшоўшы ў хату, мы хуценька схапілі па кубку, а Міхасіку далі вялізную жалезную кварту.

Бабка паставіла дайнічку на лаву, зняла з паліцы гладышык, папаласкала і накрыла цадзілкай. З дайніцы палілося бялюткае густое малако. Ад яго ішла пара.

Рыжы кот аж енчыў, шоргаў па ножках стала лапамі, так прасіў малака. Бабка адціснула яму ў жалезную манерку цадзілку з шумам, потым асцярожна наліла нам з гладышка цёплага сырадою.

— Ну, піце, мае дзеткі. Піце сваё малачко. Цяпер вам не трэба будзе заглядаць людзям у вочы. Свая кароўка. Піце, піце, мае вы...

І раптам губы яе задрыжалі, яна паднесла да вачэй фартух і выцерла слёзы.

От ужо дзіўная тая бабка, ад усяго плача — і ад гора, і ад радасці!

## ДАМАЛОТКІ

Сёння нядзеля, але ў пана дамалоткі. Тата збіраецца ісці ў маёнтак, ён весела пацірае рукі і кажа бабцы:

— Ну, няхай трымае кішэню наш Замойскі. Сёння рабочыя з яго тое-сёе выцісНуць. Бо як наймаліся, то абяцаў на дамалотках пачаставаць.

— Ага! Каб часам не расшчодрыўся...— абазвалася бабка, наліваючы ў міску забеленую зацірку.— Абяцаць ён хуткі, а як там будзе, то пабачыце. Лепей дома наядайся,— яна ставіць перад татам поўную

міску заціркі. Тата бярэ драўляную лыжку, падміргвае нам і адразу ж прыдумляе смешныя вершы:

Мы сядзім за сталом,
Ямо зацірку з малаком!
Заціpачка прысмалёна,
Ляціць ў горла, як шалёна.

І праўда, зацірка такая смачная, што ніяк не адарвацца ад міскі. Мы ўжо з'елі па поўнай і яшчэ сёрбаем, шкрабаем па дне лыжкамі, просім дабаўкі. Жываты ўжо, як гарбузы. А бабка толькі тое і робіць, што падлівае.

— Ешце, мае дзеткі, выядайцеся. Нагараліся з нішчымніцай. Цяпер, дзякуй богу, сваё малачко...

Бабка збірае са стала пасуду, вышкрабае з чыгуна рэшткі прысмаленых клёцак і даядае іх.

— Бабця, пусціце на вуліцу. Унь як цёпла стала! — просіць Васіль.

— І мяне, бабця, пусціце,— прашуся і я.

— А ў чым? Басанож? — пытае бабка.

— Пусціце іх, мама. Няхай трохі пацягаюцца на той коўзанцы,— просіць за нас тата.— На дварэ адліга, цёпла стала.

— Ну, добра,— і я па голасе ўжо чую, што пусціць яна мяне на коўзанку.— Пачакай крыху, зараз накармлю парсюка, насыплю курам зерня і дам табе свае валёнкі.

Бабка выходзіць. Я падыходжу да акна. А на коўзанцы што робіцца! Нават праз акно чутно, як весела смяюцца, галёкаюць і пішчаць макранскія хлопчыкі і дзяўчынкі. І не дзіва, што сюды ўсе сышліся і з Верхакоў і з хутароў нават, бо такое коўзанкі, як наша, нідзе няма.

Пасярод нашых Нізакоў разлілася вялізная лужына. Цяпер яна замерзла, але вясною і восенню гэта цэлая бяда для Нізакоў, бо разліваецца яна на ўсю даўжыню сяла. Вада падступае да хат, і ад яе раскісаюць земляныя долы, мокра ў хлявах. Летам лужына трохі падсыхае, і яе ўжо можна абысці і аб'ехаць. Вада ў ёй гусцее і зацвітае, як кажуць макранцы, гэта значыцца — робіцца зялёнай і смярдзючай. У гэтай бруднай вадзе, разваліўшыся, рохкаюць свінні з парасятамі, а на ямцы, дзе даволі глыбока, даюць нырца качкі і гусі.

А вось зімою, калі лужына замерзне, то ва ўсёй акрузе няма лепшай коўзанкі, чым наша. Тут табе і на канёчках, і на падкоўках ці проста на шчапе коўзаюцца макранскія дзеці. Але гаспадарамі коўзанкі ўсё ж застаемся мы. Калі што не так, дык і прагонім верхакоўцаў ці хутаран. У нас з імі не вельмі моцная дружба. Яны багацеі і задзіраюць насы, абзываючы нас галадранцамі, жабракамі ці галотай.

Больш за ўсіх з Верхакоў мы не любім Лёньку Зубовіча, ці проста Зуба, як яго дражняць за тое, што паверх верхняга рада зубоў тырчыць яшчэ адзін, лішні, які вытыркаецца з-пад губы, і ад таго здаецца, што Лёнька заўжды крыва пасміхаецца. Ён вельмі задзірысты і верхаводзіць хлапчукамі з Верхакоў.

Нарэшце ў хату заходзіць бабка, сцягвае з ног часанкі.

— На, дарывай ужо.

Я, не зважаючы на яе словы, хуценька басанож залажу ў яшчэ цёплыя валёнкі, але яны такія вялікія, што кроку не магу ступіць.

— От дурніца!Ануч накруці,— смяецца бабка.

Я накручваю пабольш ануч, і, праўда, ногі ўжо не боўтаюцца, і можна ступіць.

Хуценька апранаю бабчын каптан. Бабка падвязвае яго раменьчыкам і закасвае рукавы.

А на вуліцы як хораша! Сонца і снег аж вочы слепяць...

— Ка-а-ська! Ходзь сюды! — махаюць мне рукавічкамі мае сяброўкі.

Але тут не вельмі падбяжыш. «Шугу-шугу!» — шоргаю па мокрым снезе цяжкімі валёнкамі.

На коўзанцы, як у тым мурашніку! Хто на чым можа, усе слізгаюцца. Лёнька Зубовіч на самай сярэдзіне коўзанкі на бліскучых каньках усялякія каленцы вырабляе. «Жы-ых!» — імчыцца ўперад. «Жых!» — убок! «Жых!» — назад! Так і рэжа лёд новымі канькамі, аж пыркі ляцяць.

Хлапчукі зайздросна глядзяць на солтысавага сына, бо ні ў кога няма такіх купленых канёчкаў. У іх канькі-самаробкі: палена, акутае дротам.

Наш Васіль хоча дагнаць Лёньку. Але дзе там! Яго паленцы раз'язджаюцца, і ён падае. Лёнька зрабіў некалькі выкрутасаў і спыніўся акурат насупраць мяне.

— Гляньце, хто гэта выпаўз! Марысьчына ўнучка! А скараходы якія? Ха-ха-ха! — аглядае ён з усіх бакоў мае валёнкі з латанымі галёшамі.

— Ну ты! Фарсун! Адчапіся! — падскочылі да Лёнькі Янінка і Любка.— Думаеш, як у цябе новыя канькі, дык з другіх і смяяцца можна? А то хутка вытурым адсюль!

— А я — што? Я — нічога... Я так сабе сказаў... Ужо нічога і сказаць нельга!..

Адразу відаць было, што Лёнька не хацеў спрачацца, бо, пэўна, вельмі ж яму хацелася коўзацца па лужыне.

— Я нават магу вас павазіць па лёдзе. Чапляйцеся! Падвязу.

Першаю ўчапілася Манька-пятлюраўка з хутароў, за яе — Любка, за Любку — я. Янінка адышла ўбок. Яна не цярпела Зуба і нават не хацела, каб ён яе вазіў.

— Эге-гэ! З дарогі! Едзе конь бязногі! — весела закрычаў Лёнька, набіраючы хуткасць. Ён пацягнуў нас па крузе. Я ледзь трымалася за Любчыну світачку. Мяне заносіла то ў адзін, то ў другі бок.

Лёнька зрабіў адзін круг, другі і ўсё набіраў хуткасць. Рукі мае дранцвелі. А Зуб знае толькі пакрыквае:

— Трымайцеся, дзяўчаткі! Угі-гі-і-і!

Раптам ён кінуўся ўбок, бо ў адным месцы трэснуў лёд і выступіла вада, я не ўтрымалася і паляцела носам у лужыну. У рукавах, у валёнках стала мокра. Я падхапілася. З каптана, нават з маёй хусткі, завязанай накрыж, цякла вада.

— Ну і дасць табе бабка! — рагатала Манька. Яна таксама трохі замачылася, але не вельмі.

— Эх ты, крывы Зуб! Не бачыў, куды пёр? — закрычала на Лёньку Яніна.

— А што ёй зрабілася? — рагатала Манька.— Выкупалася трохі, ды і ўсё! Няхай бы не чаплялася. А то ўсякая смаркачка гуляць тут лезе...— скрывіла яна тоўстыя губы.

— Яна ж малая, рукі слабыя, не ўтрымалася. Не тое, канешне, што ты! Выпаслася тоўстая, як тая ступка! — адрэзала Маньцы Любка.

Усе навокал зарагаталі, а Манька аж пачырванела ад злосці.

— Я ступка? Ступка?!..— падскочыла яна да Любкі.— А ты галапупка! Жабрачка!

— Ах ты, рэпа пузатая! Дык я ж табе зараз...

Любка нахілілася і схапіла ў прыгаршчы снегу. Манька завера-

шчала і кінулася да гасцінца. Любка хацела спярша яе дагнаць, але вярнулася.

Бегаць мне чамусьці не хацелася, і дамоў я баялася ісці.

— Ну, тады пойдзем да нас. Пагрэешся,— сказала Любка.

— Не, лепей давайце пабяжым у фальварак, паглядзім, як малоцяць,— сказала Янінка.— Там мае татка з мамай працуюць.

— І мой татка,— сказала я.

— І мой,— адгукнулася Любка, і, пабраўшыся за рукі, мы пабеглі.

Машына ў фальварку раўла на розныя галасы. Прыціснуўшыся да сцірты, мы сачылі, калі адыдзе ад стадолы кульгавы пан Мечыслаў.

Кульгаючы і апіраючыся на кульбу, пан мітусіўся то туды, то сюды.

— Так! Так! Жыво, жыво! Сёння трэба скончыць! — пакрыкваў ён на рабочых. Потым перабягаў да свірна, дзе парабкі важылі мяхі на вялізнай, як той стол, жалезнай вазе і грузілі іх на санкі-развалы.— Так! Так! Жыво! Жыво! — ужо чуўся там ягоны нудны голас.

— Мамо! — прыглушана паклікала Янінка.

Пабачыўшы нас, цётка Галена паказала на драбіну: маўляў, лезце! І вось мы ўжо на сцірце. Правальваемся ў мяккую салому, умінаем яе. Ой, як весела, аж горача стала!

Са сцірты відаць, як тоўсценькі, нібы тая бочачка, аканом бегае ад развалаў да развалаў і запісвае, колькі мяхоў.

— Р-р-разам! Го-о-оп! — натужна хрыпяць парабкі, здаравенныя два хлопцы, кладучы мяхі адзін каля другога.

Мяхі ляжаць радамі, як тыя белыя, адкормленыя парсюкі.

— Раз, два, тры, чатыры, пяць, шэсць...— лічыць аканом, тыцкаючы тоўсценькім пальцам у мяхі.

— А ну, тапчыце! Чаго стаіцё? — пакрыквае на нас цётка Галена, бо сама ледзь паспявае адбіраць з доўгіх віл салому, якую падае яе муж Лявон.

Каля машыны ў клубах пылу дзядзька Базыль, Любчын бацька, адгортвае з зерня салому. Ён запылены, як той камінар, толькі блішчаць зубы і вочы. Рухі яго хуткія, салома так і вылятае за парог стадолы. Лявон бегае, каб паспець падабраць яе на вілы. А далей за Базылём у чорнай водхлані, дзе клубамі валкуе пыл, мой татка падае ў барабан жыта, хтосьці з жанчын развязвае снапы, другая скідае іх з застаронка. Кіпіць работа.

— Так, так! Жыво! Жыво!—бегае каля дзвярэй пан Мечыслаў, заглядаючы ў застаронак, ці многа яшчэ засталося снапоў.

Але раптам машына пачынае неяк прарэзліва вішчэць, хрыпець. Базыль занепакоена замітусіўся і перастаў нават адгортваць салому. Лявон так і застыў, уткнуўшы вілы ў бярэма.

— Но, цо там? Хутчэй! Што вы сталі? — не зважаючы на віск, падганяе пан рабочых.

А машына вішчыць усё галасней і галасней: «Уі-і-і-і... Зі-і-і! Угугу-у-у-у». І раптам! «Жа-а-ах! Бух! Дзінь, дзінь! У-у-у-у...» — прастагнала і заглухла. На момант стала ціха-ціха. І адразу ж там, у сярэдзіне клуні, дзе асядаў пыл, прарэзліва закрычаў жаночы голас:

— А-а-а-а! Забіла! Забіла!

Усе кінуліся ў клуню. Мы мігам з'ехалі са сцірты, за намі цётка Галена.

— Што? Што там, Лявонка? — распытвала яна, стараючыся пралезці праз натоўп парабкаў і рабочых, што прыбеглі ад свірна.

Вымахваючы ляскай *, шкутыльгаў пан Мечыслаў. Побач з ім бег аканом.

— Цо? Цо там зрабілося? Чаго сталі ўсе?

— Ну, што там яшчэ? — нецярпліва пытаўся пан, і тут людзі расступіліся.

Двое мужчын вывелі пад рукі чалавека. Ён ішоў, як сляпы, закрыўшы твар рукамі. Праз пальцы лілася кроў. Яна капала на салому, потым на снег... Чалавека пасадзілі каля сціргы. А я, не адрываючыся, глядзела на ягоныя валёнкі. Яны былі палатаныя кавалкам парыжэлай халявы.

— Татка! Татачка! — але тата не пачуў мяне.

Нехта адрываў белую старую шматку, другі трымаў бутэлечку з ёдам, якую паспеў ужо нехта прынесці з панскага дома. Мяне адцягнулі ад сціргы.

— Ціха, ціха... Не плач... Жывы твой татка. Галаву толькі разбіла. Не трэба туды глядзець. Зараз яму завяжуць...

Цётка Галена і Янінка ўзялі мяне за плечы. Мне стала млосна. Усё раптам кульнулася перад вачыма і паплыло.

Калі я, нібы прачнуўшыся ад якогась цяжкага сну, агледзелася, дзядзька Базыль трымаў у руках жалязяку і гаварыў:

— Барабан у машыне лопнуў... Добра яшчэ, што так усё скончылася. Магло чалавека насмерць... Каб ото па галаве... А то толькі вострым краем шарганула па лбе...

Я рвалася да сціргы. Цётка Галена абдымала мяне за плечы, не пускала.

— Тата!.. Татачка!..— але ніхто мяне не слухаў.

Татку пасадзілі на сані, падмасцілі пад плечы куль саломы, і дзядзька Базыль, сцебануўшы каня, пагнаў да гасцінца. Тату павезлі ў мястэчка да доктара.

## СТАРАЯ СКРЫНЯ

Вялізная, абшарпаная, але ўсё яшчэ моцная, акутая жалезам скрыня стаіць у кутку нашай хаты. Цяпер на гэтай скрыні цэлымі днямі ляжыць тата з абвязанаю галавой.

Рана на лбе зажывае марудна. Адно вока зусім запухла, і тата ім не бачыць. Але добра яшчэ, што так скончылася, бо доктар сказаў, што мог і сляпым застацца, каб трохі пазней прывезлі ў бальніцу.

Бабка ўжо сама навучылася перавязваць татаву галаву, бо ці наездзішся да таго фельчара ў мястэчка... Ды і за перавязку трэба плаціць.

— А божа ж мой літасцівы! І хто тое знаў, што так зробіцца? — кожны раз бэжкае бабка, перавязваючы татаву галаву.— А ўсё тая панская прагнасць: знаў жа, што машына старая, растрэшчаная, не, апошні дух з жалеза выганяў! А цяпер яшчэ вінаваціць другіх, кажа, знарок нехта ў машыну камень кінуў. Каб яго на тым свеце д'яблы на вілах кідалі!

Бабка прыціскае бінты да татавай галавы і зверху завязвае хустку. Тата не стогне, толькі моршчыцца і сціскае зубы. Ён кладзецца на скрыню і ціха ляжыць.

Мы не бегаем, не скачам, каб не перашкаджаць тату спаць. Сядаем побач з бабкай, прыціскаемся да яе.

* Ляска — кульба.

— Бабця, раскажы нам пра што-небудзь.
— А пра што ж вам расказаць? Я ўжо ўсе казкі пераказала.
— Тады не казку, а пра тое, як калісьці было.
Бабка пасміхаецца, задумваецца:
— Ну, пра што ж вам расказаць? Хіба можа пра нашу скрыню...
— Пра скрыню? Няхай пра скрыню! — тулімся да бабкі.
— Ну што ж, пра скрыню дык пра скрыню,— згаджаецца бабка.— Толькі, каб вы зналі, што скрыня гэтая не звычайная, яна...— Бабка падбірае слова.
— Гістарычная! — падказвае тата.
— Ага, ага! Гіс-та-рыч-ная! Што праўда, то праўда,— згаджаецца бабка.
— Значыць, я на самусенькай гісторыі ляжу,— спрабуе жартаваць тата, але моршчыцца ад болю.
— Ляжы, ляжы ўжо. Паспі трохі, а я ім тут буду казаць ціхенька.
— Ды я толькі тое і раблю, што сплю ды ляжу. Зусім здзяцінеў. Вось і казку з ахвотай паслухаю...
— Ну, ну... Слухай. Слухай. Толькі гэта не казка, гэта праўда.
Бабка адсмыкнула воўны, вывела доўгую нітку, павольна закручвае яе на верацяно, а вочы дзіўна ўтаропіла ў замерзлае шкло, нібы чытае там нешта.
— Калісьці,— пачынае ціхенька,— калісьці гэтая скрыня была новая-навюткая. Тады і я была маладая-маладзенькая. Усяго шаснаццаць гадкоў мне было. У той час мяне аддавалі замуж за майго Петрука. Царства яму нябеснае, хай яму зямелька пухам будзе...
Па бабчыным твары прабегла хмарка, вочы павільгатнелі. Яна на момант змоўкла і хуценька шмарганула па шчацэ рукавом, сціраючы скупую слязу.
— Памёр у бежанстве ваш дзед ад тыфусу. Не давялося пабачыць унукаў...— Яна закруціла на верацяно нітку, уздыхнула.— І скажу я вам, дзеткі мае, была гэтая скрыня вельмі прыгожая. Вачэй не адарвеш... Па сінім полі віліся чырвоныя ружы з зялёнымі лістамі. Цяпер ужо такіх скрынь не робяць і кветак такіх не малююць. Цяпер кожны цесля саб'е скрыню, пэц-пэц па ёй фарбай і — гатова. А мой брат, ваш дзядзька, вялікі ўмелец быў. Да яго з'язджаліся заказваць скрыні з усёй акругі.
Бабка зноўку памаўчала, адсмыкнула воўны.
— Ну, дык вось ён мне і зрабіў на вяселле гэтую скрыню. Прывезлі мяне пасля шлюбу да жаніха і скрыню разам са мною. «Гляньце, гляньце, якая скрыня ў маладухі! — шэпчуцца бабы на вяселлі.— Паглядзіце, якая прыгожая! Жалезам акутая!» — абступілі воз, дзівяцца, мацаюць рукамі замкі. Ледзь сцягнулі яе з воза, такая цяжкая была. Бо там ляжаў мой пасаг: сувоі палатна, посцілкі, ручнікі, абрусы, андаракі, кофты і ўсялякае іншае адзенне. На другі дзень пасля вяселля свякруха агледзела скрыню, пацмокала языком. Спадабалася ўсё ёй. Ат... За свякруху нічога не скажу, неблагая была жанчына, дарма не лаяла.
— Ага, толькі хлеб пад замком трымала,— азваўся тата.
— Не без гэтага,— згадзілася бабка.— А што ёй было рабіць? Сямейка — пяць сыноў, пяць нявестак. Ды ўнукі. Дзе таго хлеба напасешся?
— Няхай аддзяліла б сыноў. А то ўсё трымала ў сваіх руках.
— Ат, многа ты разумееш! Расцягнулі б сыны тую гаспадарку па цвіку.

— Бабця, а што са скрыняй? — перапынілі мы бабчыну і татаву гаворку.

— А нічога. Стаяла сабе ў кутку. Свёкар замкі аглядаў, казаў, мацнейшыя, чым у яго каморы. І пра свёкра не скажу кепскага...

— А я скажу,— зноўку азваўся тата.— Папругай біў нас, унукаў. Як кінемся залішне лыжкамі боўтаць у крупніку, дык праз увесь стол рамнінай і пацягне.

— А далей? Што далей? — нясмела спыталі мы.

— А далей вайна пачалася, мае дзеткі. Германец пайшоў на нас вайною, і людзі ўсе пачалі ўцякаць ад таго кайзера. Так і мы сталі бежанцамі. Ох і нацярпеліся ўсяго: і холаду, і голаду, і хваробы ўсялякай. Там, у Расеі, і памёр мой свёкар. Потым мой Пятрук. І засталася я ўдавою. І пачала з дзецьмі цягацца з горада ў горад. Нарэшце прыехалі ў Растоў-на-Доне. Багаты горад. Па Доне баржы плывуць з кавунамі. А рыбы колькі! У тым Растове ваш бацька і занатурыўся. Замест таго, каб ісці працаваць на прыстань, ён паступіў вучыцца ў нейкую там сынымарыю.

— Семінарыю, мама! — папраўляе тата.— Так вы і не навучыліся вымаўляць.

— Ат, усё роўна! Вельмі яна табе была патрэбная? Настаўнікам захацелася стаць! Дзе ты бачыў, каб мужык настаўнікам быў? Нарадзіўся мужыком, дык і корпайся ў зямлі, нечага ў паны лезці.

— Бабця, а як скрыня?

— Ат, што тая скрыня? Татка на ёй спаў! Ну, дык слухайце далей. Жылі мы ў тым Растове некалькі год, але тут раптам рэвалюцыя. Цара скінулі. Усе з чырвонымі бантамі ходзяць, абдымаюцца... Рады народ, з чырвонымі флагамі па вуліцах пайшоў...

— Бабця! А як гэта цара скінулі? Адкуль?

— Адкуль, адкуль? З трону. Такое крэсла царскае. Вось цара з таго трону і спіхнулі. Ну, пасля таго і пачалося ў тым Растове... Багатыя хочуць панаваць над беднымі, а бедныя над багатымі... Бедныя на тое і цара скідалі, каб багатых больш не было. Ну, тут і пачалі біцца. Хто каго... Што рабілася! І ваш татка аднаго разу прыбег і вінтоўку прынёс: таксама ваяваць надумаўся, да чырвоных хацеў падацца. Але я за рамень, і — усыпала...

— Ага, дні са два не мог сесці,— засмяяўся тата.

— І добра, што тую вінтоўку ўтапіла, а то галавою налажыў бы.

— Хто знае, можа і не налажыў бы, а чалавекам стаў. Не гібеў бы, як цяпер.

— Маўчы ўжо. Што, забыўся, як тых дзецюкоў, студэнтаў, пастралялі? І табе тое было б, каб знайшлі вінтоўку. І дадумаўся... У скрыню схаваў! Хай яе пярун лясне! Як успомню, то аж зараз мяне калоціць. Навокал страляюць, а я па завулках цягну яе, закручаную ў радно. Ох і цяжкая ж! Як яе толькі салдаты і носяць? Дабегла да Дону і — шугець яе разам з пасцілкай! А сама іду назад, аж ног не чую. Падыходжу да хаты, а там ужо шукаюць нейкія зялёныя, сінія ці яшчэ якія...

Нагараваліся мы ў тым Растове. Купіла ў аднаго татарына каня, такія-сякія калёсы, і падаліся мы на Украіну. Казалі людзі, там хлеба многа і ціха. Але дзе там!

Прыехалі ото на якуюсь станцыю, а тут аднекуль коннікі ляцяць. Шаблі нагала і — прама на нас імчацца. Ну, думаю, тут нам, людкове, і канец. Свякруха хрысціцца, пацеры адмаўляе. Я таксама чакаю, прыціснула да сябе самых малых, трасуся, як той ліст... Але ж не,

абкружылі яны нас, сцягнулі з воза, звалілі пад адхон скрыню і ўсе лахманы, каня нашага пугай і — памчаліся... Сядзім мы са свякрухай каля нашых клункаў: ні табе каня, ні воза. Куды пайсці? Што рабіць? Аж галасіць пачалі. Глядзім, ідзе да нас нейкі чалавек, па адзенні, відаць, чыгуначнік. Падышоў, прывітаўся.

— Вы, пэўна, бежанцы? — пытае.— Дык ідзіце ў маю будку. Унь каля чыгункі стаіць. Месца хопіць...

Зарадаваліся мы, пацягнулі нашу скрыню, клункі. Ледзь давалаклі яе, паставілі ў будцы абходчыка, пачалі масціцца. Дзеці чыгуначніка нам памагаюць, шустрыя такія. Не паспелі мы як след управіцца, аж бяжыць да нас абходчык. Увесь белы, што тая сцяна, губы дрыжаць.

— Ой, бяда! — кажа.— Махноўцы мяне шукаюць. Знойдуць — засякуць. Я ім паравоз сапсаваў, каб эшалон з цукрам не адагналі. Куды ж мне схавацца? Ён кінуўся ў кукурузу, што расла побач з будкай.

— Стой! — крычу.— Знойдуць яны цябе ў тых кіяхах. Лезь,— кажу,— у мой куфар, а я цябе зверху ўсякімі лахамі накрыю.

Ён хуценька залез у скрыню, зверху я накідала старых куртак, андаракаў, хапіла дзяцей на рукі і села на вечка скрыні. Прыбягаюць тыя махноўцы. Падскочыў да мяне чырванаморды, выхапіў шаблю з ножан.

— Дзе абходчык? — аж пасінеў ад злосці.

— Не знаю, паночкі! Нічога не бачыла. Бежанцы мы. У нас якіясь бандыты каня і калёсы забралі,— кажу.

— Гэта тая, што ехала...— буркнуў другі, з перабітым носам.— І ты мне — цыц! Я табе дам — бандыты! Гэта мы забралі ў цябе каня і калёсы! Мы, слаўнае войска бацькі Махно!

А я сяджу на скрыні ні жывая ні мёртвая, прыцiснула да сябе і сваіх і абходчыкавых дзяцей.

— Чые дзеці? — крыкнуў чырванаморды.

— Мае, паночку! Мае! — абхапіла я ўсіх.

— А ну, злазь з сундука. Пабачым тваё багацтва. Бо дзяцей у цябе многа, мажа золата також ёсць?

Тут я загаласіла. Заплакалі дзеці.

— Не бярыце, паночкі, нашае дабро! Пашкадуйце бедную ўдаву! Бежанцы мы, жабракі мы няшчасныя...

Тут і мае і абходчыкавы дзеці паднялі такі енк, такі лямант...

— Кінь іх,— кажа той, з перабітым носам.— Што там у яе возьмеш? Куртку ці спадніцу якую? Бежанцы яны і ёсць. Тут не пажывішся. Хадзем лепей на станцыю, пасажыраў патрасём,— зарагатаў ён.

Чырванаморды вылаяўся, і яны выйшлі з хаты. Перашукалі ў хлеўчыку, у кіяхах, палезлі на гарышча.

— Няма. Уцёк! — зноўку вылаяўся чырванаморды.

Так яны ні з чым і паехалі. А ноччу чырвоныя адбілі станцыю, прагналі махноўцаў. Яны хвалілі мяне за тое, што схавала абходчыка, камуніста, і нават далі спорую торбачку цукру. Махноўцы так і не здолелі эшалон адвезці на другую станцыю. Для нас гэты цукар быў цэлым багаццем.

Так мы і пражылі ў таго абходчыка, пакуль бежанцы не пачалі варочацца дадому.

Тут свякруха як прычапілася: «Паедзем ды паедзем! Бо зямля там аблогам ляжыць. А можа, сыны вярнуліся — каб, часам, гаспадарку не раздзялілі...»

Сабраліся мы і паехалі. Вось і вярнуліся сюды, дадому.

— Ага, прыехалі ў рай! Радуйцеся,— буркнуў тата са скрыні.

— Але ж...— уздыхнула бабка.— Канешне, мы прагадалі, што вярнуліся. Але думалася: свая зямля, свая хата...

— А я колькі ўгаворваў? Застаньмося. І я чалавекам быў бы... А так — нават не паспеў скончыць семінарыю...

— Хто тое знаў, сынку, што яно так будзе? А яно вось як выйшла...

— А што выйшла, бабця? — запыталі мы.

— Ах, мае дзеткі...— уздыхнула бабка.— Выйшла тое, што не паспелі мы вярнуцца дадому, як наляцеў на нас Пілсудскі са сваімі легіянерамі. Каго засеклі, каго павесілі, другіх у турмы пакідалі. Зрабілі тут сваю Польску... Свякруха мая хутка і памерла. А браты майго Петрука расцягнулі, разгрэгалі тую гаспадарку, як тыя шулякі курыцу. А мне, удаве, што з воза ўпала: стары хлеў далі. Потым мы перабудавалі з таго хлява хату. Так і жывемо...

— А як жа вы скрыню прывязлі? У вас жа каня і калёсы махноўцы забралі?

— Ат, свет не без добрых людзей, дзеткі. Абходчык нам аддаў і каня свайго і калёсы. Вось і давезлі мы скрыню. Праўда, яна вельмі аблупілася, але ўсё яшчэ моцная. Вось і ўсё, мае дзеткі. Але ціха... Здаецца, татка заснуў. Лезьце хуценька на печ і сядзіце там цішком. Няхай паспіць.

— Няхай спіць... Я таксама, калі хварэў, то ўсё спаў,— ціха кажа Міхасік.— І цётка Яніха сказала тады, што мая хвароба пайшла на сухі лес. Дык можа і таткава туды пойдзе?

— Ой, даў бы то бог! — уздыхнула бабка. Яна прыкрыла тату кажухом і зноўку ўзялася прасці.

## СКРЫПКА І ДРАЎЛЯНЫЯ ЦАЦКІ

Пасля бабчыных апавяданняў мы сталі паважаць і шанаваць нашу старую скрыню. Перасталі ляскаць заржавелымі замкамі, якія віселі на адным прабоі і ўжо даўно не замыкаліся і не адмыкаліся. І калі сядзелі на скрыні, не малацілі па ёй нагамі і любілі яшчэ за тое, што там ляжалі цікавыя рэчы.

Я не кажу пра звалак шэрага кужалю, які бабка выткала, ці таткавы новыя боты, звязаныя за халявы матузком. Ляжалі там яшчэ бабчыны мікалаеўскія чаравікі, андарак у кратку, фартух з вышытымі пеўнямі, хусткі: шаляноўка маміна і кашміроўка — бабчына. На дне скрыні захоўвалася ўсё бабчына — «на смерць».

У ванзэлку ляжалі навюткія, толькі што пашытыя сарочка, бялюткая хустка, чорныя панчохі, васковая свечачка і абразок.

Я не любіла глядзець на гэты скрутак: ад яго пахла нафталінам і яшчэ нечым халодным.

У скрыні нас цікавіла іншае. Загорнутая ў стары абрус, там ляжала бліскучая цёмна-бардовая скрыпка, а побач доўгі смычок са срабрыстымі валасамі.

Бывала, тата дастаў гэтую скрыпку, падцягваў струны, ад чаго яны неяк жаласліва войкалі, мазаў каніфолем тонкія пруткія валасы смычка, і тады — пачыналася.

Такія вечары ў нас здараліся ў суботу ці нядзелю, тады, калі прыходзіла з мястэчка мама.

Яна заўжды садзілася каля стала і ці то шыла, ці вышывала, ці латала нашу вопратку.

Тата станавіўся насупраць мамы са скрыпкай у руцэ.

— Ну, якую пачнем, Насцечка? — ласкава пытаўся.— Можа, тваю?

— Можна і маю,— ціха адказвала мама.

Тата прыкладаў да падбародка скрыпку і злёгку кранаў смычком струны. «Ці-ры-ры-ра-а-а...» — стройна звінелі яны. Мама адхінулася да сцяны, прыплюшчвала вочы і ціха, быццам здаля, пачынала спяваць:

Ой, ве-е-рбо, дзе ты расла?
Што твае лісцейка вада знясла?

Голас яе быў нейкі задумёны, тужлівы.

Ой, зне-е-есла быстрая вада,
Я малада, як ягада.
Я малада, як ягада,
Ды не шчасліва мая доля!

Я слухаю, як спявае мама, і мне здаецца, што ў хаце граюць дзве скрыпкі, бо мамін голас вельмі ж падобны да скрыпкі, такі самы ласкавы і высокі. І мне хочацца таксама спяваць. Я пачынаю падцягваць тоненькім галасочкам, патрапляючы то за скрыпкай, то за мамай. Ад сумнай песні нешта казыча ў горле, а на вочы набягаюць слёзы.

Мама абдымае мяне за плечы, прыціскае да сябе.

— Спявай, спявай, мая дачушка!

І я падводжу высокім галаском: «Ды не шчасліва мая доля!»

— Ты будзеш спяваць так, як і я,— кажа мама.— Уся ў мяне пайшла...— яна шчыльней прыціскае мяне да сябе.— Спявай, мая дачушка, з песняй лягчэй жыць на свеце...— задуменна гаворыць.

І я спяваю разам з мамай то сумныя песні пра нешчаслівую долю, то вясёлыя, ад якіх хочацца скакаць. І скрыпка ў таты то сумуе, то весяліцца, выцінаючы ўсялякія пераборы.

— Ото ўжо ўрэзаў, дык урэзаў! — смяялася бабка.— Як бы яшчэ бубен, дык і танцаваць можна было.

А калі спявалі тужлівыя песні, то бабка ціха ўздыхала і крадком выцірала ражком хусткі слёзы.

Акрамя скрыпкі, было ў нашай скрыні яшчэ нешта цікавае.

У прыскрынку на мяккай анучцы ляжалі ўсялякія цацкі, выразаныя з дрэва. Тут былі зайцы, вавёрачкі, мядзведзі з бочачкамі ў лапах, смешныя жаўнерыкі з барабанам на пузе. Гэтыя цацкі выразаў наш татка. З таго часу, як ён вярнуўся з бальніцы і не мог яшчэ ісці ў наймы, бо балела галава, ён пачаў выразаць усялякія цацкі. «Каб не есці дарма хлеба»,— смяяўся.

Цацкі тыя бабка насіла ў мястэчка да Янкеля, які з ахвотаю купляў іх, даючы за гэта бабцы солі, запалак ці газы. Праўда, панам ён прадаваў тыя фігуркі ўтрая даражэй, але бабка гэтым не цікавілася: ёй і так было добра, што хоць купляюць гэтыя забаўкі.

Самым прыгожым з усяго, што выразаў татка, быў алень. Ён стаяў на адшліфаванай шклом дошчачцы і быццам прыслухоўваўся да нечага, задраўшы ўгору сваю прыгожую галаву. Я пагладжваю бліскучую аленеву спінку і прашу:

— Татачка, міленькі, не прадавайце яго. Няхай ён застанецца ў нас. Ён такі прыгожы!

Тата кладзе побач жалезны разачок, бярэ аленя і асцярожна ставіць на сваю шырокую далонь. Нейкі час глядзіць, нарэшце кладзе ў прыскрынак.

— Усё-такі прыйдзецца прадаць. За яго Янкель добра заплаціць...

Тата прыкідвае, колькі Янкель можа заплаціць за такога аленя.

А сёння бабка таксама панесла ў мястэчка свой тавар. Яна наказала нам сядзець ціха, не дурыць тату галавы, не рабіць у хаце гармідар.

Але мне сумна сядзець на печы, і я злажу ўніз. Цікава глядзець, як тата стругае мне дзеравянкі, абівае драўляныя падэшвы старымі халявамі. Я прытанцоўваю каля таты.

— Заўтра на лёд пайду, на коўзанку!

Мераю першы дзеравянак. Ён трохі цяжкі, трохі завялікі, але гэта нічога. Цяпер не трэба будзе выпрошваць у бабкі часанкі.

— Татачка, а дзе ты навучыўся ўсютко рабіць: і дзеравянкі, і цацкі?..

— Ат! Бяда навучыць галёкаць, дачушка мая. Дзеравянкі рабіць невялікая мацыя. Выстругаў, падэшвы ababiў рамнінай і — ступай сабе...

— А цацкі? Гэта ж не дзеравянкі? Унь аленя некалькі дзён стругаў.

— Цацкі — рэч іншая. Я іх у бежанстве навучыўся рабіць. Калісьці ў Растове пазнаёміўся з адным мастаком. Ён рэзаў з дрэва і ляпіў з гліны ўсялякія фігуры. Чалавек у яго, ці то з гліны, ці з дрэва, глядзіць на цябе, нібы сказаць нешта хоча. Глядзіш і — думку яго чытаеш...

— Нават лепей умеў, чым ты? Але такога аленя, як твой, ён усё роўна не змог бы...— Мне здаецца, што прыгажэйшага за аленя няма нічога на свеце.

— Эт, што там мой алень? Забаўка.

— Няпраўда! Ён, як жывы! — кажу я.— І лепей ніхто не зможа. Ніхто!

— Ну, чаго ты, Касечка, нервуешся... Не трэба так крычаць,— моршчыцца тата.

Я сарамліва прыціскаюся да таты.

— Ну... Ну... Мой абараначак з макам,— лашчыць мяне тата па кудзерках.

— Татка! А бабка казала, што ты без пяці хвілін настаўнік. Як гэта без пяці хвілін?

— Скажа твая бабка...— татава здаровае вока цямнее, робіцца сярдзітым.— Яна сама і вінаватая, што без пяці, бо не дала мне давучыцца. Як пачала дзяўбці: «Паедзем ды паедзем на радзіму». Вось і прыйшлося мне кінуць навуку. Э-эх, скалечылі жыццё чалавеку, а цяпер яшчэ «без пяці»...— татка стукнуў аб зямлю дзеравянкамі.— Прымерай, ці не ціснуць...

— Ой, як добранька! Нідзе не ціснуць. Нават завялікія.

— Не бяда! Сена і ануч насцелеш, цяплей будзе. Ну, цяпер цябе не загоніш у хату! Не тое, што ў бабчыных часанках.

— А унь і бабка вярнулася,— бачу каля веснічак крапястую хустку.

Бабка, уся чырвоная ад марозу, уваходзіць у хату, ставіць у кут аплеценую бутлю з газай, выкладае на палічку з кошыка торбачку солі, запалкі.

— Ну, як вы тутка, слухаліся татку? Не адурылі яму галавы? — бабка распранаецца.

— Не, не адурылі,— адказвае з печы Міхасік.— Толькі Кася дурыла.

— Гляньце, бабка, якія мне татка дзеравянкі зрабіў! — тупаю перад бабкай.

— Ого, цяпер ты, як тая пані,— аглядае бабка дзеравянкі.— На сваіх калёсах. А што, добры выйшаў абутак!

Яна корпаецца ў кошычку, нешта там перабірае, шапоча паперай.

— Тут я вам гасцінца прынесла. Мама прыслала,— загрубелымі ад холаду пальцамі бабка развязвае шнурок, здымае некалькі абаранкаў, дае нам па кавалачку цукру.— А табе, Антон, парашкі. Як забаліць моцна галава, дык пі. Насця казала, што памогуць, лягчэй стане.

— Мая Насця — чысты лекар! Не горш за аптэкара разбіраецца,— смяецца тата.— Ну, як там яна?

— Ат... Не соладка... Круціцца, як той млён у жорнах. То падай, то прынясі, то памый... І так цалюткі дзень. Адна выгода, хоць паесці добра можа. Хацела мяне пачаставаць, але дзе там! Тая аптэкарка толькі і рабіла, што швэндалася па кухні. Паспела толькі ванзэлак даць, і то, каб не бачыла тая выпетраная.

— Дык паешце. Капуста ў печы яшчэ гарачая,— тата выцягнуў з печы чыгун з капустай. Наліў у міску, падаў на стол.

— От дзякуй, а то рукі мае зусім закляклі,— узяла бабка лыжку.— Насця хацела браць наперад грошы за паўмесяца, дык не даў той трыбухаты, сколькі ні прасіла,— расказвае бабка.

— Эт, дарэмна прыніжалася! — злуецца тата.

— Чаму дарэмна? Хлеба няма. На пазычаным жывемо.

— Пазычце яшчэ. Я папраўлюся, дык адраблю.

— Пазычце, пазычце...— бабка шкрабанула па місцы лыжкай.— Лепей скрыпку прадаў бы. Чаго трымаешся за яе? Гірша сёння зноў мяне перапыняў, пытаўся, можа ты надумаўся.— Бабка моўчкі глядзела на тату. Мы таксама глядзелі, нават перасталі смактаць цукар. Няўжо тата прадасць скрыпку?

— Скрыпку я не прадам... Як-небудзь пераб'ёмся...— адказаў тата.

— От як? — падціснула бабка вусны.

— Міхася буду вучыць граць...

— Міхася?! А каму патрэбна тая музыка? Што музыка, што пастух — усё адно. Пастух нават лепей. Адпасвіў летам, а зімою плюй сабе ў столь, ляжы... А музыканты тыя швэндаюцца ад сяла да сяла...

— Усё роўна не прадам.

— Не прадавай. Не прадавай, татачка. А то і спяваць больш не будзем, і ўсё скончыцца, і...— мы кінуліся абдымаць тату.

— Бесталковы ты гаспадар! — ужо бразнула бабка на стол лыжку.— Табе толькі пісулькі пісаць. Дык чаму не пайшоў пісарам?

Бабка заўжды шкадавала, што тата не наняўся пісарам у гміну, калі там было вольнае месца.

— Не хацеў быць панскім халуём,— адрэзаў тата.— Кожны падпанак будзе мною памыкаць. Не, не даждуцца!

— Ага, пыхі ў цябе зашмат. Фанабэрысты вельмі. Дык чоўрай з голаду!

— А яно лепей у сябе нішчымніцу сёрбаць, чым панскія аб'едкі падбіраць.

— Ой, людкове, паслухайце толькі яго. Вось і вучыўся чалавек... Дакументы ўнь у скрыні валяюцца. А ўсё дарма.

— Не, не дарма — згадзяцца яшчэ тыя дакументы. Прыйдзе час...

— Ну, ну, чакай таго часу. Выцягваеш шлункі на чужых загонах.

— А мы прыспешым гэты час... Склаўшы рукі сядзець не будзем. Бабка як стаяла, так крута і павярнулася да таты.

— Ты зноўку за сваё? — ціха, з пагрозай спытала.— Дык ідзі

паглядзі на свайго дружка. Паглядзі, якім Даніла вярнуўся з пастарунка. Чорны, што тая зямелька. Увесь у сіняках. Пайдзі паглядзі, можа адхочацца,— усхліпнула яна раптам.— Даваяваўся! Усё супроць паноў ішоў, а цяпер...

Але тата ўжо не слухаў. Ён хутка нацягваў на галаву шапку, закрываючы бінты. Рукі чамусьці не пападалі ў рукавы кажуха, так тата і выбег, не апрануўшыся. Было відаць, як ён звярнуў за вугол хаты да Змітрукоў. За ім, накінуўшы на плечы вялікую хустку, пабегла і бабка. Нам таксама хацелася паглядзець на дзядзьку Данілу, якога прывезлі з пастарунка, дзе ён сядзеў у каталажцы, але мы баяліся выйсці з хаты.

# ДАНІЛА ЗМІТРУК

Наша хата і хата Змітрукоў стаяць так блізка адна каля адной, што здаецца, быццам яны зрасліся пачарнелымі зрубамі. Толькі наша хата павернута прычолкам да гасцінца, а Змітрукова ў процілеглы бок, яна глядзіць на лес.

Наш тата яшчэ ў школе вучыўся з Данілам. З таго даўняга часу яны і сябруюць. Мы таксама частыя госці ў Змітруковай хаце, бо там жыве і наш сябар, Федзік Змітрук — сын дзядзькі Данілы.

Сёння мы прыйшлі не так да Федзіка, як адведаць яго бацьку. Але бабка наказала сядзець ціха, не гаманіць, бо дзядзька Даніла вельмі хворы.

І праўда, дзядзька Даніла ляжыць на ложку накрыты амаль з галавою посцілкаю і хрыпла кашляе.

Мы прымасціліся з Васілём на лаўцы каля стала, слухаем, як Федзік вучыць урокі. Ён ходзіць ужо ў школу і ўмее чытаць і пісаць папольску.

— Кто ты естэсь? — Поляк малы!
— Які знак твуй? — Ожэл бялы!—

вучыць Федзік на памяць вершык.

— Федзік, а што такое «ожэл»? — пытаю ціхенька.

— Гэта — арол,— таксама ціха адказвае Федзік.

— А што такое «естэсь»?

— Гэта — хто ты ёсць такі.

— А... Цяпер разумею, значыць так: «Хто ты ёсць такі?» — «Паляк малы». «А які твой знак?» — «Арол белы!» Ці так?

— Так. Толькі я не паляк, гэта верш такі.

Дзядзька Даніла заварушыўся на ложку, адхіліў посцілку.

— Кінь ты, сынку, вучыць гэтую погань. Ну, які ты паляк? Ты — беларус! І знак твой — чырвоная зорачка. Вось які твой знак!

— Ціішэй, сынку,— замахаў на Данілу дзед Акім.— Можа хто стаіць каля акна і слухае. Цяпер тых сабак хапае,— дзед прыпадае да шыбы, углядаецца ў цемру.— Не, нікога няма.— Ён адыходзіць ад акна, сядае зноў на зэдлік, бярэ ў рукі хамут, які толькі што зашываў тоўстай іголкай.

Даніла, моршчачыся, сядае на ложку.

— Э-эх, татка! Усяго і ўсіх вы сталі цяпер баяцца,— ён раптам закашляўся, выцер спацелы лоб. Прузына паднесла яму цёплага малака і са скрухай прыгладзіла вільготныя валасы, што збіліся над ілбом.

І толькі зараз я разгледзела твар дзядзькі Данілы з падбітым да чарнаты вокам, з распухлымі губамі.

Федзік казаў, што бацьку на пастарунку выбілі зубы, таму і губы так распухлі і запякліся крывёю.

Дзед Акім моўчкі паглядзеў на сына, палажыў на падлогу хамут і дастаў з кішэні капшук і люльку.

Павыкручаныя цяжкай працай пальцы не слухаліся, і тытунь высяваўся скрозь іх на порткі і на падлогу. Дзед шчопцямі сабраў яго і ўсё-такі набіў люльку. Ён выцягнуў з печы вугольчык, але люлька чамусьці кепска раскурвалася: ці то пальцы ў дзеда дрыжалі ці вугольчык тух.

— Яно праўда, сынку,— нарэшце, пыхнуў дзед дымам.— Пасля ўсяго, што сталася... бацька твой цяпер стаў нават свайго ценю баяцца. А толькі адно я табе скажу: не за сябе баюся, а за цябе душа баліць. Бо самае цяжкае — гэта глядзець, як катуюць тваё дзіця, а ты не можаш ні абараніць, ні выратаваць яго. А за сябе я ўжо не баюся, бо на сваім вяку ўсяго пабачыў: і бізуноў, і холаду, і голаду...

Дзед змоўк і ўзяўся за хамут. У хаце зрабілася зусім ціха. Даніла ляжаў і глядзеў некуды міма дзеда, можа слухаў, пра што гаварыў стары, а можа і не слухаў, а думаў аб нечым сваім.

Я глядзела на яго счарнелы твар і раптам зусім ясна ўспомніла ўсё тое, што здарылася гэтай восенню, за што і арыштавалі Данілу.

Восень была позняя ўжо, але надвор'е стаяла яшчэ яснае, браліся замаразкі. Неяк аднойчы ў суботу бабка з самага ранку ўзялася фарбаваць ніткі. Чыгун стаяў на двары на двух цаглінах, пад якімі тлелі трэскі і ўсялякае ламачча, каб не быў вялікі агонь і не выкіпала фарба. Бабка боўтала ў чыгуне драўляным кійком, паварочваючы маткі нітак.

— Бабка Марыся,— пачулася з акна Змітруковай хаты,— якою вы фарбуеце фарбай?

— Чырвонаю пакуль. Потым вазьмуся за сінюю...— адказала бабка Прузыне, Даніпавай жонцы.

— Дык можа б і маю фіранку заадно пафарбавалі?

— Нясі. Пафарбую,— адгукнулася бабка.

Прузына неўзабаве выйшла з хаты, несучы кавалак кужалю. Бабка спярша намачыла палатно ў вадзе, выкруціла, потым апусціла ў кіпень з фарбай.

— І навошта табе чырвоная фіранка? — спытала.

— Чырвоную далёка відно,— весела засмяялася цётка Прузына. На загарэлым яшчэ з лета твары заблішчэлі трохі рэдкаватыя, але прыгожыя белыя зубы. Бабка паціснула плячыма.

— Ат... Як хто хоча, так у пекле скача. Няхай будзе чырвоная,— пабоўтала яна кійком у чыгуне, пераварочваючы кужаль.

— Ну, я пайду да ветрака,— пачала шчыльна завязваць Прузына хустку.— Недзе Даніла павёз пшаніцу малоць. А вы ўжо, як вымакне фіранка, дык павесце яе на плот, толькі далей ад людскога вока, лепей каля хлява. Хай менш бачаць...— ціха наказала бабцы.

— Ага... Цяпер я здагадалася, навошта табе тая чырвань... Толькі от што перадай свайму Данілу: няхай будзе асцярожны. Бо яно, канешне, не мне ўмешвацца... Хто як хоча, той так і набівае гуза на лбе, але каб не завялікага гуза набіў. А то вельмі ён смелы стаў.

— От, вы ўжо скажаце. Што яны, першы раз святкуюць? — адказала Прузына.

— Першы — не першы... Але сцяга я не вешала б,— зашаптала бабка.

— Ну, я пайду,— уздыхнуўшы, сказала Прузына і папраставала праз гасцінец у поле да ветрака, што здалёк матляў крыламі.

Бабка толькі паківала галавой, гледзячы ўслед статнай і прыгожай Прузыне. Яна прыкрыла ад сонца далонню вочы і так нейкі час стаяла, аб нечым думаючы. Раптам угледзелася пільней у дарогу.

— А ну, паглядзіце, дзеткі, ці не паліцыя часам гэта едзе? Нешта я кепска бачу.

— Паліцыя, бабця! — двое ехалі на роварах. Яны былі апрануты ў сінія мундзіры. Мы іх адразу пазналі.

— Ой, ліха на іх! Чаго гэта яны едуць? Бяжы, Касечка, знімі вядро з вочапа і хутчэй на сцяну павесь разам з бусаком. А ты, Васіль, памяло цягні, яно ў сенцах, і таксама прыладзь яго каля бусака.

Гэтыя тры рэчы — бусак, мятла і вядро — павінны былі заўсёды вісець каля кожнай хаты на сцяне на выпадак пажару. Так патрабавала паліцыя. Калі не было чаго, пісалі штраф.

— Ну, здаецца, усё,— завіхалася бабка.— Касечка, прыграбі гэтыя трэскі і ламачча ў купку, а то яшчэ прычэпяцца...

Я зашкрабала па пяску дзеркачом.

— А Жучка дзе? — спахапілася бабка, бачачы, што няма сучкі на прывязі.— Жучка! Жучка! На! Ту! На! — клікала яна, але Жучкі і чутна не было.— Цягаецца недзе па лесе за зайцамі, каб яна выдахла! — закляла бабка.

А паліцыянты пад'язджалі ўжо да хаты. Яны злезлі з ровараў, прыставілі іх да вярбы. Гэта былі пан Халяўка і пан Вільчак. Мы іх добра ведалі, вельмі ж часта іх ровары стаялі тут каля штыкетаў і чуўся вісклівы голас Халяўкі: «Чаму пес не на прывязі? Штраф! Няма бусака? Штраф! Хата не белена? Двор не мецены? Штраф! Штраф!»

Халяўка піхнуў наском чобата веснічкі. Яны зарыпелі і падаліся.

— Дзень добры, паночку,— першаю прывіталася бабка.

Халяўка кіўнуў галавою, яго пукатыя, нібы шкляныя, вочы слізнулі па сцяне, дзе вісела ўсё «наконт пажару», потым па купе трэсак, затрымаліся на сабачай будцы, нарэшце ён абыякава паглядзеў на бабку.

— Дзе гаспадар?

— У лесе, паночку. На заработкі падаўся.

— Ага, у лесе, значыцца? Добжэ! А чаму гэта вы павесілі толькі што вядро? Унь нават вада капае на сцяну. Колькі раз вам гаварыць? Вядро заўсёды павінна вісець каля бусака! І жэбы мне ў наступны раз было новае вядро! Інача — штраф!

— Купім, купім, паночку!

— І жэбы халупа была пабелена,— дадаў Вільчак.— І жэбы двор быў чысты! — раскідаў ён наском бота горбу трэсак. Потым яны выйшлі за веснічкі.

— І купім і пабелім...— ціха, каб не чулі паліцыянты, гаварыла ім услед бабка.— Каб вам труну купілі! Каб вам крыжа на магіле пабялілі! Антыхрысты паганыя!

І тут, не паспелі паліцыянты ўзяць свае ровары, як аднекуль з віскам і брэхам кінулася ім пад ногі Жучка.

— Чый пес? — завішчэў Халяўка, схапіўшыся за кабуру.— Застрэлю, псякрэў!

Але кабура ніяк не адшпільвалася, і Васіль паспеў схапіць Жучку на рукі ды папёр яе да будкі.

— Не дам! Не дам страляць,— плакаў ён, запіхваючы сучку ў будку, і прыпёр дзірку плячыма, хоць Жучка і гырчэла і скубла яго за кашулю. Яна вельмі не любіла паліцыянтаў.

— Чэму пес не на ланцугу? — уз'еўся Халяўка на бабку.

— Сарвалася, паночку! Каб яна здохла, вяроўку парвала...

— А павінна быць не на вяроўцы, а на ланцугу. Штраф бэндзе!

— Ой, паночку, не пішыце! Пашкадуйце...— але колькі бабка ні прасіла, Халяўка ўсё роўна запісаў штраф.

Паліцыянты ўзялі свае ровары і завярнулі за вугал хаты, да Змітрукоў.

— Кінь ты яе, паршыўку,— падперла бабка цяжкаю шлягаю будку, каб Жучка не выскачыла зноў.— Бяжыце з Касечкай да Змітрукоў, паглядзіце, чаго яны туды пайшлі. Толькі асцярожна, не вытыркайцеся на ўсю шыбу...

Мы пералезлі цераз плот і прытуліліся да акна Змітруковай хаты.

Халяўка гартаў каля стала нейкую кніжку, а потым кінуў яе на стол. Кніжка звалілася на падлогу. Дзед Акім падняў хуценька чорную пашарпаную кніжачку, пацалаваў яе і залажыў за абраз. Гэта быў дзедаў псалтыр, я пазнала яго па вокладках.

— Дзе сын? — спытаў Халяўка, падыходзячы да куфэрка.

— Да млына паехаў,— адказаў дзед.

— Ага, да млына, значыць? — Халяўка збіў наском чобата накладку, адкінуў вечка ў куфэрку. Там ляжалі лапці, якія дзед плёў на продаж.

— Фу, хамы! — фыркнуў Халяўка.

А Вільчак тым часам ужо заглядаў пад сяннік, перамацваў падушкі, порхаўся ў ложку.

— Скажы сыну, каб сёння з'явіўся на пастарунак,— сказаў дзеду Халяўка.

— Ой, за што ж гэтко, пане? Ён жа нічога такога не зрабіў.

— Мільчэць! Прыказ з'явіцца, і — баста!

— Ой, паночку, злітуйцеся! Мы ж простыя людзі, ён жа нічога нікому не зрабіў...

— А ты хочаш, каб зрабіў? Тады позна будзе! У турму пападзе! Твой сын горшы за ўсіх. Ён народ падбухторвае супроць польскай улады. Знаемо мы вас. Толькі і гледзіцё ў той бок, на сваю Бальшэвію! Чубарыкі праклятыя!

Дзед стаяў, цярэбячы рукамі матузок, якім была падпяразана кашуля, і маўчаў...

— Так ото, жэбы ютро * было на сяле ціха, твой сын пасядзіць суткі на пастарунку. Так будзе лепей,— бразнуўшы клямкай, Халяўка выйшаў на вуліцу, за ім Вільчак. Яны зноў узялі свае ровары і пайшлі цераз гасцінец да солтыса.

— Зноўку пайшлі піць... Каб яны смалы напіліся! І Юхім з імі страціў ужо сумленне, скача пад панскую дудку,— гаротна сказала бабка, гледзячы ўслед паліцыянтам.

На другі дзень была нядзеля, і бабка чамусьці вельмі рана мяне разбудзіла.

— Устань, Касечка. Апраніся і збегай хуценька да солтыса, папрасі градусніка. Скажы, Міхасік захварэў, гарачку трэба памераць...

Я і ўперад хадзіла да солтыса па градуснік, і гэта было мне не ў навіну.

— І паглядзі, мая дзетка,— цішком шапнула яна,— ці няма часам у сенцах паліцыянтавага ровара.— Бабка павярнулася да стала і ў кагосьці спытала: — А ты добра прыкмеціў, што ехаў толькі адзін паліцыянт?

— Адзін, адзін... І то, пэўна, Вільчак, бо маленькі і прысадзісты.

* Ютро *(польск.)* — заўтра

А той жа Халяўка, як жэрдка, ды і сядзіць на ровары раскаракам... Я б яго адразу пазнаў.

Толькі зараз я разгледзела, што ў хаце сядзеў дзед Акім.

— Ну, дык хутчэй бяжы, Касечка...— чамусьці хвалявалася бабка, зашпільваючы маю куртачку.— А як убачыш ровар, то — куляй дадому!

Але я пакуль нічога не разумела.

— А градусніка ўзяць?

— Бяры, бяры. І ровар глядзі. От таўкачык, нічога не петрыць!

Я выбегла за веснічкі. Але што гэта? Каля Змітруковай хаты пад грушай-дзічкай стаялі нізакоўцы. Яны ўсе былі па-святочнаму апранутыя, і ў кожнага на грудзях гарэла чырвоненькая стужачка.

«Не інакш, як у тым Растове, пра які распавядала бабка... Калі цара скінулі. А каго ў нас будуць скідаць?» — думала я, бегучы да солтыса.

І чаму гэта бабка папрасіла паглядзець ровар? Не, тут нешта ёсць... І раптам неяк мне трывожна стала.

На стук у дзверы выйшаў сам Юхім. Ён быў апрануты ўжо, быццам некуды збіраўся.

— Ну, чаго трэба? Прыперла так зарання...— насупіўся ён.

— Градусніка... Бабця просіць... Наш Міхасік захварэў...

— Цьфу! І ў нядзелю спакою няма! Не могуць сабе граднусік купіць! Сораму ў людзей няма, швэндаюцца тут. Пастой пакуль у сенцах, не ідзі ў хату, там спяць... Зараз вынесу.— Юхім пайшоў у хату. Але ў хаце не спалі, бо нехта ціха спытаў: «Хто тоэ».

— Ат, дзяўчынка Белановіча па граднусік прыйшла,— адказаў Юхім. Голас таго, хто пытаўся, здаўся мне знаёмы. Рыпнулі па падлозе боты, значыць, нехта хадзіў па кухні.

Я азірнулася ў прыцемак сенцаў і заўважыла каля сцяны нешта прыкрытае латанікам. Праз дзірку блішчаў руль ровара.

— Ровар! Значыць, ён усё-такі ёсць! — прашаптала я сама сабе і адхіліла латанік.— Халяўчын! — я яго пазнала па ліхтарыку.

Рыпнулі дзверы.

— На́ градуснік! Дзе ты там? — Юхім высунуўся з хаты. Я схапіла градуснік і кінулася прэч з сенцаў.

— Не разбі, а то ляціш, як абвараная! — крыкнуў наўздагон солтыс, але я бегла што ёсць моцы, і сэрца ў мяне калацілася. То быў у хаце халяўчын голас. Гэта ён сядзіць у Зубовіча, і ровар яго.

А людзей каля хаты Змітрукоў было ўжо больш. Даніла стаяў у натоўпе, трымаючы невялічкае дрэўка са сцягам.

— Бабця! — ускочыла я на парог.— Стаіць ровар! Халяўчын!

— Ой, божачка! — ўспляснула бабка рукамі і выбегла з хаты.— Людзі, разыходзьцеся! Халяўка ў солтыса зрабіў засаду. Данілачка, кінь сцяг... Схавай!

Але было позна ўжо. Да гасцінца бег Халяўка, за ім солтыс. Мужчыны замітусіліся, загаманілі.

— Спакойна толькі. Без панікі,— сказаў Даніла.— Каб яны не падумалі, што мы іх баімося...

— Разыходзьцеся! Хто дазволіў? Што гэта за зборышча? — хрыпла крычаў Халяўка.— Я вам пакажу свята! Я вас навучу! Быдла! Хамы! — у злосці ён штурхаў мужчын у грудзі, зрываючы з іх чырвоныя банты.— Бальшавікі, псякрэў! У турму ўсіх! Згнаю! Арыштую!

Халяўка падбег да Данілы і, размахнуўшыся, ударыў яго па твары.

— Гэта ты? Ты ўсё тут бунтуеш! Ну, на гэты раз ад мяне не выкруцішся!

Даніла ішоў цераз увесь натоўп, за ім Халяўка, трымаючы напагатове рэвальвер.

За Халяўкам, апусціўшы долу вочы і шоргаючы цяжкімі ботамі, ступаў солтыс, несучы ў руцэ скамечанае чырвонае палотнішча. Я пазнала яго: гэта была тая фіранка, якую фарбавала для Прузыны бабка. За солтысам бегла Прузына, плачучы і выціраючы хусткай слёзы, побач — Федзік. Мужчыны натоўпам наступалі на солтыса.

— Юда! — крыкнуў нехта.

— Здраднік! Прадаў свайго суседа!

— За колькі прадаўся панам?

— Панскі прыхвасцень!

— Сабака!

Зубовіч агледзеўся, шукаючы вачыма таго, што крычаў, і пайшоў за Халяўкам.

У той жа дзень Данілу адвялі на пастарунак.

... Ціха ў хаце Змітрукоў, толькі дзядзька Даніла раз-пораз кашляе і, плюнуўшы на белую шматку, нешта там разглядае.

Цётка Яніха казала, што дзядзьку на пастарунку адбілі лёгкія, таму ён і харкае кроўю... А бабка кажа, што яшчэ добра, што так абышлося. Маглі Данілу і засудзіць, але Прузына адвезла каменданту паліцыі аж паўкабана, дык ён выпусціў яго з тае ласкі.

# ВЯСНА

На змітруковай ігрушы-дзічцы цэлы гвалт! Ляціць пух, пер'е — шпакі выганяюць са сваёй дамоўкі няпрошаных зімовых кватарантаў. Вераб'і пырхаюць з дупла, за імі ляціць усялякі бруд, якім яны запаскудзілі шпачынае гняздо.

Верабей з вераб'іхай селі на жэрдку каля хаты, трохі пасварыліся паміж сабою, бо, пэўна, вераб'іха дакарала свайго бясхвостага гаспадара, што не змог абараніцца ад шпакоў і страціў такое добрае гняздо. Але доўга яны не гаравалі і шуганулі пад прычолак хаты ў старыя ластаўчыны гнёзды. І ўжо праз хвіліну адтуль пыталіся адно ў другога: «Жыў-жыў?», «Жыў-жыў!»

Бабка, стоячы на ганку, глядзіць на ўвесь гэты кірмаш.

— Жывы-жывы... А што табе зробіцца? — весела кажа яна.— Празімаваў на дарэмшчыну, ні араў ні сеяў, а ўсю зіму хадзіў сыты. Дзе ў клуні дзеўбанеш, дзе курэй абкрадзеш... Я цябе ведаю...

Верабей, як што зразумеўшы, высунуўся з ластаўчынага гнязда, ціўкнуў раз, другі.

Бабка ўзяла чыгун з завараным попелам, ці, як у нас кажуць, зольнікам, патарабаніла яго да балеі. Яна плюхнула зольнік у балею на кужаль і залезла туды з нагамі, умінаючы палатно. Але кужаль уставаў дыбам, пузырыўся, выпінаўся з-пад бабчыных ног.

Мне стала смешна, і я зарагатала, гледзячы, як бабка боўтае нагамі.

— Чаго рагочаш? Лепш памагла б. Унь — калом стаіць, ніяк не намачу, лясні яго пярун!

Я, доўга не думаючы, скачу босымі нагамі ў балею, але адразу ўцякаю назад.

— Ой-ёй! Які гарачы! Як вы, бабця, церпіце?

— А хто ж так адразу скача, як тая каза? Трэба паціхеньку, каб ногі прызвычаіліся да гарачага.

Я раблю так, як кажа бабка, і, праўда, зольнік не такі ўжо і гарачы. І я наступаю на кужаль, тапчу яго нагамі. Ён асядае, вада робіцца рудой і бруднай.

— Няўжо ў такой вадзе выбеліцца палатно? — пытаю ў бабкі.

— Ого, яшчэ якое белае будзе! Ты не глядзі, што зольнік руды, ён ядучы. Бачыш, як параз'ядаў мае пальцы,— паказвае бабка ружовыя ранкі на руках і прыкрывае намочаны кужаль драўлянай накрыўкай.— Няхай адпарыцца. А потым, калі падрасце траўка, высцелім наша палатно на паплавы. Сонейка яго будзе бяліць, раса вымые, бялюхны будзе кужалёк!

— А хутка траўка вырасце?

— Хутка. На Юр'я павінна ўжо быць.

— А чаму на Юр'я?

— Бо яно ўжо так вядзецца. Такая прымаўка ёсць: як на грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, то на Юр'я наесца вол травіцы.

Бабка ідзе да хаты, а я пазіраю на свае ногі: іх і не пазнаць, такія чыстыя. Праўду бабка казала, што зольнік ядучы.

Падыходжу да прызбы, на якой сядзяць і грэюцца на сонцы хлопцы: Васіль наш, Федзік Змітрук, Паўлік і малы Міхасік.

— Чула, Кася, пан будзе свой дом перабудоўваць...— абвяшчае Паўлік-заіка.

— Ён жа памёр. Што ты вярзеш?

— Дык гэта стары памёр, пан Мечыслаў, а ёсць яшчэ і малады. Ён хутка прыедзе сюды жыць. Аканом ужо і рабочых наняў, сёння цэглу будуць вазіць з мястэчка.

— А ты адкуль ведаеш?

— Знаю. Татка наш наняўся на будоўлю...

— І мой наняўся,— гаворыць Федзік.

— Ага, многія наняліся,— кажа бабка, выносячы Міхасіку кубачак малака.— Бо работа тэрміновая, і за яе добра плацяць, — дадае яна.

— А наш татка? — пытаем у бабкі.

— А як жа, наняўся. Многа людзей будзе працаваць на будоўлі. Малады пан хоча збудаваць такі дом, як у горадзе. На шырокую нагу думае зажыць. Дзесьці валэндаўся па тых Англіях, а цяпер, як памёр бацька, дык наляцеў на тое багацце, што крумкач на здабычу. Усё па-свойму хоча зрабіць.

Мы ведалі, што нядаўна памёр пан Мечыслаў. Яго адвезлі і пахавалі недзе ў горадзе, дзе хавалі ўсю радню Замойскага.

— Пэўна, малады пан таўсценны, як бочка,— зазначае Васіль.

— А чаму ты так думаеш? Можа і х-х-худы,— запярэчыў Паўлік-заіка.

— Худых паноў не бывае. Яны ж ядуць, колькі хочуць. Стары пан Мечыслаў быў таксама тоўсты. Ад таго і памёр.

— Няпраўда. Пан Мечыслаў памёр ад жабы, якая сядзела ў ягоных грудзях. Праўда, бабця? Жаба яго задушыла.

— Але... задушыла... За сэрца схапіла. Царства яму нябеснае, не такі ўжо і паганы пан быў. А які малады будзе, то пабачым,— бабка ўзяла за руку разморанага на сонцы Міхасіка і павяла ў хату.

— Жаба — што! Гэта яшчэ нічога! А вось мой дзед кажа, што ў кожным багацеі сядзіць чарвяк. Вялізны, тоўсты. І ссе яго... А ў другіх і па два, па тры...— ціха, амаль шэптам кажа нам Федзік.

— Праўда? Ну і што? — нахіліліся мы да Федзіка.

— Што? У тых, што па адным, тым нічога. А ў каго два, тыя худыя... А ў каго тры — як шкілеты! Адны косці!

Але тут на гасцінцы паказваецца солтыс. Ён шоргае цяжкімі чобатамі, у руках сукаватая кульба. Солтыс прастуе акурат да нашае хаты.

— У гэтага Юхіма, пэўна, аж тры, бо глядзіце, які ён худы, аж счарнеў,— шэпча Федзік.

Солтыс падышоў да нашай хаты, бухнуў па вугле кульбай, аж гліна пасыпалася.

— Выязджай...— прагугнявіў у сіні нос і перайшоў да вугла Змітруковай хаты.

— Зноўку на шарварак? — выйшла на парог бабка.— І ў святую нядзельку спакою людзям няма...

— Грэблю трэба тэрмінова рамантаваць. Панскую цэглу не могуць вывезці, вазы загрузлі, так сказаць... Вашаму Антону яшчэ тры дні трэба адрабіць.— Юхім пайшоў далей. І ўжо чуўся ягоны голас аж у канцы сяла: «Выязджай! Выязджай!»

З хаты выйшаў татка.

— Васіль! Кася! Цягніце хамут, дугу, лейцы.

Тата забразгаў вуздзечкаю, у хляве заржала Рыжуха.

Дзядзька Змітрук таксама выйшаў на падворак і пачаў запрагаць свайго Буланчыка.

Яны гаварылі пра асаднікаў, пра шляхту ды пра нейкія крэсы... Я падавала татку то хамут, то лейцы, слухала, але нічога не разумела.

— Татка, а хто такія шляхта?

— Шляхта? — засупоньваў татка каня, прыціскаючы каленам хамут.— А от пабудуем панскі дом, дык прыедзе той шляхціц, убачыш яго...

Але мне такога адказу мала, і я падыходжу да дзядзькі Данілы.

— Дзядзька! — цераблю яго за рукаў.— А што такое крэсы?

— Гэта ўскраіна. Вось мы, напрыклад, жывем на крэсах усходніх, а палякі — у цэнтры. Ну, як бы табе лепей паясніць... Ат, знаеш што, прынясі мне лепш пугу з сенцаў, у кутку стаіць.

«Ага! Так заўсёды: як толькі пра што спытаеш у дарослых, дык адразу ж работу даюць!» — думаю я, ідучы па пугу.

— Ну і чаго ты, Касечка, надзьмулася, як той індык? Ты ж яшчэ маленькая, не зразумееш... Падрасці табе, зязюленька, трэба,— кажа дзядзька Даніла. Ён ужо, здаецца, зусім паправіўся. І сіняк знік з-пад вока, і губа загаілася, вось толькі не хапае наперадзе аднаго зуба, які выбілі на пастарунку.

— Кася! Астанешся дома! Пільнуй Міхася і хату, а то бабка ў мястэчка пойдзе. І каб мне ад хаты нікуды! Чула? — наказвае мне татка.— А вы, хлопцы, бярыце лапаты і гайда з намі,— ляснуў тата пугай і тузануў за лейцы каня.

— І я хачу з вамі! — бягу следам за возам.

— Што я сказаў?! — устае тата на возе, паказваючы пугу.

Я паварочваю дадому.

З хаты выходзіць бабка.

— Пільнуй малога. Нікуды не валэндайся,— таксама наказвае. Закінуўшы на кіёк чаравікі, якія яна абуе толькі каля мястэчка, бабка папраставала праз паплавы да грэблі.

Я выціраю рукавом слёзы. Вось так заўсёды: самі паехалі, пайшлі, а я — за няньку...

— Ну і не буду я пільнаваць гэтую хату! Ніхто яе за вуглы не пацягне! — крычу я, але не так ужо голасна, каб не чула бабка.

Заглядаю ў акно. Міхасік спіць на ложку. Падпіраю дзверы кійком, каб брат, як прачнецца, не выйшаў, і падаюся за клуню.

А за агародамі што робіцца! Аж да самай клуні разлілася паводка. Нават слупкі, да якіх прыбіты дрот, стаяць да палавіны ў вадзе. У канцы агарода разложысты куст вербалозу. Ён цвіце і так пахне, што аж тут чуваць. Падыходжу да куста. Вада дастае да кален. Яна цёплая, нагрэтая сонцам, па ёй сцелюцца тонкія зялёныя ніткі травы-плывушкі, зялёна-бурае лісце лотаці і жоўтыя кветкі. А каля вербалозу што робіцца! Нібы ў вуллі гудуць і бзымкаюць пчолы, купаючыся ў жоўтым пыле коцікаў. Чорны паласаты чмель таксама вылез са сваёй зімовай хаткі... Бзумкае над вербалозам.

Я адломваю галінку, пераварочваю пчалу. Цікава, што гэта ў яе за гулечкі жоўтыя па нагах? Але ёй гэта не да спадобы, яна паднімаецца, ляціць... і заблытваецца ў маіх кудзерках.

— А-а-а-а!...— вішчу я і, плюхаючыся па вадзе, імчуся да гасцінца.

Задыханая, дабягаю да вялізнага каменя і апускаюся на яго. А пчалы, аказваецца, ужо і няма. Яна выблыталася з валасоў і, пэўна, паляцела назад да вербалозу. Страх мой адразу праходзіць. Я зручней прымошчваюся на вялізным валуне. Ах, як хораша навокал! На ўсе галасы гудзе, звініць вясна.

На поле спускаюцца гракі, і працавіты шпак пералятае цераз дарогу, дзе на адхонах ужо адскочыла гожая трава. А над усім гэтым высока ў небе ціхім звонам звіняць жаўрукі.

Я слухаю іх. Ах, як хораша, як добра, што прыйшла вясна!

— Вясна-красна! Дачакаліся і мы цяпла! — шапчу бабчыну прымаўку.

## НА ВЫПАСЕ

Такі праўду казала бабка, што мужыцкая навука — кій у рукі і гайда за каровамі.

У гэтую вясну шмат макранскіх дзяцей пайшло ў наймы.

Янінку згадзілі за некалькі пудоў жыта няньчыць малое дзіця аж у другой вёсцы — Руцянцы. Любку аддалі пасвіць кароў на хутар да Баранскага. Наш Васіль таксама наняўся да багацея з Верхакоў Нупрэя Кучука.

Кожны ранак бяжыць цяпер Васіль на досвітку ў Верхакі, каб да ўсходу сонца, раней за ўсіх, выгнаць статак і напасвіць, пакуль ападзе раса.

Разам з Васілём бабка будзіць і мяне, каб памагала брату пасвіць цялят, якіх Нупрэй ужо выпусціў на пашу.

Мар'янка, Нупрэева дачка, такая ж рыжая, як і бацька, і такая ж сварлівая, налівае з вядра ў вялізныя жалезныя банкі малако, якое Нупрэй адвозіць у мястэчка на малачарню, і бурчыць, што каровы мала даюць малака.

— Эй вы, галапупыя! — бліснуўшы бяльмом на воку, крычыць гаспадар.— Каб ото напасвілі як след! За грэбляй ужо добрая трава адскочыла, не лянуйцеся перагнаць статак на той бок грэблі.

Нупрэй запрагае каня, ставіць раўней на возе банкі.

— А то я вас ведаю: выпраце кароў на той бубен за сялом, дзе ўсё вытаўклі авечкі ды коні здратавалі, і гора вам мала.

Нупрэй сцёбае пугай каня і выязджае на вуліцу. Я махаю лазой на неслухаў-цялят, выганяючы іх за вароты.

— Ну, дык уцямілі? — крычыць, азіраючыся, Нупрэй.— І ўважайце там, каб цяляты на грэблі не загразлі.

Фурманка, грукаючы банкамі, заварочвае на гасцінец.

— Дык глядзіце мне! — ужо здалёк наказвае ён.— А то як пабачу, што галодныя каровы, дык вушы адарву!

— Не адарвеш, рукі закароткія,— так, каб не чулі ні Нупрэй, ні Мар'янка, агрызаецца Васіль і ляскае пугай.

З Нізакоў таксама чуваць ляск пугі. Гэта Федзік Змітрук выганяе сваіх кароў.

— Эгэ-гэй! Васіль! Кася! Вы за грэблю?

— За грэблю-ю! — крычым Федзіку.

— Ну, дык і я з вамі! — ужо на гасцінцы далучаецца да нас Федзік.

Нашы веснічкі таксама адчыняюцца, і бабка выганяе Чарнушку. Карова цягнецца да маёй рукі. Я дастаю з кішэні скарыначку хлеба і тыцкаю яе ў шурпатую пысу. Чарнуха заграбае хлеб шорсткім языком і спакойненька ідзе за мною.

— Глядзіце, дзеткі мае, на грэблі, каб усё як след! Спярша пераганіце кароў з цялятамі,— наказвае нам ад парога бабка. Яна, пэўна, чула, як Нупрэй нас дакараў.

Наша грэбля, як і тая лужына пасярод сяла,— цэлае гора для макранцаў. Яшчэ зімою, як замерзне, ці ўлетку, калі спёка, сюды-туды, можна па ёй перабрацца на другі бок. Але восенню і вясною... Ого! Тады ўжо пабоўтаешся ў вадзе.

Вось і цяперака зноў заліло ўсё, і не памог нават той пясок, што вазілі на шарварку. Як пайшоў дождж, дык усё як у прорву правалілася. Цяпер нават Халяўка не можа пераехаць на сваім ровары, а ездзіць, калі ўжо спешна чаго трэба, у сяло на замуляным лысым кані. Таго каня ў сяле ведаюць усе. І тады ад двара да двара бабы крычаць адна адной:

— Эгэ-гэй! Вешайце бусакі, вёдры, мётлы! Прывязвайце сабак! Халяўка едзе. Унь боўтаецца на грэблі на сваім лысым.

І ў сяле пачынаецца мітусня.

Каровы добра ведаюць грэблю. Перад вадою яны прыпыняюцца. Васіль з Федзікам закасваюць порткі вышэй кален. Пачынаецца самае цяжкае — перагнаць на той бок цялят. Хлопцы становяцца каля вешак, за імі ўжо няма насцілу з галля і можна ўсунуцца ў твань, трэба асцерагацца.

— Кася, паганяй тых, што з цялятамі!

Я паганяю кароў, якія ідуць павольна, і толькі цяляты каля іх мітусяцца і круцяцца, боўтаючы нагамі ў чорнай жыжы. Васіль з Федзікам ідуць збоку і сцёбаюць іх пугамі.

Нарэшце, увесь статак за грэбляй. Мы таксама выбіраемся на груд. Ногі аж зайшліся, такое халоднае балота. Мы мыем іх у ржавай вадзе і бяжым на сухое месца.

— Давайце сядзем каля гасцінца пад вярбою,— прашуся я.— А то вецер такі халодны ды пякучы, што трываць нельга.

Ранак і сапраўды вельмі халодны, вецер студзіць мае патрэсканыя мокрыя ногі, і яны пякуць агнём. Я прысядаю, накрываючы іх спаднічкай, але нічога не памагае.

— Зараз нагрэешся,— збірае Федзік ламачча і складае ў купку, каб распаліць агонь.

Мы тулімся да шырокага камля пахілай вярбы: тут зацішней. Каровы разбрыліся па поплаве. Ім прыволле, і трава гожая. Неба гарыць, нібы ў пажары, вось-вось над лесам паднімецца сонца.

Весела сцелецца дым, пахне мокрай травою, дымам і балотам. А над усім гэтым, над лугам цягнецца журботнае: «Кі-гі-і! Кі-гу-і!» Гэта стогнуць самыя сумныя вясновыя птушкі — кнігаўкі. Аж нейкі жаль за сэрца хапае, слухаючы іх.

— І чаго гэта яны так енчаць? — пытаю ў Федзіка.

— А хто яго ведае? Трэба ў дзеда спытаць, ён, пэўна, знае. Здаецца, калісь казку нейкую я чуў пра кнігавак...

— Раскажы, Федзечка,— прашу.

— Не, не запомніў. Сёння я вам пра другое раскажу. Я песню адну ад бацькі вывучыў. Забароненую...— паніжае Федзя голас і азіраецца.— Яе, гэтую песню, у Саветах спяваюць. Яна пра ключы шчасця... Вось слухайце:

Мы кузнецы и дух наш молод,
Куём мы счастия ключи!
Вздымайся выше, наш тяжкий молот,
В стальную грудь стучи, стучи, стучи!

— Няўжо ёсць такія ключы? Ключы шчасця? — здзіўлена пытаю ў Федзі.

— Ёсць! — упэўнена адказвае той. А калі Федзя кажа ёсць, значыць, трэба верыць, бо ён многа чаго ведае, ён жа вучыцца, кніжкі чытае.— Імі, тымі ключамі, можна адкрыць дзверы ў краіну шчасця,— далей расказвае Федзя.

— А дзе ж такая краіна? Ці ёсць яна?

— Ёсць. Татка казаў, што тая краіна там, дзе сонейка ўзыходзіць. Калі ўсё ісці ды ісці на ўсход, то можна дайсці туды. Але татка кажа, што паны адгарадзіліся ад гэтай краіны высокім мурам, каб бедны люд туды не пайшоў, бо не будзе каму працаваць на паноў. Але ёсць у той мураванай сцяне невялічкія дзверы, толькі адмыкаюцца яны ключом шчасця, тым, што з песні.

— А дзе ж той ключ? Як знайсці яго?

— О, гэта цяжка! Знайсці яго можа толькі самы смелы чалавек. Бо ключ той схаваны на высачэзнай гары, і паны пільнуюць тую гару, не пускаюць да яе людзей.

Ах, як добра Федзя расказвае! Я шчыльней тулюся да вярбы. Каля вогнішча цёпла, і мяне зморвае сон. Прыжмурыўшы вочы, гляджу туды, дзе зямля сыходзіцца з небам. На небасхіле цёмная паласа далёкага лесу, але мне здаецца, што гэта не лес, а сцяна, якою паны адгарадзілі бедны люд ад краіны шчасця. На той мураванай сцяне вартавыя вежы. А што гэта свеціцца побач? Ах, гэта тыя дзверы, якія можна адкрыць ключом шчасця...

— Федзя, а дзе тая гара? — прыжмурваю вочы і раптам бачу высокую гару, што ўпіраецца ў аблокі. На ёй нешта гарыць. Гэта залаты ключ блішчыць. І вось я ўжо каля тае гары. Але яна крутая, і паны пільнуюць яе, туды-сюды так і шныраюць.

І раптам аднекуль з'яўляецца дзядзька Даніла.

— Хто са мною? — пытае і першы пачынае ўзбірацца на гару. Мы таксама ідзём за дзядзькам Данілам. Я, Федзя, Васіль...

Ох, як горача, як цяжка ісці! Але мы ўспінаемся і ўспінаемся. І тут паны нас прыкмецілі, пуляюць каменнямі, але не могуць ужо дастаць,— мы высока-высока.

— Вось ён! Вось ён! — крычыць дзядзька Даніла і даходзіць першы да ключа, бярэ яго за залатое колца.

І мы ўжо спускаемся з гары. А людзей колькі сабралася! І з Мастоў, і з Чарнян, і з Руцянкі. А больш за ўсё з Макран, з нашых Нізакоў... І ўсе абшарпаныя, у пастолах, усе чакаюць, калі дзядзька Даніла адчыніць тыя дзверы.

— Сюды! Сюды, людзі! Заходзьце! Гэта ваша краіна! — крычыць дзядзька Даніла і насцеж расчыняе залатыя вароты.

Але неспадзявана аднекуль вырываецца Халяўка.

— Ах, так! Гэта ты адчыніў! Вось табе! Вось! — ён страляе ў дзядзьку Данілу. А людзі ідуць і ідуць у тую краіну цэлым натоўпам. Я хачу падбегчы да дзядзькі Данілы і не магу...

— Стойце, людзі! Там чалавек забіты! — крычу і прачынаюся. Адкрываю вочы.

...Ужо даўно ўзышло сонца, разгарэлася вогнішча. Ад яго дыхае цяплом. Няма ніякай гары, ні ключа шчасця... Няўжо гэта быў толькі сон?!

— Эх ты, санлівая-драмлівая! — смяецца Васіль.— Прыгрэлася і заснула... А я за гэты час песню вывучыў, слухай, як у нас з Федзікам добра выходзіць:

Мы кузнецы, и дух наш молод,
Куём мы счастия ключи!
Вздымайся выше, наш тяжкий молот,
В стальную грудь стучи, стучи, стучи!

Хлопцы спяваюць на ўвесь голас і так ладна ды прыгожа, што і я пачынаю падцягваць.

Неспадзявана за вярбою фыркнуў конь. Мы глянулі з-за дрэва і аж сумеліся. На гасцінцы насупраць нас сядзеў на сваім лысым кані Халяўка. Ён пастукваў па бліскучай халяве плёткай.

Апошнім часам Халяўка чамусьці вельмі часта стаў ездзіць у Макраны. Цётка Яніха нават прыкмеціла тое, што, як толькі паліцыянт прыязджаў да солтыса, туды адразу ж бег і Амялян Гай, і яны доўга сядзелі ў Юхіма. Чаго? Ніхто не ведаў.

— Та-а-ак, так! Ладна спяваеце! Ба́рдзо * ладна! — выцадзіў нарэшце Халяўка, злосна гледзячы на нас.— А якія вы яшчэ знаеце песні? Ну?

Спалохаўшыся, мы маўчалі.

— Значыць, больш не знаеце ніякіх песень?

— Не, не знаем,— нарэшце выдыхнуў Федзя.

— Тады скажыце, хто вас навучыў спяваць гэтую песню? Ад каго вы яе чулі? — голас паліцыянта раптам зрабіўся ласкавы, толькі шкляныя вочы глядзелі холадна і злосна.— Ну, скажыце! Я вам за гэта дам вось што...— паліцыянт засунуў руку ў кішэню, і невялічкая манета бліснула ў яго пальцах. Ён пакруціў ёю перад нашымі вачыма.

— Ад руцянскіх пастушкоў навучыліся,— раптам адказаў Васіль.— Яны ўчора прыганялі сюды пасвіць кароў.

І так доўгі, твар Халяўкі выцягнуўся яшчэ больш.

— Цо? І руцянскія пастухі спяваюць такія песні?

— Ага, спяваюць, пане,— пацвердзіў Федзя, радуючыся, пэўна, што Васіль знайшоў, што адказаць паліцыянту.— На ўсіх сёлах, пане, спяваюць! — дадаў ён.

І тут раптам зялёныя вочы Халяўкі неяк прыжмурыліся, і, перш чым мы здагадаліся, ён сцебануў бізуном па Федзевым твары. Той аж прысеў ад болю, а Халяўка ўжо хваста́ў па нашых галовах, па спінах.

— У балота! — завішчаў Федзя і першым кінуўся да грэблі, дзе рос алешнік і кусты вербалозу. А за намі на кані гнаўся Халяўка і свістаў плёткай.

Але раптам яго конь праваліўся пярэднімі нагамі ў багну і захроп.

Халяўка павярнуў назад і выехаў на груд. Ён патрос яшчэ бізуном і падаўся на грэблю, паехаў у Макраны.

* Ба́рдзо *(польск.)* — вельмі.

Мокрыя па пояс, мы вылезлі з балота і пачалі абмацваць свае галовы і плечы. У Федзі праз усю шчаку чырванеў рубец. Ён набух і стаў аж сіні.

Дзед Акім, прынёсшы ўнуку абед, доўга войкаў, прыкладаючы да Федзевай шчакі намочаную ў вадзе шапку.

— Ах, саколічак мой... Знявечыў цябе той ніцыпер. Каб ото ён ногі сабе паламаў! Каб яго балота зацягнула!.. Ну, прыйдзе і на яго пагібель! Дачакаецца ён! — трос дзед кіем.— Дык вы ўжо, дзетачкі мае, не спявайце тых забароненых песень... Глядзіце ўжо. І адганіце ад гасцінца кароў, а то яшчэ, варочаючыся, насцёбае ён вас. Глядзіце ўжо!

Але мы не адракліся ад той прыгожай песні, хоць паціху, але ўсё роўна спявалі яе.

# УНАЧЫ

Край неба асвяціўся, спалахнуў бліскавіцаю, і неўзабаве загрукатаў далёкі гром.

Тата пастаяў каля пуні хвіліну-другую, паглядзеў на цёмны, аж чорны, небасхіл і сказаў:

— Спаць, дзеткі, сёння будзем у хаце, а то ноччу разгуляецца навальніца. Бярыце посцілкі і нясіце ў хату.

Мы знялі з сена латанікі, падушкі і панеслі ў хату. Бабка паслала нам на зямлі, каб не было так душна. Але пасля спякотнага дня паветра дыхала гарачынёй, і было аж млосна. Бабка адчыніла дзверы і вокны, але халадней ад гэтага не стала.

Недзе далёка і глуха грымеў гром. Бліскавіца асвятляла раз-пораз хату, і ў ёй ад сіняватага нейкага жудаснага сполаху здавалася ўсё не такое, як заўсёды, а фантастычнае... За акном неспакойна шалясцела лісце грушы-дзічкі.

Я пачынала ўжо драмаць, як раптам пачула за акном шэпт:

— Антон, ты спіш? — нехта зваў тату.

— Не, не сплю,— тата ўсхапіўся з лавы, ён быў чамусьці апрануты.

У акно прасунуў галаву Даніла Змітрук.

— Знаеш, самы раз ісці...— зашаптаў ён.— У такое надвор'е ніякі сабака не будзе... Давай пойдзем. Нясі...

— Зараз,— ціха зашаптаў тата і выйшаў з хаты.

Неўзабаве ён вярнуўся з Данілам. Яны хавалі за пазухі нейкія скруткі.

— Ты пойдзеш у Масты,— сказаў Даніла тату.— Перадасі ў рукі Гайдучыку. Другая хата ад краю, з аканіцамі... Ён будзе чакаць. Стукнеш тройчы ў акно. І глядзі, каб не заблудзіўся... І на балоце глядзі... Зараз дождж...

Тата нічога не сказаў, толькі памацаў скрутак, ці добра ляжыць за пазухай.

— А я падамся праз лес у Руцянку,— Даніла глыбей насунуў на вочы шапку.— Ты вось што... На ўсякі выпадак, уздзечку вазьмі,— параіў тату Даніла.— Калі хто спытае,— можа каго сустрэнеш,— скажаш, каня шукаю, недзе сышоў...

— Ай, каго зараз стрэнеш? Ну хто ў такую непагадзь вылезе? — шэптам адказаў тата.

Яны ціхенька, каб не рыпелі дзверы, выйшлі з хаты.

Бабка заварочалася на печы, потым злезла, падышла да акна, зачыніла яго. Дождж барабаніў усё гусцей і гусцей.

— А божа ж ты мой! Ото напасць! — шаптала бабка, стоячы каля акна.

Я ведала, што тата некуды ноччу ходзіць з дзядзькам Данілам, носіць нейкія кніжкі... Я нават чула, як аднойчы ў каморы бабка плакала і казала, што спаліць усе гэтыя кніжкі і газеты, якія ў таты ляжаць недзе ў жолабе. Раіла ўсё самому спаліць. Але тата маўчаў і, пэўна, нічога не спаліў, бо панёс зноўку ў Масты тыя кніжкі і газеты. Я нават ведала, што гэтыя кніжкі і газеты забароненыя, і за іх паліцыя садзіць у турму. І я ганарылася сваім татам, што ён такі смелы. І дзядзька Даніла таксама смелы. Ноч, бліскавіца, дождж, а яны ўсё-такі пайшлі.

Але бабчына трывога перадалася і мне, бо і я, слухаючы яе бажканне, засынала трывожным сном.

Снілася мне, што я іду за татам па балоце. Яно дрыжыць, выгінаецца. І вось я ўжо хутка дапну да грудка, як раптам з купіны асакі паўзе доўгая змяя. Яна глядзіць на мяне, ну, зусім такімі, як у Халяўкі, шклянымі вачыма... Я не магу нават паварухнуцца, так страшна, а змяя абвівае мае ногі, сціскае іх абручом.

— Зараз я цябе задушу... Задушу...— шыпіць. А я стаю, здранцвелая, і не магу нават крыкнуць.

І раптам нехта, замест мяне, закрычаў: «Людзі, ратуйце! Ратуйце, лю-дзі-і-і!» — ад гэтага крыку я і прачнулася, села на пасцелі. Але што гэта? За акном зноўку пачуўся гэты крык: «Ратуйце! Людзі-і-і!»

Затупалі па вуліцы боты. Бабка стаяла каля стала і хуценька нацягвала спадніцу. Заядла брахала Жучка. На двары нешта тварылася...

Апрануўшыся, я следам за бабкай выбегла з хаты.

Ужо развіднелася, і да нашых веснічак беглі людзі. Хто як быў апрануты... Многія мужчыны ў світках, накінутых на ніжнюю бялізну.

Да парога Змітруковай хаты два паліцыянты цягнулі за рукі чалавека ў белай кашулі. Ззаду бегла цётка Прузына і страшна крычала:

— Людзі! Ратуйце! Ратуйце!

— Данілу злавілі! Данілу... З нейкімі забароненымі кніжкамі...— шапталіся ў натоўпе.

Змітрука хацелі паставіць на ногі, але ён паваліўся на зямлю, так моцна быў пабіты.

І тады паліцыянт, той, што быў вышэйшы, пачаў мясіць Данілу ботамі: біў у грудзі, у галаву. Прузына кінулася паліцыянту пад ногі, засланяючы сабою Данілу, але ён біў і яе, хоць Прузына крычала і хапала яго за боты.

— Пане! Паночку! Не забівайце яго! Не забівайце! — і тут расчыніліся дзверы, і з хаты ў адным споднім выбег Федзя.

— Мама! Мамачка! — ён кінуўся з кулакамі на паліцыянта, але той выцяў яго па галаве рэвальверам, і Федзя паваліўся на зямлю.

— Не дам! Не дам забіваць! — крыкнула Прузына, кідаючыся ад мужа да сына.

І тут я, не памятаючы сябе, скочыла да паліцыянта і ўчапілася зубамі ў ягоную руку.

— А! Псякрэў! — вылаяўся паліцыянт. То быў Халяўка. Ён пнуў і мяне ботам. Я адляцела да сцяны, стукнуўшыся галавою аб вушак, і ўсё перад вачыма паплыло.— Страляць буду! Не падыходзьце! — чула я, як праз сон.

Бабка падхапіла мяне пад рукі і прыціснула да сябе. А натоўп усё рос і рос. Збегліся нізакоўцы, і з Верхакоў прыбеглі людзі.

Данілу адцягнулі да студні. Ён ляжаў, закінуўшы назад галаву, і кроў тонкім струмком цякла з кутка ягоных вуснаў.

Хтосьці падаваў Прузыне ручнік, хтосьці даставаў ваду з калодзежа. Прузына абкручвала Данілу галаву белым ручніком. Ён быў вышыты чырвонымі кветкамі. Не... Гэта былі не кветкі, гэта кроў... Пляма расплывалася па белым палатне. Федзя, грасучыся ад плачу, прытрымліваў бацькаву галаву. Прыціхлы натоўп панура стаяў і глядзеў на ўсё, што адбывалася, і толькі на вочапе рыпела, гойдаючыся, вядро.

Каля калодзежа стаяў Халяўка і паглядаў на пуню, каля якой запрагалі каня.

Даніле пырснулі яшчэ раз у твар вады, і ён нарэшце расплюшчыў вочы.

— Данілачка... Жывы... Жывы!..— душачыся слязьмі, шаптала Прузына.

— Звяругі! Гляньце, як збілі чалавека! — загаварыў нехта ў натоўпе.

— Каты! Што ад іх чакаць!

— Душагубы!

— Мільчэць! — падскочыў да натоўпу Халяўка.— Усіх арыштую. Бальшавікі, псякрэў! Усіх згнаю ў турме! Вось так! Бачылі? — паказаў ён на Данілу.

Фурманка пад'ехала да калодзежа. Даніле, звязаўшы ззаду рукі, памаглі падняцца. Ён ледзь ступіў пару крокаў і паваліўся на воз.

— Паганяй! -- крыкнуў Халяўка Нупрэю, які кіраваў канём, і, адышоўшы ўбок, сказаў штосьці Вільчаку.

За фурманкай пайшоў Вільчак, следам, плачучы, Прузына і Федзя.

Я глядзела на людзей, што стаялі каля грушы-дзічкі... Чаму ж яны не абароняць Данілу? Чаму ўсе моўчкі стаяць? Слёзы сціснулі маё горла, і я заплакала.

— Ціха! Цішэй, мая дзетка! А то і нас арыштуюць! — шаптала бабка, абдымаючы мяне і ведучы ў хату.

У той жа ранак у Зміруковай хаце паліцыя рабіла вобыск, потым перайшлі да нас.

— Дзе гасподаж? — крычаў Халяўка.

— Кабылу пайшоў шукаць...— сказала бабка, не маргнуўшы вокам.— Ноччу каняка прапала. Пэўна, у лес пайшла.

— Ты, Марыся, так сказаць, толкам скажы? — сярдзіта гаварыў солтыс.— Калі пайшоў, куды?

— Ды я толкам і кажу. Кабыла ноччу паслася, быў дождж, і яна недзе пацягнулася. Вось Антон і пайшоў яе шукаць. Зараз прыйдзе...

У нашай хаце таксама пачаўся вобыск. Халяўка збіў са скрыні накладку, выкінуў на зямлю ўжо адбелены кужаль, бабчыны чаравікі, хусткі,— шаляноўку і кашміроўку,— перратрос бабчына «на смерць», і цяпер абразок валяўся на зямлі, а свечка закацілася пад куфар. Ён ірвануў на старым абрусе шнурок, і скрыпка тоненька енкнула. Потым Халяўка пакруціў у руках папку, дзе ляжалі татавы семінарскія дакументы.

Ён перамацаў усё: гроб качаргою ў падпеччы, варочаў ёю ў мяшку з мукою, вывернуў бочку з мякінай, лазіў на гарышча.

— Каб ты там ногі пакруціў! — ціха кляла бабка, складаючы ў скрыню вывернутыя рэчы.

— Ну ты, Марыся... Так сказаць, не забывайся! — папярэдзіў бабку солтыс, аглядаючыся.

— Ат, і ты ўбраўся ў воўчую скуру! Цьфу! — плюнула бабка.

А Халяўка чагосьці ўпарта шукаў, нават у клуні на сене.

Нарэшце з'явіўся тата, ведучы за аброць Рыжуху. Быў ён запырсканы гразёю.

— Ага, з'явіўся! — паглядзеў на тату Халяўка.— Ты на гэты раз выкруціўся, Белановіч! Але памятай, на другі раз гэта табе не ўдасца! — Халяўка яшчэ нейкі час пісаў акты, нарэшце панятыя, сведкі, солтыс і паліцыянты пакінулі хату.

— Ну, вось і дахадзіліся! — сказала бабка і заплакала.

У тую ж ноч у мяне пачалася гарачка. Я адчувала, як балела ўсё цела, гарэла галава. Здавалася, што я некуды правальваюся, падаю. А калі апрытомнівала, то чула, як дзесьці далёка хтосьці крычаў: «Людзі! Ратуйце!» Потым рабілася ціха-ціха, і толькі здавалася, што на вочапе рыпіць і гойдаецца вядро. Я адкрывала вочы. Нада мною схіляліся то бабка, то тата.

— Зніміце з вочапа тое вядро... Хай яно не рыпіць...— прасіла я.

— Якое вядро! Што ты, мая ягадка! — выцірала бабка слёзы.

Але тут я зноўку пачынала кудысьці правальвацца.

Калі я папраўілася, быў ужо канец лета. Трэба было збірацца ў школу. Але чамусьці мяне цяпер не вельмі гэта радавала. Я слухала навіны, якія прыносіла цётка Яніха. Яна гаварыла цішком аб тым, што арыштавалі, акрамя дзядзькі Данілы, і тых людзей, якім ён даваў чытаць тыя забароненыя кніжкі. І што хутка іх будуць судзіць і адправяць у нейкія страшныя Лукішкі.

(Далей будзе.)

**Апавяданні Лідзіі АРАБЕЙ**

**і Леаніда КАЛОДЗЕЖНАГА —**

**у бліжэйшых нумарах.**

ПАЭЗІЯ





## Віктар РАКАЎ





Сніцца і дагэтуль, часта сніцца,
Выплыве з далёкага, адтуль:
На бярозах, быццам завушніцы,
Рызманы з палотнаў і кашуль.

Ў сірэнным посвісце і гуле
Пад бамбёжкай — бежанцаў абоз.
Над зямлёю клункі і каструлі,
І галлё пасечаных бяроз.

Топчуць жыта спуджаныя коні,
А над жытам — грывы ці агонь?
Ў знямелай маці сын на ўлонні.
Конь імчыцца і —
                    знікае конь.

Ні хваста,
            ні грывы,
                    ні аглобляў,
І — стырчма калёсны перадок,
Ад варонкі воддаль — мой гадок,
Хлопчык з акрываўленым падлоб'ем.

Што на шчоках?
                    Пэўна ж, былі слёзы,
Толькі выцеклі яны з вачмі...
— Мамачка! — мацней за дынаміт
Біла ў сэрцы і трасло бярозы.

Чвэрць стагоддзя з таго часу. Многа.
А са мной — нязменны неспакой:
Ці спыніць сустрэчнага сляпога,
Ці спытаць,
            ён той або не той?

Расказаць, пра што мне часта сніцца?
Нагадаць апошні матчын след?
Ці яму шчэ болей разбаліцца,
Ці яснейшым стане гэты свет?..



Дворышчаў прывычныя прыкметы
Збор сяленняў, тораных дарог.
Ад'язджалі ў свет, кідалі свету
Яблыню, шулак, тупы нарог.

Плуг грудок абверне стараною,
Баразну пакіне, як брыво,
Шкельца затрымціць над баразною,
Як адзнака вымерпіых трывог.

Ну а мы... Не клалі мы на шалі:
Дзе лягчэй?
Як тыя мурашы,
Купіну агульную ўзвышалі —
І свой рай мы маем для душы,

Не шулак, не печышча старое —
Мілы кут, бацькоўскі даўні род,
Ціхую рачулку пад гарою
З залатой лілеяй пасярод.

І няхай іменамі тутэйшых
Не назвалі ні лясок, ні роў, —
Той сябе адчуе маладзейшым,
Хто пачуе спеў сваіх бароў.

Тут маленства, пуп наш тут зарыты.
І, як болей горбяцца гады,
Робяцца вузейшымі арбіты,
Па якіх сыходзімся сюды.



Даўні час. Мароз на печ загоніць.
Дзіўныя на шыбах міражы.
Я у кніжнай мудрасці ў палоне.
Не даецца.
Мама, падкажы.

І яна бярэцца так, нібыта
Дробязь і ўсяго — ёй той радок.
Адарве пасля руку ад літар:
— Не пры мне пісалася, сынок...

Сёння за спіной гадоў тых замяць.
Апраўданняў жа няма, няма,
Як крыўдуе маці:
ну і грамаць,
Што й двух слоў не звяжаш для пісьма.

І не будзе, знаю, суцяшэннем
І ні ёй, старэнькай, і ні мне
Вінаватае маё прашэнне:
— Кінь трывогі, я ж не на вайне.

Мной дагэтуль не раскрыта тайна,
І адказу не даюць вякі:
Тым світаннем, з першым тым спатканнем
Для цябе, матуля, стаў я кім?

Кожны дзень пісаў лісты, паштоўкі,
Не табе іх слаў, а ў дом чужы.
Тыя ж і прыдаткі, і прымоўкі,
Ды ў зваротках новы сэнс ажыў.

Зразумела ты, што гэтак трэба,
Што палоняць і не на вайне...
...Сёння цяжка на душы ў мяне,
Што ў вачах тваіх хмурнее неба.

І не ў знак ні маладосць, ні грамаць.
Родная мая!
Няўжо, няўжо,
Калі я прымчу па тэлеграме,
Будзе позна, будзе позна ўжо?..





● *Лотаць*

●● ————————

Яўген ХВАЛЕЙ

●

Лотаць ірвуць жанкі —
Бачу маленства сваё:
Скача цераз стаўкі
Босае хлапчанё.

Маці ля лазняку
Мех набіла тугі
Лотаццю. І на мяху
Села — ў вачах кругі.

Сын на калені ўзлез —
Лотаццю дыхае луг.
— Не помніш, сынок, абрэз,
Чорных, зарослых звяруг.

І двух табе не было —
Бацька вёў грамаду
Касіць на гэты аблог
І ніцма ўпаў у ваду.

Лотаць ірвуць жанкі —
Бачу маленства сваё:
Скача цераз стаўкі
Босае хлапчанё.

●●

Чым жа сэрца усцешыць,
Штосьці, зацятае, просіць?..
Ты падары яму ўсмешку
На вуснах і воч сваіх просінь.

І ўміг запалае зарніцай,
Васёлкаю запрамянее.
Яно — нібыта крыніца:
Без ласкі лясное — нямее.

ПРОЗА



Віктар КАРАМАЗАЎ

Мал. П. ЛЫСЕНКІ

ДВА АПАВЯДАННІ

## НЕ ПЕРШЫ СНЕГ



Век нашае хаты невялікі, самае большае, гадоў дваццаць, а падмоснікі, напэўна, селі: калі гупае хто ў адным канцы — у другім прыдушана сапуць маснічыны. І зараз чуваць, як там, у пярэднім пакоі, ходзіць маці. Відаць, толькі што вярнулася ад суседкі Марфы, дзе бабы збіраюцца на пасядушкі.

— Валодзя? — гукае з-за сцяны, ідучы да мяне.

— У-гу! Ты ўжо тут?

— Забавілася... Час прабяжыць — і не ўгледзіш.

Яна прыхінаецца спіною да грубкі і спачатку стаіць моўчкі, як грэецца з холаду. Цераз ватовую куфайку ёй, пэўна, не чуваць, што кафлі халодныя.

— Якія ж праблемы вырашалі сёння?— падсмейваюся я.

— А навошта табе нашы бабскія праблемы? Лепей падумай, як Івана сустрэць, Каланка.

— Ды што ты кажаш?

— Што чуеш. Іду ад Марфы, як даганяе чалавек у ваеннай адзежы, пагоны на шынелку. Спыняецца. Я, значыцца, таксама спынілася. Маўчу. А ён і пытаецца: дзе Валодзя? Дома, кажу. Тут ён быццам разгубіўся, перапытвае: няўжо дома? Дык дома, кажу зноў. Ехаў з камандзіроўкаю і заехаў. Тады падумаў і просіць: перадайце Валодзю, што пазней зайду. Можа б цяпер, падбіваю, хоць

сама яшчэ не пазнаю, што за чалавек. А ён: не, брацeнік чакае, а заўтра ехаць.

— Глянь ты, нават Каланок тут!

— Хоць хлопцаў сустрэнеш. Сядзіш там у Мінску, людзей не бачыш.

— Людзей там поўна. Каланка няма, гэта праўда. Як скончылі школу, ён ні разу і не прыязджаў?

— Каб прыехаў, зайшоў бы. Каго-каго, а нас не абміне.

— І цяпер такі ж малы, вастраносенькі?

— Дужа я разгледзела ў цемені... Невысокі, распаўнелы. Каб яшчэ адразу пазнала, дык прыгледзелася б. А то пайшоў ужо, тады толькі ў дурную галаву стукнула: ды гэта ж Каланок Іван! А бо-о-жачкі, як чалавек пакруглеў! Ці даўно танкляўенькі быў, во што гэта антэна, заморак...

— Ну, я скокну.

— У магазін? Сядзі. Я пляшку знайду. Гэта ж, як печку перакладала, печкуру брала. А ён колькі рабіў, столькі стагнаў, што здароўя няма. Ну, няма дык няма. Узяла ды пашкадавала яго здароўе.

Мы рагочам з бяскрыўднай жаночай хітрасці, і тут жа, пад рогат, маці дастае з шафы квяцісты абрус, накрывае стол. Затым ідзём у другую палавіну хаты. Ля самага парога за халоднае колца я падымаю ўкарочаную маснічыну, апускаючыся ў дзірку пад мост. Там, чыркнуўшы запалку, нагамі намацваю драбіны і па іх ступаю яшчэ ніжэй — на ледзяны камень, дзе стаяць слоікі з розным саленнем ды марынаваннем.

Парабіўшы, што трэба, зноў, цяпер ужо абое, падпіраем спінамі халодную грубку і насцярожана прыслухоўваемся да кожнага гуку, хоць добра ведаем: калі надумаецца хто завітаць, Вулкан адразу ж дасць знаць — парвецца на ланцугу ад брэху.

— Ці памятаеш, Валодзя, бацьку Іванавага? Як гэта яго звалі? — пытае маці.— Максі-мі...

— Максімам звалі.

— Гэта ў вуліцы. А правільна Максі-мі... Максіміян, во! Максіміян Мадэставіч. І любіў жа, халера, калі гэтак, на ўвесь радок, распісвалі. Твар доўгі, што ў таго самагоншчыка, але адразу круглеў, як скажаш, бывала: — Максіміян Мадэставіч...

— Ты пра якога самагоншчыка?

— Ну, каторы ў кіне. Артыст такі ёсць. Сам сур'ёзны, камень-каменем, а глядзіш на яго — пуза ад смеху дрыжыць.

— Нікулін?

— Можа. Хто іх там...

— Каланок зверываты быў. На яго зірнеш — рагатаць не будзеш.

— Ну... Гэта ўжо час такі выпаў. Вайна...

Маці змаўкае. Склаўшы на грудзях рукі, яна ціха стаіць ля грубачкі, і вочы яе разгублена блукаюць па стале. Я таксама гляджу на столь: шпалеры там жоўценькія, быццам тонка раскатанае цеста, і на гэтай жаўцізне мроіцца мне скасабочаная суседская хата...

Яны прыехалі з-пад Смаленска недзе за год да канца вайны. Усе ў нашай вуліцы дзіву даваліся: куды ад галечы беглі, быццам тут не той самы немец папахадзіў? А як дазналіся, што там, на Смаленшчыне, усё іхняе агнём ды дымам пайшло разам з хатай, зразумелі: тут ім палягчэе. Як-ніяк, а суседка наша цётка Уліта даводзілася Максіміяну стрыечнай сястрой і хоць шмат не мела, ды трупехлая хата, усё ж, стаяла — ад халадоў схавацца было дзе. А якая ж болей палёгка ад Уліты Каланкам? Жанчына ў вайну ледзь не зусім аглухла,

падбілася і жыла, можна сказаць, ужо не сваім цяплом. Зіму праседжвала на печы, лета — на сонцы. Сіл не хапала нават на тое, каб з уласнага гародчыка якую карысць браць: зямлю прыбілі дажджы ды вятры, густа ўзялося пустазелле. Нечым трэба было паліць печ, і бацька мой дапамог разабраць хлевушок. Суседзі прыносілі ваду, а мы, дзеці, забягалі са шчаўем, пілавалі і секлі лёгкія трупехлыя бярвенцы. Яшчэ памятаю, як пад Новы год, калі ціскanулі маразы і не стала мне ў чым выйсці на снег, цётка Уліта нячутна завітала ў хату з загорнутымі ў хусцінку белымі катанкамі. На маю нагу яны аказаліся велікаватыя, але затое цёплыя, што пячуркі, з тонкімі і мяккімі, аж шаўкавістымі, халяўкамі.

Калі б Каланкі прыехалі раней — не бачыць бы мне белых валёнак. Ды яны прыехалі пасля той зімы, вясною: з бацькам — чатыры хлопцы. Старэйшы, Паўлік, пайшоў у шосты клас, другі, Іван, што быў адных год са мной — у чацвёрты...

— А хлопцы раслі добрыя, праўда? — пытаюся ў маці.

— Супраць хлопцаў нічога не скажу. Колькі там бацька зарабляў бухгалтарам, слёзы адны, каб на шэсць ратоў хапіла. Дык яны, глядзі... Худзізна Міцяй у школу не хадзіў, а рыбнікам задзелаўся — з Сожа не вылазіў. І большыя. То бульбіну валакуць адкуль, то грыб з лесу. Паўлік трохі павучыўся — у каўбасні прыстроіўся. Зайду, бывала, дык яны кухараць ля печы. Уліта з-за коміна толькі камандуе.

— І ніхто ў карак не гнаў. Самі ўсё.

— Бацька ганяў. І жывот пусты. Не забуду, як Іван на яйкі біўся. Адразу пасля вайны на вялікдзень у цэнтры горада мужчын цьма збіралася. Аднаго разу іду ў краму, што на рынку стаяла, бачу — Іван шнырае. То да аднае купкі прылепіцца, то да другое. Нарэшце асмеліўся, уцёрся паміж мужчын, і ўжо я не бачыла, як і што ён тамака нарабіў, толькі скоранька назад выскачыў. Прыціскае да грудзей яйка, палахліва азіраецца. А за ім гэтакі здаравяка. Як падсадзіць ён Івана выспяткам, у мяне ажно сэрца адарвалася. Па вуліцы, дзе цяпер стаіць універмаг, тады там адзін палын буяў, як дасць наш Іван дзёру. А за ім той. Вось дагоніць, заб'е, думаю. Дзякуй богу, што не дагнаў.

— Прайграў яйка і не аддаў?

— Дзе там! Яно яму даражэй за галаву было. Але ж як хацеў выйграць, бо-ожачка мой! — Уздыхнуўшы, маці кідае на мяне лагодназадумёны позірк і, як спахапіўшыся, дадае: — Ну, я пайду.

— Не прыйдзе ўжо.

— На аднае назе прыскача, калі на двух не прыйдзе.

— А памятаеш, як ты Каланку свайму вынес з хаты апошні хлеб. Абы ён з торбай па людзях не ішоў.— Памаўчаўшы, зноў кажа: — Дык я пайду.

У сценах шархаціць парывісты вецер, гоніць у шыбы апошняе скаржанелае лісце. Днямі зямлю пацалаваў першы замаразак, і самае дзябёлае лісце, што нейкім цудам яшчэ трымалася на акацыях, парудзела, скурчылася ў трубкі, а цяпер з ветрам ляціць у вокны. Вецернахаба ў падстрэшку адбівае свае рытмы шалёўкай, свішча цененька на гары, усё роўна як высадзіў у каторай дзеравіне сучок, і, блазнуючы, дзьме ў гэта круглае вочка. Нешта нагоніць: не дождж — дык снег.

Вечар бяжыць. У пакоі салодка пахнуць вяндліна і хлеб, смолкім ельнікам цягне ад рыжыкаў. А я думаю, што ўся гэта радасць — не радасць, калі яе няма з кім падзяліць, калі чалавек адзін. Шкадую, што не напаліў грубачку; удзень не купіў мацнейшае лямпачкі ў люстра, каб святло не так жаўціла пакой; што ў тую ж хвіліну, як маці сказала, не выскачыў на вуліцу і не паклікаў Каланка.

Кінуўшы пад галаў маленькую вышываную крыжам падушку, не распранаючыся, нібыта пасля доўгай дарогі, валюся на канапу і зноў чую, як гуляе па гары і шастае, шастае за сцяною вецер, усё роўна як нехта тасуе калоду новенькіх, яшчэ не пашарпаных, картаў.

Зноў ціха. І жаўціць у ваччу, аж галава кружыцца — ад курасляпу і сонца.

На Іванавым плячы — процівагазная сумка палыновага колеру, тая самая, з якой пасля школы, задворкамі, каб не згледзела вуліца, ён часцяком праступе да Сожа. У разваліках даваеннага шлюза распранаецца, запіхвае адзежыну ў сумку і бродам рэжа рэчку, а там па вербалозавых джунглях шыбуе ў бліжэйшыя зарэчныя вёскі прасіць...— хто што дасць. Зараз у сумцы няма ніводнае шчаўінкі. І чаму на заліўным Пятровым лузе не стала шчаўя? Адна жаўцізна высыпала: дзьмухавец з курасляпам раскашаваліся. Іх тут як хто сеяў. І не пасеялі шчаўе. А яно ж цяпер усім патрэбнае. Давядзецца валачыся аж за шведскі курган, бо там, пад лесам, шчаўя заўжды навалам. «Я пайду з табою, хочаш? Магу хоць кожны дзень хадзіць за курган, толькі б не ганяў бацька з праклятай сумкай па вёсках. Не хачу пабірацца...» Гэта енчыць Іван. Але дзе ён сам? Чаму пустая сумка валяецца на жоўтым курасляпе ля маіх ног, а самога няма....

Галаву водзіць, як ад хмелю, вочы заплываюць жаўцізной, ды не надоўга: жаўцізна растае хутка, што снег пад вясновым сонцам, і вочы ломіць ужо не ад святла, ад цемені. Гэта суцэльнае цемрыва напал раскройвае вузкая палоска сонца, і я здагадваюся: то адчыніліся вароты хлява, а за варотамі будуць двор і хата. У хляве калісьці стаяла гаспадыніна карова, пакуль не забралі немцы. Цяпер скацінай тут нават не пахне. Нават гноевы дух скавышамі выветрыла. Адна саламарэзка яшчэ ўцалела, стаіць — сведка колішняга дастатку. Вясновая цяплынь сюды яшчэ не дайшла, таму стары посціл пада мною цупкі, умёрзлы. Я трымаю пад куфайкай паўбохана такога ж цупкага хлеба і слухаю скігатанне вятрыскі. Гэтак сама скігочуць і мышы. Галодныя, як і людзі, яны цяпер не баяцца нікога, бо за вайну і каты павыводзіліся, нават на развод па ўсёй вуліцы не засталося. Я слухаю, як плача вецер, і мне здаецца, гэта румзае наша Нінка... Напэўна, хлеба просіць. Ёй заўсёды ўсяго мала. А каб не схадзілі з Іванам за курган, дык не пакаштавалі б і шчаўя. Ужо даведалася пра хлеб, што схаваны ў мяне пад куфайкай: заўсёды пранюхае, а затым бацьку нашэпча. І маці. Галоўнае — бацьку, ён у нас строгі. Толькі, можа, бацька і сам спахапіўся... Я таропка мацаю рукамі пад куфайкай, але хлеба няма, і мне робіцца не тое, каб страшна, проста шкада бацьку, маці, румзу-Нінку, іх шкада больш, чым Каланка, і гэта якраз самае балючае, бо хлеб, аказваецца, ляжыць ужо ў Іванавай процівагазнай сумцы. Паблізу нехта чвякае гразёю. Рыпяць вароты, і прамень святла шырэе. Цяпер я ўжо бачу дзве тоўстыя нагі ў шэрых шарсцяных шкарпэтках і чорных бацькавых бахілах... Маці... Гэта яна. І голас яе, знаёма-лагодны: «Сынок? Ты дзе, Валодзя?» Стуліўшыся пад саламарэзкай, ледзьве стрымліваю дыханне, каб яно не выдала мяне, але ж і маці маўчыць, прыслухоўваецца. Не зводжу вачэй з яго ног, усё чакаю, калі ж яны першымі зрушаць з месца, калі бахілы павернуцца насамі да варотаў. Ды яны прыкіпелі, ці што? Хоць ты ім пасоб зрушыць з месца. Не, маці сэрцам чуе, што я недзе тут, у хлеве, і цяпер будзе чакаць, пакуль не падам голасу. Шорсткім рукавом тоўстай дыяганалевай кашулі выціраю твар, нос, вочы і затым толькі выграбаюся з-пад саламарэзкі. Аднак і цяпер не адважваюся падысці — яна сама падыходзіць да мяне, гладзіць па галаве цёплай шурпатай далон-

ню і ціхенька шэпча: «Нічога, сынок, ты ж не сабе ўзяў, праўда? Каланку? Я так і падумала». Мне падпірае крыкнуць на ўвесь двор— не ведаў я, што хлеб у хаце апошні, ды колькі не зяўкаю ротам — голасу няма, хоць ты заплач. «Ну, нічога,— суцяшае маці.— Пайшлі ў хату». Па чысценькіх, быццам падмытых, кладках — і адкуль узяліся такія? — яна вядзе мяне за руку ў хату, а там за сталом сядзяць бацька, Нінка. Белыя алюмініевыя міскі перад імі пустыя, адна мая стаіць яшчэ поўная. Я моўчкі сядаю да стала. Ніхто і вокам не вядзе ў мой бок, а бацька пачынае гаварыць зусім не пра хлеб — пра хату, каторую нам пара будаваць, хопіць па чужых кутах цягацца, тым больш, што цяпер бяздомным лесу даюць, колькі хочаш, пляцы добрыя — толькі будуйся. І лес недалёка: за шведскім курганам, у Анціпавай дачы. Супакоены, я бяруся за лыжку, ды ў апошнюю хвіліну карціць сказаць усім, што заўтра, у нядзелю, мы з Каланком прадамо свае ўласныя жорны і на выручку купім хлеба. Рабілі жорны з Іванам удвух, спадзеючыся, што з імі ў хаты нашы прыйдзе хлеб, а яго і пры жорнах няма.

Але чаму жорны грукочуць цяпер? Тады ж, за год да канца вайны, мы з Каланком выменялі іх за тры боханы хлеба. Грукочуць ціха, як праз сон... Сабака залівaецца чыстым і свежым голасам, нібы маладых... Ды гэта ж Вулкан... Там ідзе Каланок.

У галаве яснее, і я прачынаюся. Скочыўшы з угрэтай канапы, дзіўлюся, што ўсю ноч спаў апрануты, як на вакзале, і бачу: светла не толькі ў пакоі, дзе ззяе не выключаная звечара люстра, але і там, за акном, дзе ў прывычнай воку сінявата-ружовай смузе пачынаецца новы дзень.

Суха блішчаць шыбы, прыхопленыя першым марозам. Праз іх асмужаную чысціню ясна адчуваеш перадзімовы настрой за вокнамі, дзе парыпваюць, тручыся адна аб адну, голыя галінкі вішняку, трапечуць шызыя бароды на акацыях, звыклыя да халадоў астры скідаюць на дол апошнія пялёсткі, ці даўно налітыя гарачай чырванню. І нават белыя мурашы... Яны ціха плывуць з неба, яны паспешліва садзяцца на плот, хаты, дрэвы.

Першы снег. Ён заўжды — што абноўка малому.

А Вулкан зноў шалее на ланцугу. І нечы голас чуваць. Нехта крычыць на Вулкана.

Цераз усю хату я іду да дзвярэй. Цяпер масніцы пасопваюць пада мной, і маці, пачуўшы іх, кідае з-за печы:

— Там нехта з Вулканам гаворыць.

Яна яшчэ спадзяецца, што Іван прыйдзе.

З сенцаў выходжу на двор, загінаю за хату і сцяжынкай паўз самыя вокны збягаю да варот, ля якіх стаіць сабачая будка. Вулкан бразгае ланцугом і, падцяўшы хвост, валачэ ланцуг у будку і там — як вымірае.

Сабака, усё ж, не дарма брахаў. На той бок веснікаў сапраўды стаіць чалавек тых гадоў, калі мужчынам назваць яшчэ цяжка і ўжо нельга — хлопцам. З ім мы падымаемся на ганак, і ўжо на ганку я пытаюся:

— Напэўна, да маці?

— Я Міцяй Каланок. Не пазнаяцё?

— Самы малодшы, здаецца?

— Ну... Пад стол пешшу хадзіў, калі суседзямі жылі. Памятаеце?

— Даруй, Міцяй, не пазнаў я адразу.

— Ды што вы...— Ён стаіць перада мною з халоднай, быццам чужой, усмешкай на крыху зніякавелым твары. Зацята-ціхі, як і та-

ды, у маленстве, ён падобны на Івана: у яго гэтакія самыя вузкія, быццам у мангола, вочы, тонкія губы і нос. Нясмеласць у яго не братава, чыста свая, і гаворка свая — кароткая, разважлівая: — Іван прасіў забегчы. Раніцой ледзь на поезд паспеў. На хаду ўскочыў. Яшчэ хвілінка — застаўся б.

— Можа б тады час знайшоў завітаць,— злуюся я, і Міцяй вінавата просіць:

— На яго не крыўдуйце. Гэта я ўчора затрымаў на ўвесь вечар. Мы з ім таксама колькі не бачыліся... А ён праездам, усяго на адзін дзень забярнуў. Служба такая, вайсковая.

Што ж, бывае і гэтак: чакаем аднаго госця, а прыходзіць другі. Мне яно не ўсё роўна, Івана ці Міцяя бачыць, хоць Міцяю рады таксама. Затое ў маці цікаўнасць да Міцяя, напэўна, такая ж, як да Івана: ёй абы на каго з Каланкоў паглядзець.

— Дзе ж ты робіш, Міця? На нашым цэмзаводзе? І вялікая пасада? Ёсць жонка, дзеткі?..— дапытваецца яна, і негаваркі, як тады, у маленстве, Міцяй вымушаны разгаварыцца. Ён расказвае, што скончыў у Харкаве інстытут, працаваў старшым майстрам на цэментных заводах пад Новарасійскам, затым па абмену вопытам прыязджаў сюды, у Крычаў, і тут, на цэмзаводзе, прапанавалі інжынерную пасаду. Пераехаў. Тут ажаніўся. Заняў асобны пакойчык пры інтэрнаце, але ўжо выпісалі ордэр на двухпакаёвую кватэру.

— Увесь час і жыў на цэмзаводзе, як прыехаў? — хоча ведаць усе падрабязнасці маці.

— Спачатку ў цёткі Улі.

— Цётка Уліта жывая? — нечакана зрываецца ў мяне з языка, і, адчуўшы, што спытаў не да месца, ніякавею ўжо сам перад Міцем. Праўда, калі разабрацца, дык адкуль мне ведаць, яна жывая ці не: столькі вады сплыло, як пераехалі з Балотнай у сваю новую хату ў другі канец горада, а Уліта тады ўжо ледзь цеплілася.

— Слабенькая. Мы ёй пасабляем.— Мусіць, вельмі шкадуючы цётку, ціха прызнаецца Міцяй і, пакутліва звузіўшы малыя, як ва ўсіх Каланкоў, вочы, задумваецца.

...Міцяй пабыў і пайшоў, а я зноў адчуваю, што для мяне ён зусім не тое, што Іван. З ім разам у школу мы не хадзілі, шчаўе за курганам не збіралі, жорны не майстравалі і хлеб, пра каторы Міцяй так і не ведае, я выносіў з хаты для аднаго Івана. Пакуль сядзелі, снег за акном разышоўся, і цяпер відаць па нораву: ідзе не ў госці — надоўга. З першым снегам у душу ўрываецца здаўна знаёмае свята абнаўлення. Прысвіствае на гары вецер, і думка-прыблуда нагадвае, што недзе там сярод старых атопкаў, рызманоў, ламачча ляжаць даўно зношаныя, паточаныя моллю і пылам катанкі, якія на апошнім годзе вайны прынесла мне цётка Уліта. З гэтай думкай злосць мая на Івана не гасне, але не меншая злосць нечакана падымаецца супроць самога сябе: як магло стацца, што ад тае ваеннай пары ніводнага разу не ўспомніў пра цётку Уліту?..

Холадна. Я выходжу на двор, да паветкі, дзе ў скірду яшчэ ўлетку скіданы бярозавы сушняк, набіраю яго ў рукі, як толькі можна абхапіць, і нясу ў хату.

Мы сядзім з маці на нізенькім услончыку перад грубкаю і слухаем, як за акаймаванымі вогненным швом дзверцамі гудзе полымя, і душа ля агню паступова дабрэе.

— Скажы, мама, а ты ведала, што цётка Уліта жывая?

Прасунуўшы качарэжку ў агністае шво дзверцаў, маці адчыняе іх, варушыць абгарэлыя чуракі, падкідае ім на падмогу яшчэ колькі, за-

думліва, не зачыняючы дзверцаў, глядзіць у агонь і разважліва прызнаецца:

— Неяк не думалася пра гэта. То хату будавалі, то вас гадавалі, а затым Ніна памерла, бяду выплаквалі. Не паспелі выплакаць, як бацька, зямля яму пухам...

— Гэта ж столькі летаў-зімаў адшастала.

— І яшчэ адшастае. Аб пражытым чалавек мала думае. Усё аб заўтрашнім ды аб заўтрашнім. Вазьмі хоць вас з Іванам. Як здружыліся, і ў якія гады, а і то — прыехаў і не зайшоў.

— Ён тут не вінаваты,— пачынаю апраўдваць Івана, быццам апраўдваю самога сябе.

— А я нікога не вінавачу, Валодзя. Наадварот...

Яна ўздыхае, асцярожна кратае рукой дзверцы, як спрабуючы, ці гарачыя. Маўчу і я, думаю: няўжо гэтак часта жыццё дае нам сапраўдных сяброў, каб з лёгкасцю асуджаць іх? Самі хіба не такія ж...

Матчын роздум вяртае мне дабрату, з якой можна зноў чакаць Івана, калі-нікалі спамінаць Пятроў луг, усыпаны кураслепам, прададзеныя пад канец вайны жорны, хлеб...

На вуліцы, хаты, дрэвы ціха і спорна сыплецца снег.

Першы...

Я гляджу на яго, і мне ўспамінаецца тая пара, калі я бегаў вось па гэткаму першаму снегу ў цёплых, быццам пячуркі, катанках цёткі Уліты.

## ДЗЕД

— А-а, Валодзя?! Ну, што стаіш за парогам?

Стары Курбака дробным крокам тупае да дзвярэй, моцнымі, як пруты, пальцамі хапае мяне за рукаво і цягне ў хату. Я пераступаю цераз шырокі, седлавінай выкаўзаны парог, ля свайго рукава лаўлю сухую дзядзькаву руку і цісну яе, здароўкаючыся.

Маленькі, сухенькі, што вымерзлая за хлявом цітаўка, стары, не падымаючы ног, шоргае па хаце ў высокіх рудых валёнках, быццам падмятае падлогу, і ўсаджвае мяне за доўгі, на ладную сямейку, стол. Я аглядаю хату, і ў вочы кідаюцца прачыненыя дзверы: адны — у дзядзькаву спальню, другія, побач,— у Лёнькаву. Там, што ў халасцяцкім інтэрнаце, раскошы няма: ложак, крэсла, столік, дыванкі на падлозе. Над ложкам вісяць партрэты нябожчыцы цёткі Усцінні і трох сыноў, што не вярнуліся з вайны.

Стары мяце валёнкамі ў сваю спальню, і мне відаць, як ён пачынае таропка прыбіраць з ложка загорнутыя ў шэрую паперу пакуначкі, рассоўвае іх у чамадане, што на высокую падушку адкінуў века, затым, трымаючыся адной рукой за спінку ложка, другой, сагнуўшыся, пхае чамадан пад ложак — далей ад вока.

— У дарогу сабраліся? — крычу, ведаючы глухату старога.

Ён нялоўка, трохі збянтэжана, выпроствaецца, маўчыць, затым шоргае валёнкамі да мяне, садзіцца супроць за стол, рукі апускае пад стол на калені і прызнаецца:

— Да ўнучкаў. Адно страшыць,— маразы...

— Даўно бачыліся?

— А з вясны. Як забрала яна Васю ды Волечку, як павезла, дык з таго часу...

— Улетку ж збіраліся, на спаса. Белы наліў, памятаю, пакавалі. А пасля, па восені, таксама казалі — едзеце.

— Ат, Валодзя...— Дзядзька махае рукой, і яна, важкая і цупкая, што смаляны корань, грукае аб стол.

— Што так?

— Ат...

Запалыя блакітныя вочы яго чырванеюць, і мне робіцца шкада старога. Памаўчаўшы, пытаюся пра Лёньку.

— А што яму? Ты во каторы раз, прыехаўшы, заходзіш, а яго ўсё няма. Бывае, і не начуе.

— Работа?

— Халасцякуе. Вядомая справа...

— Можа сёння дачакаюся. Вечар яшчэ далёкі. А пакуль... Тут у мяне ёсць...— Я падыходжу да вешалкі, дастаю з кішэні паліто пляшку гарэлкі, і твар дзядзькаў адразу мякчэе.

— Па каліву, га? Яно можна.

За сцяной парыпваюць тонкія дзверы: стары шоргае недзе ўжо ў кладоўцы, грукае, заходзіцца ад кашлю. Старыя, яны заўсёды такія — бягуць на холад, не апрануўшыся. Што малыя.

У хаце амаль кожная рэч мне даўно знаёмая, і таму новае кідаецца ў вочы адразу: паравыя трубы таўсцейшыя правялі, на сценах другія шпалеры, астатняе ж, здаецца, усё, як і было. Нават фарфоравы певень стаіць, дзе стаяў,— на падаконніку ў дзядзькавай спальні. Пузатага, з шырачэзна разяўленай дзюбай пеўня памятаю з пасляваенных гадоў, калі ён стаяў пад абразамі цёткі Усціннi. Медзякі глытаў для аднаго Лёнькі: на кніжкі, футбольны мяч, пазней — на гармонік. З таго часу ён быццам усохся, прыкметна сшэрх, пазалота і чырвань з хваста ды грабяня асыпаліся.

З патэльняй, усланай крамянымі скваркамі, з'яўляецца дзядзька. Ставіць патэльню на стол. Скваркі цвіркацць, што жывыя, плаваючы ў тлушчы, а стары зноў выходзіць у сенцы, прыносіць два салёныя гуркі і вялікі кубак расолу.

— Ну, па каліву...

Дзынкнуўшы шклянкай аб бліскучую абойму нікеляваных зубоў, стары п'е не спяшаючыся, затым крэкча, аберуч хапаецца за кубак, і бачу я, што за апошні час здароўечкам ён здаў. Ды дзе ж не здасі, столькі паперажыўшы хоць і за Лёньку? Адзін жа сын.

Прыродная дзядзькава дабрата зноў, як калісьці, сочыцца з вачэй. І можа ад гэтага мне куды лягчэй піць, есці, нават спытаць:

— У Лёнькі беспаваротна вырашана?

Стары трымае на відэльцы скварку, быццам любуецца ёю, а вусны і вочы зноў мяняюцца, заплываюць ранейшай стынню.

— Хто іх... Я хоць і бацька, ды ці ён распахнецца перада мною? Мусіць, павароту няма. Душа чуе.

— Лёнька не вінаваты.

— Ат, не вінаваты. Мала жыццём даражыць. Іначай не дапусціў бы. Не яе, дзетак пашкадаваў бы...

Збольшага я ведаю, як яны разышліся. Каса на камень наскочыла. Праўда, неяк жа і каса з каменем гадоў дзесяць мірыліся, дзяцей гадавалі, хоць выкачаліся яны больш ля дзеда, пакуль тыя бацькі працавалі ды рэзаліся паміж сабою. Адно не разумеў я, чым не дагадзіў дзядзька Аўхім сваёй нявестцы? Нястрымная ў лаянцы з Лёнькам, яна моўчкі цярпела старога, а ён, казалі, забыўшы на ўсякі гонар, стаяў перад фанабэрыстай нявесткай ледзьве не на каленях. Калі ад'язджала, маліў Васю з Волечкай пакінуць яму...

— Як жа з хатай? Новую ёй адсудзілі?

— Ужо і браценіка прыслала, каб прадаваў. Ды хату я не шкадую. Старая палагіна са мной, а яна мне даражэйшая за тую новую. З Усцінняй будавалі... Адразу пасля вайны...

— Як Лёнька захоча, то яшчэ прылепіць.

— Ды цяпер лягчэй. На сваім вяку чатыры разы гарэў, чатыры хаты ставіў. Першую — шчэ за рэвалюцыяй. Лес тады панскі быў, дык мы з бацькам куплялі бракованых коней, а то дохлых бралі; здзіралі скуру, мяса вазілі на панскую псярню. Трымаў пан штук дзвесце ганчакоў. Паспрабуй пракарміць арцель такую! За работу лес нам даваў. А калі ставіў хату пры нэпе, даход на анучах знайшоў.

— Вы ж і пасля вайны?..

— Да самай пенсіі рызманы збіраў. Два гады, як здаў каня ў райзаг. З-за якой трасцы, думаеш, нявестка не прызнала мяне? Анучны душок яе курчыў. Саромелася, душа далікатная. Не разумела, што пры маіх гадах ды атэстатах іншай работы не знайсці, а да пенсіі, хоць дзе, цягнуць трэба.

— У памяці і цяпер жыве песенька. «Налятай...»

— Не так, Валодзя. Во... «На-ля-тай, па-дзешавела, а-дзін руб — чырвоны пеўнік, за-а руб дваццаць — белы пеўнік»... Гэта ж я ў Муліка перахапіў. Не памятаеш Муліка? Таксама анучы вазіў, усё спяваў на возе.

Муліка я памятаю слаба, але затое ясна бачу, як дзядзька Аўхім тарабаніць па брукаванай вуліцы на высачэзным возе, гружаным рыззём. У перадку шырокіх, што стол, калёсаў стаяць, прывязаныя да аглабінак, глыбокія кашалі, і, калі Аўхім выпраўляецца ў вёскі, яны ў яго поўныя «райзагаўскімі» кірзачамі, мылам, кортам і шоўкам; калі ж вяртаецца назад — на самым дне застаюцца цукеркі, гліняныя пеўнікі-свісцёлкі, каторыя не паспеў збыць на анучы. З гэтай драбязой ён кіруе пад свае вокны і там, не выпрагшы каня, заляжалы тавар спяшаецца збыць за адны грошы, не просячы ўжо анучы на пай. Згледзеўшы дзядзьку Аўхіма, мы, дзеці, вымольваем у бацькоў якога рубля і стрымгалоў кідаемся выбіраць пеўнікаў...

— Што Лёньку ды нявестачцы маёй не хапала, каб жыць ды радавацца,— ціха, як сам з сабой, разважае стары.— Ад жыру шалела. Дурацкая рэўнасць муціла. А далей — болей. Як ноч, дык яна на печы, ён — на тахце. Адзін аднаму розум устаўлялі, пакуль зусім яго не страцілі.

— Нечакана неяк.

— А што чакаць, калі цаніць жыццё не можаце. Вам яно трынтрава. Тут жаніўся, там развёўся. А дзетак — на каго?..

Дзядзька шаркае нагамі пад сталом, быццам на іх там хто пута навесіў, быццам сіліўся рваць тое пута. Абойма зубоў схавалася пад сухой і дрыготкай губой. Відаць было, што старому холадна. Вялікія, не па яго малому росту рукі абапал шклянкі леглі на стол, стары падняўся і, не кінуўшы мне ані слова, патупаў у сваю спальню. Я таксама падняўся з-за стала, але падацца за дзядзькам не асмеліўся і спыніўся перад цёмным акном. З яго цякло, і на падаконніку блішчэлі ставочкі вады.

Стары сам гукнуў мяне. Асцярожна адчыніўшы лёгкія дзверы, я спачатку згледзеў не дзядзьку, а той самы чамадан, што стары хаваў ад майго вока пад ложак. Чамадан зноў стаяў на ложку, і гаспадар выкладаў з яго тыя ж пакуначкі, загорнутыя ў паперу.

— Зірні сюды, Валодзя. Касцюмчык Васю купіў. А гэта на Вольчыны ножкі боцікі цёпленькія. Гумовы мядзведзік ёй...



— Добрыя гасцінцы.
— Як думаеш, нявестка не прагоніць?
— Напэўна, не.
— Я ж не чужы. Вася ды Волечка мо кожны божы дзень спамінаюць дзеда. А мне яны... Адзінае вока ў ілбе...

Стары заціх над сваім чамаданам. Побач з ім, маленькім, схуднелым чалавекам, штосьці стала няёмка за сваю маладосць, сілу, лёгкасць. У вачах гойдаўся фарфоравы певень. Гатовы за адзін раз праглынуць не адну дзядькаву пенсію, ён, напэўна, забыў, калі бачыў зломаны грош: не на пятак, на цэлы рубель разяўленая дзюба зарасла павуціннем, густым і чорным. Мінуў час, калі певень быў у модзе і цане, асабліва ў вачах малога Лёнькі, калі ў фарфоравым трыбуху пазвоньвалі грошы.

— Дзядзька Аўхім, а дзе гармонік ваш, на каторы певень грошы збіраў? Памятаеце, шчэ кадрылю рэзалі...

— Рэзаў кадрылю. І вальсы. І карковяк.— Задумліва і адрывіста, быццам птушцы па гарошыне, кідае стары.— Купплялі Лёньку, а ён, гультай, парыпаў і закінуў. Я, бывала, дык урэжу...

Ён падыходзіць да шафы, рыпае дзверцамі і, прыгнуўшыся, у абдымках выцягвае з яе загорнуты ў хустку цяжар. Ставіць побач з чамаданам на ложак, разблытвае зверху тоўстую куксу, і душу ахоплівае былая радасць перад гармонікам, каторы сапраўды калісьці купляўся Лёньку і на якім па вечарах здорава, усё ж, выкамарваў дзядзька Аўхім. Чорненькі, з белымі перламутравымі планкамі і гузікамі, з падшыванымі чырвоным аксамітам рамянямі гармонік і цяпер яшчэ ёмка стаіць на вострых, быццам заточаных, каленях старога, а сам стары ўжо сядзіць на краі ложка і паціху, з роздумам, адчэплівае на мяхах маленькія раменьчыкі. Той вялікі рамень, што на

аксаміце, ён закідвае за плячо, левую руку кладзе на басы, і ў спальні нараджаецца першы працяжны гук, быццам інструмент выпускае з сябе застаялае паветра, каб удыхнуць свежаку.

— Цяпер ты ні Лёньку, ні мне не патрэбны,— шэпча, схіліўшы голаў, дзядзька.— Хіба для ўспаміну. А Васю самы б раз...

— Вось і вязіце. Гэткая радасць маломy адваліцца.

— Лёнька не дае.

— Шкадуе сыну?

— З голымі рукамі не пушчае, а хочаш, каб з музыкай. Баіцца, што прыніжуся перад ёй. А што мне яна, Валодзя? Мне б толькі зірнуць на ўнучкаў. Сам падумай, на гэтых старых руках выкачаліся. І пакорміш, бывала, і спаць паложыш аднаго і другога. Асабліва, як пайшоў на пенсію.

— А матка?

— Ат, матка... У яе работа, камандзіроўкі. Была і матка, а як спатрэбілася з малым Васяткам у бальніцу легчы, дык не матка, а дзед зноў жа.

— Як гэта? — не ведаючы, верыць старому ці не, пытаюся я.— Каб з дзедам? Такога ж не бывае...

— У нас бывала ўсё. Сам настояў, каб паклалі, не мог аднаго малога пакінуць. Цэлы месяц адлежаў з ім. Дзеўкі, каторыя там сёстрамі рабілі, спачатку ўсё рагаталі. «Вы дзед,— пыталіся,— ці баба? Мо і малако ў грудзях малому ё?..» А што грудзі? Іх ні Вася ні Волечка не бачылі. Бувала, світае, а я ўжо на рынку з бітончыкам. Каб самае свежанькае малачко ўхапіць... Адарвалі, Валодзя...

Абхапіўшы на каленях гармонік, ён апускае галаву на зведзеныя мяхі, цяжкавата сапе, і я не магу здагадацца, спіць на гармоніку або плача.

На дварэ несціхаючы, з прысвістам, як у рублёвыя пеўнікі дзядзькі Аўхіма, дзьме вецер, трашчаць ад марозу бярвенні на хаце, і гэты трэск нагадвае ўжо не стрэл з-за вугла, а такое, быццам які асілак падымае вугал хаты і лушчыць пад ім крохкія, наліўныя арэхі.

Тужлівы бас зноў ненарокам кранае цішу, і мне здаецца, што гэта той, выпушчаны з гармоніка, голас вяртаецца назад у мяхі — за белыя перламутравыя планкі.

На згоне зімы, недзе збегам сакавіка і красавіка, полуднем, калі вясновае сонца цвіло ў кожным воку і кожнай пратaліне, я сышоў з поезда Орша—Данецк і неспадзёўкі, ідучы да аўтобуса, заўважыў дзядзьку Аўхіма. Ён бег трушком да вагонаў з чамаданам у левай руцэ і вузляком — у правай. А ў вузляку ляжаў гармонік: нікеляваныя акантовачкі мяхоў блішчэлі з-пад хусткі, ды і хустка знаёмая — шэрая, з доўгімі махрамі, якую на маёй яшчэ памяці насіла цётка Усцiння.

Ён быў ужо ў вагоне, калі поезд нячутна крануўся з месца. Я стаяў і глядзеў у вокны вагона, як у вочы, спадзеючыся, што дзядзька Аўхім яшчэ пакажацца ў каторым з іх, ды сонца развяло там свае жоўтыя і ружовыя фарбы, густа заліло шыбы святлом, і ўбачыць штонебудзь было цяжка.

ПАЭЗІЯ

● *Па дарогах Купалы*



## Максім ЛУЖАНІН

*Пакідаў гняздо бусел,*
*Свае пожні і сосны...*
***Янка Купала.***



●

1

Скрычаліся, просячы рады, гудкі,
І зарыва мкне, абганяючы думкі...
А кнігі глядзяць і сяброў падарункі,
І клічуць пачатыя чарнавікі.

Ён грозіць бамбёжцы:
— Нічога, нябога!—
Зірнуў на гадзіннік:
— Гатовы ў дарогу?
— А клункі? — спытала Бянігна з парога.

Купала бярэ са стала алаўкі:
— Хоць самі б у сані...
Каб як у Ляўкі.

— Я дому прыгледжу...
— Што думаць аб ім!
Не будзем старцамі, заробіцца нешта...
Бянігна упарта стаіць на сваім:
— Навошта старую мяне павязеш ты!

— Адну не пакіну...
— Гаворыш дарма!
Ты сядзь каля маці, ўкусі чаго-небудзь,
Сунічкі ўдаліся, варыла сама...
Дай божа, каб мы не жадны былі хлебу.

— Чакае машына...
— Не з гэткіх я пань,
Усе не пасядзем, дый вы ж ненадоўга...—
А шлях не на дзень быў... З Масквы на Казань,
У цёмныя ночы бяссоння над Волгай.

— Паедзем жа, мамка! —
Да шчок хвартушок
Яна прыціскае:
— Я — клопат нявелькі...
І больш не кажы, не прасі, Янучок.
Чаго я за свет? Мне бліжэй у зямельку.
Цярпелі мы з ёю, яшчэ пацярплю...—

І змоўкла...
Становіцца ён на калені,
Цалуе руку і цалуе зямлю,
Прымаючы матчына благаславенне.

Ізноў, засланяючы сына сабой,
Адна застаецца ў пакінутай хаце
З адвечнаю,
многавяковай тугой,
Адвечная,
многавяковая маці.

І ўжо не галіны шумяць з-за акон,
А тлум галасоў, пératвораны ў попел...
І полымя, крыкі і слёзы вакол
У душу ўліліся да кроплі, да кроплі.

Народжана жыць і павінна гарэць
І сэрца, як слова, і слова, як сэрца,
Няхай на апошняй мяжы разарвецца —
На бок перад ім адступаецца смерць!

Ён едзе за Мінскам.
Бярозы стаяць,
Ад полымя твар засланіўшы, ад болю.

Бянігна прыперлася ў браме з таполяй,
Не чуе, не бачыць,— сама не свая,—
Паветра дзяўбаюць злавесныя птахі,
Нячысцікі быццам спраўляюць гульню...
З каменных плячэй
гмахі
ссоўваюць дахі
І нікнуць пад зыркай заслонай агню.

Гарачы вятрыска хусціну зрывае,
Упрочкі з дамоўкі пажар выганяе...
За сынам, на шлях!
Паспяшае ўдвая,
Нясе яна жару гаршчок у прыполе,
Пад вецер становіцца, сыпле вуголле,
І плача, і паліць няжатае поле
Купалава маці, старая жняя.

## 2

А Орша дрыжыць пад агнём з пераправ,
Дзе хваля ледзь-ледзь галаву падымала...
Па жоўтых прыступках сышоў да Дняпра,
Прысеў і задумаўся...
Горна Купалу...

Уночы прыехаў, не спаў да відна...
Бунтуецца плынь пад сухімі вачыма:
І тут ужо злыбеда-дзеўка —
вайна
Свой доўгі, распусны падол замачыла.

І крокі...
Пазнаў, пагукаў бы здалёк,
Ды сэрца нібыта заціснулі ў лубе.
Рвануўся насустрач:
— Адтуль, Каласок?

Здалі?
Падымім, пагаруем, Якубе.—

Нагнуўся, зачэрпаў пяску на далонь,
На дол ручаінка бяжыць залатая...
Напэўна, вось так, за аблонню аблонь,
Радзімы зямля ад яго адплывае!

Адпымі губамі:
— Цярусіцца жвір
На века труны мне...—
Суровее Колас,
Смутнее:
— А ты, сіраціна, жыві! *
Прыждаўшы зіміцы, мы станем на полаз...—

Па беразе дрот сувязіст пацягнуў,
У садзе акопы капае пяхота.
Купала зірнуў:
— Не бяруць на вайну...
Няхай не на фронт, хоць бы трохі у работу.—

Сясцёр абдымае, адвітвае сад,
Пруточак рабіны, разгатую грушку...
Забраць бы ў сувой трапяткі далягляд,
Разлогі і пушчы ў Дняпро абгарнуўшы.

Нашто тое што!
Калі ён у ва ўсім
І ўсё гэта ў ім неадлучна, навечна —
Садок, гадаваны пры доме сваім,
І сад, што падрос у душы чалавечай.

Падступіць чужынец — усходзіцца гром,
Вада перасохне ў крыніцах багатых,
І пырснуць зярняты свінцовым даждж́ом,
І яблык у жмені ўзарвецца гранатай.

## 3

Ходзіць Купала: акно і парог,
Столік,
званочкі не стоўпяцца ў слоік.
Першы,
направа ад сходаў,
пакоік,
Той,
дзе любіў папісаць,
нумарок.

Лёс гэты, час гэты ўсё збунтаваў!
Зноўку на меч перакута арала,
Льюцца паводкі агню і металу,—
Тут і юнак ці міне перавал...

А на стале, як тады на шашы,
Звоняць званочкі...
Яны пад бамбёжкай
Беглі, кульгалі на збітыя ножкі,
Следам за ім, за патокай машын.

Сінія...
Ўзбегшыся на курганы...
Вочы зямлі...
Пазірае, сырая!

* Радок Я. Купалы.

Вочы дзядоў яго праз дзірваны,
Сінім зацвіўшы, маўчком дакараюць.

Ходзіць Купала: чатыры сцяны...
Толькі ўсяго — пасля цэлага Краю!

З'ехаць куды... Падалей ад муроў.
Не, чаго добрага, ўвяжуцца сведкі...
Ставіць віно, накрывае сарвэткай,
Зараз пакліча на раду сяброў.

Як для вайны,— ніштаваты прыпас,
Можна б згуляць і вяселле Паўлінкі...
Раптам спыніўся:
— А можа, памінкі?
І зазлаваў:
—Не на час амбарас!

Думкі раяцца, патрэбен чакан...
Стаў над паперамі пры этажэрцы:
Звонам звініць, пакідаючы сэрца,
Чысты, высокі запеў «Партызан».

## 4

Загаварыў ён, смуткуючы, курачы:
— Роўныя слёзы — што ў Слуцку, што ў Суражы.

Літа і піта ўжо горычы ўволю,
Чутка за чуткаю сунецца ў двор:
Гэты забіты, а той вунь памёр,—
А ён — жывенькі! Пагульвае воін,
Весел і дуж, як з вады градавое.

Загадзя смуткамі не ахінайцеся,
З дзейкамі-чуткамі лепш размінайцеся.

Так і мяне пагалоска хавала —
Згінуў хлапец на другі дзень вайны,
Лётчык, мой цёзка... Было гаманы:
Чутка сказала — разбіўся Купала.

Калі аплакан,— дацягнеш да старасці,
Значыць, з Дняпром яшчэ зробім па чарачцы! —

Сумна сябрам і самому нявесела,
Мусібыць, іскры не высекла крэсіва...
Як жа там, дома? Вастрэй яшчэ ўспомнілі...

— Што ж у вас, хлопцы, кілішкі няпоўныя?
Каб не паслаблі, не прытупелі,
Вып'ем за шаблі ды партупеі.—

Змоўк і глядзіць на сяброў, выпрабоўвае,—
Не адгукаецца слоўца жартоўнае.
Мусіць, на жорсткіх дарогах абветрала...
Ён пачынае тады запаветнае:

— Кроіла сэрца, ці сэрца жывіла,
Лепш не пытайцеся ў песні мае...
Калі пачнеш, а дружбак запяе,—
Песня твая пераступіць магілу.—

Падаюць гулкія кроплі маўчання...
Ён падышоў на паўкрок да расстання:

— Кроў аддай, але ты не ў страце,
Толькі б слову было ў радку,
Як дзіцяці,
На ўлонні маці
Закалыханаму ў цяньку.

## 5

Рэдзенькі лес, паўгадзіны прывалу,
Зводку чытае пад елкай баец.
Цераз плячо зазглядаю:
Купала!
Не!
Гэта воку святла нестае.

Чорная рамка армейскай газеты.
Рэзкі, набліжаны болем партрэт.
Паведамленне аб смерці паэта.
А хіба можа памерці паэт?

Каб жа гукнулі, хоць думкай паклікалі,
Што небяспекай дыхнула на спеў,
Я б падхапіў вас, Іван Дамінікавіч,
Я ж бы і з фронту дабегчы паспеў.

Хай бы лічылі тады дэзерцірам,
Я ж не ад танкаў падаўся назад!
Штандараносца
са смертнага выраю
Адратаваўшы не вінен салдат.

Але ж не горшыя хлопцы стаялі
Поруч з бядою...
Душу б аддалі,
Каб не пакінуў ён нас на Купалле,
Не пастаяўшы на роднай зямлі.

Не блаславіўшы ні сэрца, ні зброі,
Не адказаўшы нікому пяра,
Тога, агністага,
вырваў якое
З вечнасці крылаў рукой песняра.

Выйшаў на сходы — за мараю ўгору!
І за вайной, за бядой уяўляў
Ўсю Беларусь, неаб'ятну, як мора *—
Рушыў насустрач і раптам упаў.

Мёртвай пятлёй калі лучыць пілот
Сіняе неба з крывавым палеткам,
Стаўся ягоны апошні ўзыход,
Страшны палёт па-над лесвічнай клеткай.

## 6

Вырвуся з болю, суцішу заплачкі,
За далягляды сягну і зірну:
Варта сяброў...
У жалобе спявачка
Польныя кветкі кладзе на труну.

* Радок Я. Купалы.

Сінія...
Сёстры тым сінім,
з радзімы,
Што ўсё званілі, не моўклі ў душы,
Што пазіралі краіны вачыма,
Не адарваўшыся з мінскай шашы.

Нібы прарочылі страшнае дзіва,—
Гора — адно не прыходзіць у дом...
Трэба ж, як сталася!
Той жа гадзінай,
Тым жа спякотлівым чэрвеньскім днём,
Разам абоіх жвіры прыгарнулі,
Хлеб напалам і жыццё напалам:
Не пераджыў ні на хвілю матулю,
Маці яго пераджыць не магла.

І партызанка, што ўпотай Купалу
Воддаль кахала,
з таполі яго
Беднай нябожчыцы лісцік сарвала,
Горад згарэў —
не было больш чаго.

Пературжыўшы пры тых дамавінах,
Іншая маці — мая і твая —
Салютавала на рэйках краіна
Сыну, што паліць пабедны маяк.

Ён у дарозе, выходзіць на страму,
Сочыць, як досвіткі цепліць народ,
І па кастрах партызанскіх
дадому
Значыць шчаслівы і хуткі зварот.

Чуеш, салдаце?
Гарматы павезлі,
Пражэктары скрыжавалі мячы.
Штандараносец войскаў паэзіі
Перад палкамі —
і сцяг на плячы.

## 7

Як толькі аціхнуць марозы
І пойдзе грымець крыгаход,—
Над шпаркай ракою Бярозай
Знаёмы гукне параход.

Я з Мінска, з праспекта Купалы
Убачу, пачую здалёк
Тугія зялёныя хвалі
І доўгі зазыўны гудок.

Вандроўка —
Як радасна гэта!
Хвіліна, не болей, на збор.
І вось, нібы ў дом да паэта,
Па сходцах ступаю на борт.

Плывём у расцвіўшае вецце,
Нясе, падымае вада,
І хораша сэрцу жывецца,
І воку далёка відаць.

Тужэй падпяражуць абшары
Пояс сіняватых бароў,

Ужо не за хваляй, за марай
«Купала» ідзе на Днявро.

I тут грамада маладая
Рукою аблок дастае,
Купалавы вершы чытае,
Купалавы песні пяе.

А пройдзем ад мора да мора,
Што злучаны доляй адной,
I ўспыхнуць паэтавы зоры
На стрэчы з Масквою-ракой.

I дома гарадь і за светам
Высвечваюць, як маякі,
I новыя словы паэтам
I новыя рэкам шляхі.

8

Поруч быў, а стаў, мае сябры,
Звонкай песняй, грознай бліскавіцай,
Белым параходам на Дняпры,
Самай спеўнай вуліцай сталіцы.

Станьце ў ратны шэраг, песняры!

# Падрыхтаваны да друку вершы Сымона БЛАТУНА, Анатоля Грушы, Анатоля СЕРБАНТОВІЧА, Рамана ТАРМОЛЫ, Міколы ФЕДЗЮКОВІЧА.

ПРОЗА

● Васіль ХОМЧАНКА

● Мал. А. БАРАНОЎСКАГА



# ВЯЛЕНЫЯ СУДАКІ

АПАВЯДАННЕ

## 1

х, гэтыя сны! Столькі гадоў прайшло, а сніцца той вузкі пясчана-камяністы востраў з трывожнымі крыкамі чаек і тыркусаў, востраў, на якім ажно кішэлі змеі і раслі толькі адны калючыя кусцікі вярблюдовай травы, з жаўтаватымі і малюсенькімі, як мышыныя язычкі, лісткамі. Змеі выпаўзалі на гульбішчы са сваіх сховішчаў раненькай вясной, недзе ў пачатку сакавіка, калі пачынала добра прыграваць сонца, узбіраліся на цёплыя бакі камянёў, перапляталіся ў клубкі...

У той цёплы і ціхі сакавіцкі ранак, які больш за ўсё помніцца, мы выйшлі на куласе ў мора, на досвітку выбралі рыбу з пастаўленых увечары сетак і на ветразі вярталіся да берага. За рулём сядзеў наш кормшчык Андрэй Паўлаў, гатаваў юшку на жарніку кіргіз Абдурахамідаў (мы яго называлі карацей — Абду), а я памагаў ветразю — веславаў. Ветрык ледзь дыхаў, ветразь раз-пораз абвісаў, і тады Абду таксама садзіўся за вёслы. Мора блішчала роўным зеленаватым бляскам. Следам за намі плылі два цюлені, ныралі і ўсплывалі, раскаціста рыкаючы. На мачце, нанізаныя праз шчэлепы на вяровачку, вяліліся судакі.

— Давай, давай! — падшпорваў нас Паўлаў.— Весялей вяслуйце! Юшка і без вас зварыцца.

Голас у нашага кормшчыка зычны, уладарна-камандзірскі. Без гэтага «давай-давай» і яшчэ некалькіх моцных слоў ён, здаецца, не

здолеў бы гаварыць з людзьмі, анямеў бы. Здаравяка, з чорнымі касматымі брывамі, Паўлаў меў самавіты, паважны выгляд. Такіх прымаюць звычайна за вялікіх начальнікаў. А ён усяго быў кормшчык куласа, малодшы сержант пяхоты, рыбак, як і мы.

Бяршоў і судакоў у той дзень мы ўзялі цэнтнеры тры. Заблыталася ў сетцы і адна сяўруга кілаграмаў на дзесяць. Было штук пятнаццаць заломаў — вялікіх тлустых селядцоў. Кулас да берага набліжаўся павольна. Мы ўжо добра распазнавалі ўсё на прычале: грузавічок, які павінен павезці ў пасёлак рыбу, прыёмшчыцу Эльту, пасялковых людзей, што кожную раніцу прыходзяць сустракаць куласы, з надзеяй выпрасіць якога бярша...

Нас чакалі. Дванаццаць рыбакоў на чатырох куласах выручалі пасялковы рабочы люд. Нашай рыбай замянялі ў магазінах мяса, цукар, часам і частку хлебнага пайка. Сталоўка карміла нафтавікоў таксама амаль адной рыбай. Нас ведалі ўсе — і старыя і малыя. Ідзеш па пасёлку, а з табою вітаюцца незнаёмыя, называюць па-бацьку. Вечарамі да нашага рыбацкага доміка прыносілі мяняць на рыбу ўсё, што не паспелі адвезці ў Баку на рынак: адзенне, як правіла, мужчынскае, сервізы, розныя статуэткі, паўлітэркі даваеннай гарэлкі, кнігі...

Праўда, мы і такое чулі: «Прыгрэліся ў тыле...» Для нас гэта было балюча, як удар пад дыхавіцу. На фронце мы ўжо былі, мелі раненні, доўга валяліся ў шпіталях. А калі падлячыліся, далі водпуск на чатыры месяцы — сілы набрацца. Мы і сталі рыбакамі.

— Абду,— сказаў Андрэй,— схавай вяленае.

Той зняў з мачты нізку судакоў,— наш асабісты запас,— і засунуў пад банку, далей ад вачэй начальства.

Больш не веславалі. Памацнеў вецер, і да самага прычала прыйшлі на ветразі.

— Зірні, вунь Эльта,— паказаў Абду на прычал.— Сёння нармальная.

Заўчора мы ўбачылі яе п'яную. Ухапіўшыся за агароджу пасялковага садзіка, яна плакала і брыдка лаялася. Было дзіўна: Эльта і такое... Мы ведалі яе даўно. У прыгожую і непадступную, напалову эстонку, напалову армянку Эльту былі закаханы Андрэй і Абду... А заўчора я і Абду ды яшчэ нейкая жанчына сілком адвялі яе дамоў. Пакуль жанчына ўкладвала Эльту ў ложак, я і прачытаў скамечаную страшную паперку — пахавальную на яе апошняга брата...

Эльта стаяла каля грузавіка, прыхіліўшыся плячом да борта.

— Слухай,— штурхнуў мяне Абду.— А яна на тваю Марыну падобна: чорная галава і чорныя вочы.

— У Эльты вочы цёмна-сінія,— паправіў Андрэй.

Чалку на беразе злавіў Гурген. Бесцырымонна адціснуўшы ўсіх назад, ён падцягнуў кулас, закруціў канец чалкі за прычальны кнехт і ступіў у кулас. Прывітаўся з усімі за руку.

— Давай грузіць, давай! — нецярпліва пастукаў ён нагой па банцы.— Эльта, кош!

Рыбу скінулі ў кашы, узважылі і перанеслі ў кузаў. Эльта бледная, з запалымі вачыма,— вочы ў яе сапраўды былі сінія,— здаецца, нічога і нікога не бачыла. І на нашы прывітанні не адказала, нават галавой не кіўнула. Абду асцярожна дакрануўся да яе пляча, сказаў:

— Нічога, Эльта, нічога. Я табе паясы са змяіных скурак дам. Залатыя паясы.

Грузавік павёз рыбу ў пасёлак. Туды паехала і Эльта.

— Гурген, як твой курсак? — спытаў Андрэй.



— Дрэнны курсак,— паляпаў сябе па жываце Гурген.— Есці многа давай-давай хоча.

Я кожны раз пры сустрэчы з ім дзівіўся, які ён высокі і дужы. У маладосці Гурген выступаў барцом у цырку і важыў сто дваццаць кілаграмаў. Казалі, што аднойчы, яшчэ перад вайной, заспрачаўшыся з некім, ён з'еў засмажанага барана. А цяпер былі карткі, шэсцьсот грамаў хлеба на суткі, чарпак супу, у якім, як гаворыць Гурген, крупінка за крупінкаю ганяецца з дубінкаю. За некалькі ваенных месяцаў ён зачах, змарнеў. Сваю месячную пайку з'ядаў за пяць-шэсць дзён. Калі ж прадаўцы не давалі хлеб уперад, хапаў гіру, пагражаў забіць. Ён заўсёды хадзіў прыгнуўшыся, спадзеючыся знайсці на зямлі, што можна было б кінуць у рот: абрыкосавую костачку ці агрызак яблыка. Нядаўна ён наеўся гэтых костачак і ледзь не атруціўся. Выратавалі ў бальніцы. А цяпер прыбіўся да нас. Кожны дзень прыбягаў на прычал, памагаў тое-сёе рабіць, за што мы давалі яму рыбіну. Так і ратаваўся ад голаду.

— Дрэнны курсак,— сказаў Гурген і зірнуў на Андрэя. Той кіўнуў галавою. Гурген выцягнуў з кармы бярша, запіхнуў яго за пазуху ды патрусіў у пасёлак.

Юшка была гатова. Яе духмяны парок казытаў ноздры. Абду паставіў казан на банку, і мы ўзяліся за лыжкі.

Самаю смелаю з дзятвы, якая стаяла воддаль, аказалася дзяўчынка са стрыжанай пад машынку галавой, відаць, пасля хваробы. Яна падышла, спытала:

— Дзядзечкі, ці не трэба вам пенал? У яго восем алоўкаў улазіць.

Унурыўшыся ў казан, мы моўчкі сёрбалі юшку.



— Дзядзечкі,— цягнула сваё дзяўчынка.— Усяго адну рыбку за пенал.

Абду не вытрымаў, выхапіў бярша з прыхаванай намі ў карме рыбы і кінуў дзяўчынцы.

— Бягом! Марш адсюль!

— А пенал? Вазьміце.

— Бягом, гавару. Ну?!

Дзяўчынка пабегла, а далей, як і кожны раз, паўтарылася тое ж самае. Астатнія дзеці, што нясмела гурціліся воддаль, рушылі да куласа. Ветрык ад мора даносіў да іх пах юшкі, нясцерпна смачнай. Падышлі, сталі, глядзяць і маўчаць.

— Кыш! — махнуў на іх Андрэй.— Няма больш рыбы.

— А мы так пастаім,— сказаў, адступіўшы назад, хлопчык, які трымаў за руку пяцігадовую сястрычку. Дзяўчынцы, якая глядзела на нас з разяўленым ротам, ён ціхенька сказаў: — Ты нюхай вось так.— Сам глыбока ўцягнуў ноздрамі паветра.— І есці не будзеш хацець.

Дзяўчынка разнюнілася:

— Я нюхаю, а ўсё роўна есці хачу.

Другі хлопчык сказаў:

— Дзядзечкі, я вам песню праспяваю. Ваенную.— І заспяваў: — «Каховка, Каховка — родная винтовка... Горячая пуля, лети...»

Паўлаў кінуў у казан лыжку.

— Я наеўся,— сказаў ён і падняўся.

Я і Абду таксама падняліся, выйшлі з куласа.

У казане засталася юшка. Лыжак было тры, а дзяцей — шэсць.

Юшку яны даядалі ў дзве змены. Самы старэйшы хлопчык, той, што быў з сястрычкай, сказаў, аблізваючы лыжку:

— А Эльта ў салдаты ідзе. На фронт.

— Куды? — спытаў Абду, і губы яго ўздрыгнулі, паказаўшы цёмную, на два зубы, шчэрбіну.— На фронт?

— У ваенкамат заяву падала. Заўтра забяруць.

Абду сеў, паклаўшы на калені кулакі. Твар яго пашарэў. А верхняя губа ўздрыгвала і перакошвалася. Гэта так бывала з ім ад кантузіі, калі ён хваляваўся.

— Твая на вайну не збіраецца? — штурхнуў мяне ў локаць Андрэй.

— Не. А можа і збіраецца...

## 2

Мы разаслалі на пяску ветразь і разлегліся на ім, скінуўшы кашулі. Прыгравала сонца. Андрэй гладзіў сваю левую руку, усю ў чырвоных рубцах і шрамах, спрабаваў згінаць у локці. Абду сядзеў, падабраўшы пад сябе ногі, з паголенай галавою, абыякавы і нейкі адчужаны. Потым апрануў ватоўку, абуў гумавыя боты, падняўся і пакрочыў ад берага, нізенькі, прысадзісты, з крываватымі нагамі. Шырокія халяўкі ботаў гучна ляпалі па лытках. Ён пайшоў лавіць змей і здзіраць з іх скуркі. На паясы для Эльты.

Неба, дагэтуль сіняе, пачало пакрысе зацягвацца рэдкімі белымі, як марская пена, воблакамі. Было яшчэ рана, гадзін дзесяць. Я глядзеў у неба і думаў пра Марыну. Усе свае дзесяць вяленых судакоў — харчовы запас на выпадак доўгай марской непагадзі — адвязу Марыне. Даехаць да Баку і вярнуцца назад можна сёння, за вечар і ноч. Калі ж спазнюся, Андрэй і Абду ў мора адзін дзень не сходзяць. Хай адпачнуць.

Апошні раз Марыну я бачыў тыдні два назад. Яна пахудзела і здалася яшчэ больш высокай. Твар выцягнуўся. Толькі вочы папрыгажэлі — большымі зрабіліся. Вочы ў яе сапраўды чорныя, з залацістым адценнем. Тады яна вярнулася з таўкучкі, дзе абмяняла сваю сукенку на некалькі слоікаў ячневай мукі. «Як жывеш?» — спытаў я. «Як моль. Паліто з'ела, сукенку з'ела,— засмяялася яна і дадала ўжо сур'ёзна: — Стукаем на машынцы, дзяжурым на даху». Я разумеў, што жывецца ёй туга, цяжэй, чым мне, бо я не дзяжуру на даху і кожны дзень сыты. Браты яе на вайне, малодшую сястру Шуру пасля рамеснага накіравалі некуды за Волгу.

Мы селі на цёплыя нафтавыя трубы, што цягнуліся паўз дом. Над намі нізка навісла голле інжыра. Я ў выцвілай латанай гімнасцёрцы, ногі абвінуты па калені абмоткамі. Сядзелі абое сцішаныя, з радасцю і смуткам, як пры рэдкіх сустрэчах...

На тых цёплых трубах мы з Марынай і пазнаёміліся ўвосень сорак першага года. Я і сябар Павел Гарзавін падышлі да незнаёмых дзяўчат, прыселі, старанна хаваючы цёмна-зялёныя латкі на спінах выцвілых гімнасцёрак, разгаварыліся. Крайняй была Марына. Я і ўсеўся каля яе. Павел захапіўся Эмай, дробненькай армянкай.

— Слухай, Андрэй,— падняўся я з ветразя,— хачу сёння з'ездзіць у Баку.

— Каб у шэсць раніцы быў тут.

— Магу спазніцца.

— А дысцыпліна? — і дадаў пару моцных слоў.

Абду вярнуўся са свайго палявання. За поясам у яго матлялася некалькі змяiных скурак. Ён хацеў ужо прысесці каля нас, ды заўважыў пад каменем, на якім ляжалі нашы ватоўкі, гадзюку. Спрытным, амаль няўлоўным рухам ён высмыкнуў яе з-пад каменя на пясок. Гадзюка зашыпела, затрапятаў яе высунуты язык. Абду наступіў ёй на галаву ботам, злавіў за хвост, надрэзаў на ім скуру і сашморгнуў яе, нібы панчоху. Я не мог глядзець, як крывяніста-голае цела звівалася ў агоніі, і адвярнуўся.

Падзьмуў вецер з поўдня, адтуль, з персідскіх пустынь, натужліва роўны і халодны. Мора ўсеялася дробнымі частымі маршчынамі. Развешаныя на вяроўцы судакі суха стукаліся адзін аб адзін.

— Марана,— сказаў Абду.

Андрэй падняў угору руку, як бы спрабуючы сілу гэтага паўднёвага ветру. А я зірнуў на неба. Воблакі згусціліся і навыперадкі мчаліся на поўнач.

— Трэба выбраць сеткі,— сказаў Абду.— Марана, можа, надоўга.

Каспійская марана — вецер зацяты, часта на некалькі дзён. У мора тады на ветразі не выйдзеш. З тупой упартасцю дзьме гэты шалёна-роўны вецер і, калі застане ў моры, гоніць кулас па вадзе, як лёгкую шкарлупіну. Вельмі цяжка тады прыбіцца супроць ветру да вострава.

— Трэба ісці,— падтрымаў я Абду.

Андрэй нават не зварухнуўся. Ён не любіў, калі яго апярэджвалі.

Ад мора цягнула холадам, сонца хавалася за воблакі. Мы апрануліся.

— Пайшлі, Андрэй,— сказаў я.

Той не ўставаў.

— Ты што сядзіш, як баклан на яйках? — не вытрымаў Абду.— Не чуеш?

Андрэй ускочыў.

— Я табе пакажу баклана! — І пагрозліва пачаў наступаць на Абду.

Мы паспешліва ўкінулі ў мех судакоў. Абду сунуў туды і змяіныя скуркі, прыладзілі і распусцілі ветразь. Рыпнула рэя аб мачту, вецер туга ўдарыў у ветразь, і заструменіла, забулькала за кармой пеністая дарожка...

Да сетак дабраліся хутка (вецер дзьмуў у спіну), выбралі іх і пераклалі ветразь, каб ісці назад, насустрач ветру.

А мора ўжо кіпела ўспененымі нізкімі хвалямі. Абду сядзеў на карме за румпальнікам, я і Андрэй, каб ураўнаважыць накрэнены кулас, спінамі прыціснуліся да борта, да яго ж падсунулі і сеткі з рыбай. Вецер са свістам біў у тугі, з падцягнутым галсам, ветразь, і мы хоць марудна, наўскос, але рухаліся ўперад. Да вострава засталося прайсці метраў чатырыста. Тут і здарылася непапраўнае. Вецер ударыў у ветразь так, што, як скошаная, храбуснула мачта і шмякнулася разам з ветразем і рэяй у ваду.

Я і Андрэй ухапіліся за вёслы. Далоні балюча гарэлі, млелі ад напружання плечы. Мы разумелі, што цяпер усё залежыць толькі ад нашых рук, і вёслам аддавалі ўсё, што маглі. І Абду памагаў — ківаўся ўсім корпусам уперад, у такт нашым узмахам...

А кулас адносіла ў мора.

Андрэй кінуў якар.

З гадзіну мы боўталіся на якары, напятым, як леска з вялікай рыбінай, а потым канат раптам аслаб,— яго перацёрла аб камень.

Востраў аддаляўся, цямнеў, на ім быццам хтосьці замазваў усё чорнай фарбай — і вышкі, і дамы. Не было ўжо відаць ні прычала, ні

нашай прычальнай мачты з чырвоным сігнальным сцяжком... Нічога не было відаць, апроч мора і яго хваляў з белай, як чайкі, пенай...

## 3

Голле інжыра ажно прыгнулася ад цяжару пладоў. Адзін сук зламаўся і востра тырчыць. Ён перад самымі маімі вачамі, ажно балюча глядзець. Трэба б адсунуцца, а не магу, ды і не хочацца, бо цеплыня раптам ахутала ўсяго: цёпла нагам, спіне. І пахнуць мёдам сакаўныя плады інжыра. Я не разумею спачатку, адкуль гэта цеплыня, потым здагадваюся — сяджу на трубе, па якой цячэ гарачая нафта, пад тым самым інжырам, што расце насупроць Марынінага дома. Адчуваю голае Марыніна плячо, яе дыханне, чую словы. Яна раптам хапае мяне за твар, не мігаючы трывожна глядзіць мне ў вочы. «Устань,— гаворыць Марына,— танцуй». «Халодныя рукі ў цябе!» — крычу ёй. «Танцуй! Ну! Танцуй!» — груба штурхае мяне ў плячо...

Я нарэшце расплюшчваю вочы.

— Закалееш, танцуй,— сказаў Андрэй. Ён мяне і раскатурхаў.

Ён сядзеў за румпальнікам, трымаючы лодку носам насупраць ветру. Ужо быў вечар. Сонца вісела над гарызонтам так нізка, што яго лізалі хвалі. Вакол кіпела, плюхалася вада, з чырванаватым, злавесным падсветам.

— Скачы! — ужо раззлавана крыкнуў Андрэй.

Я прыўзняўся і пачаў падкідваць здранцвелыя ногі, біць сябе непаслухмянымі рукамі па баках, выгінацца... Каб хто бачыў мяне ў гэты момант, падумаў бы, што я выконваю рытуальны танец заходзячаму сонцу, якое вось-вось нырне ў хвалі, круглае, крывава-чырвонае. без промняў.

Абду моўчкі чэрпаў бляшанкай з лодкі ваду і выліваў за борт. Часам ён выпростваўся і сажмуранымі вачыма, у якіх блішчэлі толькі дзве жоўтыя рысачкі, узіраўся ў гарызонт. Каб як-небудзь варушыцца, я ўзяў другую бляшанку і пачаў памагаць вычэрпваць ваду.

Да нас падляталі чайкі, з крыкам пікіравалі на кулас. Адна, самая нахабная, доўга вісела над нашымі галовамі. Я добра разгледзеў яе вочы, круглую галаву, разяўленую дзюбу і чырвонае горла. Нешта ў яе было чалавечае: і ў позірку, і ў крыку, і ў гэтай неадчэпнасці і ўпартасці. Зрабілася ніякавата, калі ўспомнілася марское павер'е, што чайкі — гэта душы маракоў, якіх праглынула мора.

Андрэй замахнуўся вяслом на чайку.

— Кыш! Душу шкрабеш, гадаўка!

Абду шпурнуў бляшанку ў мора, абхапіў рукамі галаву і завыў працягла і страшна, як воўк на месяц. З вачэй пацяклі слёзы.

— Замаўчы! — крыкнуў Андрэй.

Абду выў зацята, без перапынку, не выціраючы слёз, а рот яго расплываўся ў нейкай вар'яцкай ухмылцы. Зарагатаў, скінуў з сябе ватоўку, насунуў рукаво на вясло і, падняўшы ўгору, пачаў махаць ім.

— Вай джакшы! Вай!..— затанцаваў ён.

І толькі прыгледзеўшыся туды, у які бок махаў Абду ватоўкай, я заўважыў на гарызонце белаваты невысокі матузок дыму і чорную пляму. Параход!

— Гэй! Гэй! — склаўшы рупарам далоні, закрычаў Андрэй, зняў з сябе шалік, запаліў яго і замахаў, як факелам.

Падабраў нас танкер «Роза Люксембург», які ішоў з Астрахані ў Баку. Сеткі з рыбай паднялі на палубу, кулас забуксіравалі, але праз якую мілю яго разбілі хвалі.

У порт прыйшлі на світанні. Сеткі здалі ў багажную камеру, а самі са скруткамі пад пахай — у кожнага па дзесяць вяленых судакоў — падаліся ў горад.

Ва ўсіх куточках порта спалі людзі — тысячы эвакуіраваных з Прыазоўя, Кубані, Паўночнага Каўказа... Мы пераступалі цераз іх, чулі, як трызнілі яны, сплючы, ускрыквалі, плакалі. Вайна біла і іх, толькі не забівала насмерць...

На выхадзе з порта, каля варот, некалькі грачанак з вялікімі вачыма ўпрошвалі вахцёра і міліцыянера прапусціць іх на ваенны прычал.

— Там камбуз,— гаварыла сівая жанчына.— Папросім есці дзецям.

— Нэ магу,— стукаў сябе ў грудзі кульгавы вахцёр.— Туды нельга. Панымаеш?

— Дзеці галодныя.

— Нэ магу.

Міліцыянера малілі тры жанчыны ў кубанскіх чорных камізэльках.

— Таварыш, мы ж вернемся зараз. Пакуль дзеці спяць.

Абду падышоў да сівой жанчыны і з сарамлівай усмешкай моўчкі кінуў ёй у кашолак аднаго судака.

— Родненькі, дай і мне, дай! — пацягнуліся да Абду жаночыя рукі.

Абду раздаў усе дзесяць судакоў.

Мы з Андрэем разгублена-вінавата пазіралі на свайго таварыша. Андрэй раптам крыкнуў жанчынам:

— Што за непарадак?! Усе ў чаргу! Хто не палучыў?

Пастроіў чаргу, абышоў з канца ў канец і раздаў сваю рыбу. Я аддаў толькі пяць. Астатнія павёз Марыне.

Пайшлі першыя трамваі. Андрэй і Абду праводзілі мяне да прыпынку. Дамовіліся, што прыеду на востраў заўтра і прывязу сеткі, якія мы здалі ў багажную камеру.

— Адзін дзень не сходзім у мора. Падумаеш,— вялікадушна згадзіўся Паўлаў.

Марына была дома. Я правёў яе на работу, вярнуўся і, зняўшы свае высокія гумавыя боты, басанож тупаў па халаднаватай пафарбаванай падлозе. Усе разыходзіліся з дому з надзеяй на сытую вячэру. Кожны, выходзячы праз кухню, бачыў, як у місцы вымочваліся судакі. Пяць вялікіх і стромкіх, як шчупакі, рыбін з зеленаватымі папярэчнымі рыскамі. «А зубы, зубы якія!» — тыцкалі ўсе пальцамі ў іх разяўленыя пашчы.

Паспаўшы, я пайшоў прагуляцца па горадзе. На вакзальнай плошчы з акна трамвая бачыў строй навабранцаў — маладзенькіх хлопцаў і пажылых дзядзькоў. З мяшкамі, чамаданчыкамі. Адзежына самая нягодная: каб, пераадзеўшыся ў салдацкае, было б не шкада кінуць.

— Раз-два-тры! — нехаця камандаваў салдат.— Не расцягвацца.

Калона доўгая, па чатыры чалавекі ў шарэнзе. Трамвай абагнаў яе, і я ўбачыў у страі групу дзяўчат. Позірк слізгануў па худзенькіх постацях і выхапіў з шарэнгі знаёмы смуглы твар.

— Эльта! — крыкнуў я, высунуўшыся з акна вагона і размахваючы пілоткай.— Эльта!

Яна пачула, азірнулася налева, направа, але так і не даведалася, хто клікаў яе — трамвай павярнуў за рог дома.

Марына яшчэ не прыйшла, калі я вярнуўся з горада. У кватэры былі чужыя людзі — дзве жанчыны, аднарукі хлопец і трое дзяцей.

Яны сядзелі за сталом і сёрбалі юшку. У талерках перад імі ляжалі белыя адвараныя кавалкі рыбы.

Я прывітаўся з імі, а яны перасталі есці, сумеліся — мабыць, іх напужала мая гімнасцёрка і пілотка з чырвонаармейскай зоркай. Марыніна маці Аляксандра Трафімаўна паклікала мяне на кухню, сказала:

— Зайшлі вось немцы, эвакуіраваныя з-пад Грознага. Галодныя. Тыдзень у порце.

Я паціснуў плячамі: як хочаце,— рыба ваша...

— Нам і двух судакоў хопіць. А тут жа малыя...

Калі госці адыходзілі, да мяне ў пакой зайшоў белагаловы з чырвоным гальштукам хлопчык.

— Дзядзя, я піянер-ленінец,— сказаў ён.— Чэснае слова. Рот фронт! І падняў угору маленькі кулачок.

— Рот фронт! — адказаў я і таксама падняў кулак.

Немцы пайшлі, а я хадзіў па пакоі і думаў: «Калі паспяшацца, то можна палучыць сеткі і паспець на апошні баркас, што ідзе на востраў. Тады заўтрашні дзень не прападзе марна, і мы сходзім у мора. Па рыбу». Я сказаў пра гэта Аляксандры Трафімаўне, напісаў Марыне запіску, пакінуў яе на стале, там жа палажыў і два паясы са змяіных скурак — падарунак Абду — і пабег у порт.

Я павінен паспець. Нашу рыбу чакаюць у пасёлку, у горадзе. Людзі ж, як і кожны дзень, заўтра прыйдуць у сталовую, у магазіны, на прычал. І хлопчык той прывядзе сястрычку нюхаць, як пахне юшка. І Гурген прытрусіць... Можа, з заўтрашняга ўлову дастанецца якая рыбіна і тым людзям, што пакутуюць у порце, чакаючы параход, які павінен іх забраць...

*Павел Марціновіч запомніўся мне ці не з сямігадовага ўзросту як непаседлівы, увесь у частых зменах настрою, уражлівы хлопчык. Прызнацца шчыра, я не задумваўся над тым, якім стане ён, калі пасталее. Хоць стараўся Паўлік быць больш сярод дарослых, чым у коле сваіх аднагодкаў. І яшчэ — сярод кніг, таксама «дарослых».*

*І вось перад намі вершы дзевяцікласніка з 2-й Мінскай школы Паўла Марціновіча. Назавем іх — першыя, хоць былі ўжо спробы выступаць у піянерскім друку. Чытаеш, і знікае хлопчык-непаседа. Выступае засяроджаны юнак, няўрымслівы, аднак, у сваім імкненні кінуць на паэтычную ніву поўныя зярняты дабра, маральнай чысціні, чалавечнасці. Можа малавата яшчэ мужнасці, якой вымяраецца грамадзянскі пафас, але і яна прыйдзе... У добры час, Павел!*

*Уладзімір ЮРЭВІЧ.*

ПАЭЗІЯ

- **Вогнішча**
- ——————
- ——————
- ——————



**Павел МАРЦІНОВІЧ**



●

Да вогнішча ішлі кабеты моўчкі,
Глядзелі на агні яго крутыя,
І на зямлю з бярозавых лісточкаў
Злятал росы — кроплі залатыя.

У вогнішчы быў скарб іх захаваны:
Надзеі, мары, думкі аб жыцці...
Калі ляцелі іскры на паляны,
То ім барздэй хацелася ісці...

Бо шмат гадоў гарэлі іх надзеі,
І мары ўсе знікалі, быццам іскры.
Яны насілі чорнае адзенне,
Іх скруха да зямлі згінала нізка.

Былі калісь у іх сыны-салдаты,
І з той вайны кабетам неспакойна.
Увечары здаецца, што да хаты
Сыноў імчацца вогненныя коні.

І ў траўні, і ў кастрычніку, і ў снежні
Гарыць трывожна вогнішча-надзея...
То полымя ўздымаецца, як вежа,
То апускаецца і ў дыме — ледзянее.

●●

Можна быць і жорсткім, і змрочным,
І стаяць, як помнік уночы,
І сачыць з вар'яцкай усмешкай
За каварнай і страшнай сцежкай,

Па якой можа нехта пойдзе,
І каго ўжо ніхто не знойдзе...
Але ў момант апошні крыкнуць:
«Не ідзі!» — і ў тумане знікнуць.



Узмахнулі сякеры, як толькі маглі,
А галінкі трывожна і ўпарта раслі...
Хоць сачыўся ўжо сок, хоць чарнела
Рана белая дрэва.

Мо загінуць галінкі пасля,
Ды навошта ім думаць да гэтага дня...
Бо і людзі жывуць ля магілаў людзей,
Не чакаючы слёз і балючых падзей.



На світанні
калючым спевам
Сад спакойны падняў трывожна
Вартаўнік, залацісты певень,
І замоўк асцярожна.

Узнялося імкліва сонца —
Быццам певень падкінуў яблык...
На блакітнай світальнай гронцы
Зіхаціць залаты караблік.

*Народнаму пісьменніку Беларусі*
*Міхасю ЛЫНЬКОВУ*
*семдзесят гадоў.*

# СВЯТЛО СУРОВАЙ ДАБРАТЫ

Я часта думаю пра дарагога мне чалавека, пра любімага пісьменніка, што адкрыў шырокі і прыгожы свет, пра свайго першага літаратурнага настаўніка, старэйшага таварыша, чулага, уважлівага і добрага.

Успамінаюцца далёкія і нядаўнія сустрэчы, яго рамантычныя і суровыя творы, выступленні, расказы пра паездкі за акіян, у Індыю, у далёкія і блізкія краіны Еўропы. І абавязкова ўспамінаецца вогнішча над туманным нарачанскім прасторам. Дагараюць смаловыя карчы, усхліпваюць сінія агеньчыкі, спадыспаду ружавее пасівелы прысак. На паленцы сядзіць чалавек у злінялай куртцы і берэце, у вачах дрыжаць і паблiскваюць іскрынкі полымя. Павольна ўспаўзае на пясок, плюскоча і адкочваецца ў змрок нарачанская хваля.

Ад сонца, вятроў і бляску вогнішча твар чалавека ў берэце здаецца чаканеным на медзі, і толькі на скроні, нібыта галубінае крыло, серабрыцца сівізна.

Гэта Міхась Лынькоў.

Пра што ён думае? Што ўспамінаецца чалавеку каля начнога вогнішча? Можа, чыгуначная будка на 230-й вярсце, паміж 16-м раз'ездам і станцыяй Рагачоў? Можа, галоднае і халоднае маленства, грукат цягнікоў за сцяною, добрыя матчыны вочы і журботная песня над калыскаю. А можа, прыгадаліся чырвонаармейскія кастры пад Старадубам ці ў стэпах. Паволжа ў галодным 1922 годзе?

Мабыць, з тае пары ён палюбіў начныя вогнішчы, што грэлі душу і цела, будзілі радасныя летуценні і надзеі. Пры вогнішчы добра думаецца і ўспамінаецца. Апаноўваюць успаміны і мяне.

У 1927 годзе ў Глускай крамцы я ўбачыў часопіс у сіняй вокладцы: на малюнку — араты ідзе за плугам на пакаты ўзгорак. Наверсе — буйнымі літарамі: «Уздым». Пабег у кузню да свайго дзядзькі, выпрасіў 50 капеек і купіў сабе гэтую кніжку. Выдала яе Бабруйская філія «Маладняка». Але што такое «філія», ніхто мне толкам не мог растлумачыць. З тых дзён прайшло больш за сорак гадоў, а першую кніжку «Уздыма» помню, нібы толькі ўчора трымаў яе ў руках. Адкрывалася яна вершамі Янкі Журбы, потым ішло апавяданне «Гой». Прачытаў першыя радкі: «І плакала Рыва, плакала ціха, ледзь чутна...» І ўжо не мог адарвацца да канца. Быў і партрэт аўтара. Малады, у ссунутай на бок шэрай кепцы. Подпіс — Васілёк. Здагадаўся, што прозвішча не сапраўднае. Ды і ўсе астатнія аўтары, — Хмель, Верас, Голуб,— відаць, пазычылі ў беларускай флоры і фауны свае літаратурныя

імёны. На псеўданімы тады была мода, і кожны, перш чым брацца за пяро, запасаўся гучным прозвішчам. Было яно і ў аўтара «Гоя».

Начытаўшыся «Уздыма», я адаслаў свае дзіцячыя вершыкі ў Бабруйск. Неўзабаве прыйшоў першы ў маім жыцці ліст, напісаны роўным, цвёрдым почыркам. Першы радок абнадзейваў, а далей ішлі заўвагі. Іх было столькі, што ад тых рыфмаваных практыкаванняў нічога не заставалася. А ў канцы: «Прысылайце свае новыя творы. Міхась Лынькоў». Ого, мяне называюць на вы, а так-сяк збэрсаныя вершыкі — творамі! Хоць разбілі іх ушчэнт, але не пакрыўдзілі чатырнаццацігадовага хлапчука. Наадварот, па наіўнасці я ўсім паказваў рэдакцыйны ліст на друкаваным бланку.

Відаць, потым быў не рад Міхась Ціханавіч, што ў нечым абнадзеіў хлапчука з Глуска і той ледзь не кожны тыдзеньназаляў сваімі «творамі». Часам і трапляў скарочаны, праўлены-перапраўлены верш у літстаронку, а я чакаў новыя лісты і хаваў іх у запаветным прыскрыначку матчынага куфра.

Летам 1929 года спецыяльна прыехаў у Бабруйск, каб пабачыць «жывога Лынькова». Увесь дзень прахадзіў каля рэдакцыі «Камуніста», некалькі разоў узыходзіў на прыступкі, але падняцца на другі паверх не хапала адвагі. Рэдакцыя мне здавалася святою-святых, а людзі ў ёй — выключнымі і незвычайнымі. Толькі надвячоркам адважыўся пераступіць парог і здзівіўся: звычайны пакой, звычайныя сталы, як у кожнай установе. Адразу заўважыў маладога чалавека ў палатнянай, вышытай чорнымі ніткамі кашулі. Ён хутка пісаў на доўгім вузенькім аркушы паперы і перад кожным радком ставіў нейкія крукі (значыў абзацы). Каля стала стаяў мужчына ў сіняй сацінетавай касаваротцы і шэрым пінжаку. Ён заўважыў мяне.

— Праходзь, хлопча. Што скажаш?

У роце так перасохла, што я і слова не здолеў сказаць. Моўчкі працягнуў свой скамечаны скрутачак, прыгледзеўся і адразу пазнаў аўтара «Гоя». Ён правёў мяне ў пакой з шыльдачкаю «Адказны рэдактар» і пачаў чытаць маю пісаніну.

На сцяне затарахцеў тэлефон.

— Лынькоў слухае,— адказаў у трубку мой субяседнік. Вось яно што! А я лічыў, што цярплівы кансультант і аўтар «Гоя» розныя людзі...

На адным вершы ён напісаў «У друк» і сказаў аддаць яго Хвядосу Шынклеру. Гэта і быў той самы чарнявы ў вышыванай кашулі. Потым, як даросламу, тлумачыў мне, што кепска ў астатніх вершах, пытаўся, што чытаю, як вучуся і што раблю летам. Я адразу супакоіўся і разгаварыўся.

Дзіўлюся і цяпер, як рэдактар «Камуніста» і кіраўнік філіі «Маладняка» ў маленькім тады Бабруйску здолеў выдаваць альманах і штомесячны літаратурны дадатак «Вясна». Колькі ўдалося яму выявіць здольных літаратараў, выхаваць чытачоў, улюбёных у літаратуру! За гады работы ў «Камунісце» ён напісаў сотні лістоў пачаткоўцам Бабруйшчыны. Клопатамі Лынькова былі сагрэты першыя крокі ў літаратуры Хвядоса Шынклера, Барыса Мікуліча, Алеся Жаўрука, Цімаха Крысько, з якога вырас цудоўны паэт Васіль Вітка, Аляксея Зарыцкага, Міхася Скрыпкі. А колькі ўвагі і клопатаў ён аддаваў празаікам і паэтам, чые творы па розных прычынах засталіся толькі ў перыядычных выданнях таго часу. Я добра памятаю вершы Апанаса Атавы, Міколы Вераса, Язэпа Сукалы, Алеся Чымбура, Янкі Хмеля і Янкі Валасевіча. Гэта былі вясковыя настаўнікі або студэнты Рагачоўскага педтэхнікума.

Міхась Ціханавіч добрымі парадамі і ўвагай дапамог лесніку Хведару Бужану напісаць і выдаць аповесць «Леснікі»; з яго дапамогаю ў 30-я гады выйшла некалькі аповесцей асіповіцкага чыгуначніка Кандрата Уласюка. Іх імёны і кнігі забыты, але ў свой час яны былі жывым струменем у шырокай плыні нашай літаратуры.



Нарачанскія далягляды.

Калі Міхась Ціханавіч узначальваў рэдакцыю мастацкай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва, рэдагаваў часопіс «Полымя», пісьменнікі трыццатых, саракавых і пасляваенных гадоў заўсёды адчувалі яго патрабавальную ўвагу, клопаты, дапамогу і добразычлівую шчырасць. Дзесяць гадоў Міхась Лынькоў на пасадзе Старшыні Саюза пісьменнікаў кіраваў літаратурным жыццём рэспублікі, вырашаў творчыя і будзённыя справы сваіх старэйшых і маладзейшых таварышаў. У часе вызваленчага паходу 1939 года кіраўнік пісьменніцкай арганізацыі стаў байцом Чырвонай Арміі, а ў гады Вялікай Айчыннай вайны на самым пярэднім краі рэдагаваў франтавую газету «За Савецкую Беларусь».

У аўтабіяграфіі Міхась Ціханавіч з уласцівую яму сціпласцю піша: «Вайна прынесла для кожнага з нас і вялікія страты — вораг загубіў багатага з нашых родных і блізкіх».

Аднойчы ён мне сказаў: «От у мяне загінулі жонка, сын і брат, а я і радка пра гэта не магу напісаць і не напішу ніколі, а некаторыя...» — ён махнуў рукою і замоўк. Свой боль, свае пакуты і страты ён ніколі не выстаўляе напаказ, хавае ў збалелай душы, як глыбокую незагоеную рану.

Успамінаецца асенні надвячорак на Нарачы. Возера апусцела, раз'ехаліся дачнікі, замоўклі баяны і песні. Толькі шумелі высокія хвалі, пакідаючы

на беразе жаўтаватыя карункі пены. Берагам я дайшоў да сядзібы Міхася Ціханавіча. За маладымі яблынямі відна прасторная сасновая хата. Іду па сцежачцы ў двор. У расчыненых дзвярах гаража ледзь пазнаў гаспадара. У вопратцы, заляпанай фарбамі ўсіх колераў, ён фарбаваў новую лодку. Рукі ў сурыку і свежых бялілах. Гараж падобен на добра абсталяваную слясарную майстэрню і адначасова на маскацельную краму: ціскі, зубілы, бляшанкі з рознаю фарбаю, пэндзлі і малаткі.

Відаць, Міхась Ціханавіч з далёкага свайго чыгуначнага маленства палюбіў пах металу, яго ўпартасць і паслухмянасць здатным рукам. Потым у Рагачоўскай настаўніцкай семінарыі ён «грунтоўна вывучаў на практыцы слясарную і сталярную справу». Гледзячы, як умела і натхнёна ён усё робіць, разумееш псіхалогію Андрэя Летуна і дзеда Астапа, Івана Рабухі і соцень герояў, што жывуць, пакутуюць, марацъ і радуюцца ў творах Міхася Лынькова. Хто сам не адчуў на руках мазалёў, той ніколі так не напіша пра людзей працы. Калі б Леў Талстой не араў і не касіў, не шыў сабе боты, ці стварыў бы ён бессмяротныя вобразы простых людзей? А Горкі, Шолахаў, Шышкоў, Купала і Колас! Біяграфія пісьменніка — крыніца натхнення і ведання жыцця. Мазалі ніколі не сходзяць з тугіх, учэпістых далоняў Міхася Ціханавіча.

У той асенні надвячорак ён павёў мяне па сваёй сядзібе, зялёнай, шумналістай. Кожнае дрэўца і кусцік пасаджаны і выпеставаны ім.

— Вось клёнік. Я яго пасадзіў вясной. Яго равеснікі зазелянелі, а ён стаіць чорны, без адзінай пупышкі,— расказваў Міхась Ціханавіч.— Тады абсек некалькі галінак, і праз тыдзень праклюнуліся пупышкі і першыя лісты. Цяпер, бачыш, выраўняўся з усімі. А вунь каля плота чырвоны дубок.

Схіл каля возера ён абсадзіў таполямі і елачкамі. Ухапіліся яны за зямлю на выгодзе, разрасліся, разлапушыліся. Кожнае дрэўца адчувае цеплыню добрых і ласкавых рук і расце на радасць чалавеку. А людзі на дабро адгукаюцца дабром. Колькі іх, удзячных Дэпутату Вярхоўнага Савета, вучонаму, пісьменніку, добраму чалавеку Міхасю Лынькову!

Выйшлі на бераг возера. На хвалях гойдаецца лёгкая срабрыстая маторка.

— Мая «брыганціна»,— жартуе гаспадар.— Калі заўтра будзе ціха, паедзем з Максімам Танкам на рыбу. Мала яе цяпер у Нарачы, і не толькі ў Нарачы. На добры лад, трэба было б гадоў на пяць спыніць промыславы лоў у вялікіх і малых азёрах, трэба больш ашчадна ахоўваць лясы. Мы ж больш вынішчаем, чым садзім.

Углядаючыся ў зацягнутую смугою Нарач, успомніў Атлантычны акіян:

— Ён ніколі не бывае аднастайны. Мяняе колеры і адценні: то ціхі, то бурны, то ўсыпаны зорамі, то заліты сонцам.— Мабыць і цяпер, калі імчыцца Міхась Ціханавіч на сваёй «брыганціне» па прасторах Нарачы, успамінаецца яму падарожжа за акіян і ў казачную Індыю.

Калі зусім змеркла, зайшлі ў хату. Гаспадар успомніў, што сёння яшчэ не абедаў, запаліў пліту, засквірчэла яечня, на стале з'явілася ружовае сала і скрылі сотавага мёду. За вячэраю, а для яго за абедам, нарэшце загаварылі пра літаратуру. Я якраз тады пісаў «Рудабельскую рэспубліку», і Міхась Ціханавіч пачаў мне расказваць падрабязнасці гісторыі гэтага гераічнага краю. Аказваецца, ён некалі напісаў сцэнарый пра Рудабелку, яго ўхвалілі, а да фільма так і не дайшло.

Потым разгаварыліся пра шчырасць сяброўскай крытыкі, пра патрабавальнасць у дачыненні адзін да другога. І Міхась Ціханавіч расказаў, як некалі адзін паэт прыслаў яму сваю паэму, спадзеючыся, што яе вылучаць на дзяржаўную прэмію. Неўзабаве прыехаў сам і пытае:

— Чытаў?

— Чытаў.



**Ірынцы ёсць што расказаць дзеду Міхасю.**

Фота **В. Ждановіча.**

— Ну як?

— На прэмію не цягне.

— Тады ты не зразумеў. Прачытай яшчэ.

— Чытаў не раз і зразумеў.

— А хлопцы ж хваляць.

— Хваліць лягчэй, чым гаварыць праўду,—заключае Міхась Ціханавіч. Я ведаю, яго характар — заўсёды гаварыць праўду ў вочы, самым блізкім сябрам, якіх ён любіць, у талент якіх верыць. І такі ён заўсёды. Чулы, уважлівы, патрабавальны, заклапочаны лёсам літаратуры і кожнага сур'ёзнага літаратара.

За вокнамі шумяць прысады.

— Відаць, зноў наша рыба пляснула. Няхай падрасце. Наша нам будзе,— суцяшае сябе Міхась Ціханавіч.

Мы развітваемся каля брамкі. Шумяць таполі і плёскаюць нарачанскія хвалі, а ў Лынькоўскай хаце доўга яшчэ свеціцца адно акно. Святло па вечарах у ім не гасне з красавіка да позняй восені. На яго, як на маяк, начамі плывуць нарачанскія рыбакі.

Даўно я не бачыўся з Міхасём Ціханавічам і засумаваў, захацелася сустрэцца і пагаварыць. Купіў білет на самалёт, сабраўся на Нарач і нечакана дазнаўся, што ён на адзін дзень прыехаў у Мінск. Званю, кажу, што хачу пабачыцца.

— А ты не адкладвай, заходзь цяпер. У мяне яшчэ гадзіны дзве ў запасе,— пачуў у трубцы знаёмы голас.

Праз паўгадзіны я ўжо сядзеў у яго прасторным кабінеце. На стале— бюст Леніна. На сцяне два партрэты: Купала і Колас. Да самай столі стэлажы з кнігамі, на стале стосікі навінак беларускай прозы, а каля канапы звязаныя пачкі свежых часопісаў і кніжак. Гаспадар адарваўся ад часопіса «Знание — сила». На ўсю старонку чарцёж матора новай канструкцыі, і Міхась Ціханавіч з веданнем справы тлумачыць мне яго перавагу над усімі існуючымі маторамі. Што-што, а маторы розных марак і сістэм ён ведае дасканала. Мне ж карціць пагаварыць пра літаратуру, спытаць, што яго хвалюе, што піша цяпер. І можа не зусім тактоўна пытаюся пра гэта. А ён усміхаецца сваёй асаблівай, стрыманай, лынькоўскай, усмешкай:

— На такія пытанні Якуб Колас звычайна адказваў: «сяку дровы».

— А вы, мабыць, цягаеце карчы на вогнішча?— не адстаю я.

— На карчы ўжо сілы малавата. Папацягаў за свой век. Ды і карчоў не асталося. Усе папалілі.

І ён расказаў, як цяпер на Нарачы па-гаспадарску арганізавана абслугоўванне тых, што прыязджаюць туды адпачываць самапасам, як ахоўваецца лес і ўся нарачанская прыгажосць. Ён кіўнуў на стосы перавязаных часопісаў і кніжак:

— От мае карчы. Гэтыя прывёз, а свежых набяру з сабою. За апошні час перачытаў усё гэта. З нашай прозы нічога не прапускаю. Шмат у нас здольнай моладзі, а часам выдаюцца і слабаватыя кніжкі, напісаныя без ведання жыцця, без натхнення і хвалявання. У апошні час з цікавасцю чытаю мемуары нашых партызанскіх камандзіраў. Захапляюць факты, падзеі, чалавечыя лёсы. Але многія напісаны інфармацыйна і сухавата, цэлыя старонкі прозвішчаў, а характараў няма. Трэба, каб пісьменнікі памагалі ствараць такія кнігі. Раней я шмат працаваў над архіўнымі дакументамі. Але дакумент ёсць дакумент, сцісла і не заўсёды поўны.

Нарэшце Міхась Ціханавіч прызнаўся, што апрача таго, што «сячэ дровы», думае над кнігай для дзяцей і юнацтва пра гераізм народу ў Айчыннай вайне. Вось і чытае мемуары, сустракаецца з цікавымі людзьмі, робіць «нарыхтоўкі сыравіны».

Міхась Ціханавіч усё жыццё кроўна звязаны з моладдзю, жыве яе клопатамі, радасцямі і засмучэннямі, памагае маладым літаратарам, гутарыць з піянерамі і камсамольцамі, з'яўляецца членам рэдкалегіі «Маладосці», а яго кнігі больш як за сорак гадоў выхавалі не адно пакаленне добрых, адважных і шчырых людзей. Ён назаўсёды застаўся верны прызванню настаўніка і вучыць мільёны людзей і цяпер.

Гляджу на пасівелага, крышку сагнутага цяжарам сямідзесяці гадоў Міхася Ціханавіча, а ўспамінаецца малады рухавы рэдактар бабруйскага «Камуніста», у сіняй касаваротцы і шэрым пацёртым пінжаку. Па няўрымслівасці, па заклапочанасці, па любові да людзей, па сваёй шырокай душы ён застаўся такім, як і некалі, такім будзе і заўсёды. Мудрымі, усхвалëванымі і сардэчнымі будуць яго новыя кнігі. А яны будуць!

У дні юбілею пісьменніка звычайна аналізуюць ідэйную аснову і мастацкія асаблівасці яго твораў, хваляць лепшае і маўчаць пра слабейшае. Я не раблю гэта, бо кнігі Міхася Лынькова не патрабуюць рэкамендацый, а тое, пра што маўчаць далікатныя крытыкі, пісьменнік ведае сам і не ўключае ў наступныя выданні, добра ведае, што чаго варта ў сябе і ў другіх.

Міхась Лынькоў пратаптаў нямала сцежак па роснай траве Беларусі, папахадзіў па дарогах далёкіх краін і мацерыкоў нашай планеты. Няхай сцежкі Міхася Лынькова яшчэ доўга-доўга вядуць яго да людскіх сэрцаў, а святло ў вокнах яго дома на Нарачы і кватэры на Ленінскім праспекце саграве душы сучаснікаў і нашчадкаў. Няхай ніколі не гасне вогнішча яго добрага і мудрага натхнення.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

# ПУБЛІЦЫСТЫКА



- Сямён ДЫХНЭ
- Павел ТОРМАСАЎ
- Яўген КОЛЬЧАНКА
- Анатоль АСТРЭЙКА
- Уладзімір ЛІПСКІ
- Уладзімір ЕЛІСЕЕЎ
- Міхаіл РЫЛКО
- Леў СМІЛАВІЦКІ
- Серафім АНДРАЮК
- Ефрасіння БОНДАРАВА
- Леанід ПРОКША
- Барыс РОЗЕН
- Аляксей СУЭЦІН
- Астап ВІШНЯ

# ЛЕНІНУ прысвячаецца



**Сядзяць: Валеры КУБАСАЎ, Георгі ШОНІН, Уладзімір ШАТАЛАЎ, Аляксей ЕЛІСЕЕЎ, стаяць — Віктар ГАРБАТКО, Анатоль ФІЛІПЧАНКА, Уладзіслаў ВОЛКАЎ.**

# У КОСМАСЕ—ЭСКАДРА

11, 12 і 13 кастрычніка 1969 года ў Савецкім Саюзе ўпершыню былі выведзены на калязямную арбіту для сумеснага палёту тры касмічныя караблі — **«Саюз-6», «Саюз-7» і Саюз-8»** з экіпажамі на борце: камандзір карабля «Саюз-6» Г. С. Шонін, бортінжынер В. М. Кубасаў, камандзір карабля «Саюз-7» А. В. Філіпчанка, бортінжынер У. М. Волкаў, інжынер-даследчык В. В. Гарбатко, камандзір карабля «Саюз-8» У. А. Шаталаў, бортінжынер А. С. Елісееў.

Агульная працягласць эксперыменту ў космасе склала сем сутак, пры гэтым працягласць палёту кожнага карабля — пяць сутак.

Палёт групы з трох савецкіх касмічных караблёў з сямю касманаўтамі на борце з'яўляецца новым дасягненнем нашай навукі і тэхнікі.

Зроблен важны крок у развіцці арбітальных палётаў і выкарыстанні пілатуемых касмічных сістэм для вырашэння народнагаспадарчых і навуковых задач.

З паведамлення ТАСС.

# ТОМІК У ЧЫРВОНАЙ ВОКЛАДЦЫ



Рубэн — курсант авіяцыйнага вучылішча.

Ён нарадзіўся далёка ад тае зямлі, за якую давялося памерці. Дзяцінства яго прайшло ў Іспаніі, у гарах Біскайі. Сын Далорэс Ібарury рана ўключыўся ў рэвалюцыйную барацьбу. У цяжкія для іспанскіх камуністаў гады Рубэн з сястрой Амайяй прыехаў у Савецкі Саюз. Ён вывучыў рускую мову, працаваў у Маскве на аўтамабільным заводзе. Тут знайшоў шмат новых сяброў, жыў у маладзёжным інтэрнаце.

Аднойчы ў інтэрнат прыйшоў стары бальшавік, саратнік Уладзіміра Ільіча Леніна Панцеляймон Мікалаевіч Лепяшынскі. Разгаварыўся з Рубэнам, а потым шчыра сказаў:

— Пераходзь жыць да мяне.

У сям'і Лепяшынскіх Рубэн стаў родным чалавекам. Вольга Барысаўна Лепяшынская займалася з ім па рускай мове. Але гэта былі не проста ўрокі. Вось Рубэн чуе расказ пра тое, як юны Лепяшынскі арганізаваў у 1894 годзе забастоўку ва ўпраўленні Лазова-Севастопальскай чыгункі, потым трапіў у Пецярбург і як быў сасланы ў Сібір па справе «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа», як сустрэўся там з Леніным і назаўсёды выбраў шлях побач з Ільічом.

Шмат пра што расказвалі юнаку Панцеляймон Мікалаевіч і Вольга Барысаўна.

...Уначы з 17-га на 18-е ліпеня 1936 года ў Іспанскім Марока фашысты ўзнялі мяцеж супраць Іспанскай рэспублікі. 18 ліпеня ён перакінуўся ў Іспанію. Іспанскі народ узяўся за зброю.

18-га ліпеня, прыехаўшы на аўтазавод, Рубэн убачыў на заводскай плошчы вялікі натоўп. Падышоў, стаў прыслухоўвацца, але ў першыя хвіліны не мог зразумець, чаму твары ў людзей такія суровыя і ўсхваляваныя. Ён ведаў, што нядаўна, 17 лютага, на выбарах у картэсы перамог у Іспаніі Народны фронт. Гэта была нечуваная перамога. Яшчэ ў кастрычніку 1934 года за яе злажылі галовы сотні камуністаў. Вялікія, радасныя падзеі адбыліся за апошні год на яго радзіме. І вось — мяцеж...

Ён не памятаў, як дайшоў да свайго станка. Вакол гудзеў вялізны цэх, а Рубэну здавалася, што ён чуе гул на вуліцах Мадрыда...

Рубэн марыў стаць механікам, вярнуцца ў родную Біскайю, даказаць, што баскі здольныя не толькі сядлаць коней, але і кіраваць самымі складанымі механізмамі. Але цяпер, пасля паведамлення маскоўскага радыё пра падзеі ў Іспаніі, мары адышлі на другі план, засталося адно нястрымнае жаданне — хутчэй дадому, хутчэй на Радзіму!

Маўклівы і засяроджаны прый-

шоў ён увечары да Лепяшынскіх.

— Не сумуй, Рубэн. Мацуйся! — супакойваў Панцеляймон Мікалаевіч. — Народ нельга перамагчы.

— Я не сумую. Але парайце, што мне рабіць?

— А сам ты што думаеш?

— Я думаю, што маё месца цяпер на радзіме, — адказаў Рубэн.

— Гэта так, сынку. Я цябе разумею. Табе не церпіцца ўступіць у змаганне з фашызмам. Але біцца з ворагамі трэба ўмела. Ленін гаварыў, што ваеннай справе трэба вучыцца сур'ёзна і шмат.

— А мяне ці ж прымуць у вучылішча?

— А праўда, — заўважыла Вольга Барысаўна, — ці прымуць? Рубэну ж — толькі шаснаццаць год...

— Нічога, нешта прыдумаем. Раніцай паедзем у ЦК камсамола Там параімся, што рабіць, папросім пуцёўку ў вучылішча. Магчыма, прымуць.

У ЦК камсамола малады хлопец, выслухаўшы Рубэна, сказаў:

— Настрой твой, таварыш Рубэн, мы разумеем. Але ці перакананы ты, што здолееш прынесці карысць арміі рэспублікі?

Рубэн пакрыўдзіўся:

— За рэспубліку я гатовы памерці!

— Вось гэта ўжо зусім не трэба, — заўважыў Панцеляймон Мікалаевіч. — Памерці без карысці — што за сэнс? І для рэспублікі і для сябе гэта не патрэбна. — І, звяртаючыся да таварыша з ЦК камсамола, сказаў: — Трэба паслаць яго ў вучылішча па пуцёўцы, таварыш.

Праз некалькі дзён Рубэн выехаў у Сталінград, у ваенную авіяшколу. Вучыўся старанна, з захапленнем, дні і ночы аддаючы навуцы. Палюбіў зброю, выдатна засвоіў кулямёт. Але нечакана Рубэна выклікала ваенна-ўрачэбная камісія. Нельга сказаць, каб ён скардзіўся калі-небудзь на здароўе, але ў яго часам пабольвалі вочы, і ён невыразна адрозніваў колеры. І трэба ж было, каб якраз тут, калі ён рыхтаваўся на ваеннага лётчыка, зноў пачаўся гэты боль...

Стары ўрач-акуліст амаль адразу заўважыў гэта і вынес суровы прыгавор:

— Лётаць вы, вядома, будзеце. Але — пасажырам. Дальтонікам вадзіць самалёты нельга.

Прыйшлося кінуць вучобу ў ваеннай лётнай школе і паехаць у Маскву.

— Ты кажаш, Рубэн, што добра ведаеш кулямёт і трапна страляеш? — сказаў Панцеляймон Мікалаевіч. — Гэтага дастаткова, каб ехаць на радзіму. Цяпер — ты павінен ехаць. Я нават зайздрошчу табе, тваёй маладосці...

Праз тыдзень — ён ужо на зямлі Іспаніі, у Мадрыдзе. З ім і падараваныя пры развітанні з Панцеляймонам Мікалаевічам і Вольгай Барысаўнай два томікі: адзін — Леніна (пісьмы і артыкулы), другі — «Як гартавалася сталь» М. Астроўскага.

...Ведаючы адрас маці, ён хутка знайшоў яе дом. Але маці дома не было, і пажылая жанчына-суседка нават здзівілася яго пытанню:

— Дзе яе шукаць? Ну, вядома ж, на фронце. Яна ўвесь час на фронце.

Але Рубэн вырашыў дачакацца маці. Прысеў на прыступкі і неўзабаве задрамаў, стомлены дарогаю і ўражаннямі. Не пачуў першага дотыку цёплых рук...

— Мама...

Як жа яна змянілася за гэты час... Твар загарэлы, абветраны; глыбокія рысачкі-зморшчыны прарэзалі лоб, у чорных пасмах валасоў — ніткі срэбра... Ваенная форма. На рамяні — кабура... А як ззяюць вочы! Які цёплы, ласкавы, такі дарагі-дарагі голас...

— Мой хлопчык, ну, дзень добры. Я вельмі спяшалася дахаты... Я ж чакаю цябе цэлую вечнасць...

Потым яны сядзелі за сталом, прыслухоўваліся да далёкай кананады, і сын сказаў маці, што не можа не ісці адразу ж на фронт.

— Так, — сказала яна. — Інакш і не можа быць... Ідзі!

— Я хачу ўступіць у пяты камуністычны полк.

Маці пакруціла галавой:

— Я не буду прасіць за цябе.

— Чаму?

— Хоць бы таму, што ты павінен пазбягаць любой перавагі ў параўнанні з іншымі. Ты павінен стаць радавым салдатам, а калі

чым і вылучацца, дык толькі адвагаю і смеласцю.

— Я разумею цябе. І ніколі не падвяду. Я буду прасіцца на перадавую. І вазьму з сабою толькі гэтыя вось дзве кнігі. Мне іх падаравалі Лепяшынскія.

— Так, яны пісалі мне...— Маці ўзяла кнігі ў рукі.—Ты ўжо зусім добра чытаеш па-руску? Ленін і Астроўскі... Цудоўныя кніжкі...

Яшчэ ў дзяцінстве ў родным шахцёрскім пасёлку Самаростра ён упершыню пачуў ад маці слова «ЛЕНІН», а таксама: «Расія», «Масква», «камунізм».

Цяпер ён глядзеў на маці і ўспамінаў, як аднойчы ў Самаростра яна выступала на мітынгу шахцёраў. Расказвала пра Леніна. Жандар у мундзіры выбег наперад, крыкнуў:

— Хлусня! Пры чым тут Ленін? Ён жа—рускі і ніякага дачынення да Іспаніі не мае!

— Памыляецеся, пан жандар,—цвёрда сказала маці.—Ленін—правадыр працоўных усіх краін, правадыр шахцёраў і нашай Басконіі.

— Ленін...—зноў пачала маці, і ў яе вуснах гэтае слова гучала летуценна і светла.

Пасля мітынгу яны ішлі дадому, і Рубэн спытаў:

— Хто ён—Ленін? Чаму ты так гаворыш пра яго, быццам ён раднейшы за ўсіх?

— Таму, што ён навучыў мяне жыць. А навучыць жыць, мой хлопчык, гэта ўсё роўна, што невідушчага, сляпога, які заблудзіў у гарах, вывесці на дарогу. Больш таго—даць сляпому зрок. Ты зразумеў?

— Зразумеў, мама,—адказаў сын.

Усё гэта прыгадалася цяпер, калі маці беражліва перагортвала томік Ільіча.

— Вельмі дарагі падарунак...— прамовіла яна ціха.—Асабліва таму, што ён—ад сяброў, паплечнікаў Леніна...

З гэтым томікам правадыра і кнігай Мікалая Астроўскага неўзабаве Рубэн накіраваўся на фронт. Быў добрым і смелым салдатам рэспубліканскай арміі. Нярэдка ў перапынках паміж баямі чытаў ён іспанскім байцам і байцам інтэрнацыянальнай брыгады артыкулы і пісьмы Леніна і ўрыўкі з кнігі Астроўскага. А байцы на палях кнігі пакідалі словы сваёй клятвы на іспанскай, італьянскай, нямецкай, рускай, французскай, польскай, грэчаскай, венгерскай, сербскай і іншых мовах свету.

Пакінуў свой запіс і сябар Рубэна па разведатраду на плацдарме

**У сям'і Лепяшынскіх. Рубэн—першы злева.**



Эбра, партавік з Марселя Луіс Гальс:

«Дарагі таварыш Ленін! Мы ідзём у бой з тваім імем. Я француз, але змагаюся з фашыстамі за свабоду Іспаніі».

Томік Леніна Рубэн захоўваў як святыню. Ён прайшоў з ім пасля паражэння рэспублікі праз французскі лагер Аржэлес, праз фашысцкую Германію. Не расставаўся ён з ім і калі быў курсантам Маскоўскага ваеннага вучылішча імя ВЦВК.

І ў першых баях супраць фашызму на савецкай зямлі, каля беларускага горада Барысава, томік правадыра быў з Рубэнам.

...Яго як быццам чакалі тут, на гліністай выемцы, дзе снарад абваліў сцяну траншэі. Худзенькі, шчуплы лейтэнант, зусім хлопчык, выцягнуўся перад ім:

— Таварыш камроты?

— Так. Слухаю.

— Дазвольце далажыць... Лейтэнант Сергяйчук... У нас выбыла палова асабовага складу...

— Потым пра гэта, — сказаў Рубэн. — Біцца належыць нам, жывым. Кулямётчыкі, адсякаць пяхоту ад машын! Бутэлькі з гаручай сумессю ёсць, таварыш Сергяйчук?

— Ёсць. Раздадзены байцам.

Тое, што Рубэну даводзілася раней чуць пра танкавыя атакі, зусім было не падобна на гэты бой. Нельга сказаць, каб тут, каля Бярэзіны, танкі праціўніка ішлі напралом. Камандзір танкавай групы ворага яўна хітраваў, манеўруючы каля нашага пярэдняга краю. Відаць, ён імкнуўся прыкрыць сваю пяхоту, што ішла адразу ж за машынамі, і таму мяняў некалькі разоў кірунак удару. Гэта каштавала яму яшчэ дзвюх машын.

У першым разліку быў забіты кулямётчык, і Рубэну прыйшлося яго замяніць. Новенькі «максім» працаваў паслухмяна, і калі на адхоне каля падбітага танка, за сотню метраў ад выступу траншэі, замітусіліся варожыя салдаты, Рубэн накрыў іх доўгаю чаргою.

Неўзабаве Рубэна паклікаў да тэлефона камбат, і прыйшлося перадаць кулямёт сібіраку Курачкіну.

— Як маешся там? — спытаў камбат. — Трымайцеся...

— Згодна загаду. Але байцоў малавата...

— Цяжка будзе. Ведаю. Але трэба пратрымацца да самага вечара. Я запрасіў падмогу.

І ўсё ж ад танкавай атакі Рубэн чакаў большага. Бой з танкамі ўяўляўся, як сутыкненне са стыхіяй. На справе ўсё было прасцей. Пяхота праціўніка разгубілася, адсечаныя агнём кулямётаў ад машын, салдаты спрабавалі залегчы, знайсці ўкрыцце.

Рубэн зняў тэлефонную трубку і далажыў, што ў іхняй паласе знішчана шэсць танкаў.

— Шэсць? А не больш?

— Я і зараз іх бачу, — сказаў Рубэн. — Адзін амаль дайшоў да траншэі...

Камбат нейкім прыўзнятым голасам, які, здавалася, нават пазванчэў раптам, прагаварыў:

— А Бярэзіна, глянь, якая прыгожая! Цуд-рака! І мост цудоўны. Дражніць іх, паганцаў... — і, рэзка мяняючы тон, раптам сказаў: — Слухай, яны разведалі абарону. І неўзабаве рынуцца далей. У цябе мала людзей, і патрэбна дапамога. Ты ведаеш такога арла — сержанта Клавіча? Беларуса? Дарэчы, ён жа тут свае родныя мясціны ахоўвае... дакладней — бароніць.

— Ведаю. Смелы баец. Быў у маім узводзе.

— Дык вось, ён просіцца з групаю сяброў да цябе.

— Дзякуй. Гэта вельмі добра.

Месяц таму назад Янка Клавіч расстаўся са сваім трэцім класам. Дзяўчынкі паднеслі настаўніку букет палявых кветак. І зараз, на фронце, ён чамусьці ўсё яшчэ болей думаў пра школьныя справы, чым пра ваенныя.

Чырвонаармейцы, што прыбылі з Клавічам, узмакрэлыя, задыханыя ад бегу, гатовы былі ісці ў бой адразу. Але камроты ветліва павітаўся і кіўнуў сувязному:

— Перш-наперш — хлопцам абед! Пакуль — перадышка.

Клавіч, Пахомаў, Лашакоў былі задаволены, што іх перакінулі на пярэдні край. Да таго ж, яны вельмі хацелі трапіць да свайго камандзіра Ібаруры.

— Вось бяда... Забыўся зусім... Таварыш лейтэнант, я ж рэчмяшок ваш прынёс... — прамовіў Янка.

— Дзякуй, — адказаў Рубэн. — Тут вось адна кніжка, таварышы. Хочацца паказаць вам яе перад боем. — І ён дастаў томік Ільіча ў чырвонай вокладцы. — Гэта падарунак Лепяшынскіх, сяброў Леніна. Бачыце — кніжка ўся спісаная. Гэта ў трыццаць восьмым на плацдарме Эбра перад рашаючай атакай пакінулі сваю памяць баявыя сябры. Вось француз Луіс. Вось Янэк Барвінскі. Вось мой стары сябар Сатурнін. Бачыце — па-іспанску, па-польску, па-нямецку, па-французску...

І ўсе адклалі лыжкі ўбок. Стала ціха-ціха... Не было слоў. Ды ці ж патрэбныя яны ў такую хвіліну? Лепш падумаць. Пра што яна, думка салдата? Пра Леніна. Здавалася, прыйшоў у гэту хвіліну да іх сам Ільіч, родны, блізкі, і разам з ім прыйшлі іспанскія байцы-інтэрнацыяналісты.

Маўчанне парушыў Клавіч:

— Таварыш лейтэнант! А што, Эбра прыгажэйшая за Бярэзіну?

— Не, здаецца, прыгажэйшая Бярэзіна. А наогул, людзям бліжэй сваё, роднае. Для мяне, напрыклад, нічога няма прыгажэйшага за Мансарэс ці Эбра, для цябе за Бярэзіну.

Рубэн наважыўся пакласці томік у мяшок, але ўсталі Клавіч, потым — Лашакоў, Пахомаў, Курачкін, Бідыла, Бекер, Арцем'еў.

— Таварыш лейтэнант, дазвольце і нам распісацца ў гэтай кніжцы, — сказаў Курачкін. — Мы таксама дадзім клятву Ільічу, як там, на Эбра.

— Не бойцеся, таварыш лейтэнант, — гэта ўжо голас Клавіча, — мы акуратна...

— Няхай клятву напіша адзін, — прапанаваў Лашакоў, — а мы падпішамся.

І ўсе без каманды сталі «смірна!» Клавіч напісаў усяго сем слоў: «ТАВАРЫШ ЛЕНІН, МЫ ІДЗЁМ У БОЙ З ТВАІМ ІМЕМ».

...Пад покрывам дробнага дажджу нямецкія танкі ўзнікалі прывідамі, набліжаліся, з грукатам мясілі гліну і выдыхалі доўгія рыжыя ўспышкі агню.



**Лета 1940 года. Лейтэнант Рубэн Ібаруры з сястрой Амайяй.**

Пярэдні танк сунуўся па слізкім суглінку і купінах, быццам прас. Рубэн пачакаў, пакуль машына перацягнула праз яміну свой нізка пасаджаны зад, прыўзняўся і нетаропка, але дакладна паклаў звязку гранат пад гусеніцу. Ён паспеў адскочыць, упасці, і праз некалькі секунд грымнуў выбух. Там, у танку, адчулі небяспеку. Гулка ўдарыла гармата, затрашчаў кулямёт, машына рванулася ўбок, спрабуючы развярнуцца, але спераду грымнуў яшчэ адзін выбух. Танк спыніўся.

Цяпер побач з Рубэнам аказаўся Курачкін. Ён цяжка дыхаў.

— Вось мы гэтую гадзіну разам... Гэта здорава!..

Недзе блізка гулі маторы, ірваліся гранаты. Дождж крыху перацiх, але не відно было нічога: на Бярэзіну насунуўся вечар. Курачкін быў паранены і цяпер бездапаможна ляжаў у глыбокай варонцы. Рубэн абхапіў яго за плечы і пачаў цягнуць да траншэі.

— Таварыш лейтэнант, — прашаптаў Курачкін, — калі мне ўжо канец... вы не забудзьцеся... там, у ленінскай кніжачцы, і мой подпіс... Скажыце, што не падвёў сібірак... стрымаў сваю клятву... Вы ўжо...

— Хутчэй кулямёт! — Рубэн пазнаў голас Клавіча.

Рубэну цяжка было цягнуць Курачкіна — слізкая, грузкая зямля знікала з-пад ног. Адкуль раптам з'явіўся Клавіч? І чаму ён так моцна штурхнуў Рубэна ніжэй пляча? Рубэн упаў... Клавіч падхапіў яго, пранёс некалькі метраў,

але тут зусім блізка затарахцеў кулямёт...

Кулямётчыкі трэцяй роты, што засталіся жывыя, працягвалі бой. Потым бой паступова заціх, і Янка бачыў, як вакол чарнелі ўздыбленыя танкі. У лужынах і на ўзгорках каля акопаў ляжалі забітыя. Клавіч прыкідваў адлегласць: ці здолее ён вынесці ў бяспечнае месца Рубэна і Курачкіна? Камроты намагаўся прыўзняцца — амаль паўгадзіны ён быў непрытомны, цяпер пакрысе ачуньваў. Клавіч падбег да Рубэна, і раптам зусім нечакана паласнула чарга з падбітага танка. Клавіч штурхнуў Рубэна, зваліў на зямлю і закрыў сабою:

— Там у танку кулямётчык... Яны, гады, прыкідваюцца, што мёртвыя... Не ўставайце...

— Ты паранены?

Клавіч не адказаў...

●

Камандзір батальёна званіў у трэцюю роту:

— Ало, трэцяя?.. Трэцяя?.. Беражыце камроты... Чуеце? Па яго прыйдзе танк, наш танк. — Ён апусціў трубку і кіўнуў ардынарцу: — Танк у маё распараджэнне! І двух санітараў.

●

Вялікая палата. Квадратнае акно. Чыстыя белыя сцены. Рубэн ляжыць каля акна і ўважліва разглядвае трапяткое на лёгкім ветрыку, здаецца, усё напоўненае святлом і паветрам дрэўца за акном. У палаце ляжыць і камандзір батальёна.

— А томік Леніна ўцалеў... — гаворыць Рубэн. — Вы бачылі, таварыш капітан, тут клятвы байцоў, што змагаліся на Бярэзіне?

Ціха адказвае камбат:

— Скажу я табе, гэта — зброя. І немалая. Смеласць? Так. Адвага? Так. Але трэба яшчэ ведаць, у імя чаго ідзеш у бой...

Ціха шапацела за акном бярозка, апошнія промні заходзячага сонца пераліваліся ў яе лістоце..

З томікам Леніна ў палявой сумцы і ордэнам Чырвонага Сцяга за Бярэзіну Рубэн прыйшоў гарачым жнівеньскім поўднем 1942 года ў прыволжскія стэпы, пад станцыю Катлубань.

Адразу пасля начнога маршу кулямётная рота Рубэна Ібарury ўключылася ў бой. Шмат разоў штурмавалі гітлераўцы нашы пазіцыі і кожны раз адыходзілі назад. Са звязкамі гранат кідаліся насустрач танкам і гераічна загінулі Павел Глушчанка, Алсан Кадыраў, Ахмет Абдуваліеў. У адной з сутычак быў забіты камандзір вучэбнага батальёна капітан Лустын, які ўзначальваў перадавы атрад дывізіі. Рубэн прыняў камандаванне на сябе.

Раніцай 24 жніўня, зрабіўшы жорсткую агнявую падрыхтоўку, гітлераўцы зноў пайшлі ў атаку.

— Но пасаран! — цвёрда сказаў Рубэн.

Так, фашысты не пройдуць! І яны не прайшлі. Але Рубэн быў смяротна паранены. Яго вынес з поля бою салдат Шалва Чэргейшвілі, а сібірак Мікалай Струкаў знайшоў пасечаную асколкамі палявую сумку Рубэна і дастаў адтуль томік у чырвонай вокладцы. Кніга таксама была прабіта асколкамі...

Зноў пачалася рукапашная схватка. Да падыходу асноўных сіл кулямётчыкі Рубэнаўскай роты і аўтаматчыкі вучэбнага батальёна ўтрымлівалі рубеж пад Катлубанню. Да самага канца Сталінградскай бітвы станцыя Катлубань была ў нашых руках. Кроў герояў была праліта не дарма...

Мікалай Струкаў — адзін з нямногіх салдат Рубэнаўскай роты, хто дайшоў да Берліна. Там, расказвалі аднапалчане, ён напісаў штыком на адной з калон рэйхстага: «Но пасаран!» Кажуць, ён паказваў нашым байцам той самы томік у чырвонай вокладцы...

**Сямён ДЫХНЭ.**

ПРАЗ маленькую адтуліну ў столі бачны кавалачак блакітнага неба. Вецер калыша галінку маладой елкі, што схілілася над зямлянкай. Там, наверсе, мусіць, сонечны поўдзень. А тут, у падзямеллі, цёмна, сыра і — незвычайная напружаная цішыня...

Учора без перапынку гула кананада. Сёння не чутно ніводнага стрэлу. Нашы войскі ўзялі Полацк. Нямецкія часці адступілі на захад і занялі абарону на правым беразе ракі Дрысы. Якраз там, дзе актыўна дзейнічалі партызаны.

У размяшчэнні 2-й Дрысенскай партызанскай брыгады далёка ад шасейных дарог пад зямлёй быў створаны партызанамі шпіталь, ці, як яго звалі, «тайнік», схаваны глыбока ў зямлі, замаскаваны сярод прыродных узгоркаў, што ледзь-ледзь узвышаліся паміж зарасляў хмызняку і маладых елак. Каб трапіць у «тайнік», трэба было прайсці дзесяткі метраў пад зямлёю ходам злучэння.

трэба выцягнуць чаку, і міны выбухнуць. Але таго, што фашысты размесцяцца над самай зямлянкай, ніхто не прадбачыў.

Змяркалася. Галасы наверсе змоўклі. Немцы, відаць, пакладіся спаць. Ноччу можна не чакаць нападу: фашысты самі баяліся партызан і страшыліся цемры.

Шэпт і насцярожанае прыслухоўванне сястры і кулямётчыка заўважыў хто-ніхто з хворых. Гэта бачыла Юзэфа і вырашыла зрабіць абход. Яна мацала пульс, лічыла дыханне, некаторым зрабіла перавязкі, дала лекі. Тут яна была і медсястрой, і ўрачом, і адначасова — камендантам гарнізона, ад якога залежаў лёс людзей.

— Сястрычка, я таксама чуў...— ціха, са страхам у голасе, прамовіў баец з забінтаванай галавой, калі Юзэфа падышла да яго.— Немцы над намі... Чаму вы ўтойваеце гэта?

— Ну і што з таго?— усміхнулася

# ПАРТЫЗАНСКІЯ СЁСТРЫ

У шпіталі было чатырнаццаць раненых і хворых партызан і з імі медыцынская сястра Юзэфа Лысенка, невялікая ростам, жвавая светларусая дзяўчына. Сёння ўрача не было, мусіць, затрымаўся недзе ў брыгадным шпіталі, і Юзэфа добра разумела, што ўся адказнасць за людзей у зямлянцы ўскладаецца на яе..

Яна нічога не ведала пра вялікую небяспеку, што пагражала ім, не ведала, што франтавыя немецкія часці, якія стаялі ў абароне, размясціліся якраз над іх сховішчам. І вось у зямлянцы пачулі брэх сабак, нямецкую гаворку.

— Чуеш?!— Юзэфа глянула на Уладзіміра Быкава, кулямётчыка, які папраўляўся ўжо, і паказала вачыма наверх.

— Чую. Няўжо знайшлі нас, гады?

У гэтую хвіліну, як на зло, на нарах застагнаў хворы. Юзэфа кінулася туды, прыкрыла яму далонню рот, зашаптала:

— Цішэй, родны, цішэй! Я ж тут, з табою.

Прадчуваючы небяспеку, камандзір партызанскай брыгады Іван Міхайлавіч Кухарэнка даў загад узброіць падземны гарнізон гранатамі і мінамі, каб людзі, хто будзе мець сілу, у цяжкую хвіліну маглі абараняцца. Камандзір даражыў кожным байцом, але на выпадак безвыходнага становішча медсястра мела напагатове шнур—

сястра.— Сюды ім усё роўна не трапіць.

— Не трапіць... Пахаваюць яны нас тут. Магіла гатовая: самі сабе выкапалі...

— Ну, даволі! Будзьце сапраўдным байцом!

Закончыўшы абход, яна вярнулася да свайго імправізаванага «століка», дзе звычайна сядзела ў час дзяжурства. Вузкі, амаль дзіцячы твар яе цьмяна асвятляла свечка-каганец.

Вакол і наверсе было ціха, але на сэрцы ў дзяўчыны цяжка і трывожна. А што, калі немцы заўважылі «тайнік», але вырашылі дачакацца світання? Днём яны смелыя...

Накульгваючы, падышоў кулямётчык Быкаў, адзіны ў гарнізоне чалавек, што мог хадзіць па шпіталю, а астатнія ўсе цяжка хворыя. Быкаў бачыў трывогу і перажыванні сястры, спачуваў ёй і думаў, як бы ёй дапамагчы.

— Юзя,— шэптам прагаварыў ён,— вам трэба адпачыць. Ідзіце паспіце крыху...

— Не-не... Не трэба.

— Ідзіце, пакуль ціха наверсе. А раніцою я правяду... ну, палітінфармацыю, ці што... Скажу: трэба, хлопцы, трымацца, як належыць...

— Добра, Валодзя. Дзякуй...

Ноч прайшла спакойна. Наверсе было ціха, нейк нават падазрона ціха. У зямлянцы таксама спакойна. Толькі

на нарах кідаўся ў гарачцы Валодзя Касач. Усе ведалі—ён цяжка хворы. Медсястра амаль не адыходзіла ад яго, давала лякарствы, ставіла кампрэсы.

Калі развіднела, Уладзімір Быкаў, як і гаварыў, зрабіў палітінфармацыю. Ён расказаў, што ўчора яны з медсястрой чулі наверсе нямецкую гаворку і брэх сабак, а гэта азначае, што ў размяшчэнне брыгады праніклі гітлераўцы. Магчыма, сёння будзе бой.

— Задача кожнага з нас—захоўваць найстражэйшую цішыню, не выдаць сябе. У гэтым наш ратунак,— цвёрда сказаў ён.

Прайшла яшчэ адна ноч. Настаў новы дзень, які прынёс нямала хваляванняў і трывог. Наверсе пачаўся нейкі незвычайны гул і тупат. Заліваліся брэхам сабакі. Што гэта? Ці то немцаў напалохалі партызаны, ці яны самі перайшлі ў наступленне?

Але сумятня працягвалася нядоўга. Усё сціхла, толькі нешта падобнае на шастанне кропель дажджу па лістоце даносілася ў зямлянку.

Шум пачаўся зноў на змярканні. Чутны былі выбухі гранат і аўтаматная страляніна. Па ўсім было відаць, што ідзе бой. Немцы ўвесь час тупацелі над зямлянкай і нешта немым галасам крычалі, здавалася, яны недзе ўжо ля самага ўваходу ў «тайнік».

Аўтаматчык Аляксандр Цішаловіч, што ляжаў да гэтага часу спакойна, пачаў трызніць. Ён надрыўна крычаў, лаючы фашыстаў. Юзэфа села на ложак да хворага, накапала ў кубак з вадою кропель і дала хвораму выпіць. Ён крыху супакоіўся і прыціх.

А зверху даносіўся грукат далёкага бою. Дрыжала зямля. Затое паблізу зямлянкі шум сціх. Магчыма, немцы перайшлі на другія пазіцыі або прытаіліся ў абароне.

— Нічога не чутно. Мусіць, пайшлі...—з палёгкаю ўздыхнуў нехта на нарах. Відаць, нашы добра далі...

Але партызаны так і не маглі заснуць і ўсё прыслухоўваліся да далёкага гулу.

На дзяжурства заступіў Уладзімір Быкаў. Юзэфа прылегла на край нараў, але заснуць так і не змагла. Галава поўнілася думкамі. Успамінаўся першы дзень вайны, сяброўкі, з якімі разам займалася ў медыцынскім вучылішчы. Калі ў Полацк упаўзлі першыя брудна-зялёныя грузавікі і цягачы з нямецкімі гарматамі, дзяўчат у горадзе ўжо не было.

Юзэфа Лысенка была з вёскі Залессе, Феня Макрэцкая—з Войтава, Марыя Петрычэнка—з Пярэкі, Часлава Юргялевіч—з Замшан. Выхаванкі камсамола, яны ведалі, што ім трэба было рабіць, і падаліся ў свае родныя



**Юзэфа Касач перад вайной.**

мясціны. І не памыліліся—у тыя часы ў беларускіх лясах ужо нараджаўся партызанскі рух. Але вайна раскідала іх у розныя бакі. Часлава Юргялевіч спачатку збірала весткі пра нямецкі гарнізон станцыі Баравуха, засылала туды лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, а адтуль выносіла медыкаменты, хірургічныя інструменты і перадавала ўсё гэта партызанам. Потым працавала ў міжбрыгадным шпіталі, што размясціўся ў вёсцы Мілавіды Расонскага раёна.

Легендамі паміж партызан было авеяна імя бясстрашнай патрыёткі медыцынскай сястры Фені Макрэцкай. У жорсткіх баях за вёскі Клімаўшчына, Балдышы, Зябкі яна знішчыла некалькі гітлераўцаў. Рызыкуючы жыццём, вынесла з поля бою двух параненых партызанскіх камандзіраў. Мужнасць і адвагу выявіла яна пры пераходзе лініі фронту, суправаджаючы параненых, жанчын і дзяцей. А калі трэба было зберагчы мірных жыхароў ад шматлікіх інфекцыйных захворванняў, і тут не абышлося без удзелу Фені Макрэцкай: яна была на пярэднім краі. Яе самую зваліў сыпны тыф, але партызаны не далі ёй загінуць, схавалі ў надзейным месцы, паклапаціліся пра лячэнне, і дзяўчына папраўілася...

«Дзе вы зараз, мілыя, дарагія сяброўкі?—думала Юзэфа.—Ці жывыя?» Вось і ёй цяпер нялёгка. Але не за сябе яна хвалюецца, а за тых, хто аказаўся яшчэ ў большай бядзе, чым яна, хто не можа падняцца з нараў... Што іх чакае? Ці ўдасца вы-

брацца з гэтага змрочнага падзямелля?

Прайшоў тыдзень, поўны трывогі і чакання. У зямлянцы, дзе не было ні вокан, ні дзвярэй, стала нясцерпна душна і сыра. Кончыліся запасы прадуктаў. Не было вады...

— Валодзя,—звярнулася да Быкава Юзэфа.—Трэба неяк вадзіцы прыдбаць... Хворыя піць просяць...

Кулямётчык кіўнуў галавою, і твар яго стаў заклапочаны: у думках ён прыкінуў, якім шляхам трэба прабірацца да маленькага балотнага раўчука, што цячэ справа ад зямлянкі. Ну, а як там фрыцы? Але ісці трэба. Ён узяў дзве біклагі, засунуў іх за пояс і знік. А Юзэфа падышла да выцяжной адтуліны і прыслухоўвалася да кожнага гуку, да кожнага шораху наверсе. Неба не было відаць, значыць, была ноч. Гэта—добра!

Прайшла гадзіна трывожнага чакання. Нарэшце ў ходзе, што ззяў цёмнай дзіркаю ў сцяне, пачуўся асцярожны шоргат. Быкаў, ледзь пераводзячы дых, упоўз у зямлянку. Юзэфа кінулася насустрач, убачыла ў руках Валодзі біклагі, напоўненыя вадою...

Спачатку здавалася, што гарнізон не зможа пратрымацца і аднаго дня. Але настал чатырнаццатыя суткі. Людзі неяк прызвычаіліся да цяжкіх умоў, мужна пераносілі ўсе цяжкасці. Неяк звыкліся з тым, што смерць заўсёды побач...

І вось наверсе зноў пачалася нейкая падазроная мітусня немцаў. Усе чуйна прыслухаліся.

— Здаецца, узрыўчатку падвозяць...—ціха сказаў нехта з байцоў.—Узляцім мы ў паветра...

— Не, не тое... Гэта яны самі акопваюцца. Відаць, нашы задалі ім дыхту...

Недзе непадалёк разарваўся снарад. Потым другі, трэці... У адказ зусім недзе побач азвалася гарматная батарэя. Пачалася сапраўдная артылерыйская дуэль. Раптам страшэннай сілы ўдар страсянуў зямлянку, засыпаў яе пяском. Паветра пранізліва заскуголіла ў шчылінах.

— Гэта нашы б'юць!—сарваўся з нараў Уладзімір Быкаў. Ён зрабіў крок да медыцынскай сястры:—Нашы б'юць, нашы! Які сёння дзень?

— Дваццатае ліпеня...— Юзэфа глянула на кулямётчыка: якое гэта мае значэнне? Губы яе кранула ледзь улоўная ўсмешка, але тут жа згасла: не было сілы нават усміхнуцца.

Вал артылерыйскага агню перакатваўся па лесе, у небе рос гул самалётаў. Данеслася далёкае, але такое роднае і знёмае «ўра».

Адбылося гэта так нечакана, што ў зямлянцы ўсе разгубіліся.

Юзэфа кінулася да выхаду.

— Увага, таварышы!—крыкнула яна, і голас яе абарваўся. У гэты момант зверху пачуўся нечы зычны голас:

— Ёсць хто жывы?

Сабраўшы апошнія сілы, Юзэфа выбралася з зямлянкі і ўбачыла савецкага афіцэра. Яна па форме далажыла, што ўсе людзі жывыя, але моцна аслаблі і што іх трэба неадкладна адправіць у шпіталь. У галаве ў яе ўсё закружылася, дзяўчына збялела і ўпала б на зямлю, калі б нехта з разведчыкаў не падтрымаў яе.

Гэтую незвычайную гісторыю я пачуў у Полацку. Застаецца толькі дадаць, што медыцынскія сёстры і цяпер, як у гады вайны, самааддана служаць людзям. Усе яны засталіся амаль у тых месцах, дзе партызанілі.

Феня Міхайлаўна Макрэцкая шмат год працуе старшай медыцынскай сястрой Падсвільскай раённай бальніцы. Часлава Антонаўна Юргялевіч жыве ў Расонах і працуе таксама сястрой у бальніцы. Марыя ж Аляксееўна Петрычэнка жыве якраз у зоне партызанскіх баёў: у вёсцы Дзярновічы ёсць фельчарска-акушэрскі пункт, там яна і працуе.

А вось як склаўся лёс Юзэфы Пятроўны Лысенкі. Доўгі час яна працавала на Леампольскім сельскім урачэбным участку Міёрскага раёна. Потым пераехала ў Полацк. Працуе медыцынскай сястрой у паліклініцы. Але прозвішча яе цяпер іншае. Яна выйшла замуж за партызана Уладзіміра Канстанцінавіча Касача, за таго самага, што кідаўся і трызніў у зямлянцы і каго яна выратавала ад смерці.

**Павел ТОРМАСАЎ.**



# ГАТОЎНАСЦЬ НУМАР АДЗІН

Гэта стала традыцыяй — завяршае святочны ваенны парад самая грозная зброя, самая сучасная баявая тэхніка. Раней гэта былі легендарныя кулямётныя тачанкі, пасля апошнімі ў парадным страі ішлі танкі. Цяпер замыкаюць урачысты марш войска магутныя ракетныя ўстаноўкі, якія з'яўляюцца надзейным агнявым шчытом і мечам Радзімы.

Вось і сёлета, 7 лістапада, ледзь на Цэнтральную плошчу Мінска ў гуле матораў і бляску металу ўступілі ракеты, на трыбунах для гасцей прашумелі бурныя воплескі. Народ шчыра ганарыцца сучаснай магутнасцю сваёй арміі, горача вітае яе воінаў, якія з гонарам гатовы пастаяць за вялікія кастрычніцкія заваёвы.

Прыгожа, велічна, грозна ішлі ракеты ў святочным парадным страі. Але людзі з трыбун бачылі ракетчыкаў толькі ў кабінах ды люках баявых машын. І ці задумваліся ў гэтыя мінуты над тым, якая ў іх адказная, нялёгкая будзённая армейская служба — дзесьці на палігонах, на маршах і стартавых пазіцыях.



Ракетчыкамі выдатнай батарэі камандуе камуніст капітан Анатоль Шаўчэнка (першы злева).



Апошняе ўдакладненне.

Гэта вылічальнікі — камсамолец яфрэйтар Барыс Лейзяровіч (злева) і камуніст радавы Мікалай Рыжанкоў.





Ракета гатова да пуску. Ракетчыкі бягуць у сховішча.

...Вучэбнае поле. Ракетная ўстаноўка мчыць цалінон, на хмызняках і драбналессі на новую стартавую пазіцыю — трэба выйграць час і раптоўна, як гром сярод яснага неба, абрушыць вогненны ўдар на «праціўніка». Механік-вадзіцель вядзе цяжкую машыну на крайне дапушчальнай у гэтых умовах хуткасці. Нечакана радыст прымае каманду: «Цэль 101 — вялікая колькасць танкаў!..»

— Стой! К бою! — аддае кароткі загад камандзір.

Сячэ халодны асенні дождж. Шэрыя рваныя хмары ледзь не чапляюцца за верхавіны дрэў. Ракетчыкам няма часу нават змахнуць з разгарачаных твараў кропелькі дажджу. Хутка і зладжана яны рыхтуюць ракету да пуску — кожны заняты сваёй справай, кожны стараецца на сваім баявым пасту апярэдзіць суседа ў выкананні вучэбных нарматываў. У сапраўдным баі гэтыя выйграныя секунды — зарука перамогі.

Сталёвай востраканечнай стралой, нацэленай на скопішча «непрыяцельскіх» танкаў, недзе там, далёка за лесам, за рэчкай, узнімаецца ракета над машынай, над галовамі воінаў, над лясным гушчаром.

Па сігнале разлік устаноўкі бяжыць у сховішча. І праз імгненне ў клубах полымя і дыму ракета зрываецца з накіравальнай і ляціць у пахмурнае неба—на цэль.

Бадай самае пакутлівае — чакаць вынікі пуску.

— Выдатна! — нарэшце дакладваюць радысты, якія першымі даведваюцца пра высокую ацэнку ратнай працы калектыву...

І вось мы знаёмімся з гаспадарамі грознай агнявой тэхнікі.

Ракетчыкамі выдатнай батарэі камандуе камуніст капітан Анатоль Шаўчэнка. А гэта вылічальнікі — камсамолец яфрэйтар Барыс Лейзяровіч і камуніст радавы Мікалай Рыжанкоў.

Пасля пуску нашы танкі працягваюць наступленне. Ракетчыкі зачахляюць устаноўку перад маршам у новы пазіцыйны раён.

## — на варце радзімы



Перад маршам у новы пазіцыйны раён.



Механік-вадзіцель на баявым пасту.

★

У перапынку між заняткамі.



У гэты час дзесьці на другім участку сігнал трывогі ўзняў у неба ракету іншага прызначэння. Яна нацэлена для трапнага ўдару па паветраным «праціўніку».

Калі ў ракетчыкаў выпадае вольная хвіліна, яны цікавяцца і апошнімі падзеямі ў краіне і за мяжой, і лістом, што атрымаў таварыш з дому.

Батарэя выдатная, у ёй усе салдаты, сержанты, афіцэры — выдатнікі. На такіх можна спадзявацца!

Тэкст і фота
Яўгена КОЛЬЧАНКІ.

● Анатоль АСТРЭЙКА

● Уладзімір ЛІПСКІ

# ЗВЫЧАЙНАЯ МУЖНАСЦЬ

Пастанавілі: *«Прысвоіць камсамольскай арганізацыі Нясвіжскага раённага аддзела міліцыі імя Шымко»*.

З пратакола № 35
пасяджэння бюро Нясвіжскага РК ЛКСМБ
ад 18 лютага 1969 года.

Шымко... Гэтага парывістага, часам гарачага, настойлівага чалавека ведалі тут многія. Адны працавалі з ім, выконвалі адказныя заданні, другія проста сустракаліся як таварышы па службе. Моладзь, што нядаўна прыйшла ў міліцыю, чула расказы пра яго, пра яго подзвіг.

Подзвіг. Ён прыйшоў у яго жыццё нечакана. Хоць і ўвесь яго працоўны шлях можна назваць гераічным.

Што ведалі пра Мікалая Шымко яго таварышы?

Ведалі тое, што ён прыехаў у Нясвіж у 1962 годзе. Скончыў Вышэйшую школу Міністэрства аховы грамадскага парадку і быў назначан намеснікам начальніка аддзела міліцыі Нясвіжскага райвыканкома.

Ведалі і тое, што ў гэтага чалавека за плячыма вялікі жыццёвы шлях: у гады Вялікай Айчыннай вайны Мікалай Аляксандравіч быў байцом партызанскай брыгады імя Чкалава, потым разам з воінамі Савецкай Арміі дабіваў ворага на яго тэрыторыі.

Пасля вайны — нялёгкая работа супрацоўніка міліцыі.

Звычайная біяграфія. Яна мала што гаворыць пра чалавека. Праўда, хоць і нямнога папрацаваў Шымко ў Нясвіжы, але людзі неяк адразу адчулі яго клопат, чалавечнасць, чуласць.

Да яго прыходзілі, як да намесніка начальніка, таварыша па службе. І заўсёды сустракалі лагодны прыём, разуменне. Гэта збліжала яго з усімі таварышамі па службе.

**...Рабочы дзень падыходзіў к канцу. У аддзяленні міліцыі было ціха. Толькі зрэдку стукалі абцасы па калідоры. Гэта разыходзіліся таварышы па службе. У пакоі крымінальнага вышуку сядзелі толькі Мікалай Аляксандравіч Шымко і Леанід Адамавіч Корсак. Яны праглядалі дакументы, ціха перагаворваліся паміж сабой.**

**Мікалай Аляксандравіч паглядзеў на гадзіннік.**

**— Заседзеліся мы з табой,— сказаў ён.— Час і дамоў.**

**Не спяшаючыся пачалі прыбіраць са стала дакументы.**

Дзверы ў пакой адчыніліся раптоўна. На парозе стаяў дзяжурны.

— Абрабавана каса... Са Студзёнак званілі,— пачаў ён паспешліва і потым, аддыхаўшыся, дакладваў больш падрабязна: — Злачынца з двума пісталетамі аграбіў касу магазіна.

Усе ўскочылі.

— Трывога!



Мужнасцю Мікалая Шымко варта захапляцца.

У старшага ўпаўнаважанага ОБХСС Івана Цімафеевіча Ягорава служба, як кажуць, больш спакойная. Тут рэдка падымаюць па трывозе. Тут трэба па ледзь прыкметнай дэталі, па нітачцы разматваць увесь клубок. Іншы раз месяцы на гэта патрэбны, іншы раз менш. «Вось-вось, здаецца, гэта нітка ў цябе ў руках. Здаецца, пацягні... Але нітка... абарвалася. І даводзіцца шукаць новую. Размаўляць з людзьмі, правяраць стосы розных дакументаў. Але за семнаццаць гадоў работы ў органах міліцыі назбіраўся ўжо значны вопыт.

Так было і на гэты раз. Трывогі не ўзнімалі. Але ёсць сігнал, што на харчкамбінаце спрытна арудуе шайка раскрадальнікаў.

— Не можа быць!—адказалі яму, калі ён гаварыў аб гэтым у кантрольна-рэвізійным упраўленні.—Мы толькі нядаўна правялі там рэвізію. Усё, як кажуць, у ажуры!..

Іван Цімафеевіч усё ж вырашыў праверыць. Першая праверка гаварыла пра тое, што тут сапраўды штосьці нячыста.

— Што вы нас трывожыце з-за дробязей?— зноў адпарыравалі ў кантрольна-рэвізійным упраўленні.— Ніякай там недастачы няма!

Але Іван Цімафеевіч не здаваўся. Ішлі дні, тыдні, месяцы... Адзін, два, тры, чатыры... Перагорнуты горы дакументаў, спісаны кілаграмы паперы, апытаны дзесяткі людзей... Ніткі ад кіраўнікоў харчкамбіната пацягнуліся да загадчыкаў магазінаў, на пякарню.



Рыгор Васільевіч Нарубін дае заданне аператыўнай групе.

Фота В. Ждановіча.

Іван Цімафеевіч і яго памочнікі Міхаіл Мікалаевіч Дубовік і Мар'ян Іосіфавіч Янчэўскі ўсё больш заглыбляліся ў гэтую справу. Знайшлі «спісаныя» машыны мукі, не апрыходаваны ў магазінах сок...

— Трынаццаць тысяч рублёў укралі! Вось вам і дробязі!

Гэта Іван Цімафеевіч успомніў размову з работнікамі кантрольна-рэвізійнага ўпраўлення.

На самай справе, было выяўлена буйнае раскраданне грошай, прадуктаў. Хэўра з трынаццаці чалавек на чале з дырэктарам камбіната Алейнічам, тэхнічным кіраўніком камбіната Бардо, галоўным бухгалтарам Мартыненкам дзейнічала спрытна. Але... гэта «дзейнасць» была спынена своечасова.

Трывога! Хутчэй!

Мікалай Аляксандравіч і Леанід Адамавіч выскачылі на вуліцу. За імі беглі туды і ўсе, хто ў гэты час быў у будынку міліцыі.

Мікалай Аляксандравіч хутка падбег да свайго матацыкла.

— Ты што там корпаешся са сваім, Лёня! — крыкнуў ён Корсаку.— Давай хутчэй сюды.

У Корсака ў матацыкле штосьці не ладзілася, і ён кінуў свой матацыкл, перасеў у каляску да Шымко.

— Гані! — крыкнуў ён.

На шалёнай хуткасці гнаў у той вечар свой матацыкл Генадзь Пракопавіч Волкаў, інспектар ГАІ. Святло фар выхоплівала абрысы дрэў, прыдарожных слупоў. Снег мёў і мёў. За некалькі мінут дарога стала быццам пуховая пярына.

Было — як у казцы. І гэтыя даўгарукія ўсе ў белым дрэвы, і слупы-здані, і камы снегу, што сыпаліся і сыпаліся аднекуль з вышыні... Проста не верылася, што хтосьці ў гэты вечар пакутуе, курчыцца ад болю. Не верылася, што, магчыма, чалавек памёр ужо або памірае. Не ўкладвалася ў галаве, што ў такі вечар хтосьці мог учыніць злачынства.

Але так было. За дзевяць кіламетраў ад Нясвіжа знайшлі акрываўленага чалавека. Ён быў непрытомны, у вельмі цяжкім стане і, безумоўна, расказаць, што здарылася, не мог.

Калі паведамілі пра гэта Генадзю Пракопавічу, ён адразу асядлаў свайго баявога «каня». І вось на поўнай хуткасці гнаў яго. Руль непаслухмяна імкнуўся вырвацца з рук, колы выбіваліся на цаліну, снег сляпіў вочы. Але Генадзь Пракопавіч пільна ўглядаўся ў дарогу. «Хутчэй! Хутчэй! Хутчэй!» — здавалася, не кроў стукалася ў скроні, а хтосьці настойліва паўтараў гэта ззаду.

Святло фар выхапіла з цемры групу людзей, машыну.

«Хуткая дапамога раней за мяне паспела...» — падумаў Генадзь Пракопавіч і, саскочыўшы з матацыкла, падаўся да людзей.

— Жыць будзе, — пачуў ён голас урача. — Трэба толькі хутчэй у бальніцу.

Генадзь Пракопавіч вопытным вокам акінуў месца здарэння. Чалавек ляжаў ля абочыны, побач з ім валяліся раскіданыя рэчы. Было відаць, што моцны ўдар збіў яго з ног.

Калі ўрач аказаў першую дапамогу, Генадзь Пракопавіч разам з санітарамі перанес пакалечанага чалавека ў машыну. Машына рушыла, і Волкаў пачаў больш дэталёва вывучаць месца здарэння. Вось ён заўважыў след шыны. Быццам змяя, папоўз з аднаго краю дарогі да другога. Потым... Потым ляжала суцэльная белая цаліна. Было відаць, што па гэтай дарозе даўно не ішлі машыны. Густы снегапад засыпаў сляды і апошняй, якая, відаць, і ўдарыла чалавека.

«Машына... Гэта мог зрабіць толькі шафёр!» — такая думка не пакідала Волкава.

«Ага! Так і ёсць!» — ледзь не ўголас сказаў ён, калі ўбачыў кавалачкі бартавой абшыўкі.



Інспектар Нясвіжскай аўтаінспекцыі Генадзь Пракопавіч Волкаў.

«Трэба аб'явіць пошукі!» — вырашыў ён.

Неўзабаве ўсё было, як кажуць, прыведзена ў рух. Правяраліся ўсе машыны, якія ішлі ў кірунку горада. Супрацоўнікі крымінальнага вышуку сазвоньваліся са старшынямі калгасаў, арганізацыямі горада, раёна. Праз дзве гадзіны шафёр, які зрабіў наезд на чалавека, быў знойдзены. Калі абследавалі яго аўтамашыну, сумненняў у вінаватасці ўжо не было.

Гэта была машына вадзіцеля Чарняцова. Калі Генадзь Пракопавіч Волкаў разам са следчымі Леанідам Адамавічам Корсакам і Мікалаем Паўлавічам Купрэевым прыйшлі да шафёра дамоў, той ляжаў п'яны.

Матацыкл ішоў па лясной дарозе на вялікай хуткасці. «Толькі паспець бы!..» Мікалай Аляксандравіч усё больш нецярпліва паглядваў вакол. Вось і Студзёнкі. Невялікая вёсачка, акуратныя дамы. Каля магазіна многа народу.

«Спазніліся!..» — падумаў Мікалай Аляксандравіч і спыніў матацыкл.

— Ён пабег пад лес,— адразу ж падышло да іх некалькі чалавек.— Вунь туды!..

Мікалай Аляксандравіч пачаў распытваць, колькі гадоў злачынцу, у што апрануты, які з выгляду.

Зарыпелі тармазы, побач спыніўся грузавік. Гэта падаспелі супрацоўнікі міліцыі з сабакам.

У службовай практыцы Міхаіла Сідаравіча Сідарава гэта быў другі выпадак, калі ён не ведаў нічога пра злодзея. Міхаіл Сідаравіч ужо не навічок у міліцыі. З 1946 года працуе. Розныя справы даводзілася разбіраць. І складаныя, і лягчэйшыя...

У жанчыны прапаў кашалёк з грашыма. Яна зайшла ў аптэку, нейкія лекі купіла, заплаціла грошы, схавала кашалёк у сумачку і выйшла. Прыйшла дамоў — няма ні кашалька, ні грошай.

Калі паведамілі пра гэта Міхаілу Сідаравічу, ён адразу ж падаўся ў аптэку. Тут рэгіструюць кожную выдачу лекаў, але паспрабуй разбярыся па гэтым, хто вырашыў паквапіцца на чужыя грошы... Знаёмства з прозвішчамі наведвальнікаў нічога не давала. Гэта былі прыстойныя людзі, многіх з іх Міхаіл Сідаравіч добра ведаў.

«Не, не тое! Не тое!» — Сідараў зноў і зноў праглядаў спіс у кнізе выдачы лекаў.

— Скажыце, вы не заўважалі, каб хто-небудзь заходзіў сюды проста так, без рэцэпта? — спытаў ён у аптэкара.

— Здаецца... чакайце!.. Я ўспомніла... — загаварыла жанчына. — Заходзіў такі чарнявы, у шэрым касцюме... Спытаў аспірыну. Здаецца, крыху пабыў ля вітрыны. І больш я яго не бачыла.

«Чарнявы... У шэрым касцюме... Можа быць, гэта і ёсць злодзей?» — думаў Міхаіл Сідаравіч, ідучы па вуліцы.

Ён вырашыў паблукаць па магазінах, па базары, па людных месцах.



**Людзі, людзі... Недзе сярод іх — злачынец, якога шукае Міхаіл Сідаравіч Сідараў.**

Чарнявы... У шэрым касцюме... Ён заўважыў яго ва ўнівермагу. Той, калі ўбачыў Сідарава, вельмі хутка адышоў ад жанчын, што стаялі ў чарзе, і знік ў натоўпе. Жанчына ж, што каля прылаўка выбірала кофтачку, нервова мацала па сумачцы, азіралася па баках.

— Грошы...—ціха прагаварыла яна.—Грошы ўкралі... А можа я іх забылася дома?..

— Супакойцеся,—падышоў да яе Міхаіл Сідаравіч.—Знойдзем вашы грошы. Толькі пастойце тут, нікуды не адыходзьцеся.

Ён ужо не сумняваўся, што ўкраў тут і ў аптэцы адзін і той жа чалавек, што ім быў той чарнявы ў шэрым гарнітуры.

Але куды ён знік? Далёка ж не мог уцячы? І Міхаіл Сідаравіч абыходзіў магазін за магазінам, прыглядаючыся да людзей. А вось і ён: купляе «чацвярцінку». Падысці? Папрасіць прад'явіць дакументы? Не, лепш пачакаць! Паглядзець, што ён будзе рабіць са сваёй гарэлкай.

І Міхаіл Сідаравіч, стараючыся быць не заўважаным, выходзіць з магазіна.

Неўзабаве паяўляецца незнаёмец. Ён ідзе ў сталоўку.

«Цяпер трэба дзейнічаць»,—вырашае Міхаіл Сідаравіч і праз некалькі мінут адчыняе дзверы сталоўкі.

Каля акна «чарнявы, у шэрым гарнітуры», выліўшы палавіну чацвярцінкі ў шклянку, асушае яе. «Цяпер трэба дзейнічаць...»—і Міхаіл Сідаравіч падыходзіць да чарнявага.

— Грамадзянін, у грамадскім месцы піць гарэлку забараняецца! Пройдзем са мной.

Праз некаторы час тыя, што пацярпелі, былі запрошаны ў аддзяленне міліцыі, каб атрымаць украдзеныя ў іх грошы.

**Мікалай Аляксандравіч ужо шмат ведаў пра злачынцу. І, як старшы групы, скамандаваў:**

**— Калі сабака возьме след, па следзе пойдуць Маргун, Чарнюк і Грабенка! Мы з Корсакам накіруемся да чыгуначнага палатна.**

**Рашэнне наспела адразу.**

Нарубін узмахам рукі паклікаў да сябе ўсю групу.

— Максімум асцярожнасці, хлопцы,—пачаў ён шэптам выкладаць свае меркаванні.—Бачыце, яны спачатку нас прынялі за сваіх. Значыць, хтосьці з іх банды на волі. Мы іх спалохалі. А раптам—у іх ёсць запасны ход? Трэці варыянт бяру. Яны ўсе ў пастцы. У іх няма выйсця. Тады—як іх выкурыць з-пад зямлі? Чакаць вечара рызыкоўна...

Рыгор Васільевіч Нарубін загадаў членам аператыўнай групы трымаць пад неаслабнай увагай земляны лаз, праяўляць максімум пільнасці. Сам жа паехаў у суседнюю вёску Вішанькі.

Гадзіны праз дзве Рыгор Васільевіч вярнуўся. Прывёз каністру бензіну і куль саломы. Толькі цяпер хлопцы разгадалі няхітры план начальніка.

Траіх з аўтаматамі паставілі на варту. Астатнія пачалі рабіць з саломы і пакулля жгуты. Змочаць бензінам, падпаляць і—у лаз...

— Давай, давай, хлопцы! У дыме доўга не выседзяць!—падбадзёрваў Рыгор Васільевіч.

Раптам з-пад зямлі пачуліся галасы:

— Здаемся.

— Вылазь! Рукі ўгору!—скамандаваў Нарубін і тут жа аб'явіў для сваіх гатоўнасць нумар адзін.

Праз некалькі мінут з густога куродыму пачалі паяўляцца з паднятымі рукамі брудныя, аброслыя бандыты.

— Адзін. Два. Тры...—лічыў хтосьці.

— Папаліся, птушаняты!—прыгаворвалі хлопцы, вяжучы затрыманым рукі.

— Дык вось яны ваякі якія!..

Перад ад'ездам зазірнулі ў іх земляную нару. Уладкоўваліся, відаць, надоўга. Пакручасты лаз вывеў работнікаў міліцыі ў бліндаж. Тут былі знойдзены кулямёты, аўтаматы, бочка пораху...

Гэта—эпізод з дваццаціпяцігадовай міліцэйскай службы падпалкоўніка міліцыі начальніка Нясвіжскага аддзялення ўнутраных спраў Рыгора Васільевіча Нарубіна.

Цікава слухаць чалавека, які шмат перажыў. Вайна. Барацьба з бандытызмам. Штодзённая барацьба за тое, каб у сем'ях несвіжан было больш шчасця, радасці.

У 1967 годзе да шматлікіх баявых медаляў дабавілася вялікая ўзнагарода за справы на мірным фронце—ордэн Леніна.

...Рашэнне было падказана практыкай. Куды мог уцякаць злачынец? Безумоўна або на аўтобусны вакзал, або на чыгуначную станцыю. Мікалай Аляксандравіч не сумняваўся, што рабаўнік так і зробіць.

— Толькі асцярожней, таварышы,— пасля мінутнага маўчання зноў загаварыў Мікалай Аляксандравіч.— Не забывайце, што ў яго два пісталеты.

І зноў застукацеў, памчаўся палявой дарогай матацыкл. Зноў усё больш настойліва запрацавала думка: «Не даць уцячы! Дагнаць! Дагнаць!»

— Стойце! Пачакайце! — наперарэз матацыклу бег чалавек.

Гэта быў калгасны пастух. Задыхаўшыся, адрывіста загаварыў:

— Да чыгункі пабег... Чарнявы, у сіняй куртцы... Нядаўна... Дагонім... Можа, і я з вамі?..

— Давай! — і Мікалай Аляксандравіч зноў уключыў газ.

Навокал пуста. За чыгункай цягнуліся палі. Такія ж пустынныя і бязлюдныя. Ды на адкрытым месцы злачынцу і рабіць няма чаго! Можа ён павярнуў на Гарадзею? Там— вакзал, аўтобусная станцыя...

«Толькі туды ён мог падацца»,— падумаў Мікалай Аляксандравіч.

— Пашукаем у Гарадзеі,— коратка кінуў таварышам у матацыкле.

Ля крайніх дамоў пасёлка мільганула нечая фігура. Чалавек, баязліва азіраючыся, сігануў за плот, схаваўся.

— Вунь ён! Глядзіце! — закрычаў пастух.

Шымко ніжэй прылёг да руля. Леанід Адамавіч устаў у калясцы, спрабуючы разгледзець, што адбываецца за высокай агароджай.

І раптам — стрэл. Для ўсіх нечаканы. Відаць, не вытрымалі нервы ў злачынцы і ён першы адкрыў агонь.

Корсак на ўсім хаду выкінуўся ў кювет. Мікалай Аляксандравіч, нахіліўшыся над рулём, гнаў матацыкл далей.

Перамагаючы боль у плячы, Корсак падняў галаву. За плотам убачыў чалавека, які ўцякаў.

— Стой! — крыкнуў ён.

Чорная, прыгнутая постаць цяжка ступала па гразкай дарозе. «Туп... туп...» — быццам не ішоў, а пячатаў крокі чалавек.

— Стой!

Глухая, цёмная ноч паглынула крык. Чаславу стала неяк не па сабе. І з'яўленне тут незразумелага тыпа... І гэты нечаканы крык... Ён увесь напружыўся і, пераадольваючы нейкую разгубленасць, на ўвесь голас закрычаў зноў:

— Стой! Стой, табе кажуць!

Чорная постаць спынілася, як укапаная.

Часлаў скочыў да невядомага. Метры за тры спыніўся. Наперадзе, цяжка дыхаючы, стаяў мужчына. Ля ног яго валяўся «пузаты» мяшок.

Маланка асвяціла наваколле. Гэтага было дастаткова для вопытнага вока дружынніка. Часлаў пазнаў, хто гэта. «Папаўся, зла-дзю-ю-га!» — мільганула ў галаве Часлава. Яму ўжо было не да раскацістага грому, не да праліўнога дажджу, які сакануў нечакана.

**Часлаў Чашэйка** (на першым плане злева) — **брыгадзір цукровага завода ў Гарадзеі. І яшчэ — выдатны дружыннік.**



— Адыдзі! За-а-б'ю-ю! — прахрыпеў Вялько. У цемры бліснула лязо нажа.

Часлаў не здрыгануўся. Ён быў гатовы да нечаканасцей: за пяць гадоў, як ён камандуе заводскай дружынай, было ўсякае.

Вось і сённяшні рэйд. З вечара над рабочым пасёлкам і заводам пачалі збірацца навальнічныя хмары. Пахаладнела. Сядзець бы дома, у цяпле... А Часлаў сабраў атрад дружыннікаў. Размова была кароткая: «У штаб паступілі сігналы: хтосьці крадзе на заводзе цукар. Сёння надвор'е якраз для злодзея...»

Тут жа стварылі некалькі аператыўных груп і разышліся. Часлаў пайшоў адзін.

— Сы-дзі-і-і з дарогі! — у адчаі шыпеў Вялько.

Часлаў стаяў на сваім:

— Бяры мяшок... Прыйдзецца змяніць напрамак...

Часлаў Чашэйка ведаў: вось-вось павінны падысці на дапамогу хлопцы. Яны тут, недалёка. Яны абавязкова чулі яго крык... Вось яны ўжо спяшаюцца сюды...

Вялько раптам сарваўся з месца і кінуўся ў бок завода.

— Стой! Не ўцячэш!

Так быў злоўлены на месцы злачынства зваршчык Вялько.

Позна ноччу вярнуўся дамоў Часлаў Чашэйка. Стомлены. Мокры. Дзеці саладка спалі, бестурботна раскінуўшыся на ложках. Не спала толькі жонка. Пяць гадоў ужо сняцца ёй трывожныя сны. Да ўсяго прывыкае чалавек. Але да работы дружынніка, поўнай нечаканасцей і трывог, цяжка прывыкнуць.

Раніцай Часлаў Чашэйка — лепшы брыгадзір Гарадзейскага цукровага завода — паехаў у Нясвіж: запрасілі на раённы злёт дружыннікаў. У канцы ўрачыстасці начальнік міліцыі ўручаў узнагароды. На грудзях Часлава заззяў значок «Выдатны дружыннік».

Гэта была яго другая ўзнагарода. Годам раней на рэспубліканскім злёце ў Мінску ён атрымаў Грамату Вярхоўнага Савета БССР.

**«Дагнаць!» — і Корсак зноў быў на нагах. «Не даць уцячы!» — і ён перамахнуў праз плот. «Пастараюся ўзяць жывым»,— і ён падбег да вугла дома. Ён адчуваў адказнасць за поспех аперацыі, ён думаў не пра боль, а толькі пра свой абавязак.**



**Камсорг аддзялення Мікалай Плакса.**

Адказнасць за даручаны ўчастак Мікалай Плакса адчуў адразу ж, калі прыйшоў у Нясвіжскую міліцыю. Яму, былому салдату, давяралі лёс камсамольскай арганізацыі. Па волі камсамольцаў, ён станавіўся іх важаком. Многае залежыць у рабоце камсамольскай арганізацыі ад важака. Будзе ён ініцыятыўны, згуртуе вакол сябе добры актыў, не астанецца часу для суму. Мікалай гэта добра разумеў. Ведаў і тое, што, як кажуць, адзін у полі не воін. Толькі ў кантакце з усімі можна зрабіць штосьці значнае. І сваю ініцыятыву ён умела пачаў спалучаць з воляй і жаданнем камсамольцаў.

Трэба сабраць металалом? Калі ласка. Камсамольцы, як адзін, выходзяць на суботнік.

Неабходна памагчы калгаснікам убіраць ураджай? У вольны ад дзяжурстваў час людзі ідуць на поле.

Правядзем вечар пытанняў і адказаў? Прыходзяць з жонкамі, з сяброўкамі.

Наладзім свой канцэрт мастацкай самадзейнасці? Адпачнём на вечары? Спевакі, чытальнікі, танцоры... Ці ж іх мала ў сваёй арганізацыі?

Выедзем на рыбалку? Выступім у школе з дакладамі і лекцыямі?

Камсорг ведае, чым зацікавіць людзей. У тым яго і сіла. У тым яго і аўтарытэт. Нічога, што ты ўсяго паўтара года працуеш у міліцыі. Нічога. Галоўнае, каб у цябе душа балела за справу, каб ты заўсёды адчуваў адказнасць за даручаны ўчастак.

**Корсак устрывожыўся за поспех аперацыі. Асабліва тады, калі злачынец пачаў ціснуцца бліжэй да групы дзяцей, якія гулялі ў двары.**

**Злачынец пераскочыў цераз плот, забег за рог хлява і ўбачыў афіцэра міліцыі, які праследаваў яго. Ён стрэліў адразу з двух пісталетаў. Кулі праляцелі над галавой Корсака.**

**Злачынец адступаў назад, стараючыся быць усё бліжэй да дзяцей і жанчын. Ён ведаў, што афіцэр міліцыі не будзе ў яго страляць, калі ён схаваецца за спіны дзяцей.**

**— Здавайся! — зразумеў задуму злачынцы Корсак і падняўся на ўвесь рост. Прагрымелі стрэлы. Зноў, быццам пчолы, прашыпелі кулі. Але Леанід Адамавіч, узняўшы пісталет, ішоў на злачынцу.**

**Як вераб'і кінуліся ва ўсе бакі дзеці. Злачынец убачыў гэта. Убачыў і тое, што падыходзіў афіцэр міліцыі. І ён не вытрымаў, кінуўся ў адзін бок, другі... Стрэліў яшчэ і яшчэ раз, скочыў за вугал дома.**

**Леанід Адамавіч прыгнуўся, пабег. Крок, другі, трэці... Вось і дом.**

***«Але чаму ж няма Мікалая? — падумаў.— Чаму ён не ідзе мне на дапамогу?»***

**«Што здарылася з Мікалаем? — ужо больш трывожна задаваў сабе пытанне Корсак.— Чаму не ідзе на дапамогу?»**

**Сябра не было.**

**«Што здарылася з Мікалаем?» — усё больш трывожна пазіраў Корсак па баках.— Як патрэбна цяпер яго дапамога...»**

**Ён выглянуў з-за вугла. Злачынец, заўважыўшы Корсака, стрэліў. Раз, другі... Кулі адбілі тынкоўку, пранесліся над самай галавой.**

**— Стой! — закрычаў Корсак.**

**— Сто-ой! — панесла далёка рэха.**

— Стой!

Старшы лейтэнант міліцыі Вячаслаў Сень махнуў шаферу. Той затармазіў. Адчыніў дзверцы.

— Што, таварыш лейтэнант?

— Пад'ехаць.

Вячаслаў сустрэўся вачыма з шафёрам. Спалоханы позірк, ліслівы голас таго перапынілі на час ход думак упаўнаважанага. «А можа ён?.. Ды не, усе яны, шафёры, баяцца чырвонай шапкі...»

— Паехалі.

Па дарозе Вячаслаў у каторы раз «пераварваў» здарэнне.

Раніцай пазванілі з вёскі Студзёнкі. Так і так, кажуць, крадзёж. Быў мапед і — не стала. Прайшло паўсутак. Шукай дзе хочаш цяпер.

Няўжо хто з вясковых пакваліўся на мапед? Не можа быць. Усе ж адзін аднаго добра ведаюць. А мо пажартавалі? Вячаслаў канчаткова не адмаўляўся ад варыянта «з мясцовым злодзеем». «Хутчэй за ўсё, — думаў ён, — гэта справа каго-небудзь з прыезджых». З блытаных тлумачэнняў гаспадара запомнілася адна фраза: «Тут учора самазвал усё круціўся...»

Вячаслаў павярнуў галаву да шафёра. Твар няголены, стомлены. Сядзіць, быццам яму цвікоў насыпалі на сядзенне.

— Спыні.



**Вячаслаў Сень шукае мапед.**

Вячаслаў выйшаў у Гарадзеі. На ўсякі выпадак запомніў нумар самазвала.

Удваіх з мясцовым упаўнаважаным Паўлюшчыкам яны накіраваліся да месца здарэння.

Гаспадар усхвалявана і падрабязна пачаў расказваць пра тое, які ў яго быў добры мапед і як яго не стала.

— Пачакайце. Пра самазвал больш падрабязна, калі ласка. Можа, шафёра запомнілі? —спытаў Вячаслаў.

— Так, прыязджаў да суседа самазвал. Штосьці прывозіў яму. Я ў гэты час мапед у хлеў ставіў.

Рашэнне было адно: адшукаць шафёра самазвала. З гэтай мэтай Сень зноў накіраваўся ў Гарадзею.

«Та-ак, не пападу сёння на бюро», —са злосцю праклінаючы і дзедаў мапед, і таго, хто яго «свіснуў», раздумваў Вячаслаў.

— Зноў сакратар прабіраць будзе. А што я зраблю? Мапед укралі. Паспрабуй —не знайдзі... Пойдуць у вёсцы абгаворы: што за міліцыя?

Ішоў і разважаў Вячаслаў Сень. Яго, члена бюро райкома камсамола, сапраўды чакалі ў той дзень на пасяджэнні. Вырашаліся вельмі важныя пытанні.

Такая служба міліцэйская. Заўсёды ў стане гатоўнасці нумар адзін. Калі спатрэбіцца, хто можа ведаць...

Следства зацягнулася. Вячаслаў быў вельмі здзіўлены, калі ўсе яго тыднёвыя пошукі мапеда прывялі да шафёра, які яго, як спадарожніка, падвозіў да Гарадзеі.

Доўга выкручваўся хлопец. Ой, колькі памуціў вады! Сень да яго і дамоў у Баранавічы ездзіў і на рабоце з усімі пагаварыў, і ў Студзёнку яшчэ не раз з'ездзіў. Нарэшце хлопец здаўся і аб усім расказаў сам:

— Днём я прыкмеціў мапед. Спадабаўся. Ноччу яго ўзяў і адвёз да маці ў вёску. А раніцай вас падвозіў...

На гэтым не закончыліся турботы па справе Васіля Куцуна. Намецілі дзень суда, разаслалі позвы. Усе з'явіліся, а Васіль не з'явіўся. Давялося Сеню заводзіць справу...

Суд над злодзеем усё ж адбыўся. Ён атрымаў па заслугах.

«Здавацца не думае. Напэўна, мацёры...» —падумаў Леанід Адамавіч і зноў выглянуў з-за вугла. Бандыт, прыгнуўшыся, уцякаў убок ад дамоў. А далей ішло поле. Гэтага, здавалася, злачынец не заўважыў. «Ну, цяпер табе не ўцячы! Як заяц, запятляеш у полі!..»

«Трэба ўзяць жывым!» — гэта думка не пакідала Корсака. І ён, хоць і трымаў пісталет напагатове, ні разу не стрэліў.

Бандыт убачыў, што далей яму ўцякаць няма куды, што наперадзе поле, пачаў кідацца з боку ў бок. Заўважыўшы кучкі нарэзанага дзёрану, ён плюхнуўся на зямлю, пачаў цэліцца ў афіцэра міліцыі з пісталета.

Раздаўся стрэл, потым нечыя крыкі.

«Не здаецца, нягоднік! — падумаў Леанід Адамавіч.— Напэўна, многа яшчэ патронаў».

Ён стрэліў крыху вышэй дзёрана, крыкнуў:

— Здавайся! Рукі ўгору!

Быццам злыя восы, прагудзелі над галавой дзве кулі.

«Жывым не здасца!—вырашыў Леанід Адамавіч.—Трэба канчаць». Ён убачыў, як з-за дзёрану прыўзнялася на імгненне шапка. Прыцэліўся, націснуў спуск...

Настала цішыня. Толькі чутно было, як у кустах зноў заспрачаліся вераб'і, ды з боку дамоў раздаваўся трывожны гоман:

— Забілі! Капітана міліцыі забілі.

Корсак кінуўся туды. На зямлі ляжаў яго сябар Мікалай Шымко. Куля бандыта абарвала ягонае жыццё...

Упаўнаважаны Мікалай Іванавіч Куклаў вярнуўся дамоў позна. Сям'я ўжо збіралася спаць. Павячэраўшы, прылёг у пасцель і доўга яшчэ думаў аб пройдзеным дні.

Страшэнна стаміўся. Правяраў вартаўнікоў, пашпартны рэжым. Тры разы наведаў Нясвіж: п'яных вазіў на «губу». Сустракаўся з многімі людзьмі, гутарыў. Ці ж усё пералічыш!..

Так прайшлі амаль дваццаць гадоў міліцэйскай службы. Пяць разоў народ выбіраў дэпутатам Гарадзейскага пасялковага Савета. Апошнія два скліканні быў намеснікам старшыні Савета. Узнагародзілі медалямі «За бездакорную службу» першай, другой і трэцяй ступеняў, вымпел атрымаў «Лепшы ўчастковы вобласці»...



**Мікалая Іванавіча Куклава і Івана Цімафеевіча Ягорава рэдка падымаюць па трывозе. Іх справа — па нітачцы разматаць увесь клубок.**

«А-а, чорт, старэць пачаў, ці што... Вось ужо быццам вынікі падводжу...» — уздыхнуў Мікалай Іванавіч, павярнуўся на бок і вырашыў, нарэшце, заснуць.

Паплылі нейкія постаці. Яны быццам беглі па чорных абрыўках воблакаў і рагаталі. Раптам, адкуль ні вазьміся, наляцела на гэтыя пачвары злавесная хмара. Усё перамяшалася ў шалёным трэску. Раскацiста загрукатаў гром: «Тра-та-та-так!»...

Мікалай Іванавіч спахапіўся. Падняў цяжкую галаву. У дзверы хтосьці моцна стукаў.

Ён хуценька апрануўся, адчыніў дзверы. За парогам стаяла амаль голая жанчына. Босая. Ад холаду дрыжэла.

— В-выгнаў, акаянны! Д-дапамажыце яго ўтаймаваць. Дзеці ад страху дойдуць...

Участковы добра ведае гэту сям'ю. Не раз даводзілася іх мірыць. Заўсёды стрыманы, спакойны, ён на гэты раз раззлаваўся: «Дарослыя людзі, каб іх чорт узяў! Не могуць самі разабрацца... Толькі прылёг... Ці ж я не чалавек?...»

Але так Мікалай Іванавіч толькі падумаў. Уголас ён сказаў іншае:

— Добра. Зараз іду.

У суседнім доме чарговая начная драма. З вокнаў-ліхтароў вылятала на вуліцу п'яная лаянка, штосьці трашчала.

Мікалай Іванавіч смела адчыніў дзверы. Увайшоў у дом. На яго ўставілася шклянымі вачыма аслупянелая п'яная морда.



**На вуліцы імя Мікалая Шымко ў Нясвіжы часта можна бачыць яго жонку Марыю Паўлаўну, дзяцей Мішу і Галю.**

— П-прысядзьце, та-варыш міл...— п'яны «фантамас» так і не мог дагаварыць.

— Збірайцеся. Паедзем у аддзяленне,—перапыніў яго Мікалай Іванавіч.

З дапамогай дружыннікаў ён прывёз п'янага суседа ў міліцыю.

Была ўжо раніца. Мікалай Іванавіч аформіў патрэбныя дакументы і зайшоў да намесніка начальніка міліцыі капітана Шымко.

— Мікалай Аляксандравіч, дапамажыце машыну адшукаць. Трэба аднаго майго кліента ў Крывашын завезці. Няхай падлечаць...

— Добра. Сядай.

...Шымко пазваніў па адным нумары, па другім. Дагаварыўся з кімсьці наконт машыны.

— Ну, едзь, Мікалай Іванавіч. Шчасліва,—пажадаў ён упаўнаважанаму.

Вечарам Куклаў вяртаўся дамоў. Насустрач на вялікай хуткасці мчала санітарная машына. Толькі потым Мікалай Іванавіч даведаўся, што яна везла акрываўленага капітана Шымко.

Кожная маці хацела б мець такога сына. Кожны з маладых людзей хацеў бы чым-небудзь быць падобны на капітана міліцыі Мікалая Аляксандравіча Шымко. Кожны з іх штодзень праходзіць па вуліцы, якая носіць назву іх таварыша. Кожны з іх ведае аб тым, што Мікалай Аляксандравіч пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, загадам міністра аховы грамадскага парадку БССР навечна залічаны ў спіс супрацоўнікаў аддзела ўнутраных спраў раёна.

Камсамольская арганізацыя аддзела прыняла імя свайго выхаванца, свайго баявога таварыша, чыёй мужнасцю варта захапляцца.

**Нарыс Уладзіміра Караткевіча «Званы ў прадоннях азёр» чытайце ў снежаньскім нумары.**

# ДУЭТ МАСТАКОЎ



Уладзімір і Міхаіл Басалыгі.

Іх работы не раз можна было бачыць на выстаўках, якія наладжваліся ў апошні час. Не ўсе яны прызнаваліся аднолькава ўдалымі, некаторым, магчыма, не хапала дасканаласці, каля іншых праходзілі моўчкі, таму што — навошта таіцца — часам не было калі разабрацца ў тых уражаннях, якія навявалі яны.

Але з тым, што ў гэтых двух маладых мастакоў свой погляд на рэчы, сваё, толькі ім уласцівае, успрыняцце рэчаіснасці, кожны мог пагадзіцца. Адкуль гэта нястомная патрэба заявіць аб сваёй прысутнасці ў самых, здавалася б, розных мастацкіх сферах? Яны браліся то за кніжную графіку, то за інкрустацыю саломкай. Цацкі, якія яны прыдумвалі, выклікалі захапленне ў многіх, а ўзоры дэкаратыўных тканін, якія таксама належаць ім,— пераконвалі ў думцы, што мы маем справу з таленавітымі майстрамі інтэр'ера.

Вядома, мастак — не мастак, калі ён не паспрабуе сябе ў самых нечаканых галінах. Гэта яго права. Але ж павінен у мастака быць адзін, галоўны, накірунак дзейнасці, у якім ён адчувае сябе асабліва моцна, бо занадта вялікае марнатраўства аддавацца з такой душэўнай шчодрасцю ўсяму, да чаго цягнецца рука. Гэтыя думкі доўга займалі мяне, пакуль не знайшоў я разгадку мастацкага пошуку братоў Уладзіміра і Міхаіла Басалыгаў.

## АДКРЫЦЦЁ ПРЫГАЖОСЦІ

Давайце пагаворым пра краіну, дзе ўсё на дзіва падобна на нашу зямную яву. Гэта краіна не памечана ніякімі кропкамі на геаграфічнай карце, яе не перасякаюць паралелі і мерыдыяны, туды не ходзяць вялікія акіянскія параходы, і наогул у ёй нічога няма ад легендарнага Эльдарада, пра якое напісана столькі прыгодніцкіх раманаў. І ўсё ж гэта краіна ёсць, яна існуе насуперак усяму, што б там ні казалі. Краіна цудаў — так завецца яна. Яна заўсёды намнога бліжэй, чым здаецца нам. Але калі б яна раптам убачылася нам, як Пушкіну — Лукамор'е, мне здаецца, многім гэтая краіна ўявілася б такой, як на гэтых дошчачках, пакрытых тонкай празрыстай плёнкай лаку.

Вось «Конь-агонь» пры святле заходу яркі, як чырвонае золата, парывісты, як вецер...

«Певень на даху», перабольшаны да неверагодных памераў. Ён толькі-толькі ўзляцеў на вільчык і заспяваў галасіста, задзірыста, вітаючы новы ранак...

І, нарэшце, цэлая серыя плашак, выкананых незвычайна зграбна, з адточаным і далікатным густам. Яны апавядаюць нам пра беларускіх прыгажунь, пра чароўны аксаміт ночы на Купалле, пра зусім-зусім нястрашных ільвоў, пра зуброў, якія глядзяць на нас разумнымі вачыма. І ўсё гэта быццам бы прапушчана скрозь вялізнае павелічальнае шкло: тое, што здавалася дробным, звычайным, што прыглядзелася на банальных абразках, раптам набыло нейкую незвычайную прыгажосць. Адкрыць братам-мастакам гэтую прыгажосць было намнога складаней, чым навучыцца маляваць.

## ТАКОЕ ЯНО — ПРЫЗВАННЕ

Непаседлівы народ — хлопчыкі. Толькі са школы — і адразу ж знаходзіцца столькі захаплення, што галава ідзе кругам. Так было і з імі да пары да часу: летам — лес або ціхая рачулка, зімою — канькі, лыжы, а то на санках з гары, ды так, каб ад сцюдзёнага паветра дых пераймала. Адным словам, было дзяцінства як дзяцінства, не горшае і не лепшае, чым у другіх слуцкіх хлопчыкаў — іх ад-



З ілюстрацый да «Энеіды» Івана Катляравускага.



нагодкаў. І хто ведае, кім бы сталі яны, каб не Уладзімір Садзін, які і цяпер вядзе гурток выяўленчага мастацтва ў Слуцкім доме піянераў.

Спачатку ён быццам і не заўважаў хлапчукоў. Вызначы, паспрабуй, ці проста з цікавасці прыйшлі яны ў студыю, ці нешта большае прывяло іх сюды? Бывае ж, раз-другі з'явяцца, прыглядзяцца ды і перабягуць у другі гурток, дзе знойдуць сабе справу па душы. Мастаком не станеш, нават пры дапамозе найлепшага настаўніка, калі няма прызвання.

Але гэтыя не перабеглі. Наадварот, чым далей ішоў час, тым больш разумеў Садзін, што ёсць у хлопчыкаў агеньчык. Старанна, па многа разоў перарабляючы, працавалі яны над малюнкам. А як загараліся вочы, калі Уладзімір Сцяпанавіч прыносіў манаграфіі пра вядомых мастакоў, графікаў, скульптараў. Крамской, Айвазоўскі, Пяроў... Свет мастацтва разгортваўся перад імі ва ўсёй неагляднай шырыні. Але асаблівым адкрыццём, можа, самым важным, стаў Фаворскі, які аднойчы па просьбе гурткоўцаў выслаў ім некаторыя свае графічныя работы, суправадзіўшы іх цёплым словам пажадання тым, хто ідзе ў вялікае жыццё, поўнае радасных пакут творчасці.

Сёння яшчэ памятаюць яны, як здзівіў іх «Баян» — адзін з лістоў афармлення «Слова аб палку Ігаравым», выкананы цудоўным майстрам рускай кніжнай графікі. Твары людзей вакол спевака быццам ззяюць знутры, так выразна чытаюцца думы, якія выклікае ў іх песня Баяна. Да болю ўскалыхнуў «Плач Яраслаўны». І як проста вырашана работа! Аказваецца, лёгкімі белымі штрыхамі так лёгка «зрабіць» кучавыя воблакі, якія ідуць з-за небасхілу, а перамяшаўшы чорныя і белыя лініі, можна перадаць жывыя праменні ўсходу сонца. Прыгледзься, і ўбачыш, што спалучэнні чорнага і белага могуць быць самымі рознымі — то цяжкімі, то казачна лёгкімі, паветранымі.

Як жа самім падступіцца да гэтай прыгажосці, як дакрануцца да яе? «Вучыцца трэба, хлопцы. І абавязкова па-сапраўднаму. І абавязкова самастойна назапашваць жыццёвыя назіранні, шмат бачыць і ведаць»,— сказаў ім неяк Уладзімір Садзін. Браты пераглянуліся. Боязна... Але не стаў бы настаўнік дарэмна раіць...

Адным словам, праз некалькі дзён вырашылі: першым паедзе Валодзя, а за ім, закончыўшы школу, і Міша.

Куды паступаць? І гэта абдумалі, і таксама разам. У Мінскае мастацкае, вядома, а далей відаць будзе...

Супервокладка кнігі вершаў Аляксея Пысіна.



## У САПЕРНІЦАХ — ПАЭЗІЯ

На ўсю сцяну — паліцы, шчыльна застаўленыя кнігамі. Чаго толькі тут няма! Таўсценныя тамы па гісторыі мастацтва, альбомы Брэйгеля (яго асабліва любіць Валодзя), Пікасо, работы па фатаграфіі, скульптуры — сапраўдны скарб для тых, хто любіць пакапацца ў кнігах. А на асобнай паліцы — кнігі, аформленыя імі. Іх пакуль што не вельмі многа — невялічкі стосік вершаваных зборнікаў, толькі і ўсяго. Мы прынамсі не раз гарталі некаторыя з іх і, перачытваючы асобныя старонкі, разглядалі графічны малюнак, які захапіў нас сваёй навізной. Але часцей за ўсё гэта было ад выпадку да выпадку. А тут яны, гэтыя кнігі, усе разам. Яны як творчая справаздача за чатыры з лішнім гады натхнёнай працы.

І першыя радкі ў справаздачы — аб кнізе вершаў Сяргея Грахоўскага «Памяць».

Ішоў 1965... Для маладых мастакоў ён быў годам вялікіх роздумаў. Зроблена да таго часу было імі нямала. Захопленыя мастацтвам народнай цацкі, яны прымушаюць гаварыць дрэва, іх плакаты, прысвечаныя абароне міру, адзначаны на рэспубліканскай мастацкай выстаўцы.

Але менавіта тады, можа, яны сур'ёзна задумаліся аб магчымасці графікі. І вось рашаючая проба сіл — першы зборнік... Браты тады збіраліся разам, заседжваліся да глухой ночы за акном, зноў і зноў перачытвалі радкі паэта, рабілі дзесяткі накідаў і, змятаючы іх са стала, прымаліся за новыя.

Супервокладка кнігі вершаў Сяргея Грахоўскага.






Ілюстрацыя да верша Алега Лойкі «Аснежаная Літва».

Трэба, каб паэтычнае бачанне атрымала адчувальную вобразнасць, патрэбна графічнае акаймаванне думкі і слова паэта, якія сталі тваёй думкай і тваім словам. Але як дамагчыся таго шчаслівага спалучэння паэзіі і малюнка, што ператварае кнігу ў песню, з якой не выкінеш ні адзінага радка і ніводнага штрыха — без стандартнай стылізацыі, без банальнага ўпрыгожвання? Усё гэта бясконца займала іх. І пошук прывёў да самастойнага вырашэння.

Тонкім штрыхом на чорным фоне абмаляваны сілуэт дзяўчыны над кволым парасткам маладога дрэўца. Гэта — супервокладка. Адгортваеш і ўваходзіш у

кнігу, быццам у вясновы сад, дзе ўсё ззяе навізной. Здаецца, усяго некалькі малюнкаў — але колькі празрыстай яснасці ў гэтых сімвалічных абагульненнях! Прыгледзішся да тонкай вязі галінак, і перад вачыма паўстае, як у вельмі старой легендзе, ачалавечаны воблік стуленых адзін да аднаго дрэў...

«Усё жыццё я ў падарожжы —
Ад першых да апошніх дзён»,—

такія радкі ўзяў паэт эпіграфам да аднаго з раздзелаў кнігі. У інтэрпрэтацыі мастакоў гэтыя словы атрымліваюць метафарычнае гучанне: з лістка, які трапеча на ветры, зрываецца птушка-цуд і імкнецца туды,

Дзе за ліловым небасхілам
Арбіты зорныя прайшлі,
Дзе самі вырастаюць крылы,
Каб зноў вярнуцца да Зямлі...

Творчыя ўдачы Уладзіміра і Міхаіла не былі нечаканыя. Іх было шмат. Успомніць хаця б «Паясы» Міхася Калачынскага, «Пеpазовы» Ніла Гілевіча (афармленне гэтага зборніка было адзначана, дарэчы, дыпломам Усесаюзнай кніжнай выстаўкі ў 1967 годзе). І тлумачэння гэтаму доўга шукаць не даводзіцца. Яно ў глыбокай духоўнай крэўнасці з роднай зямлёй, з вытокамі народнай творчасці —невычэрпнай, як глыбакаводная рака.

## ЦЕПЛЫНЯ ЧАЛАВЕЧЫХ РУК

Аднойчы ў нас зайшла размова аб тым, што ж усё-такі трэба лічыць творам народнага мастацтва, а што — падробкай пад яго. Шмат справядлівых, але горкіх слоў было сказана пра легкадумныя часам адносіны да народнага ўмельства, пра нівеліроўку таленту самабытных майстроў, калі іх творы запускаюць у серыйную вытворчасць, і тады прытупляецца вастрыня зроку, знікае фантазія, саступаючы месца рамесніцкаму навыку працаваць пад «народнае».

— А галоўнае, страчваецца цеплыня чалавечых рук. Без гэтай жа цеплыні, якой бы добрай ні была тэхніка, ніхто не можа ствараць прыгажосць,— заўважае Уладзімір.

Імкненне да спрадвечных карэнняў народнай творчасці заўсёды жыве ў братоў, і таму выбралі яны менавіта той шлях, які пачаўся з прыезду ў Мінск, шлях цяжкі, але паслядоўны.

Міхаіл на два гады маладзейшы за брата: ён 1942 года нараджэння. Уладзімір паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча на аддзяленне мастацкага афармлення тканін. У 1957 годзе, праз два гады, туды ж паступае і Міша. Пасля заканчэння вучылішча адзін, а потым і другі працуюць на камвольным камбінаце. Нарэшце Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут. Уладзімір працуе цяпер галоўным мастаком Упраўлення мастацкай прамысловасці, Міша — у філіяле інстытута тэхнічнай эстэтыкі, кіруе аддзелам прамысловай графікі.

На дзіва роўны, на першы погляд, старт — без сучка і задзірынкі. Некаторыя нават могуць здзівіцца: глядзіце, як гэта атрымалася ў іх усё лёгка і проста. А яно не лёгка і не проста на самай справе. Былі гады, калі Уладзімір не ведаў адпачынку, бо ўзяўся за новы клопат пра стан мастацкай прамысловасці ў рэспубліцы. У Івянцы і Гродна, Брэсце і Віцебску, Слуцку і Пінску — на ўсіх прадпрыемствах трэба было пабываць, і не па адным разе, каб зразумець мясцовых майстроў, падказаць ім накірунак. Такая ж непаседлівасць і ў Міхаіла.

І ў той жа час — вялікая патрэба тварыць, і абавязкова — удваіх. А столькі ж творчых задум, і абавязкова сумесных!

— Так ужо з дзяцінства пайшло, што нас вадой не разальеш,— заўважае Уладзімір.— А атрымліваецца ў нас, мусіць, прасцей, чым у Кукрыніксаў. Бяром адзін і той жа варыянт малюнка, і кожны стараецца распрацаваць яго па-свойму. Пасядзіш гадзіну-другую, вока ад напружання «тупее», адчуваеш — унутраная крытыка не працуе. І тады аб'ядноўваемся разам, нават сварымся, але выбіраем лепшы варыянт, каб абмеркаваць дэталёва.

— А калі занадта заўзята абараняеш сваю пазіцыю,— дадае Міхаіл,— гэта, вядома, раздражняе Валодзю: ён не церпіць самаўпэўненых. Суровая, але справядлівая ацэнка моцна падсцёгвае ўяўленне.

Браты глядзяць адзін на аднаго. Смяюцца... Для іх «садружнасць братоў» і «творчае супрацоўніцтва аднамыснікаў» спалучыліся ў неразлучнае цэлае. Сваю сцяжыну ў мастацтве гэты «творчы калектыў» пракладае напорыста, з кожным годам павялічваючы колькасць сваіх творчых удач, пераадольваючы пэўныя цяжкасці.

Але калі людзі любяць нешта такое, без чаго ім ніяк не пражыць, цяжкасці не палохаюць. Водбліск гэтай любві кладзецца на ўсё, да чаго дакранаюцца іх рукі.

**Уладзімір ЕЛІСЕЕЎ.**




# 1969

## СНЕЖАНЬ

**1**

50 гадоў з дня нараджэння (1919) Н. А. Ражновай, заслужанай артысткі БССР.

**5**

Дзень Канстытуцыі СССР.

**10**

60 гадоў з дня нараджэння (1909) М. З. Берава, кінааператара, заслужанага дзеяча мастацтва БССР.

**16**

60 гадоў з дня нараджэння (1909) Я. М. Кімберга, народнага артыста БССР.

**17—18**

10 гадоў назад (1959) працаваў XXI з'езд камсамола Беларусі.

**29**

60 гадоў з дня нараджэння (1909) Н. А. Булінскага, кінааператара-пастаноўшчыка, заслужанага дзеяча мастацтва БССР.

**31**

60 гадоў з дня нараджэння (1909) Ю. Д. Бяльзацкага, кампазітара і дырыжора. Памёр у 1963 годзе.



Н. А. Ражнова.



М. З. Бераў.

Ю. Д. Бяльзацкі.



Я. М. Кімберг.



# СТАРОНКІ АДНАГО ЖЫЦЦЯ

2-га лістапада споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Іосіфа Іосіфавіча Стаброўскага, вучонага і археолага, заснавальніка старэйшага ў рэспубліцы Слонімскага гісторыка-краязнаўчага музея.

Нарадзіўся Стаброўскі ў Слоніме ў сям'і капітана Мурамскага пяхотнага палка Іосіфа Вікенцьевіча Стаброўскага, які ў свой час разам з адміралам Нахімавым удзельнічаў у легендарнай абароне Севастопаля. Дзякуючы заслугам бацькі, сын атрымаў магчымасць закончыць Маскоўскі імператарскі археалагічны інстытут і Вышэйшыя археалагічныя курсы пры Самарскім універсітэце.

Па натуры чалавек творчага складу, Іосіф Стаброўскі праявіў сябе не толькі як выдатны археолаг і краязнаўца, але і як таленавіты гісторык і вынаходца. Знайшлі сваё прымяненне шрапнель і тэлефон канструкцыі Стаброўскага. Ён напісаў дзесяткі работ з гісторыі Слонімшчыны, аб прыродных багаццях заходняй часткі Беларусі, аб вытоках рэлігіі і г. д. Стаброўскім даследавана каля 150 курганоў на тэрыторыі Гродзеншчыны.

Надзвычай самаадданы ў працы і ўлюбёны ў свой край, Іосіф Стаброўскі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, рызыкуючы жыццём, збярог музей ад разрабавання яго гітлераўцамі.

Памёр Іосіф Стаброўскі ў Слоніме на 99 годзе свайго жыцця.



Ён сын свайго веку і наш сучаснік. І жыццёвы шлях у яго не зусім звычайны. Уладальнік маёнтка ў вёсцы Орлавічы, што на Слонімшчыне, ён раздае бедным сялянам зямлю. Палкоўнік старой рускай арміі, у першыя гады Савецкай улады ідзе працаваць у штаб Заволжскай ваеннай акругі, памагае ў арганізацыі Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі.

Многа каму ён здаваўся дзіваком. Знаёмыя, суседзі пацiскалі плячыма:

— Мог бы ў золаце купацца чалавек, а жыве абы-як...

Шынель грубага армейскага сукна дастаўся яму ў спадчыну пасля першай імперыялістычнай вайны. З таго часу не расставаўся з ім. Гэта быў чалавек на дзіва працавіты і настойлівы.

Старажытнае слонімскае гарадзішча ён шукаў сорак гадоў і знайшоў. Расказваюць, што аднойчы, вяртаючыся дамоў, малады Стаброўскі знайшоў метэарыт, які ўпаў непадалёк ад вёскі Азярніца, які шукалі паўстагоддзя. І вось метэарыт быў знойдзены і дастаўлены Стаброўскім у музей.

На працягу большай палавіны свайго жыцця Іосіф Іосіфавіч збіраў усё, што, на яго погляд, мела гістарычную каштоўнасць. У калекцыі Стаброўскага было многа рэдкіх знаходак: галава каменнага старажытнаславянскага ідала, пісьмы Пушкіна і яго жонкі Наталлі Ганчаровай, каменныя прылады працы з далёкага гістарычнага мінулага...

Здаралася, набываючы новы экспанат, ён адмаўляў сабе ў самым неабходным.

...З першых дзён акупацыі гітлераўцы зацікавіліся Стаброўскім. У падвале яго дома знайшлі склад кніг... Вызвалі на допыт...

— Гер Стаброўскі многа сабе дазваляе,—гаворыць гестапавец, не спускаючы з яго вачэй.

— У чым мая віна? — пытаннем на пытанне адказвае Іосіф Іосіфавіч.

— Для каго бераглі гэтую камуністычную заразу? — фашыст шпурляе на стол некалькі ленінскіх томікаў у чырвоных вокладках.

— Калекцыяніраванне — мая страсць, пан афіцэр,— адказвае Іосіф Іосіфавіч.— Я ўсё жыццё прысвяціў гэтай справе...

Гестапавец нацягнута ўсміхаецца:

— Вы ані ў што не ставіце сваё жыццё, гер Стаброўскі. Такія калекцыі вам могуць дорага абысціся. Майце гэта на ўвазе.

Іосіф Іосіфавіч бачыў злосны позірк фашыста. У галаву запала назойлівая думка: «Такому знішчыць чалавека, што раз плюнуць». Але нішто не магло спыніць яго, калі вырашаўся лёс музея.

Праз некалькі дзён пасля таго, як Стаброўскі пабываў у гестапа, гітлераўцы наляцелі ў музей. Тут ў адным з пакояў Іосіф Іосіфавіч прыхаваў дарагія рэліквіі, звязаныя з першымі днямі ўстанаўлення Савецкай улады ў Заходняй Беларусі. Яны былі схаваны ў шафы і запячатаны. Шафы адсунуты ў самы дальні кут і закіданы старызнай.

Фашысты, аглядаючы музей, загадалі адчыніць пакой.

— Тут у нас архіў,— тлумачыў ён гітлераўцам.

Сказана гэта было вельмі спакойна. І гітлераўцы паверылі.



**Лебедзь. XVIII стагоддзе.** Разьба па дрэве. Работа прыгонных сялян з вёскі Новыя Дзевяткавічы на Слонімшчыне. З калекцыі Стаброўскага.

Як толькі ў вызвалены Слонім увайшлі савецкія воіны, Іосіф Іосіфавіч Стаброўскі адчыніў дзверы музея. Літаральна праз дзень-другі ўсё было выцягнута з шафаў і схованак і пастаўлена на месца.

У дзённіку Надзеі Яфімаўны Гайдук, былой супрацоўніцы музея, ёсць запіс тых дзён: «Куток на тэму Вялікай Айчыннай вайны Іосіф Іосіфавіч падрыхтаваў за два дні. Калі адпачывае чалавек, цяжка сказаць. На мой погляд, ён пераблытаў дзень з ноччу. Калі не прыйдзеш, усё застаеш яго за справай...

На дварэ невялікі мароз, а ў памяшканні халадэча. Не хапае паліва. Зазірнула ў пакой, дзе працуе Іосіф Іосіфавіч. Сядзіць, наставіўшы каўнерык свайго шыняля, а форткі ў вокнах насцеж. Пытаюся, як гэта разумець? Кажа: «Так лепш зберагаюцца экспанаты ад плесені».

Амаль кожны дзень знаходзіў Іосіф Іосіфавіч якую-небудзь новую рэч. Абыякавыя, раўнадушныя людзі скептычна пасмейваліся і перашкаджалі. А Стаброўскі, бывала, прадаваў сёе-тое з сваіх хатніх рэчаў, каб набыць новы экспанат...

...Гартаю пажоўклыя ад часу лісты тоўстага сшытка. У ім запісаны сотні падзяк у адрас Стаброўскага. Вось адна са шматлікіх:

«Паважаны Іосіф Іосіфавіч.

Гэтымі днямі давялося мне быць праездам у Слоніме і наведаць Ваш музей. Мне вельмі хацелася ўбачыць Вас, каб перадаць Вам асабіста сваю павагу, якая выклікана Вашай высакароднай дзейнасцю.

Я вельмі ўзрадаваўся, калі прачытаў у кнізе водгукаў запісы маіх таварышаў, афіцэраў Чырвонай Арміі, якія падзяляюць мае пачуцці наконт музея і Вас.

Яшчэ раз вельмі шкадую, што не меў магчымасці ўбачыць Вас і пацiснуць Вашу руку.

З глыбокай павагай В. Гусеў».

Віктар Яўгенавіч Гусеў да вайны быў студэнтам гісторыка-філасофскага факультэта аднаго з маскоўскіх інстытутаў. Яшчэ была вайна, яшчэ паміралі салдаты, але дзесьці ў кароткіх перапынках паміж баямі Гусеў знайшоў час, каб напісаць аб рабоце і патрэбах музея ў «Праўду».

Рэдакцыя газеты, як успамінае Надзея Яфімаўна Гайдук, прыслала Іосіфу Іосіфавічу цёплае пісьмо і 21 тысячу рублёў на набыццё экспанатаў.

...Ідуць і ідуць людзі ў Слонімскі гісторыка-краязнаўчы музей — музей Стаброўскага. Шчыльнымі радамі на паліцах раённай бібліятэкі стаяць кнігі, многія з якіх маюць паметкі: «З бібліятэкі І. І. Стаброўскага». Іх чытаюць з удзячнасцю рабочыя і служачыя, школьнікі і студэнты. Асобныя экспанаты і дакументы з калекцыі слонімскага краязнаўцы можна цяпер бачыць у музеях і навуковых установах Масквы, Мінска, Гродна.

Скарб, які сабраў і зберагаў Стаброўскі, застаўся людзям.

**г. Слонім.**

**Міхаіл РЫЛКО.**




**ГУТАРКІ АБ ПАРТЫІ. Выдавецтва «Маладая гвардыя», Масква, 1969.**

# КАШТОЎНЫ ДАПАМОЖНІК

Хаця ў сістэме камсамольскай палітычнай асветы краіны існуе вялізная сетка гурткоў «Гутаркі аб партыі» (толькі ў нашай рэспубліцы іх звыш тысячы), а вучэбнага дапаможніка да апошняга часу не было. Гэта стварала значныя цяжкасці. Выданне зборніка «Гутаркі аб партыі», у якім расказваецца аб нараджэнні, росце і станаўленні Камуністычнай партыі, аб асноўных этапах гісторыі яе барацьбы за сацыялізм і камунізм, значна аблегчыць работу слухачоў і прапагандыстаў палітычных гурткоў.

Аўтарскі калектыў — доктар гістарычных навук, прафесар В. Аляксандраў, кандыдат гістарычных навук, дацэнт А. Зямскоў і іншыя — падрыхтаваў зборнік з пятнаццаці гутарак, размеркаваўшы іх на тры асноўныя раздзелы.

Першы раздзел — **«Камуністычная партыя — партыя новага тыпу»** змяшчае некаторыя тэарэтычныя палажэнні.

У адной з гутарак гэтага раздзела дацэнт М. Лашына вядзе гаворку аб аднапартыйнай і шматпартыйнай сістэмах. Гэта актуальнае пытанне, яно з'яўляецца прадметам жорсткай ідэалагічнай барацьбы паміж сіламі рэакцыі і прагрэсу ў сучасным свеце. Буржуазныя прапагандысты імкнуцца прадставіць шматпартыйную сістэму, якая існуе ў многіх капіталістычных краінах, як паказчык «сапраўднай» дэмакратычнасці буржуазнага ладу. Яны сцвярджаюць, нібыта наяўнасць адной партыі несумяшчальна з дэмакратыяй, не забяспечвае свабоднай барацьбы думак і г. д.

М. Лашына, выкарыстоўваючы цікавыя і мала вядомыя факты, пераканаўча абвяргае падобныя меркаванні і дае зусім абгрунтаваны вывад: шматпартыйная сістэма ва ўсіх яе разнавіднасцях з'яўляецца адной з найбольш важных форм захавання дыктатуры манаполій. Наяўнасць некалькіх буржуазных партый, а таксама тых дробнабуржуазных і сацыялістычных партый, якія знаходзяцца пад кантролем буржуазіі, змена гэтых партый на чале ўрадаў дапамагаюць капіталу захоўваць сваё панаванне і ствараюць толькі знешнюю бачнасць барацьбы партый і «свабоды выбару» паміж імі.

У гутарцы паказваецца, як у нашай краіне адпаведныя канкрэтна-гістарычныя ўмовы памаглі зацвердзіць аднапартыйную сістэму, як адбылася эвалюцыя меншавікоў і эсэраў, іх пераход «на бок буржуазіі супраць пралетарыяту». Прыводзіцца, напрыклад, выказванне вядомага лідэра эсэраў М. Спірыдонавай, якая прызнае, што дробнабуржуазныя партыі ў Расіі нікім не знішчаліся — збанкрутавала іх уласная палітыка. Гэтае выказванне абвяргае выдумкі буржуазных фальсіфікатараў гісторыі, якія не перастаюць паўтараць, нібыта бальшавікі «разагналі», «знішчылі» дробнабуржуазныя партыі. У ходзе небывала вострай класавай барацьбы, калі вырашаўся лёс сацыялістычнай рэвалюцыі, Камуністычная партыя засталася адзінай партыяй, якой выказаў поўнае давер'е шматнацыянальны савецкі народ. І не памыліўся.

Грунтоўна паказваецца ў кнізе таксама, як стваралася шматпартыйная сістэма ў краінах сацыялізма — у Польшчы, Чэхаславакіі, Балгарыі, ГДР і іншых. Падкрэсліваецца, што кіруючая роля ў шматпартыйнай сістэме сацыялістычных краін належыць камуністычным партыям. Прыводзяцца прыклады шэрагу краін (МНР, Румынія, Венгрыя, Куба), дзе няма блоку партый і адзінымі палітычнымі партыямі з'яўляюцца камуністычныя і рабочыя партыі. Гэта гаворыць аб тым, што ў спрыяльных гістарычных умовах пераходу да сацыялізма шматпартыйнасць не з'яўляецца адзінай, універсальнай формай саюза рабочага класа з непралетарскімі працоўнымі масамі. Галоўнае не забывацца пра забеспячэнне адзінства ўсіх працоўных, пры кіруючай ролі рабочага класа і яго марксісцка-ленінскай партыі, аб чым вельмі выразна падкрэслена ў дакументах Маскоўскай Нарады кіраўнікоў камуністычных і рабочых партый 1969 г.

У другім раздзеле **«Гераічны шлях барацьбы і стварэння. Поўная, канчатковая перамога сацыялізма ў СССР»** змешчаны гутаркі А. Зямскова, Н. Няронава і В. Нечыпурынкі. У іх разглядаюцца гістарычныя этапы дзейнасці КПСС, ажыццяўленне першай і другой праграм нашай партыі.

Асабліва вылучаюцца старонкі, дзе расказваецца аб ідэйнай барацьбе У. І. Леніна і марксістаў-ленінцаў з рознага роду апартуністамі. Чотка і гістарычна правільна паказана жорсткая барацьба марксістаў-ленінцаў у 1918 годзе з Троцкім, Бухарыным, Радэкам і Пятаковым па пытанні пра Брэсцкі мір. Аўтар указвае і на асобныя памылкі такіх відных дзеячаў партыі, як Дзяржынскі і Урыцкі, якія праявілі ваганне на VII з'ездзе РКП(б) пры галасаванні ленінскай рэзалюцыі пра неадкладнае заключэнне міру з Германіяй. Гэта паказвае чытачу, якой складанай, вострай і цяжкай была барацьба з «левымі» апартуністамі ў той перыяд.

Папулярна растлумачана складанае пытанне пра выступленні Бухарына і Пятакова на VIII з'ездзе партыі (сакавік 1919 года) супраць ленінскага праекта Праграмы, пададзена чоткая ленінская пазіцыя.

Трэці раздзел — **«Будаўніцтва камунізма пад кіраўніцтвам КПСС — прадаўжэнне і развіццё вялікай справы Кастрычніцкай рэвалюцыі»** прысвечаны разгляду галоўных праблем камуністычнага будаўніцтва, узрастання ролі КПСС на сучасным этапе і міжнароднага значэння вопыту КПСС. Гэта найбольш ёмісты раздзел. Ён займае больш паловы кнігі і ўключае дзевяць гутарак. Засяроджванне ўвагі на гэтым раздзеле, думаецца, зусім правамернае і своечасовае. Тут асветлены такія важнейшыя праблемы сучаснай дзейнасці КПСС: кіруючая і накіроўваючая роля партыі ў барацьбе за камунізм, навуковае кіраўніцтва гаспадарчым будаўніцтвам, новыя грамадскія адносіны савецкіх людзей, партыйнае кіраўніцтва камсамолам. З гэтай задачай паспяхова справілася група аўтараў — В. Аляксандраў, Я. Бугаеў, В. Сямёнаў, Г. Бялоў і іншыя.

З асаблівай увагай рэдакцыя зборніка аднеслася да падрыхтоўкі гутаркі «Баявы памочнік і рэзерв партыі». Ды гэта і зразумела. Гаворка ж ідзе пра камсамол, якому ў нас адводзіцца важная роля ў грамадска-палітычным жыцці народу, у прыцягненні маладога пакалення да практычнага ўдзелу па будаўніцтву камунізма. Выкарыстаўшы багаты і цікавы, у многім новы, матэрыял, аўтар гутаркі кандыдат гістарычных навук В. Сулемаў наглядна і пераканаўча паказаў, што ўсе грамадска-палітычныя і сацыяльна-эканамічныя праблемы маладога пакалення могуць быць паспяхова вырашаны толькі ў выніку рэвалюцыйнага пераўтварэння грамадства на сацыялістычных асновах, што ў вырашэнні гэтых праблем выключна вялікая роля самой моладзі, яе рэвалюцыйнай самадзейнасці, яе арганізацый і перш за ўсё ВЛКСМ, што маладзёжны рух толькі тады дабіваецца поспеху ва ўсім, у тым ліку і ў задавальненні спецыфічна ўзроставых інтарэсаў і запросаў, калі ён развіваецца і дзейнічае як частка агульнарэвалюцыйнага руху пад кіраўніцтвам марксісцка-ленінскай партыі. Аўтар правільна падкрэслівае, што кіраўніцтва Камуністычнай партыі заўсёды было крыніцай сілы і моцы камсамола, важнейшай умовай яго паспяховай дзейнасці.

У нашай краіне за мінулыя паўстагоддзя накоплены вялікі вопыт па кіраўніцтву партыі рухам моладзі. Наш вопыт шырока скарыстоўваюць камуністычныя партыі зарубежных краін. І, як правільна адзначаецца ў кнізе, значэнне яго асабліва важна ў сучасных умовах, калі імперыялістычная буржуазія, ідэолагі антыкамунізма імкнуцца захапіць маладых людзей псеўдарэвалюцыйнай фразай, звярнуць працоўную моладзь са шляху рэвалюцыйнай барацьбы.

Дарэчы, жыццё паказвае, што аб'ектамі свайго ўплыву імперыялістычная ідэалогія выбірае перш за ўсё людзей, адарваных ад актыўнага грамадскага жыцця, не звязаных трывала з калектывам, не прывучаных да грамадскай працы, схільных да прывольнага жыцця, заражаных у той або іншай ступені дробнаўласніцкімі інстынктамі, мяшчан, абываццеляў, тых, хто яшчэ не пазбавіўся нацыяналістычных, рэлігійных і іншых перажыткаў мінулага. Іменна праз іх буржуазныя прапагандысты і імкнуцца сеяць розныя сумненні, распальваць нізкія пачуцці, пашыраць буржуазны ўплыў. Таму асабліва важнае значэнне маюць для прапагандыстаў палажэнні новай Праграмы, рашэнняў XXIII з'езда партыі, Пленумаў ЦК КПСС, у якіх вызначаны задачы сістэматычнай і мэтанакіраванай барацьбы з пранікненнем буржуазнай ідэалогіі, задачы паляпшэння камуністычнага выхавання моладзі, усіх працоўных.

Вялікай вартасцю кнігі з'яўляецца тое, што з яе старонак паўстае перад чытачом жывы вобраз Леніна — стваральніка, геніяльнага правадыра і кіраўніка рэвалюцыйнай партыі рабочага класа, партыі новага тыпу. Гэта асабліва важна ў дні падрыхтоўкі да святкавання 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна.

Не ўсё, аднак, раўнацэнна ў зборніку. Адны гутаркі больш поўныя, глыбокія і пераканаўчыя, другія менш. Напрыклад, не зусім выразна тлумачыцца пытанне аб поўнай і канчатковай перамозе сацыялізма. Як вядома, у нашай краіне сацыялізм перамог цалкам і канчаткова, бо цяпер у свеце няма такіх сіл, якія здолелі б перамагчы СССР і сацыялістычны лагер. Што датычыць іншых сацыялістычных краін, то «вопыт гаворыць аб тым, што перамога сацыялістычнага ладу ў той або іншай краіне можа ў цяперашніх умовах разглядацца, як канчатковая, а рэстаўрацыя капіталізму можа лічыцца выключанай толькі ў тым выпадку, калі камуністычная партыя, як кіруючая сіла

грамадства, цвёрда праводзіць марксісцка-ленінскую палітыку ў развіцці ўсіх сфер грамадскай дзейнасці...» (Л. І. Брэжнеў). Гэтае важнае палажэнне нельга было абмінаць у кнізе.

«Гутаркі аб партыі» напісаны, у асноўным, з мэтай аказаць дапамогу прапагандыстам і слухачам. Але метадычныя парады і рэкамендацыі ў ёй чамусьці адсутнічаюць.

Зборнік гутарак аб партыі будзе садзейнічаць азнаямленню моладзі са стратэгіяй і тактыкай КПСС на ўсіх этапах яе дзейнасці, паможа моладзі ўвязаць вывучэнне дзейнасці партыі з канкрэтнымі справамі на фронце камуністычнага будаўніцтва.

**Леў СМІЛАВІЦКІ,**
**кандыдат гістарычных навук.**



**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ. Каласы пад сярпом тваім. Раман. Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1969.**

# ТРАГЕДЫЯ І СЛАВА

Літаратура—мастацкі летапіс жыцця народу. У ім не можа быць непатрэбных старонак. Народ вывучае, эстэтычна і па-філасофску асэнсоўвае мінулае, каб не паўтараць яго памылак, каб больш упэўнена і мэтанакіравана ісці ў будучыню, каб узяць адтуль, з мінулага, лепшыя здабыткі на сваё духоўнае ўзбраенне. Ужо ў самой пашане да старажытнасці Ф. Энгельс бачыў адзнаку сапраўднай асвечанасці. Недзе там, у старажытнасці, глыбінныя асновы і вытокі сучаснасці, вытокі духоўнага свету народу, яго псіхалогіі. Нельга не толькі зразумець, але і вытлумачыць шматлікія з'явы і падзеі сучаснасці, не шукаючы іх вытокаў у мінулым, у больш блізкай ці больш далёкай гісторыі.

Меў падставы вядомы рэжысёр дакументальнага кіно Йорыс Івенс, які ў інтэрв'ю карэспандэнту газеты «Советская культура» гаварыў: «Сапраўдныя творы мастацтва, якія заснаваны на матэрыяле аб мінулым, не толькі абуджаюць памяць, іх мэта—перш за ўсё прымусіць убачыць свет, народ у адпаведнасці з гісторыяй, з сучаснасцю».

У кожным гістарычным творы мінулае разглядаецца, даследуецца і паказваецца ў аспекце сучаснасці. Больш таго, любая гісторыя была б не асабліва патрэбна, калі б яна не служыла сучаснасці.

Гісторыя беларускага народа стала матэрыялам і пафасам творчасці У. Караткевіча. Ён робіць у нашай літаратуры тое, што ў свой час у англійскай літаратуры зрабіў Вальтар Скот, у польскай—Ю. Крашэўскі, у чэшскай—А. Ірасек,—даследуе і паэтызуе гераічнае мінулае, выхоўвае любоў і павагу да нацыянальных традыцый. «Сівая легенда», «Цыганскі караль», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Дзікае паляванне караля Стаха», «Каласы пад сярпом тваім» гістарычныя балады. У гэтых творах—фарбы і колеры гісторыі, яе рух і поступ, прасякнуты пафасам сучаснасці. І ў творах, заснаваных на народных легендах і паданнях, і ў рамане гістарычным «Каласы пад сярпом тваім» відаць грунтоўны аналіз жыцця, здольнасць стварыць мясцовы каларыт у шырокім разуменні гэтага слова, г. зн. узнавіць не толькі побыт, але і свядомасць народу, яго звычкі, паняцці, традыцыі, вераванні.

Раман задуманы як шырокае гістарычнае палатно пра адзін з самых драматычных перыядаў гісторыі Беларусі—барацьбу беларускага народа за сваё нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне. «Якая б ні была хада гісторыі,—пісаў Энгельс,—людзі робяць яе так: кожны мае свае ўласныя, свядома пастаўленыя мэты, а агульны вынік гэтага мноства імкненняў, якія дзейнічаюць у розных напрамках, і іх разнастайных уздзеянняў на знешні

свет—менавіта гэта і ёсць гісторыя».

Ахоп рэчаіснасці ў рамане У. Караткевіча шырокі: панскі маёнтак, вёска, Пецярбург, Вільня, універсітэт, гімназія, царскі палац. Сацыяльныя сілы прадстаўлены даволі багата: сяляне, сярэднія дваране і ўплывовыя магнаты, мясцовыя царскія чыноўнікі і людзі, якія «робяць вялікую палітыку», рэвалюцыянеры, пісьменнікі, вучоныя, студэнты. Узяты розныя сферы жыцця: побыт, выхаванне, вучоба, праца, творчасць, палітыка. Увесь гэты разнастайны і рознахарактарны жыццёвы матэрыял пададзены ў сувязі з падзеямі, якія папярэднічалі паўстанню 1863 года і непасрэдна ці ўскосна звязаны са станаўленнем характару асноўнага героя, ростам яго свядомасці, прыходам яго ў шэрагі кіраўнікоў паўстання.

Раман пачынаецца з дзяцінства галоўнага героя Алеся Загорскага, якога бацькі, трымаючыся добрых старых звычаяў, аддалі на выхаванне ў вялікую сялянскую сям'ю Кагутоў. Тут ён вучыцца любіць працу, паважаць простага чалавека; тут закладваюцца асновы яго дэмакратызму і гуманізму.

Пасля вясковага жыцця пачынаецца дваранскае выхаванне: добрыя манеры, танцы, язда на кані, знаёмства з асновамі навук, вывучэнне замежных моў. Алесеў дзед, стары Вежа, абудзіў у юнаку цікавасць да мастацтва, любоў да гісторыі роднага краю. Сустрэча з Кастусём Каліноўскім надае гэтай любві да роднага краю асэнсаваны і свядомы характар.

Чытач разам з юнаком Загорскім уваходзіць у невядомы рамантычны свет мінуўшчыны, разам з ім адкрывае занядбаныя матэрыяльныя і духоўныя здабыткі народу, пранікаецца верай у яго будучыню, у яго вялікія творчыя сілы.

Азнаямленне з гісторыяй Беларусі ў бібліятэцы старога Вежы, вучоба ў Віленскай гімназіі і знаёмства з некаторымі дзеячамі беларускай нацыянальнай культуры, вывучэнне народна-паэтычнай творчасці яшчэ больш умацоўваюць дэмакратычныя погляды Алеся Загорскага. Любоў і павага да народу, якая была прывіта яму яшчэ ў маленстве, набывае ўсё больш свядомы характар. Знаёмства з нелегальнай літаратурай, з «Колоколом» Герцэна, з антыпрыгонніцкімі творамі Чарнышэўскага памагаюць Загорскаму выпрацаваць пэўную праграму практычнай дзейнасці ў адносінах да сялян. Ён яшчэ да афіцыйнага палажэння аб адмене прыгону пачынае адпускаць сваіх сялян на волю, а на адной з сустрэч кіраўнікоў паўстання рашуча прапануе вызваліць народ і даць сялянам зямлю.

Алесь Загорскі—унутрана цэласная, бескампрамісная і паслядоўная натура. Менавіта ён нясе ў сабе не толькі ідэйны сэнс рамана, але і, у пэўнай ступені, сацыяльна-гістарычны змест эпохі, яе накірунак, яе прагрэсіўныя тэндэнцыі. Караткевічу добра ўдалося спалучыць у вобразе Алеся Загорскага мастацкую асабістую біяграфію выдуманага героя і гістарычны змест і сэнс часу. Перад намі праходзяць і непаўторныя абразкі кахання, сяброўства Алеся, юначых гульняў і карціны, насычаныя багатым сацыяльным зместам.

Па меры таго, як расце, выходзіць у шырокі свет герой, падзеі і факты ў рамане пачынаюць несці ўсё большую сацыяльную нагрузку, становяцца больш эпічнымі па сваім унутраным змесце. Характары са сферы асабістых адносін і побыту ўсё больш уваходзяць у сферу грамадскую, сферу сацыяльна-палітычных інтарэсаў. У канцы рамана ўжо добра адчуваецца набліжэнне паўстання.

У. Караткевіч гістарычна падыходзіць да асвятлення падзей 1863 года. Ён імкнецца пранікнуць у іх сацыяльна-эканамічную сутнасць, паказаць іх гістарычнае значэнне для нацыі і народу, выявіць прагрэсіўны характар. Падзеі ў творы разгортваюцца ў трох асноўных планах: першы—прыход да паўстання беларускага і польскага дваранства (вядучай сюжэтнай лініяй тут служыць лёс Алеся Загорскага), другі—нарастанне стыхійнага сялянскага бунту, трэці—высокія сферы палітыкі.

Найбольшая ўвага аддаецца паказу дваранства Прыдняпроўя. І калі дзеячы «высокай палітыкі» (Ланской, Валуеў і іншыя) паказаны пераважна ў агульным плане, толькі ў адносінах да рэформы ці нацыянальнага пытання, дык у паказе беларускага дваранства відаць глыбіня і грунтоўнасць.

Дваранства зусім невыпадкова ў рамане Караткевіча займае значнае месца. Паўстанне 1863 года насіла не толькі сацыяльны характар, але і нацыянальна-вызваленчы. Носьбітам і праваднікам нацыянальных і агульна-дэмакратычных ідэй было ў значнай ступені перадавое дваранства. З'ява гэта была гістарычна агульнай для многіх нацыянальна-прыгнечаных краін (Венгрыя, Італія, Польшча).

У рамане паказана неаднароднасць і супярэчлівасць дваранства як класа і тым самым у нейкай ступені прадугледжваецца трагізм яго барацьбы. Шляхта сярэдняя і бедная захоўвала ў душы вернасць традыцыям ранейшай вольнасці. Яна і да сялян адносіцца памяркоўна (Раўбіч і тыя, хто ўваходзіць у яго закалат). Буйныя магнаты Загорскія ва ўсе часы адчувалі сябе свабодна і незалежна і не могуць прымірыцца не толькі з нацыянальным

уціскам, але і з бесчалавечнымі здзекамі з сялян. А некаторая частка дваранства (Таркайлы), адчуваючы прыход капіталізму, усяляк імкнецца прыстасавацца да новых умоў.

Не была адзінай у сваіх поглядах і рэвалюцыйная частка дваранства. У «Агуле» ўвесь час ідуць вострыя спрэчкі і дыскусіі.

Сялянства ў рамане таксама даецца ўсебакова. Яно не ідэалізуецца. Мы бачым і яго забітасць і яго пратэст супраць існуючага ладу. Праўда, гэты пратэст вельмі часта яшчэ не асэнсаваны, выліваецца ў стыхійны бунт (бунт сялян Кроера), перарастае ў лютую нянавісць да паноў наогул (бунтар Корчак).

Караткевічу ўдаецца сюжэтна і кампазіцыйна спалучаць розныя планы ў разгортванні падзей дзякуючы галоўнаму герою, які звязаны так ці інакш з падзеямі, што адбываюцца ў асяроддзі дваранства і сялянства. Лёс героя звязаны з гістарычнымі падзеямі, імі абумоўлены. Герой і гісторыя развіваюцца, ідучы насустрач адно аднаму.

У гістарычных творах, падобных раману «Каласы пад сярпом тваім», стрыжнем, станавым хрыбтом з'яўляецца пэўная філасофская, агульначалавечая думка, для мастацкага раскрыцця якой падыходзіць тая ці іншая гістарычная жыццёвая аснова. У рамане У. Караткевіча гэтая думка звязана з вобразам галоўнага героя, з усім тым, што яму блізка і дорага, і выказана ў назве рамана: «Каласы пад сярпом тваім». У канцы рамана поп чытае ў царкве палажэнне пра адмену прыгоннага права. Алесь Загорскі слухае, разумее, што гэта ашуканства, і думае: «Бедныя, бедныя людзі! Як каласы, як трава пад сярпом тваім, грубая сіла. Ну што ж, калі твая «неабходнасць» не можа даць ім палёгкі, і волі, і шчасця — тым лепей. Тады па сваёй «неабходнасці» яны стануць каласамі пад сярпом волі, радзімы, паўстання, бітвы, каласамі, якія памруць, магчыма, але памруць, каб вырасла новая рунь. Гэта будзе скора. Нядоўга чакаць». Пад канец рамана пачынае моцна гучаць трагічная мелодыя, якая ў поглядзе пісьменніка на мінулае Беларусі з'яўляецца адной з самых вядучых.

Барацьба «дабра» і «зла» ў іх розным сацыяльным і этычна-псіхалагічным пераламленні праходзіць амаль праз усе творы пісьменніка. Пакуль існуюць класы, розныя сацыяльныя сістэмы, няроўнасць паміж людзьмі, войны, знішчэнне, датуль не будзе спакою на зямлі, не будзе шчасця паміж людзьмі.

У. Караткевіч валодае багатай творчай фантазіяй, добра ведае гісторыю беларускага народа і ўмее пранікнуць у дух і характар гістарычнай эпохі. Мастацкае ўзнаўленне побыту, звычаяў, духоўнага жыцця розных слаёў народу ў гістарычна аддаленую ад нас эпоху настолькі жывое, непасрэднае і настолькі захоплівае, што неяк не заўважаеш пры першым чытанні залішне асучасненую ў некаторых момантах мову твора.

Дзе-нідзе адчуваецца парушэнне жыццёвай натуральнасці характару Алеся Загорскага. Аўтар неяк залішне захапляецца сваім героем. Ствараецца ўражанне, што Сразнеўскі ўведзены ў раман толькі для таго, каб аддаць герою належную долю захаплення і пашаны.

Алесь Загорскі — герой рэальны. Рэальны ў той ступені, у якой ён выражае грамадскія, сацыяльныя тэндэнцыі часу, гістарычны сэнс эпохі. Але адначасова ў нейкай меры ён і герой ідэальны. Пісьменнік у ім хацеў увасобіць не толькі тое, што было, што несла ў сабе эпоха, але і што магло быць, што павінна было быць, нават тое, што хацелася б, каб было. І тут у асобных момантах герою і аўтару не верыш.

Пасля смерці бацькоў Алесь пачынае дзейнічаць на гаспадарцы самастойна. І тут ён праяўляе такую энергію, такое ўменне, такую дзелавітасць, што проста дзіву даешся: нібы перад табою капіталіст перыяду першапачатковага накаплення. Гэтая дзейнасць Алеся на гаспадарцы здаецца проста нечаканай: пра яго гаспадарчыя здольнасці раней было сказана вельмі мала. Ды і не адпавядае неяк гэтая дзейнасць яго духоўнай сутнасці: у жыцці амаль не бывае, каб натуры рамантычныя былі здольны ў такой ступені да практычнай дзейнасці.

У асобных месцах герой залішне сентыментальны і чуллівы. Узаемаадносіны Алеся з прыгоннай актрысай Геленай вельмі ж ужо меладраматычныя і, відаць, больш ідуць ад літаратуры, чым ад жыцця.

Але ў цэлым раман «Каласы пад сярпом тваім» — прыкметная з'ява нашай сучаснай літаратуры. Ён прасякнуты ідэяй любві да чалавека, ідэяй гуманізму і патрыятызму.

**Серафім АНДРАЮК.**




**Гісторыя беларускага кіно. Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1969.**

# ВЕХІ, АДЗНАЧАНЫЯ КІНАСТУЖКАМІ

Мы з вамі таксама можам прайсці па гэтых шляхах, калі пазнаёмімся з кнігай «Гісторыя беларускага кіно», выпушчанай рэспубліканскім выдавецтвам «Навука і тэхніка» ў пачатку гэтага года. Гэта калектыўная праца, падрыхтаваная супрацоўнікамі сектара тэатра і кіно Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (аўтары А. Красінскі, В. Смаль, В. Нячай, Г. Падбярэзскі, Г. Ратнікаў). Выхад у свет першай часткі гэтай працы не можа не радаваць: у нас у рэспубліцы, на жаль, яшчэ мала выдаецца кніг па мастацтву, а па кіно ў асаблівасці.

Першая спроба асэнсаваць гісторыю развіцця беларускага кінамастацтва была зроблена сем гадоў таму назад, калі выйшла ў свет кніга «Беларускае кіно». Як і кожнае першае выданне, яна несла на сабе сляды павярхоўнасці, няпоўнага ахопу з'яў, якія характарызавалі стан мастацтва рэспублікі на пэўных гістарычных этапах. Другое выданне, пра якое тут пойдзе гаворка, больш поўнае, грунтоўнае і ў многім больш дасканалае, толькі тыраж яго недаравальна малы— усяго 1 250 экземпляраў(!?). Відаць, кнігагандлюючыя арганізацыі ўсё яшчэ жывуць старымі ўяўленнямі пра запатрабаванні на мастацтвазнаўчыя выданні. А між тым, яны разыходзяцца ўсё хутчэй.

Сваю гісторыю беларуская кінематаграфія вядзе са снежня 1924 года, калі спецыяльным дэкрэтам СНК БССР было створана Белдзяржкіно — арганізацыя, закліканая займацца не толькі кінафікацыяй, але і наладзіць у рэспубліцы вытворчасць кінафільмаў. Даследчыкі паслядоўна прасочваюць першыя крокі гэтай арганізацыі, расказваюць, як здымаліся першыя кіначасопісы, дакументальныя і мастацкія кінафільмы, чаму беларуская кінастудыя знаходзілася не ў Мінску, а ў Ленінградзе, знаёмяць з жыццём і творчасцю рэжысёра Ю. В. Тарыча, які па праву лічыцца заснавальнікам беларускага кіно.

У раздзеле «Пачатак шляху» гаворка ідзе амаль пра ўсе найбольш значныя творы кінамастацтва. Дасягненні і пралікі беларускага кіно разглядаюцца не ізалявана, а на кінематаграфічным фоне ўсяе краіны, у супастаўленні з развіццём іншых відаў мастацтва рэспублікі. Праўда, часам паралелі гэтыя выглядаюць штучна, без уласцівай для шырокіх абагульненняў арганічнасці.

Ёсць у гэтым радзеле і свае «накладкі». Гэта — бегласць або трафарэтнасць аналізу асобных кінастужак. Так, напрыклад, там, дзе гутарка ідзе пра культурфільмы 20-х гадоў, ёсць такое рэзюме даследчыкаў: «Большасць фільмаў было бліжэй да навукова-папулярнага, чым да дакументальнага жанру». Па-першае, навукова-папулярнае і дакументальнае кіно — не жанры, а віды кінематографа, а па-другое, не ў прыналежнасці да таго ці іншага з гэтых відаў заключаецца істотнае адрозненне культурфільмаў. Аўтары і самі, вядома, гэта разумеюць і аналізуюць кінастужкі з правільных пазіцый, толькі вывад зрабілі недакладны. Гэта адзін з прыкладаў таго, як стылістычная недакладнасць прыводзіць да спрэчных сцвярджанняў.

Недакладна выказана думка і ў тым месцы кнігі, дзе гутарка ідзе пра ўплыў хронікі і ігравога кіно на дакументальнае. Тут больш правільным было б падкрэсліць, што «ігравізм» і тады і пасля не столькі «ўплываў», колькі перашкаджаў развіццю кінадакументалістыкі. І на беларускім дакументальным кіно гэта асабліва прыкметна. Ды і на навукова-папулярным таксама.

Не растлумачылі аўтары як след трансфармацыю назвы кінастудыі. Адзін з падраздзелаў кнігі, у якім расказваецца пра кіно 20-х гадоў, названы «Арганізацыя Белдзяржкіно. Стварэнне кінастудыі «Савецкая Беларусь». Але кінастудыя «Савецкая Беларусь» узнікла пазней. Усе фільмы 20-х і пачатку 30-х гадоў выходзілі з цітрам: «Вытворчасць «Белдзяржкіно».

Аўтары кнігі імкнуліся вызначыць арыенціры, на якія быў скіраваны позірк кінематаграфістаў маладой кінастудыі. Вядома, тут не абышлося без уплыву такіх

выдатных майстроў савецкага кіно, як С. Эйзенштэйн. Але ў чым ён, гэты ўплыў, выявіўся, даследчыкам раскрыць не ўдалося, і, як вынік, у кнізе часта сустракаюцца агульныя фразы, накшталт: дасягненні Сяргея Эйзенштэйна «браліся на ўзбраенне», «уваходзілі ў культурны ўжытак» і г. д. Штучным выглядае супастаўленне фільма Ю. Тарыча «Да заўтра» з «Браняносцам «Пацёмкіным» С. Эйзенштэйна. Больш пераканаўча паказаны ўплыў буйных севецкіх кінамайстроў на раннюю творчасць У. Корш-Сабліна. Яму ў кнізе адведзена нямала старонак, і гэта зусім апраўдана месцам і значэннем створаных ім фільмаў.

Другі раздзел «Гісторыі беларускага кіно» прысвечаны 30-м гадам. Гэта быў перыяд станаўлення беларускага кіно, узбагачэння яго новымі творамі, выяўленчымі сродкамі і мастацкімі прыёмамі. Пра ўсё гэта ў кнізе ідзе паслядоўная, кваліфікаваная размова. Другі раздзел вызначаецца большай, чым першы, змястоўнасцю і дакладнасцю аналізу. За канкрэтнай ацэнкай таго ці іншага твора адчуваецца веданне праблем і стану ўсяго савецкага кінамастацтва, уменне выдзеліць у ім галоўнае, вызначыць найбольш характэрныя тэндэнцыі развіцця беларускага кінамастацтва, а таксама прычыны, што абумоўлівалі яго цяжкасці і няўдачы. У цэнтры ўвагі даследчыкаў фільмы, у якіх праявіліся найбольш плённыя тэндэнцыі кінамастацтва рэспублікі ў перыяд яго станаўлення. Гэта «Першы ўзвод», «Двойчы народжаны», «Балтыйцы», «Адзінаццатае ліпеня», «Шукальнікі шчасця» і іншыя. З канкрэтнага аналізу мы бачым, як мяняўся падыход кінематаграфістаў да з'яў жыцця, як усё большае месца на экране займаў паўнакроўны вобраз савецкага чалавека.

З цікавасцю чытаюцца старонкі пра першыя гукавыя фільмы беларускай кінастудыі, пра арыгінальную сістэму гуказапісу, пра тое, як у беларускім кіно пачыналі сваю творчую дзейнасць многія шырока вядомыя цяпер артысты і рэжысёры (Б. Бабачкін, Л. Кміт, Л. Смірнова, А. Файнцымер, М. Данской і іншыя), як па запрашэнню рэжысёра Корш-Сабліна пачаў супрацоўнічаць у кіно выдатны савецкі кампазітар І. Дунаеўскі.

Шмат вострых праблем узнялі аўтары кнігі. Такія з іх, як неабходнасць стварэння сталага творчага калектыву, дабраякаснасць сцэнарнай асновы, увага да нацыянальнага аблічча кінамастацтва, да сучаснай тэматыкі, і сёння застаюцца актуальнымі і ў многім не вырашанымі.

Прыкметнаю з'явай беларускага кіно даваеннага часу было стварэнне фільмаў для дзяцей, экранізацыя літаратурных твораў. Гэтым пытанням прысвечаны асобныя раздзелы кнігі, і напісаны яны цікава.

Даследчыкі асабліва падкрэсліваюць значэнне твораў на сучасныя і гісторыка-рэвалюцыйныя тэмы. І там і тут яны асобна выдзяляюцца і аналізуюцца. Гэта абумовіла некаторы паралелізм як праблематыкі, так і прыёмаў аналізу. Зразумела, што ў працы такога характару, ды яшчэ калектыўнай, цяжка пазбегнуць паўтораў. І ўсё ж што-нішто можна было зрабіць. У прыватнасці, больш паслядоўна правесці нейкі «вядучы» прынцып разгляду — храналагічны ці тэматычна-жанравы. У кнізе ж за аснову бярэцца то час, то твор, то дзейнасць пэўнага мастака, то праблема. Аўтараў апраўдвае толькі адно — кожны раз яны шукалі тое адметнае, што характарызавала беларускае кіно на пэўным этапе яго развіцця.

Заключны раздзел кнігі названы «У гадзіну суровых выпрабаванняў». Тут аналізуюцца тыя нямногія фільмы, якія былі створаны беларускімі кінематаграфістамі ў гады вайны. Значна ажыўляюць гэтыя старонкі спасылкі на ўспаміны саміх кінематаграфістаў, у прыватнасці, аператараў, якія здымалі на баявых пазіцыях і ў месцах дзеянняў партызан. «Беларускія кінематаграфісты,— адзначаюць даследчыкі,— у выключна цяжкіх умовах вайны працягвалі лепшыя традыцыі кінематографа рэспублікі 20-х — 30-х гадоў». Можа гэта і залішне шчодрая ацэнка таго, што было зроблена беларускімі кінематаграфістамі за гэты час, але няма сумнення, што сваёй працай яны актыўна служылі агульнанароднай справе перамогі над ворагам.

«Гісторыя беларускага кіно» — патрэбная кніга. Яна дае правільнае асвятленне найбольш складаных этапаў развіцця гісторыі кінамастацтва рэспублікі.

**Ефрасіння БОНДАРАВА.**

Леанід ПРОКША



# У КРАІНЕ ПІРАМІД

**Дарожныя нататкі**

Усё тут здаецца нечаканым і дзіўным. На вуліцах горада дзвюх машын адной маркі не спаткаеш. Нават са знакам «таксі»—розныя. А сярод сучаснай тэхнікі спакойна і з развагай крочыць, як цераз пустыню, вярблюд, побач жа цягне вялікі воз ішак.

Між машын, ішакоў, вярблюдаў спрытна прабівае сабе дарогу егіпцянін на веласіпедзе. У зубах ён трымае крысо сваёй доўгай, па пяты, белай кашулі, каб яна не трапіла ў ланцуг. На яго галаве вялізны паднос—таблея з гарой хлеба (шэрых, велічынёй з талерку праснакоў) або з піражкамі ці бананамі. Дзіву даешся, як ён не рассыпле ўсё гэта.

На тратуарах часта сустракаюцца жанчыны ў чорным. Ідуць яны роўна, як па шнурочку. На галаве—кош ці збан, а на плячы вярхом уселася малое. Аднойчы ля магазіна я пацікавіўся вагой такога кошыка, які зняла з галавы егіпцянка. У кошыку былі куры, бульба, кукурузныя кіяхі. Я ледзь адарваў гэты кош ад зямлі. А жанчына ж несла яго ажно з вёскі пад гарачым афрыканскім сонцам!

Едзем па шырокіх вуліцах еўрапейскіх кварталаў. Тут цудоўныя дамы, асабнякі, але раптам недзе на павароце пачынаецца вуліца арабскага квартала. Гэта—муравейнік. Крамкі, майстэрні, склады, дзеці, фурманкі... Тут людзі жывуць, працуюць, гандлююць. Галеча страшэнная. З ёй пасля рэвалюцыі 1952 года пачалося змаганне. У буйных капіталістаў адабралі прадпрыемствы, феадалам пакінулі па 100 феданаў* зямлі, выйшаў закон, што рабочы ў дзень павінен зарабляць не ніжэй 25 піястраў, а сельскагаспадарчы рабочы 18 піястраў. Перамагчы, аднак, адсталасць не так лёгка.

Вось і Ніл. Едзем праз мост, пабудаваны інжынерам Эйфелем, тым самым, які збудаваў вежу ў Парыжы. Па шырокай рацэ плывуць сучасныя параходы, трамваі і ветразевыя судны. На такіх вазілі каменне для пірамід. Увогуле, далёкае мінулае і сучаснае, раскоша і галеча тут жывуць побач.

Палац Амара Хайяма, у якім мы спыніліся, пабудаваны ў 1860 годзе, перад адкрыццём Суэцкага канала, для прыёму еўрапейскіх гасцей, якіх чакалі на гэтую ўрачыстасць. Будынак прыгожы. Ён належаў вельмі багатаму чалавеку Лютфалу. У 1956 годзе ўсе яго багацці былі нацыяналізаваны, у тым ліку і гэты палац, у якім зрабілі гасцініцу.

У двары гасцініцы невялікія двухпавярховыя дамкі з балконамі. У пакоях электрычныя халадзільныя апараты, якія ствараюць мікраклімат. Між пальмаў басейн і рэстаран пад адкрытым небам. Вечарам, калі спадае гарачыня, на пальмах загараюцца чырвоныя агеньчыкі. На эстраду выходзіць аркестр. За столікамі, пакрытымі чырвонымі сурвэтамі, сядзяць наведвальнікі. Паміж столікамі ў доўгіх арабскіх балахонах з чалмой на галаве, з меднымі бліскучымі падносамі ў ру-

* Федан — 0,42 га.

ках сноўдаюць афіцыянты. Яны могуць падаць вам, напрыклад, бутэльку піва, за якую трэба заплаціць 35 піястраў, ды яшчэ 35 піястраў за месца. Затое вы пабачыце славуты танец жывата.

Просты рабочы, зразумела, за гэты столік не сядзе. Яго дзённага заробку не хопіць, каб купіць тут бутэльку піва. Ёсць рэстараны, дзе толькі за ўваход плацяць чатыры фунты. Гэта ўжо амаль месячны заробак чорнарабочага. Тут праводзяць час замежныя турысты, якія прыязджаюць паглядзець на піраміды і падзівіцца майстэрству егіпцян.

Турызм даваў вялікі прыбытак Егіпту. Але ў сувязі з вайной заходнія дзяржавы чыняць перашкоды турыстам са сваіх краін. Церпяць ад гэтага фірмы, якія абслугоўваюць турыстаў, і людзі, занятыя вырабам сувеніраў.

Ля гасцініцы, на вуліцы, не кажучы ўжо пра базар, цяжка адбіцца ад прадаўцоў. Кожны хоча прадаць старанна зробленую рэч.

— Сколько? Ну, сколько? — будзе пытаць па-руску і ісці за табой чалавек у доўгай да пят кашулі.

— Але дзякую, не трэба.

А ён неадступна будзе паўтараць:

— Ну, сколько? — нібы толькі гэта і вывучыў.

І калі спачатку называе цану, напрыклад, 75 піястраў, то знізіць яе да дзесяці.

Спецыяльна нанятыя хлопчыкі запрашаюць і ледзь не за крысо цягнуць пакупніка ў магазін.

— Захадзі, пасматры, харашо!

На вуліцы, толькі спынішся, каб зірнуць на вітрыну, як табе ўжо чысцяць чаравікі.

— Але ж дзякуй... — пачнеш адмаўляцца.

— Адзін піястр, — ледзь не моліць чысцільшчык.

За восем год пасля рэвалюцыі (1957—1964) пабудавана ў рэспубліцы восемсот прадпрыемстваў. Шмат будуецца і цяпер. (Толькі пры дапамозе СССР — 130 прадпрыемстваў.) Але ўсім яшчэ не хапае работы. Паводле афіцыйнай статыстыкі, тут — семсот тысяч беспрацоўных.

Беспрацоўныя — гэта ў асноўным людзі некваліфікаваныя, непісьменныя. Трэба іх навучыць. У гэтым кірунку ўжо многае робіцца. Шмат зрабілі тут нашы савецкія спецыялісты, рабочыя, якія на будоўлях старанна вучаць арабаў розным прафесіям.

...Гісторыя Каіра пачынаецца з 969 года, калі берберскія войскі пад камандаваннем Джаўхара-ас-Сікілі ўсту-



**На базары ў Каіры. Стары араб-вышывальшчык.**

пілі ў Ал-Фустат і побач са старой сталіцай на поўначы ад яе заклалі новую—Ал-Кахіра.

У легендзе гаворыцца, што перш, чым закласці горад, яго будучую тэрыторыю акружылі вяроўкай. Вяроўку ўмацавалі на калках, а на ёй падвесілі званочкі. Па знаку астролага, у шчаслівую па яго падліках хвіліну, чыноўнік павінен быў тузануць за вяроўку, каб будаўнікі па сігнале аднachасова прыступілі да працы. Але здарылася нечаканае. Якраз калі на небе ўзыходзіў Марс,—планета, якую арабы лічылі нешчаслівай,—на вяроўку спусціўся крумкач. Званочкі зазвінелі...

Горад назвалі па імені планеты «Ал-Кахіра»—пераможца нябёс. І сапраўды, на працягу тысячы год Каіру давялося ўбачыць і перамагчы шмат заваёўнікаў. У пачатку XII стагоддзя над Каірам навісла пагроза з боку крыжакаў. Але захапіць Каір ім не ўдалося. У 1249 годзе крыжакі зноў спрабавалі ажыццявіць сваю мару. Крыжацкія рыцары захапілі горад Даніету і пайшлі на Каір. Але і на гэты раз вярнуліся ні з чым.

У 1517 годзе Егіпет страціў самастойнасць, а Каіру выпала доля правінцыяльнага горада Асманскай імперыі. Наступны акупант—Напалеон. 1 чэрвеня французскі імператар высадзіў недалёка ад Александрыі трыццацітысячную армію. 21 чэрвеня паміж егіпцянамі і французскімі войскамі адбылася вядомая ў гісторыі бітва ля пірамід. Егіпцяне мужна баранілі сваю сталіцу, але яны былі дрэнна ўзброены, а французы мелі гарматы. 24 чэрвеня 1798 года ў Каір уступілі войскі Напалеона. Аднак, знясіленыя барацьбой з егіпцянамі, французы не маглі доўга ўтрымацца. У 1801 годзе англічане прымусілі іх пакінуць краіну. Пачалася доўгая і цяжкая барацьба з новымі, англійскімі, захопнікамі.

У сярэдзіне XIX стагоддзя ў барацьбу за панаванне над Егіптам зноў уступаюць французы. У 1854 годзе яны атрымліваюць канцэсію на будаўніцтва Суэцкага канала. Пасля адкрыцця канала ў 1869 годзе Англія і Францыя яшчэ больш актыўна пачалі ўмацоўваць свае пазіцыі ў Егіпце. У 1882 годзе англійскія войскі жорстка падавілі народнае паўстанне, і Егіпет стаў англійскай калоніяй.

На плошчы мы звярнулі ўвагу на адзін помнік. Праз хвіліну чуем тлумачэнне гіда:

— Гэта помнік герою барацьбы з англійскай няволяй Саіду Заглулу. Ён кіраваў нацыянальна-вызваленчай барацьбой егіпцян.

Пра гэтага нацыянальнага героя створана шмат легенд. Мне хочацца нагадаць пра адну падзею, якая звязана з імем Заглулу. Неяк ён параіў скульптару Махмуду Мухтару стварыць манументальны помнік, які б заклікаў да вызвалення краіны. Дзесяць гадоў працаваў таленавіты мастак над скульптурай «Абуджаны Егіпет». З вялізнага асуанскага гранітнага валуна ён высек сфінкс і фігуру жанчыны ў доўгай малайі. Адной рукой жанчына абапіраецца на галаву сфінкса, другой скідае з твару пакрывала. Сфінкс, тысячагадовы сімвал Егіпта, напружыў свае моцныя лапы і ўзняў галаву. Жанчына з адкрытым тварам,—сімвал будучыні Егіпта,—абапіраецца рукой на мінулае—галаву сфінкса.



**Абуджаны Егіпет. Манумент работы Махмуда Мухтара.**

У 20-х гадах, калі помнік быў гатовы, Егіпет ужо лічыўся каралеўствам і нібы незалежнай краінай. Але хоць англійскі пратэктарат быў скасаваны, брытанцы ўсё ж панавалі ў Егіпце.

Гід расказаў нам цікавую гісторыю, якая здарылася пры ўстанаўленні скульптуры «Абуджаны Егіпет». Сярод рабочых, якія ўстанаўлівалі помнік, быў эмігрант з Крыма. Ён зірнуў на скульптуру і растлумачыў арабскім рабочым значэнне яе па-свойму:

— Жанчына гэта не егіпцянка, а англічанка. Яна сваёй рукой не абапіраецца, а душыць Егіпет.

Рэакцыя на такое тлумачэнне была бурная. Рабочыя адмовіліся ўстанаўліваць скульптуру. І шмат было клопату, каб растлумачыць ім сапраўдны сэнс скульптуры. Помнік устанавілі. Але толькі цяпер, пасля рэвалюцыі



**Гіза. Пірамíды.**

1952 года, змест гэтай скульптуры адлюстроўвае рэчаіснасць—сапраўднае абуджэнне Егіпта.

Каір застаецца за намі. Наш аўтобус імчыць па шырокай з прысадамі асфальтаванай дарозе, якая пралягла ўздоўж канала побач з Нілам. З цікавасцю разглядаем вёскі, якія сустракаюцца на шляху. Хаты злеплены з зямлі і саломы і не падобныя да нашых. Але куры, гусі, козы, каровы ходзяць па двары так, як і ў нашых вёсках. Толькі няма ім дзе паскубці такога мурагу, як у нас. Затое кукуруза на палях—лес. Якраз збіралі яе. Камбайна тут пакуль што не ўбачыш. Ды і што яму рабіць на невялікім полі фелаха. Ён сам убірае свой ураджай па сцяблінцы, беражна складаючы яго ў кучу. Тут не прападзе ні зернятка, бо вельмі ж дорага яно дастаецца фелаху.

Уязджаем у пальмавы гай. Аўтобус спыняецца ля невялікай будыніны, уваход у якую абкладзены мяшкамі з пяском.

— У гэтай мясцовасці ў 3200-м годзе да нашай эры фараон Мінес пабудаваў на Ніле грэблю. Побач з ёй вырас горад. Ён стаў сталіцай і культурным цэнтрам Егіпта...

Ад старажытнага горада засталіся толькі руіны храма бога Птаха, велічэзная статуя Рамзэса II, высечаная з ружовага граніту, і сфінкс. Статуя ляжыць на зямлі. Дзіву даешся, як людзі ў той час маглі стварыць і паставіць гэткую статую! Здзіўляе сваёй магутнасцю і сфінкс, які стаіць на месцы храма Птаха.

Ля гэтых помнікаў старажытнасці прапягла сучасная дарога. Над ёй вісяць правады, па якіх бяжыць ток з Асуана. Па дарозе з поля або ў поле на аслах, вярблюдах то ў адзін, то ў другі бок едуць фелахі. Рука так і цягнецца да фотаапарата. Выходжу на дарогу, пачынаю рабіць здымак. Да мяне спакойна пад'язджае фелах на вярблюдзе. Спыняецца.

— Бакшыш,—кажа ён, працягваючы руку.

Я не адразу зразумеў, чаго ён хоча. Араб паўтарыў больш настойліва:



**Фелахі вяртаюцца з поля.**

— Бакшыш.

Тутэйшыя людзі бачаць тысячы турыстаў. Яны разважаюць так: «Ты робіш здымак, каб потым яго некаму паказаць або прадаць. Ты будзеш мець прыемнасць і грошы, нешта ж і я мушу з гэтага мець». Я даў арабу пачак савецкіх цыгарэт. Ён узяў гэта, як належнае, кіўнуў галавой на развітанне і паехаў далей. Навучаны гэтым, я цяпер, перш, чым рабіць здымак, правяраў, што ў мяне ёсць на «бакшыш».

На ўскраіне Мемфіса ў Сакары знаходзіцца некропаль. Егіпцяне моцна верылі ў жыццё на тым свеце. Фараоны клапаціліся, каб іх жыццё на тым свеце было яшчэ лепшае. Адзін з найцікавейшых помнікаў сакарскага Некропаля—піраміда фараона Джасера, якую называюць маткай егіпецкіх пірамід. Вышыня піраміды 60 метраў. Гэта была першая каменная манументальная будоўля ў Егіпце.

«Дзеці» джасераўскай—піраміды Хеопса, Хефрэна, Мікерына, якія ўзвышаюцца за 15 кіламетраў ад Сакары ў Гізе, больш ўнушальныя. Самая ранняя і вялікая—Хеопса—была пабудавана каля 2800 года да нашай эры. Яе вышыня 146,6 метра. Піраміда складзена з 2 300 тысяч блокаў. Кожны такі блок важыць дзве з паловай тоны, а некаторыя—да 13 тон. Напалеон падлічыў, што з блокаў гэтай піраміды можна было збудаваць высокую сцяну навокал Парыжа.

Піраміду Хеопса будавалі 30 гадоў. Дзень у дзень пад афрыканскім сонцам сто тысяч нявольнікаў узводзілі помнік фараону, атрымліваючы на харч галоўку цыбулі, часнаку і кавалак рэдзькі.

Глядзіш на гэтую будоўлю і думаеш: як людзі ў той час будавалі такія піраміды? Ёсць розныя думкі на гэты конт. Англійскі вучоны Эдвардс лічыць, што рыштаваннем пры пабудове пірамід быў пясок. Разам са сценамі піраміды падымаўся і пясчаны насып. Уяўляю сабе, якой цяжкай была гэтая работа. Кошыкамі ці мяшком на гарбе канасіць столькі пяску, а потым прыбраць яго, ачысціць піраміду, каб яна выглядала вось такой, як мы яе бачым. І не дзіва, што рабочы тут працаваў 4—5 месяцаў і паміраў. На яго месца прыганялі іншых нявольнікаў, але лічба 100 000 заставалася пастаяннай.

Другая піраміда—Хефрэна—143 метры ў вышыню. Побач з ёю храм Хефрэна і магутны сфінкс, высечаны са скалы. Следам за нашым гідам мы па вельмі вузкім праходзе спускаліся



**Гіза. Вялікі сфінкс.**

ў пакоі фараона Хефрэна. Мы ледзь не паўзлі чатырыста метраў па вузкім праходзе. А людзі ж тут цягнулі каменны саркафаг...

У двух вялікіх падземных пакоях мы са здзіўленнем убачылі рэчы, якімі карыстаўся фараон пры жыцці. Была тут і калясніца. Частка рэчаў знаходзіцца цяпер у Каірскім музеі. Тут пад зямлёй таксама здзіўляюць і каменныя саркафагі, і роспіс на сце-



**Каір. Статуя Рамзэса II.**

нах. Падзямелле цяпер асветлена электрычнасцю. А гэтыя ж роспісы мастакі рабілі пры нейкім, відаць, вельмі прымітыўным асвятленні. Але як дасканала, з якім майстэрствам! І ўсё гэта было пахавана разам з фараонам.

Увогуле, апынуўшыся ля пірамід у Гізе, узнікае шмат пытанняў: як, чаму, навошта? І здаецца, маўклівы сфінкс сваёй загадкавай усмешкай кпіць з нікчэмнага імкнення да велічы.

Калі сцямнела, мы зноў былі ў Гізе. У тэатры пад адкрытым небам было няшмат гледачоў, хоць умясціцца ў ім можа з тысячу чалавек.

Мы занялі свае месца бліжэй да «сцэны». Яна была адкрытая. І выканаўцы роляў, сфінкс, храм Хефрэна і піраміды былі на месцы. Пад купалам зорнага неба на фоне пустыні яны хвалявалі сваёй таямнічасцю. Але вось пагасла святло на глядзельнай пляцоўцы, і з рэпрадуктараў, устаноўленых на пірамідах, храме і сфінксах, палілася музыка. А потым загаварылі піраміды Хеопса, Хефрэна, Мікерына і сфінкс. Вуснамі артыстаў яны апавядалі гісторыю далёкага мінулага. Калі пачынала гаварыць адна з пірамід, святло агнёў вырывала яе з цемры. Стваралася ўражанне, што гаварылі не людзі, а камені.

...Над Нілам свята. Народ гучна вітае маладога фараона Рамзэса. Вось ён імчыць на кані, чуваць стук капытоў, свішча страла—трапіў! Народ радуецца. Іх правадыр у поўнай сіле...

У глыбокай старажытнасці у афрыканцаў існаваў звычай забіваць старых правадыроў плямені і ставіць маладога. Егіпцяне былі ўпэўнены, што ад сілы, здароўя і магутнасці ўладара залежала ўрадлівасць глебы і дабрабыт народу. Таму ўладар павінен быў дэманстраваць перад сваім пляменем сілу і спрыт.

Егіпецкая чыгунка праразае краіну толькі ўздоўж: з поўначы на поўдзень бяжыць яна па беразе Ніла і яго каналаў. На паліўной зямлі егіпецкі фелах вырошчвае доўгавалакністую бавоўну, якая лічыцца лепшай у свеце, пшаніцу, кукурузу, рыс, ячмень, цукровы трыснёг.

Аграрная рэформа паклала пачатак ліквідацыі феадалізму ў Егіпце. Да сярэдзіны 1960 года ў іншаземцаў і феадалаў адабраны землі плошчаю ў адзін мільён феданаў. Больш чвэрці мільёна сялян атрымала 644 тысячы феданаў. Рэформа змяніла аблічча вёскі. Вырасла колькасць дробных гаспадарак з участкамі па пяць феданаў. Такія гаспадаркі цяпер апрацоўваюць больш паловы ўсёй ворнай зямлі. Гаспадаркі, якія маюць сто феданаў, займаюць 15,2 працэнта ворнай плошчы.

Цягнік плаўна, нібы плыве па Ніле, коціцца па рэйках. Доўга яназіраў, з якой любоўю і стараннасцю апрацоўвае егіпецкі селянін зямлю, што дала яму рэвалюцыя.

(Далей будзе.)

**Пра тое, як стварaўся Герб Беларускай ССР, вы даведаецеся ў бліжэйшых нумарах.**

# БЕЛАЯ ЧАРАЎНІЦА

Кожны год у нашай краіне з друку выходзіць звыш паўтара мільярда кніг, амаль па сем кніг на кожнага чалавека. Столькі кніг не друкуецца ні ў адной краіне свету. Мы вырабляем ужо цяпер больш за чатыры мільёны тон паперы, гэта ў дваццаць разоў больш, чым выпускалася ў 1913 годзе. Аднак нам яе ўсё яшчэ не хапае.

На паперы не толькі друкуюць кнігі, часопісы і газеты. З яе вырабляюць трывалыя мяхі і вяроўкі, карабкі і цацкі, шыюць адзенне, бялізну...

Ужо больш за тры дзесяткі гадоў, як у Швецыі коўдры вырабляюць з паперы, і яны паспяхова канкурыруюць з суконнымі. Там жа з паперы робяць халаты і камбінезоны. Рабочыя кожную раніцу апранаюцца ў беласнежны халат, а ідучы дадому, выкідаюць яго. Не трэба ні мыць, ні баяцца, што забрудзіш. Такое адзенне вельмі таннае.

Папера, з якой вырабляюць бялізну і адзенне, зусім не падобная на тую, на якой пішуць і друкуюць. На дотык яна вельмі мяккая і нагадвае баваўняную тканіну. А ёсць і такія гатункі, што нагадваюць шаўкавістую або мяккую суконную тканіну. Яна ідзе на выраб зімовага адзення. Тканіну з паперы можна фарбаваць у самыя розныя колеры, яе можна зрабіць воданепранікальнай і вогнетрывалай.

Пры вырабе адзення з паперы не трэба мець ні іголак, ні нітак, можна лёгка і добра склеіць яе. Не трэба таксама прышываць гузікі, можна прыклеіць завязкі і засморжкі-«маланкі». Асабліва зручныя папяровыя касцюмы і камбінезоны на атамных электрастанцыях: кожны дзень іх можна мяняць на новыя.

Апрацоўваючы паперу рознымі хімікатамі, можна надаць ёй самыя неспадзяваныя ўласцівасці. На нёманскім цэлюлозна-папяровым камбінаце ўжо амаль на працягу дзесяці гадоў вырабляюць вялюравую паперу, якая нагадвае натуральны аксаміт. Нёманскай вялюравай паперай упрыгожваюць карабкі для гадзіннікаў і духоў. Робяць з яе шпалеры, цацкі, вокладкі для альбомаў і блакнотаў і іншае.

Работнікі папяровай прамысловасці ў садружнасці з хімікамі вырабляюць і такую паперу, якая трывала ахоўвае жалезныя вырабы ад іржы: яна выдзяляе пару, якая ахоўвае метал ад карозіі. У такую паперу загортваюць цвікі, гайкі, шрубкі; робяць з яе і чахлы на станкі і машыны.

Срэбраныя вырабы — нажы, відэльцы, келіхі — чарнеюць, таму што на паверхні ўтвараюцца вокіслы срэбра. Папера, прапітаная спецыяльным хімічным саставам, ахоўвае срэбра ад пацямнення на працягу шасці і больш месяцаў.

Нашы гандлёвыя караблі можна сустрэць у портах Індыі і Цэйлона, Афрыкі і Паўднёвай Амерыкі. Былі выпадкі, калі розныя шкоднікі ператваралі ў пыл абмоткі на дарагім электраабсталяванні і кабелях. На дапамогу зноў-такі прыйшлі хімікі. Асобныя дамешкі пры вырабе паперы надалі ёй здольнасць засцерагаць метал ад іржы, а таксама ад грызуноў і тэрмітаў.

...Аднойчы геалагічная экспедыцыя, накіроўваючыся з Масквы ў суровую Якуцію, паклала ў багаж некалькі боханаў чорнага хлеба і свежых белых булак. Каб яны не счарсцвелі за час доўгага падарожжа, іх загарнулі ў спецыяльную паперу. Скрыні і пакункі прыбылі на месца толькі праз два месяцы. Калі іх адкрылі, хлеб і булкі былі свежыя, як толькі што спечаныя. Такая цудадзейная папера ўжо вырабляецца на адной з ленінградскіх папяровых фабрык.

Калі загарнуць селядзец ці салёны гурок у паперу, да якой дададзена крыху антыакісляльнікаў, то яны на працягу 2—3 месяцаў не сапсуюцца. А гэта азначае, што селядцы і агуркі можна перавозіць не ў бочках, а ў скрынях з кардону ці дрэва, высцілаючы іх спецыяльнай паперай.

У магазінах гаспадарчых тавараў можна купіць цяпер «непрамакальныя» шпалеры, якія вонкавым выглядам не адрозніваюцца ад звычайных, але не прапускаюць вады: кроплі коцяцца па іх паверхні, як пацеркі. Супрацоўнікі адной з маскоўскіх шпалерных фабрык распрацавалі на аснове звычайнай аліфы такую эмульсію, якая моцна трымае фарбу на шпалерах. Ад часу эмульсія робіцца ўсё больш трывалай: дастаткова працерці забруджаныя пылам шпалеры мокрай анучай, і яны будуць блішчаць, як новыя. Робяць шпалеры, што самі прыстаюць да сцяны. Такія «самаклейныя» шпалеры прамазаны з адваротнага боку бясколернай каучукавай эмульсіяй.

Ёсць яшчэ і тэрмарэактыўная папера. Яна значна паскарае здыманне копій з чарцяжоў або кніжных ілюстрацый. У спецыяльны апарат «Тэрмакапір» на празрыстую пластмасавую стужку, якая прапускае інфрачырвоныя праменні, кладуць кнігу ці часопіс з накладзенай на іх

тэрмарэактыўнай паперай. Потым аўтаматычна ўключаецца інфрачырвоная лямпа, якая абпраменьвае кнігу ці часопіс усяго 3—4 секунды. Светлыя часткі малюнка адбіваюць цеплавыя прамені, цёмныя — паглынаюць іх і награюцца пры гэтым. За кошт цеплыні адбываецца рэакцыя паміж рэчывамі, якімі насычана папера, і атрымліваецца дакладная копія малюнка, афарбаваная ў цёмныя таны.

Добра вядома, што папера не праводзіць ток. Абсалютна сухая папера валодае вельмі высокім электрычным супраціўленнем. Але варта паперы ўвабраць хаця невялікую колькасць вільгаці — усяго адзін працэнт — як электрычнае супраціўленне яе зніжаецца ў тысячу разоў. Адбываецца гэта таму, што вада мае вельмі нязначнае электрычнае супраціўленне. Дастаткова ўвесці ў паперу маленечкія часцінкі рэчыва, што праводзіць ток, напрыклад, алюмінію, жалеза, свінцу, графіту, сажы — і папера становіцца электраправоднай. Электраправодная папера можа замяніць метал пры вырабе мембран для тэлефонных апаратаў, свінцовае покрыва ў кабелях, якімі карыстаюцца для перадачы току высокага напружання на вялікія адлегласці і г. д.

Электратэхнічная прамысловасць атрымала ад спецыялістаў папяровай прамысловасці і хімікаў яшчэ адзін падарунак — звыштрывалую ізаляцыйную паперу. Трываласць паперы ў многім залежыць ад даўжыні валокнаў і іх размяшчэння. У новай паперы валокны размешчаны накрыж, раўнамерна і ўздоўж і ўпоперак, і гэта забяспечвае ёй максімальную трываласць.

Папяровымі ручнікамі можна і «мыцца» і «выцірацца». З выгляду такія ручнікі не адрозніваюцца ад звычайных, але маюць зусім незвычайныя, сапраўды цудоўныя якасці: замяняюць і мыла і ваду. Выраб іх нескладаны. Кавалак падрыхтаванай спецыяльна папяровай тканіны насычаны дэзінфіцыруючым рэчывам з араматычным пахам. Калі праціраюць скуру такім ручніком, дэзінфіцыруючае рэчыва выпарваецца, і скура становіцца чыстай і халаднаватай. Ручнікі з паперы ў некалькі разоў танчэйшыя за звычайныя, таму іх зручна ўпакоўваць у спецыяльныя канверты, велічынёю з карабок ад запалак, які робіцца з алюмініевай фольгі. У Англіі пачалі ўжываць ручнікі з паперы ў гаражах: імі карыстаюцца для праціранне ветравога шкла ў аўтамашынах.

...На адной з прамысловых выставак нядаўна экспанавалася папера, якая не баіцца агню. Людзі ўжо даўно марылі пра гэта. Першымі зрабілі вогнетрывалую паперу рускія ўмельцы больш як дзвесце гадоў таму назад. Але не з драўнінных валокнаў, а з каменных — з так званага «горнага ільну». У 1722 годзе вядомы рускі прамысловец Мікіта Дзямідаў прыслаў у падарунак цару Пятру І кавалак палатна, сатканага з азбеставых валокнаў. Палатно было крыху таўсцейшае за льняное. Але, самае галоўнае, яно не гарэла ў агні. Праз некалькі год уральскія ўмельцы навучыліся вязаць з «горнага льну» шкарпэткі і пальчаткі і нават зрабілі некалькі аркушаў вогнетрывалай паперы. Але атрымаць добрую паперу з азбесту нельга: ён мае занадта кароткія валокны. Каб папера не баялася агню, яе трэба насыціць якім-небудзь негаручым рэчывам. Так робяць цяпер папяровыя ліхтарыкі, цацкі для ёлкі.

У саракавых гадах мінулага стагоддзя англійскай каралеве Вікторыі падаравалі кнігу, надрукаваную на вельмі тонкай паперы, якую ў тыя часы выраблялі толькі ў Індыі. Індыйскі спосаб вырабу быў раскрыты англійскім папяровым прамыслоўцам толькі праз шэсць год, і на працягу двух год на такой паперы было надрукавана больш за дзвесце тысяч кніг. Але прайшло яшчэ шмат часу, пакуль у іншых краінах навучыліся выбраляць тонкую паперу. На гэтай паперы друкуюцца слоўнікі, энцыклапедыі, даведнікі, зборы твораў славутых пісьменнікаў. У Англіі на такой паперы былі надрукаваны творы Шэкспіра.

Але гэта яшчэ не самая тонкая папера. Нядаўна пачалі вырабляць паперу, танчэйшую за чалавечы волас. З яе робяць некаторыя дэталі для радыё, тэлевізараў, электронных прыбораў. Мусіць, недалёкі той час, калі на такой паперы будуць друкаваць і кнігі. У нашай краіне кнігі і цяпер каштуюць значна менш, чым у іншых краінах, тады ж яны будуць яшчэ дзешавейшыя і больш даступныя чытачам.

Папера можа «размаўляць». Многа гадоў таму назад людзі пачалі шукаць спосаб захаваць гук. Адзін з вучоных XVII стагоддзя спрабаваў хаваць гукі ў шкляных пасудзінах. Ён вымаўляў слова ў слоік і хуценька апускаў вечка — спрабаваў злавіць слова. І вось векавая мара здзейснілася. У канцы XIX стагоддзя з'явіўся фанограф. Чалавек гаварыў словы ў рупар, у вузкім канцы якога была мембрана з іголкай. Іголка слізгала па паверхні валіка, які круціўся і быў пакрыты воскам. Іголка выціскала ў воску баразёнку з мноствам паглыбленняў, выступаў, якія адпавядалі пэўным гукавым ваганням. Але запіс на воску вельмі нядоўгавечны.

Воск памянялі на пластмасу, а валік на пласцінку. З'явіўся патэфон. Але іголка не магла без трэння слізгаць па баразёнках, нараджаўся непрыемны фон, асабліва ад старых пласцінак. У пошуках больш дасканалага спосабу запісу гукаў прапанавалі замест пласцінкі ўжыць кінаплёнку, замест іголкі — светлавы прамень. Даўжыня кінаплёнкі (150—200 метраў) дазваляла весці беспералынны запіс на працягу 20—25 мі-

нут. Кінаплёнка змяшчала значна больш запісаў, чым пласцінка. Да таго ж, яна не гарыць, не б'ецца. Праўда, слабыя фотатокі трэба было ўзмацняць, радыёўзмацняльнікі ж уносяць скажэнні. Таму запіс на кіпаплёнку таксама не пазбаўлены недахопаў.

Лепшым для запісу гукаў аказаўся магнітафон. Слухач часам не можа адрозніць, калі даецца запіс з магнітафона.

Некалькі гадоў таму назад савецкі інжынер Скварцоў прапанаваў замяніць кінаплёнку для гуказапісу папяровай стужкай, насычанай асобым саставам. Яе назвалі «гаваркой паперай». Яна значна лягчэйшая па вазе і таннейшая за кінаплёнку.

Мы ведаем, што для атрымання некалькіх экземпляраў тэксту пры друкаванні на пішучай машынцы трэба падкладаць капірку. А ці нельга тут абысціся без капіркі і стужкі? Аказваецца, можна. І вось хімікі далі паперы яшчэ адну «прафесію».

Перад намі аркуш паперы. Здаецца, ён нічым не адрозніваецца ад звычайнага аркуша. Закладзем яго ў пішучую машынку. Націснем на клавіш, і на паперы з'явіўся выразны адбітак літары. І ўсё — без стужкі і капіркі. Такая папера насычаецца асобым вугляродзістым рэчывам, і колькі б вы ні заклалі аркушаў у машынку, на ўсіх без капіркі будзе выразны тэкст.

Хімікі зрабілі паперу верным памочнікам земляробаў. Аркушы паперы змочваюцца бітумнай эмульсіяй і надзейна ахоўваюць ўсходы, памагаюць карэнням лепш засвойваць сокі з глебы. Памагае папера і на прапалцы. Каб прапалоць і знішчыць пустазелле на гектары пасеяных цукровых буракоў, сорак чалавек павінны працаваць цэлы дзень. У тры разы больш людзей трэба для прапалкі і прарэджвання цыбулі на такой жа плошчы. На дапамогу людзям цяпер прыходзіць бітумінізаваная ўсходаахоўная папера. Яе разразаюць на вузкія стужкі, якія наматваюць на металічныя шпулі-бабіны. Шпулі з рулонам папяровай стужкі ставяцца ў спецыяльна сканструяваную машыну, якую прычэпліваюць да трактара. Яна з дапамогаю катка прарывае ў зямлі равок і рассцілае па ім ахоўную паперу, адначасова прабіваючы ў ёй на адпаведных адлегласцях адна ад другой дзіркі. «Разумная» машына высявае праз гэтыя дзіркі насенне і прысыпае стужкі слоем зямлі ў 1—2 сантыметры. І ўсходы не патрабуюць ні частых праполак, ні рыхлення ў радках, бо насенне пустазелля, якое знаходзіцца пад усходаахоўнай паперай, не можа прабіцца праз паперу, а тое пустазелле, што аказалася над папяровай стужкай, наадварот, не пускае карэнні ў зямлю і таксама гіне.

Падлічылі, што на адным квадратным метры глебы пад паперай штодзённа накопліваецца да літра вады. Такія пасевы не трэба рыхліць. Падмаскоўныя калгасы ўжо некалькі год карыстаюцца гэтай цудадзейнай паперай на сваіх гародах і павялічылі ўраджай гародніны ў паўтара-два разы. У раёнах жа Поўначы, у Сібіры, на Далёкім Усходзе, дзе нярэдка бывае засушлівая вясна і дажджлівае лета, папяровыя стужкі будуць засцерагаць расліны ад страты вільгаці вясною і празмернага ўвільгатнення летам.

Увогуле, цяпер папера стала канкурэнтам дрэва, каменя, металу і шкла. Гартаючы старонкі кнігі, распакоўваючы свае пакункі, загорнутыя ў цёмна-шэрую ці цёмна-карычневую паперу, вы, мусіць, і не здагадваецеся, што цяпер папера знайшла прымяненне на многіх нашых будоўлях. Са стоса папяровых аркушаў, змочаных растворам штучнай смалы і спрэсаваных пад вялікім ціскам, атрымліваецца танны і вельмі трывалы слаісты пласцік. Ён носіць назву гецінаксу, ці бумаліту — папяровага каменя (па-грэчаску літас — камень). З гецінаксу робяцца дэталі для тэлефонных апаратаў, радыёпрыёмнікаў, тэлевізараў, панелі для ўнутраных сценак прыбораў.

Больш за два дзесяткі год у Ленінградзе з папяровага слаістага пласціка робяць абліцовачныя пліты розных памераў і рознай афарбоўкі — чырвоныя, сінія, жоўтыя, зялёныя. А ёсць і такія пліты, якія нагадваюць мармуровыя ці кафлевыя. Можна зрабіць з паперы пліты пад чырвонае дрэва і карэльскую бярозу. Шмат якія магазіны — абутковыя, прамтаварныя і іншыя — маюць прылаўкі і касы, сцены і столі, упрыгожаныя гэтым новым матэрыялам. Убачыўшы вялізныя беласнежныя з атожылкамі калоны, што падтрымліваюць скляпенне вялізнай канцэртнай залы, цяжка паверыць, што яны зроблены... з паперы. Калі вам давядзецца ляцець на новых звышхуткіх самалётах, звярніце ўвагу на абліцоўку кабін, буфетных стоек, столікаў, і вы зноў сустрэнеце слаісты папяровы пласцік. Ён будзе выглядаць і як арэхавае дрэва, і як паліраваны дуб, як малахіт, і як цёмна-зялёная яшма.

Яшчэ больш трывалы матэрыял можна зрабіць з паперы, калі пракласці паміж аркушамі яе дроцікі, насыціць штучнаю смалою і адпрэсаваць пад вялікім ціскам. Тады тонкія пліткі заменяць камень і дрэва. Іх скарыстоўваюць не толькі для абліцоўкі ўнутраных сцен, але і для ўпрыгожвання знешніх.

Некалькі гадоў таму назад у ЗША пабудавалі першы дом з паперы памерам 6×12 метраў. Ён мае тры пакоі і кухню з ваннай. Сцены зроблены з водатрывалай і вогнетрывалай паперы. Ён нічым не горшы за драўляны і вытрымлівае парывы самага моцнага ветру. Дзверы, вокны, столь, падлога зроблены на за-

водзе ў выглядзе блокаў і пранумараваны. Зборку такога дома тры рабочыя робяць за чатыры дні. Каштуе ён на 60 працэнтаў менш за драўляны таго ж памеру.

Украінскія хімікі ў садружнасці з будаўнікамі нядаўна зрабілі з папяровай макулатуры, насычанай вадкім шклом, новы моцны і вогнетрывалы матэрыял для дахаў. Ён не ржавее, як жалеза, не крышыцца, як шыфер ці чарапіца, і фарбуецца ў любы колер.

У вытворчасці посуду папера замяняе цяпер фарфор і фаянс, кераміку і шкло. Трывалы папяровы посуд карыстаецца заслужаным поспехам у пакупнікоў. У магазіне можна купіць малако ў папяровай упакоўцы. Яна прыгожая на выгляд, каштуе значна менш за шкляную і важыць у 20 разоў менш. Разліў малака ў такія папяровыя «бутэлькі» просты і зручны. Калі б у нас разлівалі малако толькі ў папяровыя «бутэлькі», дзяржава штогод мела б эканомію больш за дзвесце мільёнаў рублёў і выслабаніла б вялікую колькасць рабочых рук (на пунктах па прыёму шкляной тары, у мыечных цэхах малочных заводаў), а заводы па вырабу шкла маглі б выпрацоўваць больш каштоўную прадукцыю.

Папера, надзеленая новымі якасцямі, надзейна служыць нам не толькі на зямлі, але і ў небе. Упершыню ў гісторыі чалавецтва савецкім вучоным давялося зазняць да гэтага часу нікому не вядомы адваротны бок Месяца. Гэты амаль што фантастычны здымак магчыма было атрымаць дзякуючы электрахімічнай паперы, якая была ўпершыню выраблена ў нашай краіне. Яна ж памагла пры пасадцы ў лютым 1968 года аўтаматычнай станцыі «Месяц-9» і пры вяртанні на Зямлю ў 1968 годзе «Месяца-10», пры вывучэнні Венеры з дапамогаю аўтаматычных станцый «Венера-4» і «Венера-5».

Недалёкі той дзень, калі з касмадромаў паляцяць караблі з пасажырамі на Месяц, Марс, Венеру і іншыя планеты, і зноў папера паможа трымаць з імі сувязь, сачыць за іх палётам.

Вялікі ўзбекскі пісьменнік і вучоны Алішэр Наваі некалі назваў паперу «крыламі, што разносяць па свеце думкі мудрацоў». У наш век думкі мудрацоў разносяць па свеце і тэлеграфная папяровая стужка, і тэлефонны кабель, і радыёпрыёмнік, дэталі якіх зроблены з паперы (гецінаксу). Цудадзейныя вынаходніцтвы сучаснай хіміі далі паперы новыя «прафесіі», і яна верна служыць людзям.

Поспехі хіміі палімераў падказалі вынаходцам думку выраблаць паперу не з драўніны, а з пластмасы, якая мае шмат пераваг. Нядаўна ў Англіі фірмай «Юніон Карбайд» пачата вытворчасць паперы на аснове поліэтылену. Такая папера моцная і непразрыстая, на ёй можна друкаваць з дапамогаю звычайных друкарскіх машын. Гэтая папера не касмаціцца, захоўвае выразнасць каляровых ілюстрацый, асабліва прыгодная для дзіцячых кніг, карт, дыяграм. Яна выпускаецца ў аркушах і рулонах. Выраб пластмасавай паперы пачала і японская фірма «Ніпон кокан сейсі», якая прадала ўжо ліцэнзіі на яе выпуск у 21 краіну. Японцы пачалі рабіць паперу з палімераў нафты. Яна водатрывалая, лёгкая і моцная. У Італіі нядаўна выйшла першая газета на пластмасавай паперы. Выразны шрыфт, яркія ілюстрацыі, негаручасць, даўгавечнасць — такія яе перавагі.

Так навейшыя дасягненні хіміі дазволілі не толькі надаць звычайнай паперы новыя якасці, але і стварылі новую паперу.

**Барыс РОЗЕН,**
**кандыдат хімічных навук.**

# ЛЯСНЫ КУФЭРАК

**● Шмат загадак яшчэ тояць лясы і лугі. У хваёвых і кедравых барах паветра, практычна, стэрыльнае незалежна ад геаграфічнай шырыні і блізкасці гарадоў і вёсак. Вядома, што адзін гектар хваёвых лясоў за суткі выдзяляе каля чатырох кілаграмаў, а іншы раз да трыццаці кілаграмаў, лятучых фітанцыдаў — антымікробных рэчываў, якія знаходзяцца ў тканкавых соках дрэў і раслін і выдзяляюцца ў атмасферу, глебу і ваду. Адзін гектар ліецевага лесу — каля двух кілаграмаў. Такой колькасці фітанцыдаў дастаткова, каб «прастэрылізаваць» вялікі горад.**

**● Многія птушкі з'яўляюцца сейбітамі лесу. Насенне і костачкі скляваных імі ягад не страўліваюцца і разносяцца ў розныя месцы. Заўважана пры гэтым, што такое насенне прарастае значна хутчэй. Дразды з'яўляюцца пераносчыкамі насення суніц, чарніц, малін, брусніц і**

рабіны; амялушкі — шыпшыны і ядлоўцу; чачотка разносіць насенне бярозы; клясты — елкі і хвоі.

● Бяроза здольна пераносіць самы моцны холад, які можа быць на нашай планеце. Быў зроблены такі дослед: галінкі бярозы змясцілі ва ўмовы з тэмпературай, блізкай да абсалютнага нуля (—273°). Калі іх выцягнулі, то яны засталіся жыццяздольнымі.

● Зязюля — цікавая птушка. На зямным шары налічваецца больш ста відаў зязюль. Большасць з іх падкідвае яйкі ў чужыя гнёзды. Сваё яйкі зязюля часам кладзе проста на зямлю, а потым у дзюбе нясе ў загадзя выбранае гняздо. Самец пры гэтым зладзейскім спосабам падманвае даверлівых птушак.

Між іншым, некаторыя зязюлі робяць і гнёзды. На поўдні жывуць зязюлі, якія самі віюць гнёзды і выседжваюць птушанят; ёсць такія, што робяць калектыўныя гнёзды — адно на некалькі птушак — і адкладваюць туды яйкі.

Зязюлі вельмі карысныя. Яны паядаюць насякомых, галоўным чынам махнатых вусеняў, якіх не ядуць многія іншыя птушкі.

● Лясная чаромха — надзейны санітар. Галінкі чаромхі таксама выдзяляюць фітанцыды, пра якія ўжо гаварылася. Апусціце такую галінку ў кубак, і праз некалькі хвілін піце ваду, не баючыся нічога.

● Лекі, што ўжываюцца пры хваробах сэрца, гэта больш чым на 80 працэнтаў прэпараты з раслін.

● Як спяць расліны? Ёсць расліны, якія раскрываюць і закрываюць свае кветкі ў адзін і той жа час. А чацвёртай-пятай гадзіне адкрывае свае кветкі шыпшына, а пятай — дзьмухавец, а дзевятай — мацімачаха, а 21-й гадзіне — начная фіялка.

● Сярод карысных насякомых, якія інтэнсіўна знішчаюць шкоднікаў лесу, першае месца, бадай, належыць мурашкам. Асабліва вялікую карысць прыносяць звычайныя рудыя лясныя мурашкі. Вучоныя падлічылі, што сярэдняя іх сям'я за суткі знішчае больш як 20 тысяч шкодных насякомых і вусеняў.

Мурашкі перамешваюць і ўзрыхляюць глебу, павышаюць яе ўрадлівасць.

● Карэнні шмат якіх дрэў глыбока ідуць у зямлю. Па звестках, якія вядомы спецыялістам-лесаводам, рэкорд належыць акацыі, што расце ў паўднёва-заходняй Афрыцы. Яе карэнні праходзяць на глыбіню 68 метраў.

● Вялізныя лісці маюць бразільскія пальмы — пальмавыя чаранкі дасягаюць 4—5 метраў даўжыні, а сам ліст удоўжкі 22 і ўшыркі 12 метраў. Аднаго такога ліста дастаткова, каб пад ім схаваліся ад дажджу дзесяць чалавек.

● Д'ябальскае дрэва расце ў Паўночнай Афрыцы. Яго кара мае шмат фосфару. Дрэва выпраменьвае інтэнсіўнае святло. Уначы пры ім можна нават чытаць.

● У Аравіі расце кустарнік, які мясцовыя жыхары называюць раслінамі смеху. Калі чалавек з'есць плод з гэтага кустарніка, чорныя зярняткі велічынёй з гарошыну,— у яго пачынаецца прыступ смеху, які доўжыцца 20—30 хвілін.

● Самыя старыя дубы растуць у Польшчы, блізка ад Пазнані. Іх тры. Вышыня каля 20 метраў, акружына ствала 7—9 метраў. Іх узрост дасягае 600—900 гадоў. У Афрыцы, у Танганьіцы, расце баабаб. Яго узрост вызначаюць у пяць тысяч гадоў. Вышыня дрэва 22 метры, акружына ствала — 47 метраў, крона мае 145 метраў. У графстве Кент (Англія) ёсць ціс з акружынай ствала 18 метраў (яго ўзрост вызначаюць у тры тысячы гадоў). У вёсцы Джахундэры (Сванетыя) расце ліпа, якой больш за 1 300 гадоў. Яна ўвышыню дасягнула 40 метраў. У Сіцыліі, на схіле Этны, расце двухтысячагадовы каштан з акружынай ствала 20 метраў.

**Раздзел вядзе
міжнародны гросмайстар
Аляксей СУЭЦІН**

# САВЕЦКАЯ ШАХМАТНАЯ ШКОЛА

Савецкая шахматная школа агульнапрызнаная ва ўсім свеце. І не толькі па значнай колькасці перамог на міжнародных турнірах, па дваццацігадовай гегемоніі нашых шахматыстаў у барацьбе за валоданне сусветнай шахматнай каронай, але і па метадах, па стылі гульні вядучых майстроў.

Рашучая барацьба з шаблонам, фармальнай логікай, смеласць і дзярзанне, звязаныя з пазіцыйнай ахвярай, шчыльнейшае спалучэнне пазіцыйных і камбінацыйных элементаў—такія самыя агульныя рысы нашай перадавой школы шахмат. Заўважым, што савецкія шахматысты скарыстоўваюць самыя лепшыя рысы гульні рускіх шахматыстаў мінулага, здзяйсняюць наватарскія ідэі выдатных рускіх гросмайстраў М. Чыгорына (1850—1908) і А. Алёхіна (1892—1946).

Для творчых пазіцый савецкай шахматнай школы паказальны наступны прыклад, які ўзяты з партыі двух яе выдатнейшых стваральнікаў.



Белыя: Кре1, Фс1, Ла1 і h1, Cd2 і g2, Ке2 і g1; пп: а2, b2, с2, d3, е4, f4, g3, h3 (16).

Чорныя: Кре8, Фb6, Ла8 і h8, Cg7 і с8, Ке5, Kd4; пп: а7, b7, с5, d6, е7, f7, g6, h7 (16).

Такая пазіцыя ўзнікла ў партыі савецкіх гросмайстраў В. Смыслова (белыя) і Д. Бранштэйна на XIX першынстве СССР.

Апошнім ходам 11. f4 белыя напалі на каня чорных. Здавалася б, адказ чорных не выклікае ніякіх сумненняў: конь павінен адступіць на «с6». Але чорныя становяцца на зусім іншы, парадаксальны шлях: яны пачынаюць складанейшую камбінацыю, звязаную з ахвярай матэрыялу. Гульня набывае незвычайны, выразна творчы характар.

11. ...К:с2+!?, 12. Ф:с2 Ф:b2, 13. Ф:b2 K:d3+, 14. Крf1! C:b2, 15. Лb1 Се6. Усё гэта вельмі фарсіравана. Цяпер заманлівае 16. Л:b2 K:b2, 17. Сс3 сустракае энергічнае пярэчанне: 17. ...Kd1!, 18. C:h8 f6 С:а2, і фаланга чорных пешак вельмі небяспечная.

16. Сс3! (Адзіны і дастатковы адказ. Абарона святкуе перамогу. Але гэта зусім не трыумф шаблону, а трыумф выдатнай творчай думкі!) 16. ...С:а2, 17. Л:b2 K:b2, 18. C:b2 Лg8, 19. Крf2 Сс4, 20. Кf3 С:е2, 21. Кр:е2 Крd7, 22. Лhd1!

Аб'ектам атакі робіцца пункт «d6».

22. ...а5, 23. Ке5+Крс7, 24. K:f7 а4, 25. е5 а3, 26. Са1 Лgе8, 27. Кg5 Ла5, 28. Ке6+Крd7, 29. Cd5!

Перашкаджаючы 29. ...b5, 30. K:c5+! dc, 31. Cf7+ і г. д.

29. ...а2, 30. g4! Лс8, 31. Кg5 Лf8, 32. f5 gf, 33. gf h6 (33. ...Л:f5?, 34. Се6+

і 35. С:f5), 34. Се6+Крс7, 35. ed+ed, 36. Ке4 Ла3, 37. К:d6 Л:h3, 38. Се5 Ла8, 39. Кс4+.

Чорныя здаліся. Галаваломная, але і захапляючая партыя!

# ВУЧЫЦЕСЯ ГУЛЯЦЬ У ШАХМАТЫ

## СКЛАДАНАСЦЬ І ПРАСТАТА

Часта ў шахматах першае ўражанне ад пазіцыі бывае вельмі павярхоўнае, а пад «рэнтгенам» аналізу раскрываюцца невычэрпныя, часам амаль фантастычныя магчымасці ў самых простых сітуацыях.

Разгледзім прыклад пешачнага заканчэння ў партыі паміж гросмайстрамі Міхаілам Талем і Віктарам Карчным з нядаўняга матча прэтэндэнтаў.

Наступная пазіцыя была пасля 27 ходаў у першай партыі іхняга паядынку, дзе белымі гуляў Таль:




Белыя: Крf3; пп.: a2, b2, c4, e4, f2, g3, h2 (8).

Чорныя: Крg5; пп.: a7, b6, c5, e6, f7, f5, h5 (8).

Тут Таль зрабіў 28. h3 і пасля 28. ...Крf6, 29. Крf4 e5+, 30. Кре3 a6, 31. b3 Кре6, 32. ef Кр:f5, 33. g4 f5 чорныя цалкам выраўноўваюць гульню. На самай жа справе ў гэтым з выгляду самым простым эндшпілі белыя мелі рэальныя шансы на выйгрыш. Наступны аналіз зроблены гросмайстрам Ю. Авербахам: 28. e5! f6 (Інакш белыя, пацясніўшы караля на g6, пойдуць Крf4 і далей f2—f3 і g3—g4, у канчатковым выніку ўтвараючы прахадную пешку па лініі «h.»), 29. h4+! Крg6, 30. Крf4 a6, 31. a3 b5 (У выпадку 31. ...a5, 32. a4! Крf7, 33. f3 Крg6, 34. b3! Крf7, 35. g4! fg, 36. hg hg, 37. ef!! Кр:f6, 38. Кр:g4 белыя лёгка выйграюць).

32. cb ab, 33. b3! Крf7, 34. Кре3!! fe, 35. a4 ba, 36. ba Кре7, 37. Крd3 Крd6, 38. Крс4 Крс6, 39. a5 f4, 40. gf ef, 41. a6 Крb6, 42. a7 Кр:a7 (Увесь гэты варыянт—вельмі фарсіраванага характару, як самая вострая камбінацыя.), 43. Кр:c5 f3, 44. Крd6 Крb6, 45. Кр:e6 Крс5, 46. Крf5 Крd5, 47. Крf4 Кре6, 48. Кр:f3 Крf5, 49. Кре3! Крg4, 50. f4 Кр:h4, 51. Крf3!!, і белыя выйграюць.

Ці ж не цудоўнейшы варыянт! Па сваёй прыгажосці ён нічым не саступае самай прыгожай камбінацыі ў сярэдзіне гульні. Вядома, гэты эндшпіль мае не толькі такі, адзіна магчымы, варыянт. Прапануем чытачам самім разабрацца ў іншых тонкасцях такога заканчэння. Ці можна для чорных знайсці ратунак?

## ЯК НАРАДЖАЕЦЦА КАМБІНАЦЫЯ

Камбінацыя не ўзнікае выпадкова, а ствараецца ў выніку папярэдняга накаплення выразных пазіцыйных пераваг.

Характэрны наступны прыклад. У партыі **Керас—Уніцыкер** (матч, Гамбург, 1956 год) пасля вядомых дэбютных ходаў: 1. e4 e5, 2. Кf3 Кс6, 3. Сb5 Кf6, 4. 0—0 К:e4, 5. d4 Се7, 6. Фе2 Кd6, 7. С:с6 bc, 8. de Кb7, 9. Кс3 0—0, 10. Кd4 Сс5, 11. Лfd1 С:d4, 12. Л:d4, d5, 13. ed cd, 14. b4 Ле8, 15. Се3 Се6, 16. Фf3 белыя атрымалі бачную ініцыятыву.

Цяпер чорным лепш за ўсё змагацца за выроўніванне шляхам 16. ...d3, 17. b5

c5! Аднак чорным больш да спадобы нерашучыя манеўры, і яны, не робячы прамых памылак, трапляюць у цяжкае становішча.

16. ...Фd7 (?), 17. Ke4 Cf5 (?).

Трэба было асмеліцца сыграць 17. ...Cd5, таму што 18. Kf6+gf, 19. Лg4+Kpf8 не дае выразнай выгады.

18. Kg3 C:c2, 19. Лc1 Ca4.

Менш непрыемным было б 19. ...Cg6, не адводзячы слана ад абароны каралеўскага фланга.

20. Kh5 f5, 21. Лf4 Лe7 (Дрэнна і 21. ...Фe6, 22. Л:f5 Лf8, 23. K:g7! Kp:g7, 24. Фg4+, і белыя выйграюць фярзя).

22. Л:f5 Лf7.



23. K:g7!

Пачатак рашаючай камбінацыі, якая ўвенчвае пазіцыйную стратэгію белых.

23. ...Л:g7.

У выпадку 23. Kp:g7 вырашае 24. Ch6+, а пасля 23. ...Лaf8 белыя выйграюць пасля 24. Ke6! Л:f5, 25. Фg4+Kph8, 26. K:f8 і г. д.

24. Ch6 Фe7.

На 24. ...Лf7 будзе 25. Лg5+! і г. д.

25. C:g7 Ф:g7.

Дрэнна і 25. ...Kp:g7, 26. Ф:c3+Kpg8, 27. Лf3, і белыя выйграюць.

26. h4, h6, 27. Лc4!, і чорныя здаліся.

## У снежаньскім нумары майстар спорту СССР Мікалай Грушэўскі разгледзіць задачы-эцюды, што друкаваліся ў нашым часопісе.

*80 гадоў таму назад нарадзіўся Астап Вішня — вядомы савецкі пісьменнік-сатырык. Нарадзіўся ў сям'і селяніна Міхайлы Губенка на Сумшчыне. Імя яму далі — Паўло. Збіраўся Паўло стаць фельчарам, каб гаіць на целе раны, а стаў вясёлым апавядальнікам Астапам Вішняй, каб лячыць душы чалавечыя. Лячыць сваім добразычлівым гумарам, клікаць на твары людзей вясёлыя ўсмешкі. Падаем тут колькі старонак з кнігі „Вішнявы ўсмешкі“.*

**Астап ВІШНЯ**

# КАСМІЧНАЯ КАТАСТРОФА

**Мал. У. ПАШЧАСЦЕВА**

Учора, а 6-й гадзіне раніцы, раптам у дзверы:

— Стук-стук!

Гэта мяне не надта ўзрушыла.

Але ж зноў у дзверы і ўжо не «стук-стук», а:

— Грук-грук!

Ды так нервова, і нават шалёна.

Давялося саскочыць з ложка і бегчы босым да дзвярэй, бо не было каля ложка начных пантофляў, якія яшчэ год таму абяцаў вырабляць Скурпрамтрэст, ці Прамскурсаюз, ці яшчэ якое такое надта важнае аб'яднанне з пароды «шырспажыву».

— Хто там?

З-за дзвярэй пачулася хрыпла-перапалоханае:

— Я!

— Хто я?

— Грыпіна Цітаўна!

— Што здарылася?

— Адарвалася!

— Заходзьце, прашу вас,— кажу,— толькі даруйце, што гузіка,— там, дзе яму належыць, — няма, бо гузікі,— кажу,— у плане «шырспажыву», і не магу я пацісնуць вашу шаноўную руку маёй рукой, бо мая,—кажу,—рука трымаецца за тое месца, дзе павінен быць гузік! Інакш...

— Дзень добры! — уляцела Грыпіна Цітаўна.— Адарвалася! Божа ж мой!

— Што,— пытаю,— адарвалася? Адкуль адарвалася? І чаму само адарвалася?

— Сонца адарвалася!

— Сонца адарвалася?

— Адарвалася!

— Усё адарвалася? Бач ты?!

— Не, не ўсё, а толькі кавалак! Але ж не маленькі кавалак, а ладны кавалак! І ляціць!

— Куды ляціць?

— На зямлю ляціць!

— Чаго ляціць?

— Усіх спапяліць! Страшны суд! Даруйце мне ўсё, што я, можа, проці вас саграшыла!

— Дарую,— кажу.

— І другім разам?

— І другім дарую!

— І тройчы?

— І тройчы,—кажу,— дарую!

— Дык як станем на страшным судзе перад усемагутным, скажыце, што я



добрая, бо, прысягаю, тол҃ькі аднойчы ў вас тры паляняк і дроў узяла ды яшчэ аднойчы пасведчыла ў пракурора, што вы тут, у гэтай кватэры, ніколі не жылі, хоць і жылі вы тут яшчэ да вайны гадоў дваццаць. Даруйце, прашу вас, бо спужалася я ды й домакіраўнік абяцаў цёплыя рэйтузы купіць.

Моцна мяне абняла Грыпіна Цітаўна ды й пацалавала.

— Да пабачэння,— кажа,— на тым свеце! А пакуль яшчэ збегаю на базар, прадам шэсць авосек, бо цяпер яны ўжо не патрэбны. А трэба ж будзе Харону штосьці сунуць, каб цераз раку Сцікс не перавозіў, а да Пятра спраставаў. Ды й Пятру, каб у рай як-небудзь прапхнуў, таксама не мінеш сунуць! Бывайце!

І пабегла.

Выскачыў я з хаты.

Крычу: «Адарвалася і ляціць!» — бягу цераз двор.

Сустракаю домакіраўніка.

— Ляціць! — крычу.

— Хай,— кажа домакіраўнік,— ляціць! Ажно праз тры гады даляціць, а за тры гады яшчэ і выселім, каго не трэба, шчэ і перасел ім, каго не трэба.

— Дык,— крычу,— можа ж, хутчэй даляціць, чым грозіцца! Яно такое!

— А хто,— кажа домакіраўнік,— яму паверыць, што яно даляціць, без маёй даведкі? Хай паспрабуе!



Бачу, што домакіраўніка без трэльяжа не пераканаць,— пабег далей.

— Ляціць! — крычу.— Сонца ляціць! Цэлы кавалак!

А нейкі дзядок стаіць і скептычна заўважае:

— На зяб, мабыць, не ўзаралі, а авансам за працадні атрымалі, вырваліся ды ляцяць!

— Куды ляцяць? — пытаю.

— На Кіеў ляцяць!

— А як жа на Кіеў, калі ў Кіеў без выкліку няможна?

— З выклікам цяжка,— кажа дзядок,— а без выкліку, калі ласка! Чакалі б яны там на сонцы выкліку! Адарваліся і ляцяць.

— Пр-рыляцяць і не прапішуцца!

— Так ужо і скажаце: «не прапішуцца»?! З выклікам дык сапраўды не прапішуцца, а без выкліку — колькі хочаце! Пры ляцяць, скажуць, што прарвалі фронт паміж Марсам ды Венераю, што на Чумацкім Шляху ансамблем песні і танца варожую групоўку знішчылі і па той бок Сатурна — дэмабілізаваліся!

— Не паверацы — кажу.

— Паверацы. Паверацы, бо дакументаў шмат: сорак акардэонаў, паўтараста ручных гадзіннікаў і яшчэ нейкія там падарункі з Адэсы.

— Дзе Адэса, а дзе Чумацкі Шлях?

— Якраз па дарозе! Каля Марса налева збочыць, і прамая дарога на Адэсу. Па-над жніўём, нікуды не збочваючы, проста да Лонданскага атэлю.

— Дык слухайце,— крычу,— катастрофа! Касмічная катастрофа! Што ж вы сабе думаеце?

А адзін загадчык базы мне і кажа:

— А што мне думаць, калі яно ажно тры гады ляцецьме? Хай ляціць!

Бачу, што нікога, акрамя Грыпіны Цітаўны, гэта надта не турбуе, я тады на базар.

Прыбег.

— Ляціць,— крычу,— кавалак сонца! Спапеліць,— крычу,— усіх вас тут!





Нейкая такая цётка, з надта пунсовымі губамі (на твары) і з дужа замежнымі трусамі ў руках, так на мяне паглядзела, што я спыніў сябе на думцы, што ў мяне ж сыну 23 гады... І кажа тая цётка:

— Начміліцыі,— кажа,— усе свісткі высвістаў ужо, а нас адсюль ніколі не вытурыць!

Я паглядзеў на тую цётку і падумаў:

«Дзе ж той кавалак ад сонца... І чаму ён тры гады ляцець будзе... І чаму толькі кавалак, чаму падае не ўсё сонца, каб такіх сапраўды спапяліць... І каб не праз тры гады, а каб сёння».

З гэтымі думкамі пабег я да прафесара Усясвяцкага дырэктара Кіеўскай абсерваторыі:

— Прафесару! Што такое? Што за катастрофа?

Прафесар Усясвяцкі навёў тэлескоп і запрашае мяне глянуць уласнымі вачыма. Прыпаў я, гляджу, як вучоны... І нічога не бачу. Адны цені ды плямы. Усё мігціць. Я міргаю. А сонца няма. Тады як закрычу:

— Дзе сонца дзелі?

— А вы не туды настроіліся,— адказвае спакойна прафесар.

Глянуў я яшчэ раз, але ўжо не ў трубу, а па-за тэлескоп, потым у пукатае шкло ўставіўся і бачу, як на далоні, базар...

Прафесар засмяяўся.

Толькі тады я ўцяміў, што такое астраномы і гастраномы (базарныя). Вось яны і спланавалі касмічную катастрофу. Я цяпер пераконана сцвярджаю:

— Зваліцца, абавязкова зваліцца кавалак сонца і садане з усяго разгону праменька на базар. Ей-ей, праўду кажу...

**З украінскай.**
**Пераклаў Уладзімір ЮРЭВІЧ.**

# наши аўтары

●

**КУСЯНКОЎ Мікола** нарадзіўся ў 1935 годзе на Гомельшчыне. Скончыў Буда-Кашалёўскі лясны тэхнікум і працаваў лесаўпарадчыкам. Цяпер вучыцца на Вышэйшых літаратурных курсах. Выйшаў з друку зборнік вершаў «Жывіца».

●

**КАЛІНА Клаўдзя** нарадзілася ў 1925 годзе ў вёсцы Белювінічы на Брэстчыне. Скончыла Брэсцкае музычнае вучылішча і працуе настаўніцай музыкі і спеваў у адной са школ г. Мінска.

●

**РАКАЎ Віктар** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Целяшы Слаўгарадскага раёна. Скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут. Працаваў у рэдакцыі райгазеты, настаўнічаў. Аўтар зборніка «Вернасць».

●

**ХВАЛЕЙ Яўген** нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Белькаўшчына Стаўбцоўскага раёна. Вучыцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна.

●

**КАРАМАЗАЎ Віктар** нарадзіўся ў 1934 годзе ў горадзе Чэрыкаве. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Выдаў зборнік апавяданняў «Падранак».

●

**ЛУЖАНІНУ Максіму** (Аляксандру Амвросьевічу Каратаю) споўнілася 60 гадоў. Нарадзіўся ён у вёсцы Прусы Старобінскага раёна. Шырока вядомы нашаму чытачу яго кнігі паэзіі «Крокі», «Неаплачаны рахунак», «Першамайская вуліца», «Шырокае поле вайны», «Поступ», «Святло Радзімы», «Моваю сэрца», «Прасторы». Кніга ўспамінаў «Колас расказвае пра сябе» ўдастоена літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа. Максіму Лужаніну прысвоена званне заслужанага дзеяча мастацтва Беларусі. Ён дэпутат Вярхоўнага Савета БССР.

●

**ХОМЧАНКА Васіль** нарадзіўся ў 1919 годзе ў вёсцы Канічы Касцюковіцкага раёна. Вучыўся на рабфаку пры Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна, працаваў у г. Камсамольску-на-Амуры, служыў у Савецкай Арміі. Выдаў кнігі: «Аднойчы майскім днём», «Наша вячэра», «Верны рыцар», «Чырвоны мак», «Чырвоныя хвалі» і іншыя.

●

**ПРОКША Леанід** нарадзіўся ў Полацку. Скончыў педтэхнікум у Мінску. Чатыры гады настаўнічаў на Палессі. Потым працаваў у рэдакцыі газеты «Віцебскі рабочы». У час вайны — ваенны журналіст. Пасля скончыў ваенна-палітычную акадэмію ў Маскве. Выдаў аповесці «Ці варта было жаніцца», «Хлопчык у вялікіх чаравіках» і некалькі зборнікаў гумарыстычных апавяданняў і памфлетаў.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 11**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктар **Лідзія ТАЎЛАЙ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854 — сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592 — аддзелы паэзіі і прозы. 2-93-892 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 1/X-69 г. Падпісана да друку 30/X-69 г.
АТ 03392. Тыраж 11640 экз. Зак. 511. Цана 40 кап. Папера $70 \times 108^1/_{16}$. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Выч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі прасп., 79.**